УДК 37 (476)+882.6.09
ББК 74 (Bei): 83.3 (Bei)
Б 44

Рэцэнзент
галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова", выдатнік адукацыі
Рэспублікі Беларусь М. М. Шавыркін

Бельскі А.

Экалогія душы: Артыкулы. Нарысы. Эсэ. — Мн.: УП "Тэхнапрынт", 2003. — 148 с.

ISBN 985-464-518-5

Артыкулы, якія склалі зборнік беларускага вучонага, пісьменніка і журналіста Алеся Бельскага, разнастайныя па сваёй тэматыцы і праблематыцы. Аўтар асэнсоўвае актульныя і найбольш важныя пытанні літаратурнай адукацыі на сучасным этапе, ён у сваіх развагах абапіраецца на асноватворныя традыцыі нацыянальнай педагогікі, выступае з пазіцый культурацэнтрызму і гуманізацыі навучання, паслядоўна праводзіць ідэю пра неабходнасць мэтаскіраванага фармавання ў сям'і і школе гарманічнай, духоўна паўнавартаснай асобы, чалавека з глыбока этычнымі перакананнямі і патрыятычным светапоглядам. У кнізе падымаюцца важныя маральныя праблемы літаратурнага і грамадскага жыцця, а таксама засяроджана ўвага на творчай дзейнасці асобных вучоных і педагогаў.

Адрасуецца спецыялістам навуковага і педагагічнага профілю, усім тым, хто цікавіцца праблемамі адукаідаі і выхавання.

УДК 37 (476)+882.6.09
ББК 74 (Беі): 83.3 (Беі)

ISBN 985-464-518-5

# I

## Інтэлігентнасць — скарб душы

За савецкім часам мы звykліся з агульнараспаўсюджанай думкай наконт таго, што рабочы клас — самы перадавы, самы рэвалюцыйны, самы свядомы. Гэтае азначэнне "самы" культывавалася ў грамадстве надзвычай магутна, убівалася ў галаву чалавека, пачынаючы са школы, ад самага пачатку існавання савецкай улады. Але "крамольныя" сумненні не-не ды і наведвалі душу: чаму ж рабочы клас больш свядомы і перадавы, чым інтэлігенцыя? Вядучую, нават лёсавызначальную ролю інтэлігенцыі ў жыцці народа камуністычная ідэалогія і тагачасная сістэма ўлады паспелі настолькі прынізіць, што ў многіх людзей, якія выйшлі з рабоча-сялянскага асяродку, склаліся да адукаванай часткі народа ваяўніча-пагардлівыя адносіны: згадаем нападкі рабочай эліты на беларускіх пісьменнікаў, фізічнае выломванне рук і маральную расправу з інтэлігентамі падчас мітынгаў і дэманстрацый.

Гісторыя ведае шмат трагічных падзей і момантаў у жыцці беларускай інтэлігенцыі, калі яе мэтаскіравана супрацьпастаўлялі рабочым і сялянам. Ідэалагічная машына сталіншчыны бязлітасна раструшчвала мозг, інтэлектуальную эліту народа — нацыянальна адданую і сумленную інтэлігенцыю, яго маральных ахоўнікаў і прапаведнікаў. Але інтэлігенцыя — гэта не падчарка народа, яна нараджаецца ў яго нетрах, сілкуецца яго сокамі, духам, культурай. Інтэлігенцыя — гэта "я" народа, найперш нацыянальна свядомае "я", моц творчага самавыяўлення.

Яшчэ зусім нядаўна лічылася сціплым казаць пра шляхетнасць свайго паходжання, пра тое, што ты родам з сям'і патомных інтэлігентаў. Прыналежнасць да дваранскага саслоўя, інтэлігенцыі, сялянскай эліты расцэньвалася з адмоўных класавых пазіцый. Таму і абвінавачвалі пісьменнікаў у прыналежнасці да "буржуазных нацыяналістаў", "рэакцыйнага кулацтва" і да т. п. Ідэалагічныя рэтушоры пачалі падфарбоўваць біяграфіі класікаў. Невыпадкова нашага Янку Купалу малявалі ў лапцях, гаварылі пра яго беднае сялянскае паходжанне.

Сёння, здаецца, гаворка пра свой радавод стала вельмі актуальнай і нават папулярнай, але, што грэх утойваць, успрымаецца яна часам як выхвалянне, праява нясціпласці. І гэта засмучае. Бо родавая памяць — галоўны чыннік існавання любой нацыі, наогул людской цывілізацыі. Без шанавання сям'і, памяці продкаў, роднай зямлі, дзе

ты нарадзіўся і ўзгадаваны, немагчыма лічыць сябе культурным чалавекам. І гэта добра зразумелі на Захадзе, дзе ў многіх краінах, пачынаючы са школы, у аснову адукацыі і выхавання пакладзены універсальны прынцып уладкавання свету: я — сям'я — народ — радзіма — чапавецтва.

У 30-я гады ўдумлівыя, адукаваныя людзі добра бачылі, што робіцца ў краіне. Яны ведалі: пра сваё паходжанне лепш маўчаць, нельга варушыць мінулае продкаў бо гэта можа адгукнуцца суровым абвінавачваннем. Мой дзядзька, прафесар педагогікі Фама Антонавіч Бельскі (1890-1952) на ўсе гады лютай і зацяжной сталінскай "зімы" быў адарваны ад родных Цімкавіч і толькі марыў пра сустрэчу са сваякамі, магіламі бацькоў Тагачасная радзіма палохала шпіёнаманіяй і рэпрэсіямі — у памежжы, можа, як ні ў якім іншым месцы, заўзята вышуквалі польскіх і нямецкіх “шпіёнаў”, ледзь не штодня выкрывалі “ворагаў народа”. А хіба мог мой дзядзька гаварыць пра тое, што яго дзед — выпускнік Віленскага універсітэта, што быў у складзе царскай арміі на фронце, што муж сястры Серафімы і яго шчыры сябар — царскі прыстаў?.. Памятаеце, як у п'есе Кандрата Крапівы "Хто смяецца апошнім" Гарлахвацкі робіць намёк Тулягу, што ён "чалавек нявысветлены" і падобны да "дзянікінскага палкоўніка"? У тагачаснай атмасферы страху лёгка было трымаць інтэлігенцыю "ў чорным целе", прымусіць яе "ведаць сваё месца".

Сёння, як думаецца, мы павінны надзвычай добра адчуць і зразумець неабходнасць выхавання сучаснай школай асобы інтэлігента, а калі браць шырэй — інтэлігентнасці ў чалавеку. Пачуццё свабоды і годнасці, высокая этычная культура — вось "стрыжань" асобы "чалавека прыгожага". Гэта, аднак, не азначае, што сённяшні вучань заўтра павінен атрымаць вышэйшую адукацыю. Мы ўжо добра ведаем, да чаго прывяла ўсеагульная політэхнізацыя школы ці спроба ажыццявіць у краіне ўсеагульную абавязковую сярэднюю адукацыю. Масавасць у набыцці вышэйшай адукацыі не здыме праблему якасці навучання і, у першую чаргу, выхавання. Адукаванасць яшчэ не значыць маральнасць, высокая свядомасць.

Інтэлігентнасць, на жаль, не заўсёды праяўляецца ў чалавеку, які мае дыплом аб заканчэнні ВНУ. Інтэлігентнасць — гэта перш-наперш узровень духоўнасці, агульнакультурнага развіцця асобы, гэта яе прынцыпы і перакананні, стыль жыцця і паводзінаў. Узор сапраўднага рускага інтэлігента — Дзмітрый Ліхачоў. Беларускія пісьменнікі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Максім Гарэцкі, Вацлаў Ластоўскі, Максім Танк, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Янка Брыль — нацыянальныя

інтэлігенты ў высокім разуменні гэтага слова. "Я" кожнага з іх духоўна ўвабрала і прадвызначае лёс агульнанацыянальнага "мы". Таму ў наш сённяшні час асаблівую значнасць і важкасць набывае голас і слова інтэлігенцыі.

Сапраўдны інтэлігент уяўляецца мне асобай творчай, чалавекам, які мае незалежна-свабоднае мысленне, свой уласны погляд на рэчаіснасць, улічвае плюралізм меркаванняў, не заціснуты абцугамі догмаў, схем, стэрэатыпаў. Паўтаруся, але перакананы, што інтэлігентнасць трэба абуджаць і выхоўваць з ранніх школьных гадоў. Грамадства без высакародных рыцараў духу не можа быць паўнавартасным. Мала быць носьбітам ідэалаў, але трэба ўмець іх адстойваць і несці іх, як светач, насустрач будучыні.

Інтэлігентаў да 1917 года я назваў бы класічнымі інтэлігентамі: і па адукацыі, і па выхаванні, і па шырыні светапогляду, які меў выразную маральна-гуманістычную скіраванасць. Яны ў свой час праходзілі праз гімназіі, семінарыі, універсітэты, паступова набываючы на ўсіх этапах навучання філалагічна-гуманітарны грунт. Але найперш асновы ўнутранай культуры і інтэлігентнасці закладваліся ў сям'і, якая была, ёсць і будзе заставацца важным асяродкам фармавання асобы.

Пра неабходнасць мэтаскіраванага духоўнага-творчага развіцця дзяцей Ф. А. Бельскі гаварыў тады, калі савецкая школа брала курс на політэхнізацыю адукацыі. Ён лічыў, што без выхавання эліты не будзе "культурнай рэвалюцыі". Вучоны-педагог клапаціўся пра сур'ёзную арганізацыю працы з таленавітымі і адоранымі вучнямі, падкрэсліваў ролю настаўніка ў выяўленні і развіцці "індывідуальных асаблівасцяў і творчых патэнцый дзіцяці" шляхам "умелага і сістэмнага раскрыцця волі, розуму і таленту дзіцяці".

Фама Антонавіч добра ўсведамляў перспектыву адкрыцця шматлікіх навучальных устаноў для юных талентаў. Пра неабходнасць дыферэнцыяванага, індывідуальна арыентаванага навучання дзяцей, іх выхавання ў адпаведным агульнакультурным асяродку прафесар Бельскі навукова абгрунтавана даводзіць у артыкулах "Арганізацыя школ для адораных дзяцей", "Арганізацыя школ для звышадораных дзяцей" (1927). Вучоны-педагог "вылушчваў" рацыянальныя зярняткі з вопыту "старой" дакастрычніцкай школы, знаходзіў каштоўнае і вартае пераймання ў адукацыйнай практыцы савецкага часу.

Адоранасць і таленавітасць дзіцяці, бясспрэчна, можа разгарнуцца толькі ў спрыяльным асяродку, пры спецыфічных умовах. "Быць такім, як усе", — прынцып, які губіць індывідуальнасць, творчую асобу. Калектыўна-масавыя ўстаноўкі і памкненні найчасцей не спрыя-

юць выяўленню ўласнага "я". Хоць, безумоўна, чалавек з юных гадоў павінен адчуваць сябе сярод іншых людзей і ўспрымаць часткай калектыву, грамады. Многае трэба ўмець дараваць вучням неардынарным, таленавітым, зразумець часам іх максімалізм і не прыніжаць самастойнасці думкі, права на ўласнае "я". Сёння адчыняюць дзверы ліцэі і гімназіі — навучальныя ўстановы новага тыпу, і ў гэтым бачыцца добры знак сучаснасці. З'явілася надзея на істотныя перамены ў выхаванні будучай інтэлігенцыі, эліты грамадства. Рост духоўнасці напрамую залежыць ад асабістай культуры і адукаванасці кожнага грамадзяніна краіны.

Беларускі інтэлігент пачынаецца з усведамлення свайго нацыянальнага "я", прыналежнасці да роднага краю і яго прыроды, слаўнай мінуўшчыны, народнай культуры і этыкі. Адрадзіць нацыянальна арыентаваную свядомасць інтэлігенцыі, яе патрыятычны дух можа толькі школа нацыянальная, галоўны "нерв" існавання якой — беларуская мова, гісторыя, культура.

На ўроках роднай мовы і літаратуры перад настаўнікам адчыняюцца шырокія магчымасці выхавання патрыятычнага светапогляду, фармавання беларускай душы і беларускага характару, а гэта, як думаецца, і дапамагае адчуваць ды ўсведамляць чалавеку сваё адметнае, непаўторнае "я" ў агульналюдскай супольнасці, у культурная прасторы сусветнай цывілізацыі. Хіба можна ўявіць нацыянальна свядомага інтэлігента, увогуле шчырага беларуса без любові да матчынай мовы і роднай зямлі, без народнай песні ў душы, без шанавання генеалагічнага дрэва свайго роду, без ведання гісторыі і духоўных традыцый Бацькаўшчыны? У той жа час беларус, інтэлігент-беларус у першую чаргу, не павінен пачуваць сябе ізалявана ў славянскай супольнасці, у "агульнапланетным аспекце" (выраз У. Вярнадскага). Нам трэба намагацца спазнаць свет вялікі праз яго разнастайнасць і прэзентаваць у ім сваё, роднае, беларускае. Да гэтага імкнуліся нашы славутыя пісьменнікі-класікі.

Мова, культура ўвогуле яднаюць чалавека з чалавекам, краіну з краінай. Ці кожны з сучасных інтэлігентаў можа пахваліцца глыбокім веданнем моў і культуры славянскіх суседзяў і народаў свету? Пэўна, што не. Бо і сваё нацыянальнае "я" ў душы досыць часта дрэмле ці проста заснула. І віна нашай школы ў гэтым ёсць — як сярэдняй, так і вышэйшай. Многае тут залежыць ад навучальных праграм, у якіх павінна быць прэзентавана нацыянальна-патрыятычная тэматыка, літаратура і культура суседніх краін.

Што ж робіць чалавека сапраўдным носьбітам культуры? Відаць, тут не трэба адкрываць Амерыку, бо адказ ужо знойдзены цывілізава-

ным грамадствам: выхаванне ў сям'і і школе, родная і замежныя мовы, родная і замежныя літаратуры, сусветнае мастацтва... Настаўнік у першую чаргу павінен быць рознабакова адукаваным, мець грунтоўны, універсальны багаж ведаў — ведаў пра родны край, свой народ, пра сябе і чалавецтва. Што грэх утойваць, калі універсітэты і інстытуты выпускаюць маладасведчаных і малапісьменных спецыялістаў, у тым ліку і настаўнікаў-філолагаў. Адбываецца дэвальвацыя на розных узроўнях: як адукацыйным, так і культурна-выхаваўчым. Слабы вучань, які апынуўся ў сценах ВНУ, робіцца ў выніку гэткім жа выпускніком у вышэйшай школе, педагог сярэдніх здольнасцяў не здатны весці адукацыйна-выхаваўчы працэс на належным узроўні... Так узнікае замкнёнае, зачараванае кола. Таму неабходна карэнным чынам мяняць усю сістэму прафадбору. І чым хутчэй, тым лепш.

Ці павінна быць ідэалогія ў школе? Праз камуністычную ідэалогію ў многім адбывалася прафанацыя адукацыі. Мяркую, што вам няцяжка згадаць, да чаго зводзіліся дзяржаўныя экзамены ў ВНУ савецкагачасу: гісторыя КПСС ці марксісцка-ленінская філасофія; сюды, праўда, трэба дадаць дыпломную работу (даволі часта кампілятыўную, маласамастойную). А цяпер зірнём, якія ж выніковыя іспыты трымаў выпускнік Кіеўскага універсітэта ў 1913 годзе (тады называўся Імператарскі універсітэт Святога Уладзіміра). Гэтую ўстанову Ф. А. Бельскі закончыў з дыпломам першай ступені, атрымаўшы не толькі адпаведнае месца ў іерархічнай службовай лесвіцы, але і "правы і перавагі". Словам, ствараліся належныя стымулы, і таму была матывацыя да выдатнай вучобы. І не толькі ва універсітэце. Так, выпускнік Слуцкай гімназіі, які атрымаў залаты медаль, меў права на залічэнне без экзаменаў у Маскоўскі ці Санкт-Пецярбургскі універсітэт, а той, хто быў узнагароджаны сярэбраным медалём, мог падацца на вучобу ў Кіеўскі універсітэт. Між іншым, Слуцкую гімназію Фама Бельскі закончыў з сярэбраным медалём.

А вось пералік галоўных іспытаў у гісторыка-філалагічнай камісіі, якія Ф. Бельскі вытрымаў вельмі паспяхова: першы пісьмовы іспыт, другі пісьмовы іспыт, па стараславянскай мове з палеаграфіяй, па рускай мове з дыялекталогіяй, па рускай славеснасці, па адной з паўднёвых і заходніх славянскіх моў з гісторыяй славянскіх літаратур. Што і казаць, выпускнік універсітэта Св. Уладзіміра меў грунтоўную, якасную падрыхтоўку, а яна засноўвалася на высокім узроўні прафесійных патрабаванняў.

Сёння мінуў час насаджэння дагматыкі, "прамывання мазгоў", і таму ў вышэйшай школе трэба стварыць культ ведаў, матывацыю да прафесійнага росту, у першую чаргу садзейнічаць станаўленню глы-

бока кампетэнтнага спецыяліста, цэласнай маральна-духоўнай асобы. Ф. А. Бельскі лічыў што адукацыя павінна быць несупыннай, таму нельга запавольвацца ў сваім развіцці, неабходна праз усё жыццё імкнуцца да самаўдасканалення (артыкул "Мэтаскіраванасць у самаадукацыі настаўніцтва").

Цяпер нам вельмі важна інтэгравацца ў еўрапейскую і сусветную моўную і культурную прастору. Таму вывучэнне замежных моў — галоўны прыярытэт адукацыйнай палітыкі на сучасным этапе. Павінна адысці ў нябыт заганная паўсюдная з'ява, калі ў лістках па ўліку кадраў выпускнік ВНУ падкрэсліваў: "чытаю і перакладаю са слоўнікам". Мой стрыечны брат прафесар Георгій Яцэль, які валодаў сямю мовамі, а чатыры з іх актыўна выкарыстоўваў у навучальным працэсе са студэнтамі і аспірантамі, пастаянна даводзіў моладзі, што глыбокае веданне замежнай мовы — гэта не толькі паказальнік адукаванасці, але і культуры чалавека, яго здольнасці да камунікацыі ў сучасным свеце. Яму вельмі блізкім было выказванне Гётэ: "Хто не ведае чужых моў, той нічога не ведае пра сваю ўласную". Зрэшты, яшчэ ў 20-я гады было нямала юнакоў і дзяўчах, якія імкнуліся да выхаду на шырокі культурны прасцяг. Не трэба часам глядзець на нашых тагачасных пісьменнікаў як на нейкіх інфантыльных "дзяцей вёскі". Настойліва авалодвалі замежнымі мовамі і цікаваліся культурай іншых народаў У Дубоўка, У. Жылка, Ю. Гаўрук, З. Астапенка, Ю. Таўбін і іншыя літаратары.

Такім чынам, малады чалавек, за плячыма якога засталася ВНУ, павінен быць на вышыні і па адукацыі, і па глыбокай унутранай культуры. Уся сістэма навучання і выхавання ў школе — ад сярэдняй да вышэйшай — будзе прадуктыўнай і эфектыўнай тады, калі ў выніку перад намі паўстане Чалавек, Асоба, Грамадзянін Беларусі.

Інтэлігентнасць — гэта скарб чалавечай душы, вызначальная рыса духоўнага аблічча асобы, яе цэльнасці і цэласнасці. Філолаг, гуманітарый увогуле, як ніхто іншы, павінен засвоіць эстэтычнае і культурнае багацце свету, увасабляць прывабнае хараство пачуццяў і глыбока этычных думак. Настаўнік-славеснік — адна з цэнтральных постацяў у школе, бо менавіта яму праз змест мастацкай літаратуры і сваё ўласнае слова належыць раскрыць для вучняў сэнс духоўнага існавання, сутнасць высакароднай, рыцарскай маральнасці.

Акурат настаўнік мовы і літаратуры вучыць адчуваць красу роднай мовы, разумець мудрасць жыцця, любіць прыроду і людзей. Ён здольны зрабіць сваіх выхаванцаў духоўна багатымі, вывесці іх у космас агульначалавечай маралі і культуры. Найвялікшыя яго дарадцы — Дастаеўскі і Талстой, Шаўчэнка і Ажэшка, Фолкнер і Экзюперы, Ку-

пала і Гарэцкі, Караткевіч і Быкаў... Спыніць нівеліроўку духоўнасці можна тады, калі высока ўзняць "планку" інтэлігентнасці, высакародства, чалавечай сумленнасці. Без чысціні душы і прыстойнасці не могуць бруіць цудадзейныя і гаючыя крыніцы жыцця.

Слушна выказаўся В. Быкаў: "Народ без лідэра сірата. Але і яго будучае небезнадзейнае, калі ён мае ўласную інтэлігенцыю". Перафразаваўшы вядомыя словы з песні, скажам: інтэлігентамі не нараджаюцца — інтэлігентамі становяцца. Пра гэта неабходна памятаць сёння, калі асаблівую актуальнасць набываюць пытанні агульнай культуры і маральнасці грамадства. Цяжкая і адказная ноша быць інтэлігентам, бо ад цябе патрабуецца вельмі многае, але самае галоўнае — гэта выпраменьваць святло душы, валодаць празорлівасцю думкі, ствараць аўру гарманічнага існавання ў грамадзе.

1990, 1997

## Літаратура ў сістэме духоўных каштоўнасцяў

Здаўна было вядома, што літаратура і мастацтва здольныя кіраваць розумам і пачуццямі чалавека. Славутыя мысляры і педагогі свету таму ўсведамлялі неабходнасць фармавання глыбокага, удумлівага чытача-рэцыпіента. Задачу сваю пісьменнікі бачылі ў тым, каб праз літаратуру "палепшыць норавы свайго часу" (А. Бальзак), "развіць юны розум, вылепіць па-свойму юную душу і ўдыхнуць у яе пачуццё праўды" (В. Гюго). А пачуццё праўды — гэта, як вядома, вынік выхавання, патрэба душы сумленнага і справядлівага чалавека.

На жаль, у гісторыі чалавецтва літаратуру часта выкарыстоўвалі ў чыста прагматычных і практычных мэтах. Пісьменнікаў ператваралі ў носьбітаў ідэй і лозунгаў і дамагаліся гэтага па-рознаму: або пад прымусам і страхам, або праз метадычную апрацоўку свядомасці, у выніку чаго ўзнікала добраахвотнае імкненне самааддана служыць уладзе. Мастацкую літаратуру ў школе і ВНУ доўгі час разглядалі як ідэалагічную дысцыпліну, якая павінна была выконваць сваю ідэйна-палітычную ролю ў выхаванні "чалавека камуністычнага заўтра". Пісьменніцкае слова сапраўды мела магічнае ўздзеянне на цэлыя пакаленні людзей. Літаратурнае навучанне, паводле тагачаснай ідэалагічнай дактрыны, было скіравана на гартаванне "духу савецкага патрыятызму і інтэрнацыяналізму", фармаванне калектыўна-грамадскіх пачуццяў і памкненняў Пра выніку празмернай палітызацыі слушна гаварыў акадэмік В. Каваленка: "...Катастрафічна падаў узровень філалагічнай адукацыі, поле зацікаўленасці якой — чалавек, чалавеказнаўства, гуманізм. У сваю чаргу гэта вяло да разрыву літаратурнай навукі і адукацыі з традыцыямі сусветнай культуры" (артыкул "Некаторыя літаратуразнаўчыя аспекты літаратурнай адукацыі"). Толькі з надыходам гарбачоўскай "адлігі", якая спарадзіла перабудову грамадскага жыцця, была прадэкларавана прыярытэтнасць "чалавечага фактару", пачалі набываць асаблівую, нават першачарговую значнасць нацыянальныя і агульначалавечыя каштоўнасці. Навучанне набыло беларусазнаўчы ўхіл, асобасна арыентаваны пачатак.

На новым этапе грамадскага развіцця ўзнікла патрэба ў пераасэнсаванні ролі беларускай літаратуры ў сістэме духоўных каштоўнасцяў і ў сістэме нацыянальнай адукацыі. Літаратура — з'ява універсальная, сінтэтычная, паколькі яна канцэнтруе ў сабе разнастайны змест: сацыяльны, псіхалагічны, філасофскі, гістарычны, маральна-этычны, рэлігійны, культурна-эстэтычны, гуманістычны. Літаратура знаходзіцца на лініі перасячэння з многімі іншымі дысцыплінамі, найперш гуманітарнага профілю (мова, гісторыя, філасофія, этыка, эстэтыка,

мастацкая культура і інш.), а таксама рознымі відамі мастацтва (музыка, жывапіс, тэатр, кіно і інш.). І таму сістэмнае выкладанне прадмета, сінтэтычны падыход у літаратурным навучанні скіраваны на стварэнне міжпрадметных кантэкстаў, здольны даць вучню багацце гуманітарных ведаў пра чалавека, прыроду, грамадства. Выключную адукацыйна-выхаваўчую місію мастацкай літаратуры адзначаюць многія сучасныя педагогі. Так, акадэмік М. Лазарук даводзіць, што "гэта па сутнасці адзіны ў школе прадмет, які дае магчымасць шматбаковага духоўнага ўзбагачэння асобы, уздзеяння на самыя розныя сферы свядомасці і пачуццяў чалавека" (артыкул "Накірункі пошуку"). Літаратура з'яўляецца асновай гарманічнага развіцця чалавека, тым падручнікам жыцця, які фармуе светапогляд і выхоўвае ўнутраную культуру.

Зрэшты, у савецкі час шмат чаго дэклараваласся і гаварылася правільна: і пра неабходнасць выхавання "гарманічнай асобы", і пра ідэал чалавека будучыні. Каб быць камуністам, паводле У І. Леніна, неабходна авалодаць усімі тымі каштоўнасцямі культуры, якія выпрацавала чалавецтва. Веру ў камуніста як увасабленне лепшых чалавечых якасцяў культывавала беларуская літаратура: ..Хутка будуць называцца — знаю гэта — // Камуністамі ўсе людзі на зямлі" (А. Куляшоў). На самай справе было шмат хлуслівай дэмагогіі, няшчырасці, фальшу. Пра аблічча людзей з партыйным білетам смела гаварыў паэт Пімен Панчанка, выкрываў іх прыстасавальніцтва, бюракратычна-чыноўніцкую веліч і пагарду да патрэб звычайнага чалавека. Праўда, пісалася тая публіцыстычная сатыра з верай у Леніна. З ранніх гадоў школай прышчапляліся памылковыя ці спрошчаныя погляды, павярхоўныя ці катэгарычныя меркаванні пра чалавека і свет. Да прыкладу, праводзілася думка, што, паколькі "чалавек — гэта гучыць горда" (М. Горкі), то яго нельга шкадаваць, дараваць яму памылкі, рабіць саступкі ці шукаць кампрамісу, згоды, а, маўляў, трэба ставіцца да яго патрабавальна, з самай высокай меркай, асуджаць і ганьбіць за жыццёвыя памылкі ды пралікі. І рабіць гэта трэба было з пазіцый "сацыялістычнай маралі". Хрысціянска-гуманістычныя ўяўленні знаходзіліся тады ў глыбокім забыцці. Не хацеў бы агулам няславіць тагачасную школу, бо ёй трэба аддаць належнае за станоўчы досвед. Аднак тое, што літаратура як навучальны прадмет зрабілася па сутнасці грамадазнаўствам, грунтавалася на сістэме зададзеных ідэалагічных падыходаў, рэч відавочная — у гэтым яе істотны недахоп. Не адной ідэяй фікс, закладзенай у свядомасць яшчэ ў дзіцячыя і юнацкія гады, працягваюць сёння жыць людзі, выхаваныя савецкай школай.

Сучасныя мысляры сцвярджаюць: гуманізм — вышэйшая мэта і сапраўдны, глыбокі сэнс эстэтыкі і мастацтва. І літаратуры ў школе — дадамо мы. Паварот ад ідэалагічна-сацыялагічных установак і маралізатарскай дыдактыкі да гуманізму як асноватворнай канцэпцыі навучання і выхавання азначае паварот да духоўных і культурных каштоўнасцяў свайго народа і чалавецтва. Вывучэнне вопыту сусветнай адукацыйнай практыкі дае падставы вучонаму і педагогу І. Шаблоўскай сцвярджаць наступнае: "Па агульным прызнанні, нішто не можа параўнацца ў выхаванні душы чалавека і яго пачуццяў з мастацтвам і літаратурай як сродкамі гуманізацыі навучальнага працэсу". І далей: "Гуманізацыя — гэта вяртанне да Чалавека, Асобы, Духоўнасці ...<...> Па словах Экзюперы, Чалавек нараджаецца з Моцартам у сэрцы. Не згасіць іскру Таленту, не перашкаджаць развіццю Моцарта — вось мэта, якая можа скіраваць школу і літаратуру як адну з вядучых школьных дысцыплін на Чалавека" (артыкул "Замежны вопыт і нашы праблемы"). А гэта магчыма тады, калі ў літаратурным навучанні, у школе наогул будзе дамінаваць дыялог, педагогіка супрацоўніцтва настаўніка і вучня, якая вымагае ўзаемапавагі, шчырасці, даверу. Гуманізацыя — гэта духоўнае пераўтварэнне асобы, выхаванне ў ёй глыбока этычных пачуццяў. Беларуская мастацкая літаратура дае найперш адчуванне прыгожага і жахлівага, цудоўнага і брыдкага, высокага і нізкага, трагічнага і гераічнага, скіроўвае на пазнанне чалавечага ў чалавеку, таму вельмі важна, каб эстэтычнае ўспрыманне было закладзена ў душы, характары вучня і ўплывала на яго паводзіны, учынкі і ён навучыўся разбірацца ў складанасцях жыцця, разумець людскую псіхалогію, імкнуўся быць сумленным, добрым, чулым, адказным заўсёды і паўсюль: у сям'і, у сваёй працы, у грамадстве. Такім чынам, гуманістычнае — гэта не толькі чалавечыя якасці, але лад і стыль жыцця асобы. Вельмі важна, каб шырылася і ўмацоўвалася перакананне, што, кажучы словамі паэта, "без чалавечнасці не будзе і вечнасці" (П. Панчанка).

Шмат гаворыцца сёння пра духоўнасць. Ствараецца духоўная паэзія, ладзяцца фестывалі духоўнай музыкі... Гучаць заклікі мець да хлеба надзённага і хлеб духоўны. А з чаго, уласна кажучы, складаецца гэтае паняцце? Акадэмік В. Івашын у калектыўным выданні "Праблемы літаратурнай адукацыі" (1993) пазначае складнікі духоўнага "я" асобы: "Духоўнасць — паняцце шырокае. Гэта не толькі культура розуму, але і культура душы — маральнасць, гуманнасць, душэўнасць, дабрыня, міласэрнасць, інтэлігентнасць асобы". Даследчык літаратуры В. Жураўлёў у манаграфіі "На шляху духоўнага самасцвярджэння" (1995) адзначае, што Якуб Колас на працягу ўсёй сваёй творчасці

палемізаваў з "сіламі духоўнай абыякавасці і духоўнага нейтралітэту", арыентаваў "чалавека на крытычны падыход да самых, здавалася б, бясспрэчных і аўтарытэтных рашэнняў" і разам з тым вёў "чытача ў свет чалавечых эмоцый, у сферу магчымасцей чалавечай душы выходзіць на спачувальна-гуманістычны кантакт і дыялог з іншым чалавекам". Нашы класікі выдатна ўсведамлялі неабходнасць духоўнай моцы як асобнага чапавека, так і ўсяго народа. Вось што бачылася галоўным Якубу Коласу ў грамадска-нацыянальным быцці: "Мыслі праўды, дух свабоды, // Вольны наш народны дух... " ("Згнанніку"). Углядаючыся ў "люстра душы чалавечай", В. Ластоўскі бачыў там часам боль і слёзы, таму пытаў: "Чалавеча, дзе ж твая сіла, дзе духу гарт?!" ("Слёзы"). Янка Купала ў паэмах "Курган", "Бандароўна", "Магіла льва", "На Куццю" і іншых творах ярка даводзіў перавагу, значнасць, веліч духоўных каштоўнасцяў у жыцці асобы і народа. "...Наш дух лунаці вечна будзе", — так ён сцвярджае народна-адраджэнскую сілу свайго народа. У беларускай класічнай літаратуры сканцэнтравана "энергія" духоўнага быцця асобы, закладзена універсальная сістэма нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцяў. Агромністым мастацкім "космасам" з'яўляецца для беларусаў, напрыклад, "Новая зямля" Якуба Коласа. На адкрыццё і спазнанне духоўна-гуманістычнага зместу літаратуры ў першую чаргу і павінна быць скіравана адукацыйная практыка ў сучаснай школе.

"Культура — сродак арганізацыі соцыуму, спосаб вытворчасці чалавекам самога сябе як духоўнай істоты, спосаб развіцця сутнасных сіл чалавека" (Ю. Бораў). Літаратура з'яўляецца важным культураўтваральным цэнтрам у сістэме адукацыі. Таму ідавочная яе першачарговая роля ў пазнанні мастацтва і свету, адкрыцці эстэтычных каштоўнасцяў, засваенні агульназначных для грамадства сэнсаў і паняццяў. Літаратура як змесцішча разнастайнай каштоўнаснай інфармацыі і адзін з галоўных ідэйна-светапоглядных феноменаў фармуе духоўную аснову нацыі і народа ў цэлым. Гісторыя радзімы і цывілізацыі, псіхалогія чалавека, філасофія быцця і духу, міфапаэтычныя ўяўленні, фальклорныя скарбы, этнаграфія роднага краю — культурна-духоўнае багацце, якое ў рознай ступені змяшчае ў сабе літаратура, гэта тое разам узятае, што ўздзейнічае на паўнавартаснае станаўленне асобы — асобы патрыёта і грамадзяніна Беларусі. У сучасных умовах набывае асаблівае значэнне адраджэнне беларускага этнасу, яго нацыянальнай самасвядомасці і самабытнай культуры. Нацыянальны менталітэт, нацыянальны характар — гэта, вядома, тое, што вызначае асобасны, непаўторны пачатак у жыццёвай і культурнай прасторы. Паэт Уладзімір Жылка ў сярэдзіне

20-х гадоў пісаў у лісце да Антона Луцкевіча: "На беларускай зямлі павінна быць беларуская кніга, бел. школа, бел. навука, бел. банкі, бел. кааператыў, а найперш — беларуская свядомасць. Чым будзе больш такіх "рэальнасцяў", такіх "фактаў", тым мы будзем мацней..." Беларускі светапогляд і беларускае светаадчуванне — этнічная і культурная самаідэнтыфікацыя асобы, яе нацыянальнае аблічча, аснова сапраўднай духоўнасці. З афарыстычнасцю выказаўся паэт Пятрусь Макаль у вершы "Твар і душа": "Нацыянальнасць — // Маё аблічча, // А чалавечнасць — // Мая душа". Беларуская мастацкая літаратура вельмі істотна ўзбагачае нацыянальна-культурны змест навучання, а ў многім і прадвызначае яго, паколькі яна актуалізуе значнасць у жыцці чалавека роднага слова, гістарычнай спадчыны, нацыянальных традыцый і інш.

Беларуская літаратура дае магчымасць для сістэмнага і ўсебаковага выхавання любові да роднага краю. Галоўнае — дапамагчы вучню адэкватна ўспрымаць сябе ў свеце і грамадзе. А гэта немагчыма без далучэння да такіх духоўных скарбаў жыцця, як прырода, Бог, зямля, народ, беларуская песня...

Запынімся на адным з аспектаў у навучанні і выхаванні, які ўмоўна назавём эстэтычна-экалагічным. Менавіта пастаянны зварот да мастацкай "кнігі прыроды" дазваляе ў выніку адчуць сваё адзінства з усім існым на зямлі, усвядоміць сябе часткай космасу-сусвету. Пісьменнік XIX стагоддзя Ян Баршчэўскі зазначаў, што ў кожную эпоху прырода па-свойму непрачытаная, невычэрпная кніга, і, у прыватнасці, пісаў: "Кніга таямніц духу і прыроды хоць і не даследавана, хоць нельга яе прачытаць да канца, аднак напісана яна для чалавека. Прыемна, чытаючы яе, здзіўляцца мудрасці Творцы".

Прыродаапісальныя тэксты на ўроках літаратуры выступаюць як дзейсны фактар эмацыянальнага і эстэтычнага развіцця асобы. Пейзажныя карціны і малюнкі нашых пісьменнікаў абуджаюць захапленне цудоўным, чароўным, незвычайным, далучаюць да разумення мудрасці ўладкавання жыцця і свету, выклікаюць пачуццё эмпатыі — спачування ўсяму жывому. Сапраўды, "краса прыроды кліча да чысціні душы", вельмі "гаючая, родная прыгажосць" (Я. Брыль). Прырода — крыніца духоўнага існавання чалавека, пераўтварэння яго па законах прыгажосці. Ніхто іншы, апроч паэтаў і пісьменнікаў няздольны нам паказаць усю непаўторнасць родных краявідаў, перадаць галасы і музыку наваколля, пранікнуць у спрадвечныя таямніцы беларускага краю. У першую чаргу паэзія вучыць адчуваць і разумець прыгожае на зямлі. Мастацкая літаратура прэзентуе беларускі вобраз свету, фармуе нацыянальнае пачуццё прыроды. Пад

уплывам класічных, шэдэўральных прыродаапісанняў у пэўнай ступені складваецца беларускае светаўспрыманне і ментальнасць чалавека.

Яшчэ нядаўна не толькі ў літаратуры, але і ў грамадскім быцці культывавалася ідэя чалавека як цара прыроды, за дэвіз было ўзята мічурынскае выслоўе: "Не будзем чакаць літасці ад прыроды". Пісьменнікі, прадчуваючы сур'ёзныя наступствы, адныя з першых выступілі супраць гомацэнтрычнай філасофіі, безразважнай антрапагеннай экспансіі. Паэт Пімен Панчанка, да прыкладу, на пачатку 70-х гадоў пісаў: "Не люблю я слова "пакарыцель", // Не люблю я слова "уладар" і звяртаўся з просьбай: "Акіян і космас вывучайце // З добрым сэрцам, // А яшчэ прашу: // Пакідайце і буслу, і чайцы // Больш вады і неба на душу". Прырода — вялікая і магутная сіла, ігнараванне грамадствам гэтага "другога боку" неаднойчы прыводзіла да жахлівых катаклізмаў і катастроф.

Літаратура акурат і паварочвае чалавека душой і розумам да прыроды-маці, настройвае на гарманічныя з ёй узаемаадносіны. Ад людской цывілізацыі залежыць многае, бо праблема абароны прыродных скарбаў, унікальнасці зямнога ландшафту — гэта праблема захавання чалавечага ў чалавеку. Якой будзе культура экалагічных паводзінаў — такім будзе і свет вакол нас. Калісьці А. Герцэн казаў: "Усе памкненні і намаганні прыроды заканчваюцца чалавекам: да яго яны імкнуцца, у яго ўпадаюць яны, як у акіян". Прырода стварае непаўторны мікракосмас, даючы яму імя — Чалавек. Маральная дэградацыя ў адносінах да ўсяго прыгожага і жывога на зямлі — згубны шлях, які вядзе да разбурэння чалавечай прыроды. Пра неабходнасць высокага ідэалу ў стаўленні чалавека да свету выдатна гаварыў наш М. Багдановіч, клікаў жыць "з прыродай зліўшыся душой". Паэт усведамляў узаемазалежнасць духоўна-прыроднага і грамадскага пачаткаў, што адзначае даследчык А. Лойка: "Поўны ўзвышаных думак і пачуццяў, чалавек, зліваючыся з прыродай, спасцігаючы яе гармонію, імкнецца знайсці гармонію ў сабе, знаходзіць яе і ўзносіць як ідэал, як узор, на якім можа і павінна стварацца сама гармонія грамадскага жыцця". Адчуванне свету і сябе ў грамадзе ўсё часцей набывае выразную матэрыялізаваную, карысліва-прагматычную скіраванасць. У пэўных выпадках гэта можна зразумець і нават апраўдаць. І ўсё ж неабходна памятаць пра тое, што "жывеш не вечна, чалавек" (М. Багдановіч). Вечная і мудрая прырода — духоўны настаўнік, дарадца чалавечай душы, яна дапамагае адшукаць вышэйшы сэнс супольнага існавання. Вельмі важна раскрыць лучнасць і непарыўнасць агульнага "энергетычнага поля", якое складаюць прырода і чалавек з яго пачуццямі, эмоцыямі, думкамі.

Беларуская мастацкая літаратура скіроўвае чалавека да прыроды як асновы боскай задумы свету, закладвае ўспрыманне нашай зямлі як агульнага дома. Пачуццё адзінай прасторы вельмі важнае, бо скіроўвае не толькі да канкрэтыкі, але і да маштабнага светабачання. Мастацкі свет прыроды — гэта ўражлівая кніга радзімазнаўства, якая дае магчымасць убачыць у арэоле незвычайнасці лес і поле, раку і неба, травінку і сонца... Думаць пра дом — думаць пра малое і вялікае, асабістае і па-грамадску значнае. Як ні дзіўна, пісьменнік К. Паўстоўскі будучыню чалавецтва і лёс чалавечай культуры звязваў з "зялёным домам", ён гаварыў, што "лес трэба берагчы, як мы зберагаем нашу культуру і ўсе здабыткі нашай незвычайнай эпохі". Разважанні і абагульненні на аснове твораў пра прыроду закладваюць экалагічны падмурак мыслення. Літаратура і прырода — дзве ўзаемаспалучаныя эстэтычныя каштоўнасці, успрыманне і асэнсаванне якіх уключае асобу ў спецыфічную і разам з тым надзвычай змястоўную культурна-духоўную сферу.

Знаёмства з пейзажнымі вершамі і ўрыўкамі заснавана на выяўленні вобразна-эстэтычных уласцівасцяў мастацтва слова. І тут вельмі важна знайсці нешаблонны, нетрафарэтны падыход да аналізу твора. Пажадана, каб былі вызначаны не толькі метафары, эпітэты ці іншыя сродкі выразнасці, а раскрыты найперш аўтарскі рух пачуцця, непаўторнасць позірку на свет, майстэрства малявання словам, своеасаблівасць арганізацыі мастацкага тэксту. Разгляд пейзажнай творчасці павінен мець эстэтыка арыентаваны характгар і спрыяць выпрацоўцы культуры ўнутраных адчуванняў. Неабходна стварыць адпаведную аўру для арганізацыі заняткаў, завабіць вучняў у атмасферу паэзіі, музыкі, жывапісных фарбаў і колераў філасофскіх медытацый. Урок вымагае падрыхтоўчай працы, якая спрыяла б выяўленню творчага патэнцыялу асобы. У залежнасці ад узроставых магчымасцяў школьнікаў можна наладзіць выставу малюнкаў і фотаздымкаў конкурс творчых прац, правесці музычна-літаратурную гасцёўню, экскурсію на прыроду і інш.

І яшчэ пра адну несумненную духоўную каштоўнасць варта сказаць колькі слоў — пра Біблію, якая, як вядома, з'яўляецца помнікам старажытнай культуры, крыніцай бясцэннага вопыту і мудрасці чалавецтва. На доўгія гады слова Бог было выключана са школьных падручнікаў. З дзяцінства чалавеку прышчапляўся атэістычны светапогляд. У Савецкім Саюзе гэтае слова пісалася і друкавалася з маленькай літары. Пісьменнік Іван Бунін, калі даведаўся пра тое, дык адразу перадумаў вяртацца на радзіму. "Мы не паклонімся богу..." — на такіх антырэлігійных пазіцыях стаялі савецкія пісьменнікі і тагачасная

школа. Біблію, царкву і рэлігійных асоб высмейвалі, бэсцілі, пэцкалі чорнай фарбай. Перачытайма хаця б "Біблію" і сатырычныя вершы Кандрата Крапівы або згадайма пра Міколкавы непаразуменні з Богам у аповесці Міхася Лынькова "Міколка-паравоз". Усё гэта гаворыцца не дзеля таго, каб замест бязбожніцтва абраць у сучаснай школе рэлігійны кірунак навучання і выхавання. Гэтага, напэўна, рабіць не варта, паколькі наша школа — свецкі сацыяльны інстытут, заклікаyы сфармаваць навуковыя ўяўленні і недагматычныя падыходы да жыцця. Аднак у той жа час на ўроках літаратуры павінна прысутнічаць і паняцце Бога, і Біблія, і рэлігійна-духоўная паэзія, бо наша літаратура грунтуецца на хрысціянскіх агульначалавечых каштоўнасцях, яна спавядае дабрыню, міласэрнасць, спагаду, сумленны лад жыцця. "Бог ёсць любоў..." (Першае Пасланне Іаана, 4:16). Гуманістычнае прапаведніцтва ў духу біблейскіх запаведзяў бярэ пачатак ад Ф. Скарыны і іншых беларускіх пісьменнікаў-асветнікаў якія, рэагуючы на грахоўную сутнасць зямнога свету, заклікалі да духоўнага прасвятлення і маральнага самаўдасканалення. Беларуская класічная літаратура шукала гуманістычны сэнс быцця з імем Бога. “Голас Бога — жыве ў душы чалавека", — даводзіў паэт Змітрок Бядуля. Для Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага, Казіміра Сваяка, Андрэя Зязюлі і іншых пісьменнікаў уласцівы сакральнасць позірку на прыроду і рэчаіснасць, адчуванне Божага пачатку ў чалавечай душы. Без ведання Бібліі цяжка спазнаць сапраўдную глыбіню такіх твораў беларускай прозы, як "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" У. Караткевіча, "Сотнікаў" В. Быкава і інш. Рэцэпцыя біблейскай вобразнасці і сімволікі прысутнічае ў шматлікіх творах сучаснай літаратуры. "На Беларусі Бог жыве..." — ужо адно гэта афарыстычнае выслоўе Уладзіміра Караткевіча выклікае да паглыбленых разваг пра Бога і Беларусь.

Якой будзе роля і месца літаратуры ў школе XXI стагоддзя, такой яна будзе і ў грамадстве заўтрашняга дня. Яна здольная і надалей сілкаваць жыццё чалавечай душы, дапамагаць ёй адшукваць сапраўдныя, непадманныя каштоўнасці ў свеце. У аснове нацыянапьнай літаратуры ляжыць ідэалогія духоўнага і маральнага адраджэння асобы і народа, культ любові да чалавека, прыроды, народа, Радзімы. І таму мастацкае слова, а таксама слова настаўніка-філолага маюць значную духастваральную сілу. Паэт-філамат і рэвалюцыянер Тамаш Зан "казаў, што музыкай і паэзіяй, чысцінёй нораваў і любоўю можна ўратаваць ад канчатковага падзення самых сапсутых людзей" (паводле згадак І. Дамейкі). Нехта скажа: гэта утопія ці рамантычная вера. У значнай ступені сапраўдны прагрэс у справе навучання-выхавання

напрамую залежыць ад прафесійнай падрыхтоўкі настаўніка-славесніка і яго асабістых маральных якасцяў. Не трэба, аднак, забываць і пра тое, што каштоўнасць літаратуры ў школе істотна павялічыцца тады, калі сістэма адукацыі будзе нацыянальна арыентаванай.

1995, 2001

## Выхаванне эстэтыкай слова

На сучасным этапе літаратурнага навучання становіцца асабліва відавочным тое, што вучні павінны не толькі засвоіць пэўны аб'ём інфармацыі, але, у першую чаргу, у іх неабходна сфармаваць глыбокі эстэтычны густ, здольнасць спалучаць непасрэдны эмацыянальны водгук з ідэйна-мастацкім аналізам, уменне разглядаць твор праз сістэму вобразна-выяўленчых сродкаў. Пейзажная лірыка складае ў розных праграмах па беларускай літаратуры (для агульнаадукацыйных школ, ліцэяў і гімназій, паступаючых у ВНУ і інш.) даволі значнае месца, і ўзровень яе ўспрымання і аналізу асабліва красамоўна характарызуе ступень літараіурна-эстэтычнай падрыхтаванасці выпускніка школы. "Прыгажосць ёсць вышэйшая мерка" (Лесінг). Арыентацыя на тонкае эстэтычнае ўспрыманне прыроды, красу пачуццяў, паэтыку пейзажу — важная ўмова спасціжэння сутнасці нацыянальнай паэтычнай свядомасці, узбагачэння эмацыянальна-экалагічных уражанняў і пачуццяў, фармавання навыкаў прымянення ведаў па тэорыі літаратуры (тропы, рытм, сінтаксіс, інтанацыя, гукапіс і інш.).

Аднак, як паказвае навучальная практыка, вельмі часта абітурыенты холадна пераказваюць змест прыродаапісальных вершаў, не могуць цытаваць іх на памяць, не звяртаюць увагу на мастацкую функцыю тропаў. І таму на занятках па літаратуры неабходна падрабязна праводзіць цэласны аналіз пейзажнага твора, выяўляць глыбіню аўтарскіх пачуццяў прыгажосць мастацтва слова. Пры разглядзе паэтычных пейзажаў асаблівую ўвагу пажадана надаваць колеру, святлу гуку. Выбар колеру перадае псіхаэмацыянальны стан паэта, з'яўляецца нярэдка алегарычным выяўленнем пэўнага сэнсу, нясе падтэкст. "Святло, — адзначае В. Кожынаў, — стварае глыбіню паэтычнага свету". Тонка спалучаў святло і цені, розныя колеры Максім Багдановіч. У імпрэсіяністычнай манеры ён намаляваў вячэрні пейзаж "Вечар на захадзе ў попеле тушыць...", у якім вельмі адмысловая колеравая гама, а таксама дамінуе мяккая пачуццёвасць інтанацыі, адчуваецца захопленае любаванне красой свету:

Вечар на захадзе ў попеле тушыць
Кучу чырвоных кавалкаў вугля;
Ціха ўсё; вецер лістка не зварушыць,
Не скалыхнуцца ні траўкай паля;
Цёмныя цені даўжэй у лагчыне,
Птушкі прыстаўшай марудней палёт;
Сумна плыве маладзік бледна-сіні
Ў небе вячэрнім, зялёным, як лёд...

Верш мае камернае гучанне. Жывапісанне словам вельмі пластычнае, створаны паэтам малюнак вылучаецца лёгкасцю ліній і абрысаў, выразнасцю і празрыстасцю колераў. Аўтар, перадаючы візуальныя ўражанні, выяўляе ўнутраны элегізм.

Эмацыянальна-вобразны свет пейзажнага верша нярэдка змяшчае ў сабе філасафічнасць думкі-пачуцця. Паглыблены мастацкі аналіз паэзіі прыроды — эфектыўны кірунак павышэння эстэтычнага і агульнакультурнага ўзроўню літаратурнага навучання.

Гуманітарызацыя і гуманізацыя — прыярытэтныя напрамкі ў сучасным адукацыйным працэсе. А яшчэ вельмі важным уяўляецца "эстэтызаваць" навучанне: выхоўваць праз эстэтыку слова творчую асобу. У гэтай сувязі бачыцца перспектыўным спалучэнне літаратуры і прыродазнаўчых навук, эмацыянальнага і рацыянальнага пачаткаў у школьным навучанні. Л. Тарасаў у кнізе "Физика в природе" (1988) слушна даводзіць, што "навуковае пазнанне прыроды і яе паэтычнае ўспрыманне ідуць поруч, узаемна ўзбагачаюць адзін аднаго. Веданне... прыродных з'яў дазваляе яшчэ мацней адчуць іх унутраную гармонію і прыгажосць, у сваю чаргу, адчуванне гэтай прыгажосці ёсць дадатковы і прытым магутны стымул..." Беларуская паэзія прыроды ў гэтым сэнсе дае багаты і ўдзячны матэрыял для паглыблення эстэтыка-эмацыянальнага адкрыцця і пазнання свету, духоўнага ўзбагачэння асобы. На занятках па біялогіі, геаграфіі, астраноміі, фізіцы, хіміі (усе гэтыя прадметы звязаны з прыродай) пры вывучэнні многіх тэм зварот да паэтычнай мовы створыць не толькі пэўны эмацыянальны настрой, але і дасць імпульс жывой думцы, выкліча асацыятыўныя параўнанні і супастаўленні, дапаможа больш яскрава раскрыць сутнасць навуковых паняццяў, з'яў, палажэнняў. Так, пры геаграфічным аглядзе Беларусі, характарыстыцы прыроднага асяроддзя (клімату, рэльефу, расліннага і жывёльнага свету і інш.) дарэчы будзе звярнуцца да пейзажных карцін і малюнкаў прыроды, якія раскрываюць своеасаблівасць нацыянальнага свету. Тыповы беларускі ландшафт з рэалістычнай дакладнасцю намаляваны, напрыклад, у творах Якуба Коласа. Літаральна ўсе прыродныя вобразы ярка апаэтызаваны нашымі паэтамі: рэкі і азёры, пушчы і лясы... Геаграфічныя каардынаты беларускай паэзіі вельмі шырокія: яна адкрыла экзотыку самых розных мацерыкоў і земляў (вершы Я. Купалы, З. Бядулі, А. Гурло, М. Танка, П. Панчанкі, К. Кірэнкі, Р. Барадуліна, А. Лойкі...). Паэтычнае краіназнаўства — гэта ўражлівае знаёмства з вялікім светам, унікальнымі ландшафтамі, асаблівасцямі клімату, раслiннасці, прыроднымі стыхіямі.

Біялогія, як і паэзія, таксама ўзіраецца ў свет прыроды. І тут пункты судакранання могуць быць пры вывучэнні флоры і фауны, знаёмстве з праблемамі біясферы. Здаецца, паралелі і аналогіі з паэзіяй прыродазнаўчага, натурфіласофскага зместу просяцца міжволі: вобразы кветак і раслін — увасабленне моцы жыцця, хараства, каларыту радзімы. Нізка прыродаапісальных вершаў "Водар і шолах" Д. Бічэль — яркі і дзівосны свет беларускай флоры, своеасаблівы "паэтычны фітадызайн". Паэтэса пакланяецца зёлкам і кветкам бацькаўшчыны, іх гаючай сіле, скіроўваецца да духоўна-гістарычных і гуманістычных вытокаў быцця.

Ажывіць заняткі па такіх дакладных прадметах, як фізіка і хімія, дапаможа паэзія Галіны Булыкі. Гэтая сучасная аўтарка смела і арыгінальна паяднала ў сваёй творчасці паэзію і навуку (кнігі "Сінтэз" і "Турмалін"). Яе "навуковыя" вершы — гэта філасофска-эстэтычнае адкрыццё і асэнсаванне нежывой прыроды ("Свінец", "Серабро", "Ёд", "Лазурыт", "Мармур", "Гагат", "Золата" і інш.). Рэчывы зіхцяць і зачароўваюць гранямі сваёй будовы, дзіўна-прыгожымі ўласцівасцямі і якасцямі. Свет хіміі ў творах паэтэсы — рухомы, жывы, адухоўлены:

Распаленае шкло, — агонь чырвоны,
Бурштынны бляск, павольны і густы, —
Гарачай кропляй падае без звону,
Каб цудам стаць і ў дудзе тым застыць.

Чакае потым лёгкасць і празрыстасць,
Глыбокі колер, цёплы і жывы,
І непаўторнасць кожнай рыскі,
І кветкі ў крохкай студні сінявы.

Вясёлка разнавокая на гранях...
Асколкаў звон —
На шчасце...
А спярша
Гартуюць шкло.
Спявае шкло і грае,
Гарыць, як чалавечая душа.

*("Гартаванне шкла ")*

У кнігах Г. Булыкі выяўляецца сінтэз паэзіі і матэматыкі ("Матэматычны трыпціх", "Паралельнасць" і інш). Паэтэсу захапляе тое, як

хімічныя і фізічныя якасці прадметаў, пэўныя прыродныя з'явы знаходзяць праламленне ў часе і прасторы.

Не хацелася б, каб нехта падмяняў выкладчыкаў-літаратараў, гэтага рабіць не варта. Але відавочна, што біёлагу ці фізіку трэба імкнуцца быць крышку лірыкам, каб заняткі не ператвараліся ў нудны і сухі маналог. Святло і сонца, туман і вясёлка, рака і зоры, воблака і маланка — усё гэта паэзія прыроды, і прывабіць да яе, захапіць ёю навука можа з поспехам у спалучэнні з мастацтвам слова. Сягнуць за межы прадмета, стварыць яркі міжпрадметны кантэкст, выйсці на паралелі з пейзажнай і натурфіласофскай паэзіяй — значыць, зрабіць спробу павысіць эстэтычны і гуманістычны патэнцыял навучання.

1996

## Душа — агрэсія — экалогія літаратуры

### I

Разважаючы пра чалавечую сутнасць, беларускі паэт Янка Сіпакоў выказаўся вельмі афарыстычна і ёміста: "...З душы ўвесь чалавек сабраны. // Мы адкрываем нечакана: // Дзе нам баліць, там і душа". Душа — аснова чалавека і космасу, яна лучыць чалавека з іншымі людзьмі, прыродай, усім тым, што дае ёй моц, прыносіць радасць, асалоду і натхненне. Нехта скажа ці нават узбунтуецца: ды колькі можна гаварыць пра душу? Паэты, паглыбляючыся ў нетры свайго "я", бясконца пішуць пра душу, педагогі выхоўваюць пачуццёвасць і духоўнасць, святары пастаянна апелююць да чалавечай душы і клічуць кожнага да яе выратавання, нагадваючы пра пекла і Божае пакаранне. Хтосьці мяркуе, што гаворкай справе не паможаш, ды, урэшце, трэба проста ўсведамляць феномен часу: адбываецца глабальны крызіс маралі, хутка перайначваецца грамадскае быццё, мяняюцца норавы, прыярытэты... Што ж тычыць пісьменнікаў і настаўнікаў, то яны, маўляў людзі старамодныя і наіўныя, жывуць гэтыя рамантыкі стэрэатыпамі, не стамляюцца гаварыць ці паўтараць адно і тое ж, а ўздзеянне іх слова катастрафічна змяншаецца.

Храм душы — што гэта такое? Знойдзецца той, хто скажа: прэтэнцыёзны выраз, прыгожая метафара — не болей. Храм душы штосьці ідэальнае, чаго немагчыма дасягнуць у прынцыпе, бо чалавек грахоўны, амбівалентны, а часта проста слабы і нікчэмны. Дык мо трэба трымацца зямной рэальнасці, прымаць усё, як дыктуе час, не біцца над цяжкімі, "праклятымі пытаннямі"? Але ж думаецца і пра тое, што заўсёды чалавек імкнуўся ўзняцца над прыкрай будзёншчынай і сягнуць да "высокага неба ідэалу" (А. Вярцінскі), ён шукаў духоўнае апірышча, шлях да ісціны. Як патрэбна разняць "крылы ў неба" (П. Макаль), каб вытрымаць у складанай жыццёвай сітуацыі, выжыць наперакор нягодам і няшчасцям! Гэта ведае кожны, каму давялося ісці праз суровыя церні, няўдачы, выпрабаванні. Калі душа пакутуе, плача, поўніцца жальбой і скрухай, яна прагне дабрыні і любові, спагады і даверу. Цудоўна выявіў сутнасць гуманнага існавання ў людской супольнасці паэт Анатоль Вярцінскі ў вершы "Спачуванне":

Спачуваю чалавеку,
    калі яму крыўдна,
    калі гняце яго несправядлівасць.
    Несправядлівасць!
    Я знаю, што гэта такое.

Самая большая рана на маім сэрцы —
гэта тая, якую пакінула несправядлівасць.

Спачуваю чалавеку,
калі ў яго памірае маці,
калі ў яго гора.
У мяне самога памірала маці,
я сам глядзеў у чорную бездань гора.
Спачуваю чалавеку,
і гэта, відаць, натуральна.
Бо хто ж яму паспачувае,
калі не я — такі ж, як ён, чалавек!

Яшчэ паэт старажытнага Усходу Джамі казаў, што няма сябра бліжэй за сумленне. Гуманістычная літаратура пастаянна гаварыла пра неабходнасць маральнай чысціні душы, чалавекалюбнасці, альтруізму, людскога паразумення і духоўнай еднасці. Аднак грамадства ўпарта не жадае мяняцца да лепшага, а чалавек губіць сябе, сваю існасць, нясе гора і бяду іншым. Разбуральная энергія захлістваe свет. Жорсткасць і абсурд робяцца з'явай паўсядзённага жыцця, а замкнёнае кола бязмэтнага існавання стварае імітацыю ці ілюзію нейкага руху. Чалавек, які не прымае гэткага наканавання, робіцца самотным, адзінокім. Элегізм, экзістэнцыя — дамінанта мастацкага светаадчування мяжы XX і XXI стагоддзяў — адпавядае стану сучаснай свядомасці. Паэт Пімен Панчанка быў занепакоены тым, што грамадству пагражае маральны Чарнобыль, што нас могуць засмактаць "чорныя дзіркі" — сілы зла і цемры. Вынік сацыяльна-маральнага заняпаду (расчалавечванне, бездухоўнасць, нізкі ўзровень агульнай культуры і інш.) па-сапраўднаму драматычны і несуцяшальны: мы апынуліся, кажучы словамі паэта, "на рэштках Храма". І не выпадкова тонкая і адчувальная душа паэта прагне ўцёкаў з "халоднай краіны", ад рэальнасці жыцця, усяго жахлівага і падманнага ў свеце:

Уцякаеш, як звер, уцякаеш,
Цішыню, нібы лёд, разбіваеш,
І твой цень, як вада, заталляе
Тых, хто ўслед за табою ўцякае
Праз палі, праз лясы, праз балоты
Ад уласнай, як смерць, адзіноты,
Ад жыцця, што прыгожым завём,
Ад жыцця, у якім мы жывём...

Алегорыя ў вершы "Ты ўцякаеш... Куцы? Сам не знаеш?.." Віктара Шніпа больш чым празрыстая, яна выяўляе ментальнасць чалавека, якога абставіны пастаянна заганяюць у тупік, пазбаўляюць унутранай свабоды.

Дыялог з людзьмі і светам — у гэтым галоўная сутнасць духоўнай камунікацыі асобы. Але рэальнасць праз жорсткасць, цынізм і подласць часта прыгнечвае, нявечыць душу, траўміруе свядомасць, ператварае чалавека насуперак волі ў "суб'ект болю і пакут". Паглумленая і стомленая душа, асабліва калі яна страчвае абарончы імунітэт, пачынае губляць веру ў светлае, узвышанае, людскае. Цяжка бывае вытрымаць буру націску і руйнавання...

Садысцкае катаванне і душэўныя мукі — наканаванне ад часоў Хрыста, калі Ён узнёс свой крыж на Галгофу. Укрыжаванне, трагізм існавання з'яўляюцца ледзь не нацыянальным лёсам беларускага народа. Шлях праз церні і пакуты вёў многіх славутых асветнікаў і гуманістаў: Еўфрасінню Полацкую, Ф. Скарыну, С. Буднага, В. Цяпінскага і інш. Дужа магутныя былі сілы інерцыі, дагматызму, і таму так нялёгка даводзілася ім сцвярджаць ідэалы праўды, сумленнасці, цноты, гуманізму ў жыцці людской супольнасці. Грамадству спрадвеку не хапала духоўнага паразумення, любові і мудрасці. Пісьменнік Ян Баршчэўскі ў сваім XIX стагоддзі не ідэалізаваў людскія норавы: "...Затое часта здараюцца выпадкі, калі чалавек чалавека коле джалам гадзіны".

За нашымі плячыма застаецца XX стагоддзе — эпоха суцэльных цяжкіх выпрабаванняў і няшчасцяў. Купала ад роспачы і бсзвыходнасці зрабіў спробу "харакіры", ды ўсё ж выжыў, каб несці далей крыж жыццёвых пакут. Цішка Гартны, душэўна знявечаны і хворы, у Магілёўскай псіхіятрычнай лячэбніцы паставіў ножку ложка на горла. Амаль аслеплы Кузьма Чорны ў вызваленым Мінску не меў надзейнага прытулку і ўмоў для творчай працы, ён абураўся нахабствам і бессаромнасцю чынавенства, выліваў скаргі сваёй душы ў дзённіку... Сотні беларускіх інтэлігентаў прайшлі праз сталінскія засценкі, зведалі жудаснае прыніжэнне, нялюдскі глум і фізічныя здзекі. Нават метадам экзекуцый каты не заўсёды маглі схіліць чалавека да маральнага падзення. Можна было растаптаць, ліквідаваць чалавека фізічна, але не зняволіць, скарыць яго дух. Пра гэта добра сказаў паэт Язэп Пушча: "Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў // і супраць ветру размахнуць крыламі" ("Лісты да сабакі"). Гэта заўсёды цяжка і небяспечна — спрачацца з сабой, з людзьмі і светам. Асабліва тады, калі "душа людская халадзее", а рэальныя абставіны наварочваюцца да цябе варожа. Але спрачацца за ісціну і праўду, узняцца на абарону

чалавечнасці — гэта, пэўна, абавязак сумлення. Пайсці "да славы лёгкіх слоў" легка, для гэтага не трэба ніякіх высілкаў.

XX стагоддзе напаткала вялікая гуманітарная катастрофа. Супрацьстаянне дабра і зла, чалавечнасці і подласці, справядлівасці і несправядлівасці, свабоды і гвалту па-шэкспіраўску глабальна і драматычна завастрыла альтэрнатыву: быць ці не быць... У адказныя перыяды гісторыі людская супольнасць, нягледзячы на ахвяры і духоўныя страты, усё ж такі адстойвала і даказвала жыццетрываласць гуманізму. Пра гэта вельмі добра сказаў Уладзімір Караткевіч у вершы "Мой век":

...Мой крывавы, мой страшны час,
Ў ім цяжка раслося калоссям,
І на большым абшары зямлі
Раскашней паршыўцам жылося,
То адкуль жа Людзі былі?
Тыя, што за радзіму,
За людства, праўду і нас,
Тыя, што за адзіную
Паміралі літару "аз".

Чалавечае жыццё на зямлі, і да гэтага заклікалі вялікія гуманісты, павінна пачынацца з дабрыні, любові, спачування. Аднак раўнадушша і абыякавасць б'юць без ваганняў і разваг, наносяць балючыя раны. "Стаяць замарозкі ў душы чалавечай..." І як вынік — людскія драмы і трагедыі. Самагубствам нярэдка заканчваюць зямны шлях лепшыя з лепшых — тыя, хто не вытрымаў душэўны надлом. У прасцягах вечнасці прагнуць супакаення спакутаваныя душы, а зямлю запаўняюць боль і туга... І як запавет нам застаюцца словы паэтаў: "...Пачынаецца ўсё з любві, // А інакш і жыць немагчыма" (Я. Янішчыц).

Ды цемрашалы, агрэсіўныя цынікі, чалавеканенавіснікі спавядаюць сваю філасофію і вельмі што не абцяжарваюць сябе пакутамі сумлення. Вобраз аднаго з такіх сучасных маральных дэгенератаў стварыў пісьменнік І. Шамякін у аповесці "Падзенне" (1993). Спакуса лёгкага жыцця падштурхоўвае Рамана Юшкоўскага, адказнага супрацоўніка дзяржаўнага камітэта, да хабарніцтва. Ён не змог супрацьстаяць абставінам, зрабіць маральны выбар. Юшкоўскі шукае ўласную выгоду, у ім "сумленне заснула", таму і здраджвае сямейным традыцыям. Яго дзед Стэфан Юльянавіч, былы гулагаўскі вязень, перакананы, што выжыць любой цаной — прынцып амаральны. Нельга быць пярэваратнем, спісваць уласную віну і ўчыненую подласць на цяжкасці часу. Стары Юшкоўскі гаворыць: "Але не выжывалі

якраз тыя, хто адступаў ад чалавечай маралі, прынцыпаў сваіх..." Безадказнасць і распуснасць прыводзяць Рамана да злавеснага пакарання: ён захварэў на СНІД. Маральная дэградацыя вядзе і да фізічнага выраджэння.

Так уладкаваны свет чалавечы, і іншага не дадзена, як жыць, радавацца, пакутаваць... І памятаць пра перажытае. Тады, нібы дакументальная кінастужка, пракручваюцца тыя жыццёвыя падзеі, якія не даюць спакою ў думках і снах.

Гэты вобраз — не плён маёй выдумкі, я часта бачыў у люстэрку адбітак яго сумных, зажураных вачэй. Слухаю споведзь. Памяць вяртае зноў да "кола пакут"... Малады чалавек, учарашні вясковец, ідзе ў навуку і бясконца верыць ва ўсё самае светлае і чалавечае на зямлі. Навуковы кіраўнік шчыра радуецца кожнай яго публікацыі, а неўзабаве і паспяхова абароненай дысертацыі. І вось маладога вучонага, ужо выкладчыка ВНУ, напаткала бяда: цяжка захварэла маці, якая засталася ў вёсцы адна. Сыноўні святы абавязак — дагледзець нямоглага роднага чалавека, які ахвяраваў дзеля цябе ўсім, чым мог. Праз некаторы час сын ад безвыходнасці мусіў забраць маці ў студэнцкі інтэрнат, дзе тулілася яго сям'я. Тут яна і сканала амаль праз паўтара года. Гаротная і няшчасная маці напакутавалася без меры, бо краваззліццё і пералом нагі прывялі да цяжкага фізічна-псіхічнага стану. У снах сына і сёння, бывае, чуецца матчын енк, скульсьці даносяцца балючыя стогны. Увесь той час, пакуль вясковая кабета марнела на сёмым паверсе ў студэнцкім інтэрнаце, усталёўвалі новы ліфт і яна адчувала сябе ў зняволенні, прасілася, як птушка, на волю. Яна называла той інтэрнат турмою, бо было ёй, бездапаможнай і знясіленай, няўцям, што сын не ў стане памяняць гэтую побытавую сітуацыю. Як цяжкі камень, душыла сям'ю маладога вучонага адсутнасць прапіскі, належных умоў для жыцця і творчай працы. Ён напісаў свае першыя кнігі, сумленна працаваў і шчыра спадзяваўся, што гэта самае галоўнае ў жыцці. Кандыдат навук хадзіў у храме навукі па кабінетах начальнікаў і прасіў аднаго — спагады, міласэрнасці і дапамогі... І неаднойчы ён, малады рамантык, згадваў словы любімага паэта Максіма Багдановіча: "Я хлеба ў багатых прасіў і маліў — // Яны ж мне каменні давалі...". Кінутыя камяні чэрствасці і жорсткасці зранілі душу матадога беларуса.

Праз дзень пасля жалобнага стала па маці ён пахаваў роднага брата і зноў згадваў песняра: "Час, калі трэба журыцца // Душою на свежых магілах..." Ужо пасля развітання з маці пабачыла свет першая кніжка — і гэты маленькі промнік радасці неяк суцешваў яго ў горкую хвіліну. Побач шчабяталі, нібы птушаняты, яго дзеткі. І ён

прыгадаў любімага паэта: "Кіньма жа думкі аб долі гаротнай, // Хоць бы на момант спачынем душой!". А яшчэ ён памятаў верш "Вокліч" паэта пакутніцкага лёсу Янкі Журбы:

Годзе ж, годзе сумаваць вам,
Годзе дарам слёзы ліць!
Ёсць за што ў жыцці змагацца,
Ёсць у ім што палюбіць.

У душы нeяк зацеплілася вера, надзея на лепшае. Бог падараваў радасці і святы. Але побытавая неўладкаванасць азмрочвала жыццё. Сям'я працягвала пакутаваць у тым самым студэнцкім інтэрнаце. Бясхатніцтва доўжылася каля двух дзесяткаў гадоў. І, здавалася, што ён звякуе тут разам з сям'ёй. Здзек зацягнуўся — і гэта адчувалі сумленныя людзі ў навуцы, тыя, хто добра ведаў, у якіх умовах ён працуе, колькі робіць і бескарысна аддае грамадству. Аднак той лепшы дзень урэшце надышоў. Сын заканчваў школу, дачка вучылася ў восьмым класе, а сам ён меў ужо вялікі стаж працы ў ВНУ, калі сям'я выехала са студэнцкага інтэрната, які яшчэ маці-нябожчыца калісьці "ахрысціла" багадзельняю. Галава яго пасівела, сэрца паднасілася, лепшыя гады засталіся за плячыма. Ён біўся, як рыба аб лёд, напружваў сябе дзеля аднаго — каб толькі змяніць умовы жыцця сваёй сям'і, каб разарваць гэты ланцуг пакут. І не прагнуў ён жыць тут, на зямлі, як Адам у раі, проста, як і кожны чалавек, дбаў пра "свой кут". Ішоў праз прыніжэнні і знявагі, бо чыноўнікі, людзі пры навуцы заўсёды імкнуліся паказаць на яго рэальнае месца ў гэтым свеце...

Здавалася б, быліца пра "бытавуху" беларускага вучонага скончылася больш-менш шчасліва. Але, як абухом па галаве, яго прыбілі, агаломсілі словы "навуковай" рэспектабельнай дамы: "Чалавека нельга шкадаваць за яго цяжкі лёс". Чарговы цынічны ўкол тая зрабіла пасля таго, як шмат разоў захлыналася ад радасці, калі бачыла, што ў калегі няшчасце і ад яго просьбаў пра дапамогу адварочваліся. Чыноўнікі гулялі з ім у звычайныя "папяровыя гульні", ён пакутаваў ад несправядлівасці, а яго нядобразычліўка часу не губляла і распаўсюджвала "страшылкі" пра калегу, не шкадуючы слоўнага "яду". Навошта ёй гэта? Адказ вельмі банальны і не вымагае глыбокага вывучэння чалавечай натуры. Жанчына імкнулася да пасады дзеля таго, каб самой як мага хутчэй займець любыя даброты ды выгоды. А тут, бач, нейкі пакутнік знайшоўся і на штосьці прэтэндуе. Гэтая "modern woman" мае "найноўшыя" падыходы да жыцця, якія, аднак, вядомыя чалавецтву з часоў старажытных лацінян. Яна лічыць, нібыта "чалавечы фактар" — гэта "fantasy", эфемерны гуманізм мінулых дзён, рудымент беларускай патрыярхальшчыны. Урэшце, дапамагаць, спрыяць, нават

проста спачуваць іншым людзям, маўляў, — дабрачыннасць, настоеная на сентыментальнасці. Што ей было да гэтага затаптанага хеўрай "кручкатвораў" чалавека, што ёй было да яго дзяцей, якія таксама марылі жыць па-іншаму і на аркушах каляровымі алоўкамі малявалі свой дом!

Сацыяльна заціснутая асоба не можа цалкам рэалізаваць сябе. У неспрыяльных умовах творчы імпэт згасае, з цяжкасцю думаецца і пішацца. Але малады навуковец уздымаўся над побытам, садзіўся за стол і працаваў. Быў плен. Выспявалі новыя ідэі і задумы...

У вачах уладнай жанчыны пры пасадзе ён паўстаў супернікам, хоць у таго амбіцый і ніякіх звышпрэтэнзій не было. Жадалася, каб нязручны, няўгодны "калега" кудысьці сышоў, дзесьці знік, растварыўся... О, колькі задавальнення прынеслі ёй чужыя пакуты! І яна прагне іх зноў, ёй няймецца. Каб яе воля, то яна загнала б гэтага чалавека "з цяжкім лёсам" на той свет (вядома, парупілася б пра вянок). Яна цудоўна ведае, як цкаваць, учыняць аблогу, на ўсе застаўкі гнаць з "уласнай тэрыторыі"! Галоўнае — стварыць адмоўны імідж ахвяры, дзейнічаць з моцнай хваткай, наносіць удары педантычна, з хітрым разлікам і халодным сэрцам...

Тут пажадана зрабіць заўвагу адносна гэтай "асобы ў капелюшы". Лексікон яе нашмат багацейшы, чым у Элачкі Людаедкі з "Дванаццаці крэслаў" Ільфа і Пятрова, у запасе, аднак, ёсць тыя трыццаць найноўшых навуковых слоўцаў замежнага паходжання, якімі яна пастаянна эфектна аперыруе. Гэтай лексічнай эквілібрыстыкай яна, быццам паяц на дроце, зачароўвае ссівелых вучоных мужоў, некаторыя з іх ад "завумнага" жаночага прамаўлення патрапляюць аж у стан гіпнозу.

А цяпер варта задумацца пра адхіленні ў жаночай прыродзе. Жанчына сама па сабе, як думаецца, не створана дзеля агрэсіі, руйнавання, садызму, паколькі яна, увасабляючы мацярынскі пачатак, заклікана выпраменьваць дабрыню, душэўную цеплыню, спагаду, пяшчоту і сардэчнасць. Жанчына можа наладжваць паразуменне ў свеце, яе слова здольнае быць асновай гуманнасці, чалавечнасці ў адносінах паміж людзьмі. А якія прыклады дае наша сучаснасць? Жанчына нярэдка страчвае сваю спрадвечную існасць, робіцца прагматычнай і жорсткай, хоча нахабна браць усё ад жыцця, не лічыцца з пачуццямі і сумленнем. Яна не прызнае этычных табу, пераступае праз тое, што стрымлівае яе ў кар'ерным росце, у дасягненні жаданай мэты. Жанчына пераймае часам тое горшае і звыродлівае, на што ў пераважнай большасці здольныя мужчыны. Як ні дзіўна, але ўсё часцей менавіта жанчына правакуе канфліктна-варожыя стасункі, а сілу ёй дае

энергетычны вампірызм. Самаўпэўненая і бяздушная жанчына нясе разбуральны пачатак, які нішчыць усякую добразычлівую, творчую атмасферу. І гэта дае падставы сур'ёзна задумацца пра выхаванне, пра тое, чаму бяруць верх у жанчыне "злыя інстынкты".

Магчыма, тут усё прасцей. Справа зусім не ў жанчыне, а ў чалавеку, які сфармаваны пад уплывам урвіцельскай філасофіі і эгаістычнай маралі. Прага лідэрства і "гаспадара становішча" змушае дзейнічаць рашуча, без сантыментаў, не лічыцца з метадамі і сродкамі: трэба адкінуць усялякія далікатнасці і рэверансы, сцвярджаць аўтарытарны стыль кіраўніцтва з дапамогай маральнага тэрарызму. І вось ужо замест спрыяння, падтрымкі, рукі дапамогі — недружалюбнасць, зласлівае падсмейванне, нагаворы, даносы...

Аднак чалавек-драпежнік — мужчына гэта ці жанчына, не столькі істотна — забывае, што жыццёвы шлях не будзе ўсцяж прыбраны ружамі і асалода ад чужых пакут раптоўна абернецца тым, што лёс нечакана і нечакана крута зменіць рэальнасць, пачнецца паласа бедаў і нягод. Гэта непазбежна, як пасля зацяжнога лета прыходзіць халодная восень і лютая зіма. І, мабыць, не такім значным паўстане ў трагічным святле тое, што ўчора звалілася на галаву як манна нябесная і здавалася найвялікшым шчасцем. І хай табе, учарашні крыўдзіцель іншых, яшчэ, хутчэй за ўсё, невядомыя гэтыя балюча-вострыя адчуванні жыццёвых няўдач ці страт, але ўсе мы пад Богам, таму рана ці позна, але і ты прычакаеш: падкоціцца камяк у горле, спазм сціісне дых, і слёзы пырснуць з вачэй тваіх, будуць цябе да знямогі душыць гора і адчай. Захочацца суцяшэння і шкадавання... У бядзе абавязкова прыйдуць людзі, якія не ачарсцвелі і не страцілі здольнасці спачуваць іншым. Якой чаканай будзе сустрэча нават з адным чалавекам, які зразумее цябе і шчыра паспагадае!

"Даруй крыўдзіцелям нашым, "ибо не ведают они, что творят", — казала жонка навукоўца і прасіла, каб больш не гневаўся на тых, хто прычыніў вялікія душэўныя пакуты. Хіба мог ён не даравацъ? Раны на сэрцы зарубцаваліся, час прыглушыў боль. Але чалавек, бывае, нічога не можа парабіць з сабой, бо помніцца не толькі добрае, але і нялюдскае: здзек, глум, абыякавасць...

Усе мы людзі недасканалыя, і нам трэба шмат працаваць над сабой, штодня ратаваць сябе ад спакусаў і грахоў. І гэта не дыдактыка ў біблейскім духу, а перакананне многіх філосафаў і гуманістаў. "Часта людзі ганарацца чысцінёй свайго сумлення толькі таму, што яны валодаюць кароткай памяццю", — пісаў Л. Талстой. У кнізе "Духоўныя асновы жыцця" філосаф і паэт У. Салаўёў даводзіць: "Не верыць у дабро ёсць маральная смерць, верыць у самога сябе як у крыніцу даб-

ра ёсць вар'яцтва". Для кожнага нармальнага чалавека шмат значыць "людская думка", народны этычны кодэкс жыцця, ён разумее, што трэба трымацца агульначалавечых нормаў маралі, хрысціянскіх запаветаў. Згрызоты ўласнага сумлення, напэўна, бываюць вельмі да месца, менавіта гэты "самарэгулятар" робіць чалавека чалавекам, дапамагае яму знайсці правільнае выйсце ў складанай сітуацыі. Вера ў іншых людзей, і асабліва ў маладое пакаленне, дапамагае жыць і стварае адчуванне духоўнай перспектывы: "Мяне пахаваюць людзі, // Лепшыя за мяне" (У. Караткевіч). Галоўны сэнс маральнага існавання, напэўна, у тым, каб застацца па магчымасці самім сабой, сумленным чалавекам у любых абставінах, нават тады, калі ты невінаваты, калі лёс завязвае суровыя, тугія вузлы і разблытаць іх бывае немагчыма. Светланосную ісціну пра чалавечы пачатак на гэтай грахоўнай, пакутнай зямлі даказалі сваім жыццёвым прыкладам многія і многія з тых, хто ішоў праз цяжкасці ды выпрабаванні.

Далека нам яшчэ да агульнага Храма. І да Храма Адраджэння, і да Храма прыроды, і да Храма навукі... Чаму так здарылася? Адна з прычын мне бачыцца ў наступным: найноўшая сацыяльна-духоўная "перабудова", якая набірала разгарненне на пачатку 90-х гадоў, не пачалася, на вялікі жаль, з адраджэння маральнасці грамадства, і ў першую чаргу тут не стала прыкладам нацыянальная інтэлігенцыя. Інтэлігенцыя ў большасці сваёй была ўнутрана сапсутай, мела "саўковую" ментальнасць і аказалася няздольнай да самаахвярнасці дзеля ідэі. Засмучала, што часта высакародныя задачы і прыгожыя дэкларацыі не падмацоўваліся сапраўды маральнымі і гуманістычнымі ўчынкамі. Прасцей за ўсё было скарыстоўваць уладу на ўласную карысць, двурушнічаць, ліхамыснічаць. Двайная мараль і безадказнасць — рэчы небяспечныя.

Пімен Панчанка ў зборніку "Высокі бераг" (1993) з бязлітаснай праўдзівасцю сказаў пра нашу сучаснасць: "Мы хвалямі затоплены // Хлусні, маны, ілжы"; "Злаба і раздражненне, //Разбойніцкі разгул..."; "Глынулі ў нас мову, // Абрады, культуру"; "Звярэе душа ў нас ад дзікай бяздоннай самоты..." Паэт, які быў летапісцам XX стагоддзя, робіць выснову: "З боку сэнсу і культуры //Намі правіць хам прывык". Відаць, спраўдзілася біблейскае прароцтва: прыйшла на зямлю нашу Эпоха Хама. Дык няўжо такое безнадзейнае жыццё-быццё? Усё, зрэшты, залежыць ад кожнага з нас. Пачынаючы з сям'і і школы, трэба разгортваць змаганне за экалогію чалавечай душы, ратаваць грамадства, каб вярнуць яму сумленне. А сумленне і ёсць Бог. Сучасны свет поўніцца супярэчнасцямі, звадамі, яму бракуе адкрытасці, узаемадаверу і шчырасці паміж людзьмі. "Нашто ж на

зямлі // Сваркі і звадкі, боль і горыч, // Калі ўсе мы разам ляцім // Да зор?" — пытаў у людской грамады М. Багдановіч яшчэ на пачатку XX стагодцзя. Усім нам даводзіцца жыць "між бур, маланак і трывог" (П. Панчанка). Знявераная, збалелая душа, як быць і трываць табе?

2.

На двары Эпоха Пост, менавіта яна з'яўляецца "павітухай" новага маладога пакалення, якое сфармавана ў постсавецкі, постадраджэнскі час. Яна па-свойму "лепіць" чалавека, прышчапляе новыя сэнсы, спецыфічныя формы мыслення і камунікацыі, уплывае на свет унутраных каштоўнасцяў і, напэўна, выпрацоўвае якасна іншы стыль паводзінаў. Зрэшты, чалавечыя ўзаемаадносіны і стасункі пакаленняў заўсёды былі "хворай тэмай", як, між іншым, ніколі не гублялі сваёй вастрыні праблемы сям'і, школы, чалавека ў грамадстве. Народны пісьменнік Беларусі І. Навуменка на адной з сустрэч так разважаў пра хібнасць чалавечай натуры: "Чалавек не мяняецца стагоддзямі ад біблейскіх часоў, ён, мусіць, запраграмаваны на недахопы, на тое, каб быць недасканалым". Аднак сёння, і пра гэта яскрава сведчыць сацыякультурная сітуцыя постсавецкага часу, адбываецца перараджэнне чалавека ў яшчэ горшы бок, відавочны маральны распад, духоўна-культурны рэгрэс, а ўсё гэта вядзе да таго, што на нашых вачах нараджаецца, кажучы словамі пісьменніка А. Салжаніцына, "бессаромнае грамадства". Асабліва відавочныя мутацыі ў дзіцячым і моладзевым асяродку, многае з таго, што адбываецца на агульным фоне сацыяльна-эканамічнай дэстабілізацыі, успрымаецца не толькі як выдаткі "пераходнага ўзросту" ці нетыповасць самавыяўлення, а як негатыўныя, нават небяспечныя тэндэнцыі "дзікага глабалізму" ў нашым супольным жыцці.

А цяпер прыклад, здавалася б, "атыповай" сітуацыі, якая красамоўна выяўляе выверты ў мысленні юнакоў і дзяўчат "постмадэрновага тыпу". Выкладчыца была ў шоку, калі ў курсавой рабоце студэнткі філфака сустрэлася з "ваяўнічым нігілізмам": на яе старонках гаварылася, што Янка Купала і Якуб Колас — бяльмо на воку беларускай літаратуры, што, прачытаўшы творы Быкава, Вайцяшонак і Багданавай, пачынаеш увогуле ненавідзець беларускую літаратуру, што чытача ванітуе ад аднаго беларускага шрыфту, што талент у літаратуры — справа другарадная, калі не апошняя, а галоўнае — самаўпэўненасць і нахабства, што літаратура павінна ствараца толькі багатымі людзьмі і да т. п. А яшчэ ў тэксце той работы як узор сапраўднай беларускай літаратуры смакаваўся натуралізм Адама Глобуса: яго апісанні, даруйце, дупы, чэлеса, паднятага ўгару, прыбіральні і інш. Аб-

меркаванне напісанага тэксту вылілася па сутнасці ў скандал, у супрацьстаянне не толькі "выкладчык — студэнтка", "выкладчык — загадчык кафедры", а і ў "наезд" на кіраўніцу з боку маці студэнткі: тая паабяцала арганізаваць супраць выкладчыцы чорны піяр у друку і нагаварыла яшчэ шмат чаго непрыемнага. Гэтыя пагрозы ды тырады і не дзіва: жанчына пры вельмі багатым мужы, самі разумееце, часам уяўляе сябе "пупом зямлі". Застрашванні, праўда, не падзейнічалі на выкладчыцу, бо яна была не з ліку палахлівых, аднак усё роўна засталася, выбачайце, у дурнях: пісаніна студэнткі была вытлумачана феноменам Эпохі Пост, "таленавітасцю" юнай асобы, якая мае права на свабоду творчасці і такую "арыгінальнасць" думкі. Не, літаратурную "хуліганку" не прымусілі і нават не папрасілі перапісаць гэты "постмадэрновы шэдэўр", наадварот, заахвоцілі: у залікоўку паставілі "выдатна", і неўзабаве яна знайшла надзейную апеку.

Адкуль гэтае цынічнае адмаўленне і патаптанне аўтарытэтаў? Чаму маладая дзяўчына без "маральных тармазоў" абрынулася на святая святых — беларускую літаратуру, да якой ужо праз паступленне на філфак павінна ставіцца з піетэтам і любоўю? У сваіх наскоках і глумленні пэўная частка моладзі далёкая ад творчай самастойнасці. Сёння сёй-той ступіў на шлях неабалыдавізму — руйнавання, адмаўлення, анафемы так званай "савецкай літаратуры". Ганьбяцца традыцыі нацыянальнай культуры, скідваюцца з п'едэсталаў класікі і літаратурныя помнікі, аплёўваецца памяць і спадчына памерлых таленавітых пісьменнікаў... Прыклад "маральнага вандалізму", нецывілізаванасці чамусьці натхняе, і маладыя айчынныя нігілісты ў сваіх выпадах і правакацыях ідуць значна далей. Пад уздзеяннем "навукі нянавісці" даводзіцца раўняцца, вядома, на важакоў "маладых ваўкоў" — тых, хто не трымаецца нормаў чалавечай добрапрыстойнасці і для каго агрэсія і жорсткасць — форма існавання ў сучасным свеце.

Постсавецкі час даў не аднаго "рэвізіяніста" беларускай літаратуры. А яшчэ з'яўляліся нізвяргальнікі аўтарытэтаў, якія дэманстравалі свой крытычны пафас, непрымірэнчую пазіцыю ў адносінах да выдатных майстроў слова: не трэба нам жывых прарокаў і святых, маўляў дзе гэта бачна, каб пісьменнік, просты грэшны і смяротны, успрымаўся больш чым пісьменнік — "апосталам нацыі". Словам, смеласці і "баявога духу" не давялося пазычаць. "Крытычную шаблю" бязлітасна пускалі ў ход Анатоль Сідарэвіч, адзін з "Тутэйшых" Сяргей Дубавец, Францішак Эн, Андранік і іншыя аўтары "Нашай Нівы", "Arche"... Што і казаць, нават развažлівы, здавалася б, крытык Г. Шупенька і той заўзята абрынуўся на В. Быкава і Р. Барадуліна ("Крыніца". 1996. № 3, 7) — дасталося ім і за апостальства, і за

прылічэнне да гонару і сумлення нацыі, і за моц беларускага духу ў іх творчасці. (Шупенька ставіў пад сумнеў выказванні Віктара Каваленкі і некаторых іншых крытыкаў, нават усчаў палеміку са мною на падставе невялічкага артыкула ў яшчэ не надрукаванай кнізе "Краса і смутак", рукапіс якой лёг яму на стол у выдавецтве "Мастацкая літаратура".)

Прыхільнікі канфрантацыі, расколу, "неаб'яўленай вайны", відаць, не думалі і не пралічылі, як і чым адгукнецца іх слова, іх ацэнкі і меркаванні. А магчыма, яны і разлічвалі на тое, каб стаць "натхняльнікамі" юных нігілістаў і выклікаць у іх сэрцах выбух супраць Купалы і Коласа, Куляшова і Танка, Мележа і Быкава...

"Нічога не вылушчыш з кніг Броўкі, Глебкі і нават яшчэ блізкіх Мележа, Танка... Там паўсюль ёсць няпраўда або метастазы сатанізму, ачалавечвання бесчалавечнасці", — у ролі вышэйшага суддзі канстатуе С. Дубавец у артыкуле "Ружовы туман" (1998) і ў кантэксце антымастацтва пэцкае імёны А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Пысіна... Адмаўленне ад беларускай савецкай літаратуры ён называе "маральным выбарам". Яму на старонках "ЛіМа" аргументавана запярэчылі В. Акудовіч, А. Сямёнава, У Конан, Ю. Станкевіч, У. Казбярук, Н. Гілевіч і іншыя пісьменнікі, нагадаўшы ісціну, што "ў вайны няма Айчыны", што зацяты "імпэт адмаўлення" вядзе да збяднення, адналінейнасці, перакручанага, віртуальнага ўспрымання літаратурнай і культурнай спадчыны савецкага часу. Перакрэсліванне вынікаў творчай дзейнасці цэлых літаратурных пакаленняў не адпавядае гістарычнай праўдзе.

У сярэдзіне 90-х гадоў на старонках "ЛіМа" падняў сур'ёзныя пытанні літаратурнага жыцця-быцця Андрэй Федарэнка. Як у ваду ён глядзеў, ніколькі не памыляўся: супрацьстаянне ў літаратурным свеце прысутнічае, і часам гэтая варожасць перашкаджае спакойна працаваць. Непаразуменні між пісьменнікамі ад таго часу, відаць, паглыбіліся, а маральны глум для асобных прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі зрабіўся нормай паводзінаў. Дзе ж шукаць вытокі нашага разломнага лёсу?

Пра тое, што не ўсё добра ў нас з літаратурнымі норавамі, засведчыў артыкул Юры Гуменюка "У абсягу трывіяльнасці" ("ЛіМ". 1995. 14 ліп.). Гэты аўтар, як мне здаецца, апынуўся не проста ў "творчай апазіцыі", а ў антаганістычнай варожасці да тых, хто яму не даспадобы. Сутнасць размежавання на "новых" і "старых" — нібыта аб'ектыўная з'ява. Узнікла культурная сітуацыя авангарду, постмадэрнізму, адпаведна з'явіліся новыя літаратурныя плыні, эстэтычныя тэндэнцыі. І гэта, здавалася б, цудоўна. Надта доўга мы былі адлучаны ад

магістральных шляхоў сусветнага слоўнага мастацтва метадам сацрэалізму, а таму шмат чаго недабралі, застаёмся, надараецца, у палоне інерцыі, стэрэатыпаў. Як жа імкнецца сцвярджаць сябе авангард і яго прадстаўнікі? Гэтак жа нецывілізавана, як і ў 20-я гады XX стагоддзя. Старэйшыя літаратары, не раўнуючы як той кот Леапольд з вядомага мультфільма, заклікаюць да паразумення, міру і згоды. Працуйце, стварайце, маўляў, даводзьце сваю перавагу ў творчасці, не скочвайцеся да антылюдскасці. Аднак пастаянна на авансцэну выходзяць амбітныя і крыклівыя, тыя, хто не прымае эвалюцыйнага шляху ў развіцці беларускай літаратуры. Яны дэкларуюць значныя эстэтычныя адкрыцці і дасягненні, тэарэтычна забяспечваюць культ "мадэрновай творчасці". І гэта, магчыма, няблага, хай сабе аб'яўляюць і ствараюць шэдэўры. Дык не, не дзеля гэтага яны ідуць у літаратуру. Імі рухае снабізм, змаганне за карпаратыўныя ідэі і інтарэсы, імкненне навязаць і сцвердзіць думку пра рэвалюцыйны, глабальны пераварот у нацыянальнай мастацкай свядомасці.

Без свабоды і плюралізму, вядома, няма літаратурнага руху. Але свабода — гэта не барацьба без правіл і маральных прынцыпаў. Баюся памыліцца, але пачатак водападзелу і творчаму супраньстаянню паклалі "Тутэйшыя". "Літаратурныя страсці" наэлектрызоўваў часопіс "Крыніца". Пачаўся "апошні і рашучы бой" з сацрэалізмам і беларускай савецкай літаратурай. Што ж, суровы перагляд мінулага і маральнае ачышчэнне — цяжкая працэдура.

Але... Не абыходзілася без гнеўных абвінавачванняў і выкрыкаў яўных перабораў і перахлёстаў Так, пісьменнікаў пачалі падзяляць на быкавых і рубанавых, на бабковых і мятліцкіх, мінкіных і навуменкаў, абраных і няўгодных, "сваіх" і "чужых". Апераліся, павялі рэй "новыя", накшталт А. Глобуса. Яны зноў жа сцвярджалі адно: мы — стваральнікі новай літаратуры, мы — сапраўдныя беларускія пісьменнікі, за намі — будучыня, а ўсе астатнія — савецкія тыпусы, марыянеткі, літаратурныя імпатэнты, не здатныя нарадзіць "геніяльныя творы".

Пасля распаду "Тутэйшых", з утварэннем "Нашай Нівы" пачаўся новы этап усталявання альтэрнатыўнага погляду на літаратуру і мастацкую творчасць. "Нашаніўцы" зыходу XX стагоддзя, стаўшы на каставa-групавыя пазіцыі, кіраваліся непрыязнасцю, хваравітымі амбіцыямі ў адносінах да прадстаўнікоў так званай "афіцыйнай" літаратуры, пачалі зводзіць рахункі, ачарняць аўтарытэты, культываваць жорсткасць і пагарду. Сапраўднымі літаратурнымі спрэчкамі са старонак газеты і не патыхала. Чаго яны яшчэ дамагліся, дык таго, што праз "наезд" вывелі з раўнавагі нават спакойнага і інтэлігентнага

Алеся Пісьмянкова, які на той час працаваў галоўным рэдактарам "ЛіМа". І ён даў публічную ацэнку інсінуацыям адносна сваёй асобы, назваў брыдкія, беспадстаўныя выпады "нашаніўдаў" "паскудствам".

Пачынальнікам не толькі грандыёзных літаратурных эксперыментаў але і віноўнікам непрымірымасці, звадак, расслаення на"нашых" і "вашых" зрабілася і "Таварыства вольных літаратараў". Гэта асабліва яскрава прадэманстраваў Ю. Гумянюк. І не толькі ў дачыненні да А. Федарэнкі ў згаданым артыкуле, а і да іншых творцаў з білетам СП, што бачна хоць бы па яго вершы "Народны паэта".

Варта, бадай, больш пільна ўгледзецца ў аблічча заўзятых разбуральнікаў традыцый, выкрывальнікаў канфармізму, змагароў за творчую свабоду і элітарнасць.

Адзін з іх — Адам Глобус. Гэтага літаратара напаткалі лаўры родапачынальніка "літаратурнага піратства" ў Беларусі. У друку паведамлялася пра тое, што ён стварыў цэлую індустрыю па напісанні і вытворчасці рускамоўнай літаратурнай прадукцыі паводле "мыльных" опер і крутых баевікоў. Расійскі кніжны рынак, як вір, засмактаў яго "мары і думы". Праўда, ён выдаў уласныя кнігі "Дамавікамерон" і "Толькі не гавары маёй маме..." — кнігі, напісаныя ў духу грубага натуралізму. Відаць, яму не давала спакою слава Эмануэль Арсан. Дзякуючы А. Глобусу наша бедная, гаротная літаратура нарэшце выйшла на "передавыя" абсягі цывілізацыі. Магчыма, мае права на існаванне і такая літпрадукцыя па-беларуску. Асабіста я не супраць, але не трэба рабіць з падобных твораў, як казаў Астап Бэндэр, "культу". Паралітаратура ёсць з'ява спецыфічная, і яе трэба ацэньваць адэкватна. Увогуле, нельга не адчуць, што А. Глобус усё часцей скочваецца да зласлівасці, мізантропіі, яго апаноўваюць зусім не чалавекалюбныя пачуцці. Не дзіўна, што ён так адкрыта, з ваяўнічым цынізмам замахнуўся са старонак "Нашай Нівы" на рэпутацыю Янкі Брыля — пісьменніка, чый талент заўсёды вылучаўся сваёй адметнасцю і непаўторнасцю. У літаратуры, адважуся казаць так, ёсць свае "жывыя святыя". І мы павінны ставіцца да іх адпаведна. Кожны з нас ведае, як назваць таго, хто плюе ў храме на абразы.

Хто яны, аўтары "Нашай Нівы" Францішак Эн, Андранік? Не, мяне нікольки не займаюць дэтэкгыўныя росшукі тых, хто схаваўся за гэтымі псеўданімамі. Але прыкрыліся яны шырмаю не выпадкова. Гэтыя аўтары зацята, з неўтаймоўнай зласлівасцю не жадаюць бачыць значнасці зробленага іншымі, не заўважаюць талент тых, чыё слова не ўпісваеццаў іхнія рамкі і "адзінаправільныя" ўяўленні. Самы просты прынцып такой "крытыкі" — ганіць агулам, безапеляцыйна, абражаць дэманстратыўна і цынічна. Ахвярамі "вулічнай" формы

"палемікі" сталі Людміла Корань і той жа Андрэй Федарэнка. Між тым не прызнаваць пісьменніцкае майстэрства А. Федарэнкі можа толькі той, каго апаноўвае, па словах Г. Каржанеўскай, "пупізм", хто, апрача сябе і невялічкай жменькі постмадэрністаў, не жадае нікога бачыць у літаратуры. Пра тое, што А. Федарэнка — яркая творчая індывідуальнасць, могуць пасведчыць аповесці "Смута", "Вёска", "Ланцуг", "Салдат", "Цугцванг", "Памарак", "Шчарбаты талер" і інш. Працуе ён з зайздроснай творчай актыўнасцю, надзвычай плённа, яго творы якраз не хварэюць на апісальную трывіяльнасць. Аднак, паводле Андраніка і Гуменюка, Федарэнкава бяда ў тым, што ён працуе ў рэчышчы рэалістычнай прозы і нібыта "прамаўляе ісціны амаль сталінска-жданаўскіх пастаноў". Мана ўсё гэта, панове, блазната адна! Андрэй Федарэнка такі, які ёсць, і не трэба прыдумваць міф пра яго несвабоду, пра эстэтычную непаўнавартасць яго прозы. Належную ацэнку яго творам ужо дала літараіурная крытыка (М. Тычына, С. Андраюк, Л. Корань, Ю. Залозка і інш.). Вельмі радуе, што ўжо ў 31 год пісьменнік уганараваны за сваю кнігу "Смута" Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа. Прызнаць бы суровым экспертам, што проза А. Федарэнкі па-мастацку жыццяздольная, праўдзівая, гуманістычная, вартая не крытычна-жорсткіх нападкаў, а ўдумнага прачытання і асэнсавання. Не выключаю, што павінны прагучаць і крытычныя меркаванні — доказныя, аргументаваныя. А не па такім прынцыпе, як прапануюць Андранік і Гумянюк: трывіяльна-неардынарна, цікава-нецікава. Што ж, "літаратурных суддзяў і пракурораў" у нас хапае, а вось глыбокіх аналітыкаў, на жаль, мала.

Зрэшты, аўтары "Нашай Нівы" не арыгінальныя: падобных узораў "аглабельнай" крытыкі і гнеўных развенчванняў у нашай літаратуры 30-х гадоў было нямала. А што калі нехта пра самога Ю. Гуменюка скажа як пра вульгарна-прэтэнцыёзнага, "заклапочанага" творцу (ён жа сам прызнаўся, што ягоная разам са Славамірам Адамовічам заслуга ў тым, што яны адкрылі ў беларускай паэзіі тэму мастурбацыі)? Або назаве яго "постмадэрновыя рэчы" вершаваным смеццем, лухтой? І не трэба рабіць з пісьменнікаў людзей цёмных і абсалютна недасведчаных. Дзякуй Богу, яны і да Ю. Гуменюка крыху ведалі і пра Кафку; і пра Джойса... Зрэшты, прадбачу, што наш айчынны мадэрніст-наватар "бульдозерную" крытыку прыме ў штыкі, можа, нават пакрыўдзіцца (паэты ж вельмі тонкія і адчувальныя натуры!), спашлецца на навуковую канферэнцыю "Альтэрнатыўная літаратура", зноў і зноў пачне даводзіць пра беспрэцэдэнтныя, звышактуальныя і найноўшыя задачы і функцыі літаратуры. Ды асмелюся сцвярджаць, што многія сённяшнія авангардысцкія, "альтэрнатыўныя" рэчы —

гэта не "мантана", і не Гамбровіч, а прымітыў, калькаванне і павярхоўная імітацыя заходняга мастацтва, што сведчыць пра інфантыльнасць творчага мыслення. Гульня ў арыгінальнасць, аднак, вядзе далека — да агрэсіўнага радыкалізму, апазіцыйнасці класічнай традыцыі і ваяўнічага шальмавання "традыцыйнай" творчасці іншых.

Даўно, яшчэ ў сярэдзіне 90-х гадоў следам за сваім настаўнікам А. Лойкам я звярнуўся да літаратурных раўналеткаў і творчай моладзі з парадай-просьбай, якая, мабыць, не страціла сваёй актуальнасці і сёння. У кожнага творцы і выдання — свая сцежка-дарожка, свае арыенціры, уласная ніша ў літаратурным працэсе. Апамятайцеся, хлопцы, не будзьце магільшчыкамі класічнай літаратуры, не губіце талерантнасць, чалавечую павагу, дух сапраўднага творчага суперніцтва. На нашых вачах завіхаюцца далакопы, і таму Адраджэнне вымагае духоўнага салідарызму. Зямля і літаратура ў нас адна. У нас адна родная мова, гісторыя і спадчына. Па-сяброўску раю: згадайце ў беларускай літараіуры прыклад "Узвышша", больш пільна прыгледзьцеся да падыходаў някляеўска-разанаўскай "Крыніцы" 90-х. Узвышайцеся ў творчасці. Трымайце пяро не са злосцю, не для бойкі амбіцый, — творамі пераконвайце ў перспектыўнасці сваіх пошукаў, эксперыментаў, даказвайце, на што вы здатныя, дбайце пра эстэтычную шматграннасць нашага мастацтва слова. Гісторыя літаратуры адцасць вам належнае. Будзьце бескампрамісныя, але шляхетныя, па-рыцарску высакародныя, вартыя свайго інтэлекту. Давайце прыслухаемся да паэта:

Ад зайздрасці і крывадушнай злосці,
Ад чэрствасці, спакусы і хлусні
Па праву непадкупнай маладосці
Ты сябе і блізкіх барані.

*(Сяргей Грахоўскі)*

Праблема ўзаемаадносінаў "бацькоў" і "дзяцей", творчых і чалавечых стасункаў — з шэрагу старых, нават вечных. Можна прыводзіць прыклады, калі таленавітыя літаратары адзін аднаго на дух не пераносілі, зневажалі і нават цкавалі ў друку. Але тое — не лепшы ўзор для творчага чалавека, які абраў шлях у родную літаратуру. Заўсёды дрэнным дарадцам былі злосць, непрымірымасць, бо ад іх — адзін крок да нянавісці.

Час бяжыць вельмі хутка. Вось, здаецца, ужо "адбумбамліціў", як леташняя паводка, Зміцер Вішнёў і іншыя маладыя хлопцы з "тазікамі беларускімі". Мяняюць свае жыццёвыя арыентацыі і прыхільнасці тыя, хто яшчэ сяк-так жыў з беларускіх літаратурных праектаў і марыў нават разбагацець на іх. Беларуская літаратура, як і ўвесь

народ, выжывае і жыве, нягледзячы ні на што, ні на якія "клінічныя кансіліумы" празорцаў, што намагаліся вынесці ёй смяротны прысуд. У літаратуру працягваюць прыходзіць дзеці Адраджэння, якія нясуць роднае слова ў сэрцы, як паходню. Яны зрабілі свой выбар. Так, ім нялёгка сцвярджаць сябе, многаму яшчэ трэба навучыцца. Аднак, будзем верыць, хтосьці здолее выйсці і на прасцягі вялікай літаратуры. Ды такое наканаванне суджана выбраным і геніям.

Усё ў гэтым свеце паўтараецца, і бумерангам вяртаецца табе тое благое ці ліхое, што ты ўчыніў. Вось ужо нехта Грыль і Баскервіль "прайшліся" па Глобусу, Бабкову і іншых нядаўніх "апосталах новай літаратуры" і далі іх дзейнасці сваю вострую ацэнку. Пакусваюць, джаляць — і, мабыць, ёсць за што. Той жа самай манетай плоцяць ім, як і яны ў свой час ставіліся да іншых — пагардліва, з катэгарычнасцю...

Не, я не заклікаю да рэверансаў, кампліментаршчыны, да спавядання філасофіі ціхага балота. Проста адчуваю, што можна жыць па-іншаму: "сплочваць доўг" нашым класікам, імкнуцца аддаць належнае нават аўтару аднаго таленавітага верша ці апавядання...

3.

А чым далей, тым болей было тых, хто дазваляў сабе, мякка кажучы, паўшчуваць і Быкава, і Барадуліна, і Гілевіча... І не заўсёды тыя меркаванні тычыліся ўласна творчасці, крытыканы ці "літаратурныя раўніўцы" пераходзілі на іх асобы і погляды. Э. Скобелеў дагаварыўся да таго, што не раіў друкаваць вядомых пісьменнікаў у дзяржаўных літаратурных выданнях як "палітычна адсталых". Вось і прыехалі, як кажуць. Няўжо трэба распачынаць вайну з пісьменніцтвам? Няўжо ва ўмовах плюралізму не павінна быць пачута пісьменніцкая думка, хай сабе і выказаная вельмі эмацыянальна ці ў рэзкай форме? У спрэчках жа, як кажуць, высвятляецца ісціна.

У савецкі час на пісьменнікаў глядзелі як на святых, з імі лічыліся і раіліся, прытым і высокія дзяржаўныя кіраўнікі, як П. М. Машэраў; ім верылі людзі, а землякі сустракалі літаратараў з пашанотай, хлебам-соллю. Багата з таго часу сплыло вады, памяняліся адносіны да творчай інтэлігенцыі, якая, зразумела, не можа быць аднароднай па сваім складзе і поглядах, яе цяжка зрабіць паслухмяным літкалгасам, як у сталінскія часы. Бо што ні талент ці асоба — то свая думка, свой погляд... "Чалавек — гэта цэлы свет", — даводзіў Кузьма Чорны, а паэт Валеры Маракоў казаў так: "Чалавек — гэта вам не мумія..." Кансэнсус з творчымі людзьмі заўсёды адшукаць цяжка. Але трэба зразумець

іх боль і трывогу за родны край, родную мову, нацыянальную культуру, будучыню маладога пакалення...

Купалу і Коласа, А. Пашкевіч (Цётку) і Багдановіча, Гаруна і Гарэцкага хвалявалі лёс дзяржаўнасці, "грамадскае гора", праблемы духоўнасці, гуманізму, свабоды асобы, сацыяльнай справядлівасці, народнай асветы і этычнага ўладкавання грамадства. Ужо па сваёй унутранай прыродзе, па адданасці народу і бацькоўскай зямлі беларускі пісьменнік не можа жадаць нейкага зла, бяды, цяжкай долі роднаму краю і яго люду.

Вядома, што стан беларускай мовы — "балючы нерв" пісьменніцкай свядомасці. А каму, скажыце, трэба ў першую чаргу хвалявацца пра яе, як не творчай інтэлігенцыі, носьбітам і стваральнікам мастацкіх каштоўнасцяў на роднай мове? Міністр адукацыі П. Брыгадзін яшчэ нядаўна супакойваў беларускіх пісьменнікаў: "Не хвалюйцеся — мова не знікне. Намі заўважана тэндэнцыя: чым больш мы прыціскаем, тым больш жадаючых вучыцца па-беларуску". Пісьменнік Васіль Якавенка даводзіць, што сучасныя "рэфарматары" ўчынілі "буралом на ніве адукацыі", і прыводзіць у якасці доказу наступныя факты: "У Мінску — сталіцы суверэннай нашай дзяржавы — засталося ўсяго некалькі беларускамоўных школ з іх 6,4 працэнтамі вучняў. Багата ў якіх гарадах і раёнах краіны — ніводнай беларускай школы. Ніводнай вышэйшай навучальнай установы ў краіне! <.. .> Яскравыя сведчанні: за адзін год закрыты 152 беларускія школы... У беларускамоўныя першыя класы летась на Міншчыне і ў Мінску пайшло адпаведна 38,2 і 2,9 працэнты вучняў! Для параўнання: у 1994 годзе было 91,3 ды 58 працэнтаў. І гэтак іх мала цяпер не па прычыне дрэннага стаўлення бацькоў да навучання дзяцей на роднай мове, а па прычыне небеларускай палітыкі Мінадукацыі, міністэрства, якое здратавала ранейшую сістэму асветы і не распрацавала новай, каб з дзяцей выраслі не іншаземцы, не манкурты, а паўнакроўныя, адухоўленыя, з непадрэзаным гістарычным і патрыятычным карэннем беларусы". А вось меркаванне пра моўную сітуацыю Святланы Зелянкоўскай, акторкі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, выканаўцы галоўнай ролі ў кінастужцы "Анастасія Слуцкая" (фільм, дарэчы, выйшаў на экран да гледача на рускай мове): "Увогуле, мне вельмі крыўдна, што беларуская мова зараз губляецца. Хоць зараз у нашай краіне і існуе двухмоўе, беларуская мова — у заняпадзе. На экранах тэлевізараў і на старонках друкаваных СМІ пануе руская мова. Мне падаецца, што гэта здрада. Здрада нацыянальным караням, бо мова — гэта той шчыт, які абараняе народ ад духоўнай смерці і вылучае беларусаў сярод іншых народаў свету". Пра незапатрабаванасць,

уціск беларускай мовы гавораць тыя, хто ўсведамляе неабходнасць захавання этнакультурнай самабытнасці нашага народа: "Мова! Ёй роўных у свеце няма — // Па вобразнасці, па выразнасці. // А мы яе душым у клешчах ярма — // Самі ж, па праву уласнасці" (Н. Гілевіч). Нам пагражае, як даводзіць гісторык Л. Лыч, "багна асіміляцыі". Прыклады ўсхваляваных, занепакоеных выказванняў пра лёс роднага слова можна доўжыць і доўжыць, сваю пазіцыю і трывогу адносна моўна-культурнай праблемы выказваюць пісьменнікі, гісторыкі, мастакі, кампазітары, настаўнікі... Іначай і не можа ставіцца сёння пытанне, як пра экалогію мовы, бо яна — "адзежа душы" (Ф. Багушэвіч).

Ёсць прынцыповыя рэчы, калі гаворка ідзе пра адстойванне духовных прыярытэтаў, ёсць святыні і тыя нацыянальныя каштоўнасці, ад якіх нельга адступаць, іх трэба трымацца так, як гэта рабілі выдатныя дзеячы культуры і мастацтва. Памятаеце, як выказаў грамадзянскую пазіцыю наш сучаснік П. Панчанка: "...Я — сірата // Без маёй Беларусі. // Ад роднай мовы, // Ад роднай нацыі // Не адцураюся, // Не адракуся!" Альбо згадайма гулагаўскую нявольніцу, паэтку-пакутніцу Л. Геніюш, якая, як і Янка Купала, Якуб Колас, Алесь Гарун і іншыя беларускія пісьменнікі, выдатна ўсведамляла, што родную мову як найвялікшы духоўны скарб трэба пільна берагчы і бараніць, і таму яна казала: "Слова "кахаю" — слабае слова. // Мужнае слова — "абараню". Неаднойчы назіраў, як людзі, якім нібыта імпануе праўда і высакароднасць, сумленнасць і мужнасць, на самай справе рабіліся асцярожна-баязлівымі ў сваіх паводзінах і выказваннях, хоць гаворка ішла пра вельмі важнае, прынцыповае, значнае. Відаць, дае пра сябе знаць так званы "генетычны страх". Магчыма, гэтыя гаваруны або цвярозыя прагматыкі, або двурушныя рэалісты. Сёння ад беларускага інтэлігента ніхто не патрабуе "кідацца на амбразуру", проста трэба імкнуцца сумленна выконваць сваю справу, не быць перастрахоўшчыкам ці бяздумным выканаўцам.

...Звычайны, шараговы рэдактар выдавецтва з нервовым хваляваннем бярэ лісткі з прадмовай да зборніка твораў сучаснай літаратуры. І фактычна ўчыняе цэнзуру, хоць яго на гэта ніхто не ўпаўнаважваў. Чагосьці баіцца, гаворыць абсурднае. Ён кажа, што пажадана зняць тыя мясціны, дзе гаворка ідзе пра змаганне В. Быкава з фальсіфікацыяй ваеннага мінулага, адстойванне ім ідэалаў праўды і гуманізму, пра тое, што з надыходам хрушчоўскай "адлігі" грамадства асудзіла ідэалогію таталітарызму, пачало пазбаўляцца сацыяльнага страху. А яшчэ прапануе зняць тэкст, дзе гаворыцца пра выключэнне Алеся Разанава і іншых студэнтаў з БДУ за тое, што яны

запатрабавалі, каб лекцыі па грамадскіх дысцыплінах чыталіся на беларускай мове. Здавалася б, прыводзяцца абсалютна вядомыя характарыстыкі і факты з гісторыі нашага грамадства і літаратуры, аднак рэдактар вельмі просіць прыслухацца да правак, бо трэба неяк дапрацаваць да пенсіі...

...Рука наваяўленага перастрахоўшчыка ў ролі цэнзара з Міністэрства адукацыі ходзіць па праграме беларускай літаратуры. І знікаюць пад націскам з тэксту фармулёўкі тыпу: "Станаўленне беларускай дзяржаўнасці і беларуская культура 20-х гадоў', "Грамадская атмасфера 30-х гадоў і лёс беларускіх пісьменнікаў". Прачытаў апублікаванае ў "Настаўніцкай газеце" "Інструкцыйна-метадычнае пісьмо Міністэрства адукацыі "Аб выкладанні беларускай і рускай мовы і літаратуры ў 2002/2003 навучальным годзе" і не даў веры вачам: з праграмы Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта выключаны аповесці В. Быкава "Сотнікаў" і "Абеліск". Баіцца "напалоханая душа", каб не прайшлі патрыятычныя вершы Купалы, шчыруе і выграбае "крамолу" з праграм, зборнікаў дыктовак і водгукаў. Апраўданне адно: мне б да пенсіі дацягнуць...

Пасля смерці В. Быкава зноў распачаліся скокі "на руінах БСЛ" (беларускай савецкай літаратуры). Учынілі "крытыка-нігілістычны наезд" нехта Янка Грыль, Якуб Баскервіль (Пером и топором // Белорус. газ. 2003. 30 июня. С. 31). Аўтарам нельга адмовіць у смеласці ацэнак і слушнасці асобных меркаванняў. Аднак зноў заўважаецца той жа самы падыход: да прымітыву збядняецца гісторыя беларускай літаратуры, сучасны перыяд яе развіцця. Узнікае пытанне: робіцца гэта свядома, каб узвысіць "могучую кучку" постмадэрністаў, ці зноў дзеля таго, каб справакаваць штучную палеміку? У процівагу вылучана невялічкая кагорта літаратараў маладзейшага веку, пра якіх у гэтым артыкуле, зрэшты, сказана наступнае: "Узок круг... читателей, страшно далеки они от народа". І далей: "Но духовный потенциал любой нации искони измерялся не тем, сколько прочитано, а тем, что написано". Здавалася б, гэта аксіёма: духоўны патэнцыял нацыі, яе агульнакультурны ўзровень залежыць і ад таго, колькі і якія кнігі чытаюць у краіне, якія кінастужкі запатрабаваны і якія палотны жывапісу выклікаюць эстэтычнае захапленне. За апошнія пятнаццаць гадоў беларускімі пісьменнікамі напісана нямала таленавітых твораў, пра што могуць пасведчыць хаця б дзве кнігі 4 тома "Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя" (2002, 2003), якія выдадзены Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы. Чаму маладыя аўтары мяркуюць пра найноўшую беларускую літаратуру на манер ці па падабенству да занятых "ворагаў беларушчыны" (Я. Купала)? Ужо ў

друку нядобразычліўцам досыць аргументавана запярэчыў старшыня Таварыства беларускай мовы Алег Трусаў, прывёў у якасці доказу, што не можа не ўсцешыць аўтара, кнігу "Сучасная літаратура Беларусі" (2000), у якой разглядаюцца творчыя набыткі шматлікіх сучасных аўтараў у розных літаратурных родах і жанрах. Назаву хаця б дзесяткі з тры празаікаў, паэтаў, драматургаў, не згаданых у артыкуле Грыля-Баскервіля, бо найноўшыя творы беларускіх пісьменнікаў напісаны па-мастацку адмыслова (перакананы, калі б усталявалася спрыяльная моўна-культурная сітуацыя, то і цікавасць да іх была б нашмат большай): Іван Пташнікаў, Віктар Казько, Віктар Карамазаў, Янка Сіпакоў, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Жук, Васіль Гігевіч, Генрых Далідовіч, Алесь Масарэнка, Павел Місько, Юры Станкевіч, Уладзімір Арлоў, Барыс Пятровіч, Алесь Наварыч, Пятро Васючэнка, Андрэй Федарэнка, Анатоль Казлоў, Васіль Зуёнак, Мікола Арочка, Анатоль Вярцінскі, Данута Бічэль, Мікола Купрэеў, Раіса Баравікова, Сяргей Законнікаў, Леанід Дранько-Майсюк, Алесь Аркуш, Леанід Галубовіч, Галіна Булыка, Віктар Шніп, Людміла Рублеўская, Алесь Чобат, Галіна Дубянецкая, Міхась Скобла, Алена Ігнацюк, Алесь Петрашкевіч, Анатоль Дзялендзік, Аляксей Дудараў, Сяргей Кавалёў... Пералік тых, хто застаецца "пасля Быкава" несці годна пісьменніцкую місію, і тых, хто, не сумняваюся, будзе працягваць таленавіта працаваць у літаратуры, можна доўжыць. Не была нацыянальная літаратурная ніва пусткай да Быкава (згадайма, на ёй рупіліся Купала, Колас, Гарэцкі, Чорны, Зарэцкі, Калюга...) і не застанецца пасля адыходу з жыцця вялікага пісьменніка занядбанай, нягледзячы на тое, што некаму мрояцца "руины БСЛ" ці нейкае рэдкалессе з хмызняком.

Шпацыр "по модели "Тарас на Парнасе"... среди духовных перлов отечественной литературы, чтобы определить, что ждет ее в ближайшем будущем", часам нагадвае, выбачайце, сузіранне верхаглядаў, спрашчэнцаў, людзей ці недасведчаных, ці хворых на "літаратурны дальтанізм". Не пакідае вось якое пытанне: чаму, калі так цяжка выжываць нацыянальнаму мастацтву слова і культуры, нялёгка дыхаць беларускаму пісьменніку, ім найперш жадаецца праводзіць зняважлівыя спартыўна-суб'ектыўныя рэйтынгі, самазадаволена і з лёгкасцю, як у нейкай рэвізійна-кантрольнай канторы, ацэньваць зробленае літаратарамі і раздаваць "шапкі"? Што ім "з пяром і сякерай" патрэбна ад сучаснай літаратуры? Каго яны, грылі ды баскервілі, збіраюцца падсмажваць і кусаць? Няўжо мала прыніжэння і здзеку з беларускага пісьменніка? Хіба не кемяць, што да чаго? Не такія яны наіўныя і дылентанты, як мне падаецца... Камусьці хочацца зляпіць з

"інжынераў чалавечых душ" вобраз "ворагаў народа". З тэлеэкрана ўжо прагучаў заклік Яўгена Новікава не хадзіць на сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі, маўляў чысцейшай застанецца душа... А, памятаецца, ён калісьці, на мяжы 80-90-х гадоў па-іншаму ставіўся да майстроў слова, у гутарцы разам з В. Быкавым на старонках "ЛіМа" глыбакадумна разважаў на актуальныя праблемы. Што ж, як казаў аўтар "Сказа пра Лысую гару", "быў час, быў век, была эпоха"...

Дачакаліся, што любоў да роднай літаратуры ўспрымаецца як атавізм, а сучасныя беларускія пісьменнікі аб'яўляюцца няздольнымі ствараць штосьці людскае, пісаць на "эўрапейскім узроўні". Іх, маўляў, даўно трэба прыцiснуць, разагнаць з наседжаных крэслаў у рэдакцыях і выдавецтвах, бо гэта хаўрус, карпарацыя марнатраўцаў і "ідэйна шкодных" людзей.

А тут і маладыя патрабуць "скокаў на касцях", "мадэрновага шабашу". Няўжо няма выйсця — і трэба патураць іх норавам і патрабаванням? Вайна ж з маладымі — бессэнсоўны і няўдзячны занятак. А ў іх, як з захапленнем гаворыць адна крытыкеса, "еўрапейскі інтэлект". Раскусіў гэты "інтэлект" пісьменнік Леанід Галубовіч. Ён не ўтрымаўся, каб не адрэагаваць на выпады беларускіх студэнтаў і нядобразычліваў роднай літаратуры. Зацытую тыя абразлівыя выказванні, якія выклікаюць абурэнне: "Нашыя паэты ў большасці ціхія вычварэнцы — няголеныя і смярдзючыя. Выключэнні — Бураўкін з Барадуліным, якія ў свае немаладыя гады захавалі бадзёрасць цела і духу" ("Студэнцкая думка". 2003. № 3); "Белорусские творцы так ничего и не создали, кроме мусора на Лысой горе..." ("Обозреватель". 2003. 23 мая). Гэтыя і падобныя да іх аўтары агулам бэсцяць і пляжаць беларускіх пісьменнікаў яны адкрыта выказваюць сваю грэблівасць і нават нянавісць. Ды паслухаем, што гаворыць Л. Галубовіч:

"Ну не пераварваюць іншыя "інтэлектуалы" гэтай "дзеравенскай" мовы і літаратуры.

Ну не пераносяць на дых прасунутыя еўрапейскгя незалежнікі нашага традыцыйнага краснага пісьменства.

Зрэшты, спадарства, што крыўдаваць, сапраўднага ж творцу заўжды "скварылі" з усіх бакоў — і злева, і справа і, патрапляючы ў тон сексуальнай "студэнцкай думцы", дадам — і знізу, і зверху...

Бог ім суддзя. У кожнага свае прыхільнасці.

Праўда, каб гэтак не любіць (ненавідзець!) роднае — трэба, пабыўшы ў полоне ў янычараў, стаць манкуртам альбо быць на ўліку ў адпаведнай медыцынскай установе... "

Між тым, не збіраюся ідэалізаваць беларускіх літаратараў, творчыя асяродкі. Калі і гаварыць пра бяду нашага пісьменніцкага

жыцця, дык тут трэба найперш назваць славутае і сумнавядомае самаедства. Снабізму хоць адбаўляй у асобных літаратараў, якія чытаюць выключна сябе і выпукляюць сваё еgo. "Пупізм", "святасць на ўласным ілбе" прыводзяць да глумлення і зняваг: "Ён піша г..., і той піша г..., і гэты піша г..."; "Я гэткіх дзесяць кніг за адну ноч напішу..."; "У сучаснай літаратуры няма чаго чытаць..."; "Я такіх песенных тэкстаў за паўдня сотню настругаю..."; "Што ён можа напісаць талковае, ён жа другі Алесь Марціновіч..."; "Ат, што ён напісаў! Гэта не Караткевіч і не Быкаў..." і да т. п. З лёгкасцю і без сораму даюцца ацэнкі адзін аднаму, найчасцей, вядома, за вочы, а на людзях антаганісты адказваюць прыязнай усмешкай, паціскаюць рукі... Якой бывае рэакцыя на ганьбаванне, прадбачыць няцяжка. Вось як адгукнуўся на публікацыю дзённікаў вядомага пісьменніка не менш вядомы паэт:

"Прагартаў і, дальбог, перахрышчуся — пашкадаваў чалавека. Як жа яго, гаротнага, грызла-зжырала нянавісць, як яго, беднага, злосцъ перапальвала...

Даруй яму і прылашчы яго, Божа. Не кожны сам у сабе вінаваты.

Але ў мяне, яку колішняга рэдактара, узнікла пытанне да хлопцаў, якія гэта друкавалі... Нібыта інтэлігентных. Нават, так бы мовіць, культуралагічных. Ну, не ведаю... Для гэтага трэба мець адпаведны стан. І нейкую, незразумелую мне, новую мараль... "

Паверце, брыдка і няёмка гаварыць пра ганебныя пісьменніцкія стасункі, але "гэта ўсё мы, Госпадзі!". Не ўмеем цаніць самасць адзін аднаго, калі не любіць і шанаваць кагосьці іншага, дык хоць бы ставіцца да яго талерантна, займаць спакойную ці проста нейтральную пазіцыю. Безумоўна, не абысціся без творчых спрэчак і вострых дыскусій, але ж яны павінны весціся годна, інтэлігентна і цывілізавана, без уседазволенасці ў маральных паводзінах апанента. Варта задумацца: як тваё слова ўспрымуць? Ці не прычыняеш ты каму шкоду і вялікія пакуты? І трэба памятаць: у нас адзін Караткевіч, адзін Быкаў, адзін Танк, адзін Бярозкін... Нікому нікога не трэба паўтараць, трэба быць і заставацца самім сабой. Відавочна, гэта прыкрая анамалія, калі асобныя з пісьменнікаў адкрыта, без сораму прызнаюцца ў сваёй гомафобіі.

Усё часцей агортвае сум, туга і боль... Боль за беларускую літаратуру і яе творцаў. Вось выходзіць на трыбуну малады нарцыс, артыстычна ўзмахвае рукамі: "Я не аматар паэзіі Яўгеніі Янішчыц і лічу, што сапраўдныя пярліны інтымнай лірыкі належаць не ёй..." А гэта прамаўляецца з універсітэцкай кафедры: "Куляшоў — дрэнны паэт..." Студэнтка на экзамене не можа стрымаць сваёй нібыта "нявіннай"

гняўлівасці: "Я не прыхільніца таленту Івана Пташнікава, ён сваёй вясковасцю кампраметуе беларускую прозу..." Аўтар усяго некалькіх твораў з апломбам заяўляе: "У Беларусі для мяне няма літаратурных аўтарытэтаў, бо яны прыдуманы крытыкамі". Маладая беларуска не саромеецца быць катэгарычнай ці памыліцца, ледзь не выкрыквае: "Няма беларускага народа..." Агрэсія нарастае, падаграецца і робіцца, урэшце, ладам мыслення і стылем паводзінаў. Калі малады руйнавальнік, які "мысліць гневам непаўторным", прыходзіць у школу, у літаратуру ці навуку, то наступствы, здаецца, прадбачыць няцяжка. Меў рацыю А. Твардоўскі, які сказаў: "Нельга навучыць любіць тое, чаго сам не любіш ці не ўмееш любіць". Заўсёды творчая, навуковая і настаўніцкая інтэлігенцыя была заступніцай і абаронцай народа, захавальніцай яго культурных і мастацкіх скарбаў. Згубныя пачуцці, хваравітыя эмоцыі, вядома, не могуць узбагаціць душу, наадварот, спустошваюць яе, і ў вышку перад намі паўстае "І двудушны, // І прытворны, // Гэты злосны і зайздросны, // Раўнадушны чалавек" (П. Панчанка).

Яшчэ нядаўна ў літаратуры бачылі панацэю ў выхаванні, але ўжо сёння трэба распачынаць экалагічны рух у абарону мастацтва слова. Свабодна і нахабна затое паўсюль раскашуе маскультура, звужаецца сфера ўплыву гуманістычных каштоўнасцяў. Драматызм сітуацыі, выкліканы дэфіцытам культуры і маралі, разумеюць сучасныя асветнікі, прапаноўваюць рэцэпт катарсісу і выратавання — трэба пачынаць з сям'і і школы. Паслухаем разважанні на старонках часопіса "Роднае слова" яго галоўнага рэдактара М. Шавыркіна: "SOS! — стралою нясецца крык над планетай, просіць паратунку, міласэрнасці. І людзі, як могуць, спяшаюцца на дапамогу. І ратуюць, як заўсёды, не душы пацярпелых у бядзе, а іх целы. <...> І задача ўсіх людзей — адзіная: несці Радасць, успрымаць яе і выпраменьваць (чалавек нараджаецца ад радасці, у радасці і дзеля радасці). І ажыццяўляць гэта трэба паўсюль: на занятках, у працы і на адпачынку, пры любой справе (калі не ствараеш радасці, дык навошта і жыць)".

Хацелася б, каб кожная сустрэча з мастацкім словам пакідала ў дзіцячых і маладых сэрцах адчуванне радасці і асалоды, каб вывучэнне літаратуры не ператваралася ў пакуту. Аўтары цудоўных і таленавітых твораў, як думаецца, заслугоўваюць нашай удзячнасці і павагі.

Класічная і сучасная беларуская літаратура дае вялікі спажытак для роздуму пра дабрадзейнае этычнае жыццё на зямлі, высокае духоўнае прызначэнне асобы, гаворыць нам пра неабходнасць вяртання да чалавечых асноў грамадскай супольнасці. У кожнага з нас ёсць

перспектыва, магчымасць выбару, і варта задумацца, як будзе ўладкаваны соцыум і наша агульная будучыня. "Цывілізаваны чалавек, — лічыць філосаф Клаэс Г. Рын, — ёсць бенефіцыярый гістарычнага працэсу, атрымліваючы ад апошняга магчымасць замяніць часовае ў сваім асяродку і самім сабе на тое, што мае вечны сэнс і вечную каштоўнасць".

1995, 2003

## Шлях да бездухоўнасці

Няма вялікай патрэбы, здавалася б, у тым, каб падымаць сёння пытанне пра актуалізацыю вывучэння літаратуры ў школе, біць, як кажуць, у звон, паколькі яе асаблівае значэнне, выключная эстэтычная і маральна-гуманістычная роля ў выхаванні асобы выдатна рэпрэзентавана ў "Канцэпцыі рэфармавання літаратурнай адукацыі" (1996), якая выдадзена пад навуковай рэдакцыяй акадэмікаў М. Лазарука і В. Івашына. У "Канцэпцыі рэформы агульнаадукацыйнай школы ў Рэспубліцы Беларусь" (1996) і "Канцэпцыі развіцця педагагічнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь" (2000) таксама падкрэслена светапоглядна-выхаваўчая і культурадэнтрычная накіраванасць адукацыі на сучасным этапе, якая павінна грунтавацца на трывалай сістэме духоўна-маральных каштоўнасцяў. Літаратура — аснова культуры, духоўнасці, фармавання нацыянальнай ментальнасці, яна захавальніца народнай памяці, гуманных традыцый, сродак, які садзейнічае станаўленню асобы з пэўнымі поглядамі і будучымі ўчынкамі. Адзін з сучасных педагогаў справядліва адзначае, што "без этнічнай памяці няма традыцый, без традыцый — культуры, без культуры — духоўнасці, без духоўнасці — выхавання, без выхавання — асобы, а без асобы — кансалідаванага грамадства, здольнага вытрымаць любыя павароты гісторыі" (В. Протчанка. "Актуальныя праблемы тэорыі і практыкі навучання беларускай мове. Мн., 2001).

Дзеля чаго ўведзена літаратура ў школу як асобны прадмет? Думаецца, гаварыць тут доўга не трэба, і так усё добра зразумела адукаванаму чалавеку. Бо канчатковая мэта літаратурнага навучання, і гэта адзначалі многія педагогі, акурат і заключаецца ў тым, каб узняць духоўнае, інтэлектуальнае і маральнае развіццё чалавека на адпаведны ўзровень. Сфармаваць асобу, яе культуру, грамадзянскія і этычныя перакананні немагчыма без вылучэння ў сістэме навучання прыярытэтнай ролі філалагічнай і — шырэй — гуманітарнай адукацыі. Яшчэ класік айчыннай методыкі Якуб Колас даводзіў, што навучанне літаратурнаму чытанню і пісьму на роднай мове "робіцца крыніцай новых і глыбокіх выхавальных уплываў на ўвесь псіхічны склад вучня" ("Методыка роднае мовы"). І гэтыя выхаваўчыя ўплывы, безумоўна, не павінны слабець, а, наадварот, узмацняцца, пашырацца, угрунтоўвацца, каб у рэшце рэшт праз пераўтварэнне і ўзбагачэнне ўнутранага свету асобнага чалавека змяніць, перайначыць жыццё людской супольнасці да лепшага. Спашлюся на яшчэ адзін вялікі аўтарытэт — на меркаванне акадэміка Д. Ліхачова. Ён неаднойчы нагадваў пра значны развіццёвы патэнцыял, якім валодае

мастацкая літаратура, адзначаў яе выключны пазнавальна-выхаваўчы змест: "Літаратура дае вам каласальны, найвялікшы і надзвычай глыбокі вопыт жыцця. Яна робіць чалавека інтэлігентным, развівае ў ім не толькі пачуццё прыгажосці, але і разуменне, — разуменне жыцця, усіх яго складанасцяў, служыць вам праваднікам у іншыя эпохі і да іншых народаў, раскрывае перад вамі сэрцы людзей, — адным словам, робіць вас мудрым. Але ўсё гэта даецца вам толькі тады, калі вы чытаеце..." (кніга "Зямля родная").

Дык, здавалася б, наўрад ці хто дадумаецца неяк правесці рэвізію і памяняць падыходы да літаратуры і што тычыцца яе вывучэння ў школе. Аднак падставы для трывогі з'явіліся сур'ёзныя, і ігнараваць іх далей проста нельга. Чашу цярплівасці і талерантнасці перапоўніў апублікаваны ў новым часопісе "Веснік адукацыі" (2003. № 1-2) "Тыпавы вучэбны план базавай агульнаадукацыйнай школы". Пакуль што гэта праект, але ён нясе ў сабе "рэвалюцыйную перабудову", ці, кажучы мовай сённяшніх рэфарматараў, рэструктураваны ў чарговы раз — перагледжаны пазіцыі і падыходы. Вынік: беларуская і руская літаратуры як самастойныя, аўтаномныя прадметы проста зніклі, яны аб'яднаны з мовай: "Изучение белорусского языка и белорусской литературы **представлено одним предметом** "Белорусский язык и литература", русского языка и русской литературы — предметом "Русский язык и литература" (С. 7) (вылучана мной. — А. Б.).

Дзеля чаго праведзена гэтая інтэграцыя? Такім чынам нібыта рацыяналізуецца навучальны працэс: змяншаецца колькасць прадметаў і ліквідуецца перанагрузка вучняў. Аднак канцэптуальныя асновы гэтых навучальных дысцыплін розныя, таму прапанаваная тыпалогія адвольная, прыдуманая з пазіцый чыноўніцкага прагматызму. Ставячы літару "і", распрацоўшчыкі плана, відаць, не разважылі як след, ад чаго яны разгружаюць дзяцей, не падумалі, як гэтае аб'яднанне адаб'ецца на статусе і прэстыжы літаратуры ў школе. З такім жа поспехам можна было б інтэграваць у адзін прадмет матэматыку і інфарматыку і зменшыць пры гэтым колькасць гадзін на вывучэнне. Аднак прадметацэнтрычны падыход у выпадку з матэматыкай не падлягае крытыцы: маўляў у будучым сур'ёзна пацерпіць навукова-тэхнічны прагрэс, і таму мы, па словах аднаго з сучасных тэхнакратаў, "буцзем хадзіць босыя ці ў лапцях".

Да лапцей мы наўрад ці ўжо вернемся. Але вось тое, што звужаецца значэнне літаратуры як настаўніцы жыцця, як захавальніцы агульначалавечых каштоўнасцяў, як эфектыўнага сродку гуманізацыі чалавека і грамадства, факт, на мой погляд, відавочны.

Літаратура ў параўнанні з матэматыкай (на вывучэнне гэтых прадметаў адводзіцца адпаведна 2 і 5 або 4 гадзіны на тыдзень) апынулася ў няроўных умовах, яе выціскаюць на задні рубеж. У "Тлумачэннях да праекта Тыпавога вучэбнага плана..." вылучана іншая дамінанта, гуманітарызацыя ў XXI стагоддзі наўрад ці ўжо ўсведамляецца як покліч жыцця, часу, гісторыі: "В структуре Типового учебного плана базовой десятилетней школы усилено (по объёму содержания и количеству часов) изучение предметов естественно-математического цикла и установлено оптимальное соотношение социально-гуманитарных и естественно-математических предметов (адекватно мировой образовательной практике)" ("Веснік адукацыі". 2003. № 1-2. С. 8).

Перш — пра вопыт нацыянальнай школы, традыцыі, якія закладваліся даўно. У 20-я гады нацыянальная літаратура вельмі шырока вывучалася ў школах Беларусі. Па словах акадэміка В. Івашына, у 30-я гады ён грунтоўна вывучаў беларускую літаратуру ў Мінскім транспартна-эканамічным тэхнікуме. Замежным вопытам цікавіліся не толькі чыноўнікі, якія нібыта раўняюцца на сусветныя адукацыйныя стандарты, але і многія іншыя беларускія навукоўцы, педагогі, літаратары. Зацытую артыкул А. Лойкі "Навука навук — філалогія", які ў свой час друкаваўся ў "ЛіМе":

"...Рост прамысловай вытворчасці ў развітых краінах свету напрамую залежыць менавіта ад росту гуманітарнага патэнцыялу людзей, занятых у сферы вытворчасці. У ЗША зараз на шэрагу прадпрыемстваў толькі 20% у кіраўніцтве займаюць інжынеры, а 80% сярод упраўленцаў — людзі гуманітарных прафесій. Тое ж — на прадпрыемствах Японіі. А прафесійная падрыхтоўка інжынерных кадраў у многіх краінах Захаду ўжо даўно прадугледжвае двухгадовую вышэйшага профілю базавую філалагічную падрыхтоўку, — іншымі словамі, два гады інжынер вывучае філфакаўскія прадметы, перш чым брацца за асваенне сакрэтаў інжынернай прафесіі. Відаць, у гэтым і ёсць на сёння рэальная мерка ўвагі сучаснага цывілізаванага свету да гуманітарных навук" (кніга "Галгофа". Мн., 2001).

Як бачым, у замежжы кіруюцца не прадметацэнтрычнымі ўяўленнямі, а ідуць ад усведамлення культуратворчай і нацыяахоўнай ролі філалогіі, літаратуры ў прыватнасці ў сучасным зменлівым свеце. Адукацыя праз усё жыццё не ўяўляецца без трывалых базавых гуманітарных асноў. А, уласна кажучы, ці не варта было б належным чынам вывучыць грамадскую думку — бацькоў, настаўніцтва, акадэмічных вучоных, псіхолагаў-практыкаў, культуролагаў, пісьменніцкай грамады і іншых зацікаўленых людзей — наконт таго, якой павінна быць

раскладка прадметаў і гадзін на іх вывучэнне. Многія спецыялісты і нават неспецыялісты-бацькі, думаецца, скажуць пра тое, што пераважная большасць дзяцей мае гуманітарны склад мыслення, не прымуць засілле матэматыкі ў навучальным працэсе базавай школы. Пакутуць дзеці, а з імі і бацькі, бо, як спявалася ў папулярнай песеньцы, "кандидат наук и тот над задачей плачет". Неабходна, думаецца, рэалізоўваць сістэму рознаўзроўневага, індывідуальна арыентаванага навучання. Варта вылучаць матэматычна адораных дзяцей у асобныя групы і плыні, ствараць для іх умовы па паглыбленым засваенні матэрыялу, на заключнай ступені навучання даць магчымасць ліцэйскай дапрофільнай падрыхтоўкі. Гэтакі прадуктыўны шлях прапаноўвалі вучоныя-педагогі яшчэ ў 20-я гады (спашлюся хаця б на працы прафесара педагогікі Ф. А. Бельскага "Арганізацыя школ для адораных дзяцей", "Арганізацыя школ для звышадораных дзяцей"). Магчыма, я памыляюся, але загрузка матэматыкай пад завязку асноўную масу школьніцтва ні да чаго добрага не прывядзе. Няўжо нам патрэбныя людзі-камп'ютэры і робаты? Няўжо нам трэба траўміраваць псіхіку няздольных да матэматыкі шматлікіх дзяцей? Зрэшты, усё высветліць час, а ён, як мы памятаем, строгі суддзя.

Другая адмоўная тэндэнцыя ў галіне школьнага літаратурнага навучання — пастаяннае скарачэнне адукацыйнага часу. І так цягам цэлых дзесяцігоддзяў. У 2002-2003 навучальным годзе па загадзе Міністра адукацыі скарочана 30% гадзін на вывучэнне беларускай літаратуры, адпаведна "пералапачваліся" і ўшчыльняліся праграмы. У параўнанні з Праграмай 1955-1956 гадоў, нацыянальная літаратура ў школе пачатку XXI стагоддзя зведзена да сціплага мінімуму, нават скупога ліміту — так, у VIII і наступных класах скарачэнне адбылося з 198 да 72 гадзін (2002). Выключэнне — так званыя профільныя класы з паглыбленым вывучэннем літаратуры, дзе часу на знаёмства з творчасцю беларускіх пісьменнікаў адведзена крыху больш, аднак такіх класаў у Беларусі да скарэднага малы працэнт. Крызісны стан з вывучэннем літаратуры ў сучаснай школе найперш адчуваюць настаўнікі, вось адзін з загалоўкаў у "Настаўніцкай газеце": "Літаратура ў школе не патрэбна?!: Ці можна выхаваць прыгожае, добрае, вечнае, скарачаючы ўрокі славеснасці?" (2003. 1 сакав. С. 2).

У той жа час паэтку Р. Баравікову займае пытанне пра суадносіны гадзін на класіку і сучасную літаратуру і яна са старонак "Настаўніцкай газеты" прапаноўвае: "Напрыклад, можна ўвесці асобным прадметам гісторыю літаратуры і асобным — сучасную літаратуру" (2003. 15 красав. С. 8). Не пярэчу: варта абмеркаваць, каго, як і якія творы сучасных аўтараў трэба ўключаць у школьныя праграмы. Але ж яно

не такое актуальнае ў параўнанні з тым, што сёння трэба зрабіць пісьменнікам і педагагічнай грамадскасці, каб літаратура заняла "свой пачэсны пасад" сярод школьных прадметаў. Пры несупынных скарачэннях хіба можна выкраіць надежную колькасць гадзін на знаёмства з жыццём і творчасцю нашых выдатных пісьменнікаў-сучаснікаў Я. Брыля, І. Шамякіна, В. Быкава, І. Навуменкі?! Цяжка знайсці лішнюю гадзіну на разгляд твораў І. Мележа, А. Куляшова, М. Танка, У Караткевіча, П. Панчанкі, І. Чыгрынава... Вядома, хацелася б яшчэ, каб у настаўніка былі ўрокі, прысвечаныя сучаснай літаратуры, і ён прыйшоў у клас з "Полымем", "Маладосцю", "ЛіМам"... Але ж дзе ўзяць гадзіны, калі іх катастрафічна не хапае? Я ўжо не кажу пра сусветны літаратурны кантэкст, які ў старэйшых класах фактычна згорнуты. Славутыя творы замежных аўтараў даюць магчымасць для параўнальнага вывучэння літаратур, збліжаюць маладога чалавека з іншымі народамі і культурамі, у выніку ён атрымоўвае ключ да разумення мастацкіх каштоўнасцяў чалавецтва. Далейшая эканомія на літаратуры ў школе (але куды ўжо далей яе ўшчыльняць!) можа прывесці да таго, што ў падручніках застанецца творчасць некалькіх класікаў. Згадваюцца купалаўскія радкі — і не толькі дзеля таго, каб гіпербалізаваць сітуацыю, азасведчыць яе сапраўдны драматызм:"... А беларусы нікога ж не маюць, // Няхай жа хоць будзе Янка Купала" ("Я не паэта").

Калісьці сусветна вядомы мысляр сказаў, што калі чалавек перастае чытаць — ён перастае думаць (Д. Дзідро). Педагог, кандыдат мастацтвазнаўства Таццяна Катовіч на практыцы пераканалася ў тым, да чаго вядзе спад у мастацка-эстэтычным выхаванні сучасных падлеткаў і моладзі: "У асяроддзі сваіх вучняў, студэнтаў і гімназістаў задумваюся наконт такой "дробязі", як беднасць уяўлення. А гэта на самай справе варта спачування: жыццё дастаткова кароткае, каб пражыць яго нездавальняюча сумна і шэра..." ("Настаўн. газ.". 2003. 17 красав. С. 8). Сёння на нашых вачах у вучняў знікае матывацыя да чытання, мяняюцца інтарэсы і зацікаўленні дзяцей. Аўтар "Настаўніцкай газеты" Людміла Барташэвіч прааналізавала змест выданняў "Каламбур" і "Адзін дома", дзе друкуюцца гульні, якія ніякім чынам не развіваюць інтэлект і не стымулююць добрых пачуццяў, на старонках гэтых выданняў сустракаецца лексіка тыпу "хавка", "жратва", "мочиловка". Л. Барташэвіч задае трывожнае пытанне: "Калі гэта чытаюць "прыгожыя і разумныя", дык што чытаюць астатнія?" І робіць абсалютна слушную выснову: "Мы здзіўляемся хамскім паводзінам, прымітыўным жартам, спажывецкаму стаўленню да

жыцця нашых дзяцей. Дзеці не вінаватыя. Мы, дарослыя, фарміруем іх культуру і светапогляд" (2003. 24 красав. С. 2).

Сучасная тэлепрадукцыя тыпу баевікоў, фільмаў жахаў, блокбастэраў, крымінальных і эратычных трылераў ракой лінулася на бедныя дзіцячыя галовы. Адна сям'я ўжо не ў стане справіцца з гэтай экспансіяй жорсткасці, бруду, сексуальная разбэшчанасці. Школа як сацыяльны інстытут праз урокі літаратуры і мастацтва акурат і павінна дапамагчы ўзняць у душах і сэрцах дзятвы заслону ад гэтай пошасці, прывіць нормы эстэтычных і маральных паводзінаў, развіць належным чынам эмацыянальную сферу дзіцяці.

Злым і разбуральным інстынктам трэба супрацьпаставіць красу слова, красу думак і пачуццяў. У сучасным грамадстве распаўзлася эпідэмія жорсткасці, гвалту. Агрэсіўнасць, хамства і цынізм усё часцей робяцца нормай для падлеткаў і моладзі. Крымінальная хроніка на старонках беларускай перыёдыкі палохае паведамленнямі пра злачынствы дзяцей: хуліганскія выхадкі, крадзяжы, рабаўніцтва, забойствы... Расце дзіцячае п'янства, пагрозай робіцца наркаманія, прастытуцыя... Так, у друку прайшло паведамленне, што сёлета, 21 красавка, у вёсцы Жахоўшчына Бешанковіцкага раёна вучань восьмага класа задушыў 80-гадовую бабульку (пасля вымагальніцтва ў старой жанчыны грошай). Сімволіка-драматычнай у кантэксце росту дзіцячай і моладзевай злачыннасці ўспрымаецца назва гэтай беларускай вёскі Жахоўшчына. Ахвярамі разбою і нападу становяцца раўнагодкі і дарослыя людзі. Прыкрымі, ганебнымі фактамі нашай сучаснасці стала збіццё славутых у краіне дзеячаў навукі — акадэміка Радзіма Гарэцкага і прафесара Адама Мальдзіса. Агрэсія, жах і страх, такім чынам, пакрысе запаўняюць Беларусь. І не бачыць гэтага можа толькі сляпы.

Першымі, хто востра адчуў наступ негатыву ў сацыяльным і духоўным жыцці грамадства, сталі нашы беларускія літаратары, мастакі, акторы, вучоныя і настаўнікі. Інтэлігенцыя не толькі крытычна рэагуе на сучасную рэчаіснасць, але і прапануе рэцэпты духоўнага выжывання, актуалізуе важнасць гуманізацыі нашага супольнага жыцця. Іначай — катастрофа, духоўны тупік. У аповесцях "Крывінка", "Падзенне", "Без пакаяння" і іншых творах народны пісьменнік Беларусі І. Шамякін паказвае ўсю жахлівую праўду расчалавечвання, ён справядпіва гаворыць, што сёння ў маладым чалавеку можа лёгка заснуць ці знікнуць сумленне, бо ён не мае ахоўнага маральнага імунітэту. У адным з твораў вуснамі сваёй гераіні пісьменнік імкнецца давесці, што "думаць трэба... пра душу" ("Маладосць". 1996. № 1). Празаік Анатоль Казлоў лічыць, што "ў нашым грамадстве фарміру-

ецца тып чалавека заходняй маралі. Запознена, хваравіта, з пэўнымі мутацыямі, але нараджаецца беларус-акула. І трэба, па вялікім рахунку, ужо даўно адправіць у архівы гісторыі лозунг "Чалавек чалавеку — брат, сябар і аднадумца". Цяпер распаўсюджваецца дыяметральна процілеглае выслоўе, якое мы цудоўна памятаем яшчэ з лаціны" ("Неман". 2003. № 3). Беларускае пісьменніцтва і гуманітарная інтэлігенцыя небеспадстаўна хвалююцца пра наш дзень сённяшні і нашу супольную будучыню: калі мы хочам шырока адрадзіць і захаваць агульначалавечыя духоўныя ідэалы, то павінны ў першую чаргу прапаведаваць у грамадстве ідэалогію высокай маральнасці і гуманізму. І ў першую чаргу праз школу і ВНУ, на ўроках і лекцыях па літаратуры. У школе, апрача літаратуры, па сутнасці больш няма прадмета, які быў бы скіраваны да душы вучня. Зрэшты, на стварэнне нацыянальнай дзяржаўнай ідэалогіі і выхаванне маладога пакалення скіраваны намаганні сённяшняй улады.

Выхаванне асобы, яе ўсебаковае развіццё немагчымы без культуры, літаратуры і мастацтва, паколькі гэтыя прадметы абуджаюць унутраныя стымулы да грамадзянскага сталення, пераўтвараюць асобу, закладваць яе духоўна-маральныя асновы. Гэтае ўсведамленне значнасці літаратурна-мастацкага і эстэтычнага навучання і выхавання (інакш кажучы, гуманітарнага, гуманізаванага) прысутнічае ў шматлікіх выказваннях на старонках педагагічных і грамадска-палітычных выданняў. Спашлюся на некаторыя з іх: "Трэба ўразумець, што пытанне літаратуры ў школе — гэта пытанне не толькі і нават не столькі літаратуры, колькі пытанне пра будучыню нашага грамадства наогул. Бо якіх дзяцей мы выхаваем сёння, такім наша грамадства будзе праз дзесяць-дваццаць-трыццаць гадоў. А якое ж выхаванне без літаратуры?!" (пісьменніца Р. Баравікова. "Настаўн. газ.". 2003. 15 красав.); "...Выкладанне літаратуры ў школе павінна быць узведзена ў ранг вядучай, вызначальнай з'явы школьнага жыцця... Вядучай якасцю духа, з якой зыходзіць і да якой імкнецца філасофія спасціжэння літаратуры ў школе, з'яўляецца сумленне... Няма сумлення — няма асобы. А без асобы няма цывілізацыі" (літаратуразнаўца і педагог з Брэста Ю. Паталкоў. "Настаўн. газ.". 2003. 6 лют.); "Што асабіста мяне, настаўніцу беларускай мовы і літаратуры, хвалюе, дык гэта тое, што, пачынаючы ўжо з чацвёртага класа, скарачаюцца ўрокі славеснасці. Увогуле абурае такое скарачэнне часу на выкладанне літаратуры ў школе. Такая шкодная тэндэнцыя "разгрузкі" дзяцей за кошт гэтага школьнага прадмета будзе стрымліваць развіццё іх кругагляду, перашкаджаць больш глыбокаму пранікненню ў разнастайныя сферы жыцця. А ўсё гэта прывядзе да духоўнага вакууму. І

чым ён будзе запаўняцца?" (настаўніца з Асіповіцкага раёна В. Ярмоленка. "Настаўн. газ.". 2003. 1 сакав.).

Прыклады ўсхваляваных, занепакоеных меркаванняў пра месца і ролю літаратуры (і не толькі, вядома, беларускай) у сістэме школьнага навучання можна доўжыць. Нагадаю хіба яшчэ яркае выступленне вядомага метадыста, педагога, аўтара шматлікіх навучальных кніг, дацэнта БДПУ імя Максіма Танка Я. В. Перавознай на сустрэчы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з аўтарамі падручнікаў па гісторыі і літаратуры, якая адбылася ў красавіку 2002 года. Шаноўная Яўгенія Васільеўна, гаворачы пра надзённыя праблемы літаратурнай адукацыі ў школе, акцэнтавала ўвагу на вялікім патрыятычна-выхаваўчым патэнцыяле мастацтва слова, яна нагадала, што адным з галоўных фактараў у Вялікай Перамозе над фашызмам была названа літаратура. Яе меркаванне пра прыярытэтнасць літаратуры ў школе прагучала вельмі аргументавана і пераканальна. Згортваючы літаратуру як навучальны прадмет у сярэдняй школе, наўрад ці мы здолеем ўратаваць дзіцячую душу ад бездухоўнасці, разбурэння, заражэння яе рознымі шкоднымі вірусамі. Школьнікаў — і гэта не сакрэт — трэба часам лячыць і ацаляць словам, засцерагаць ад злачынных намераў, амаральных учынкаў. Літаратура, вядома, не панацэя ад усіх хваробаў, але яна здольная ўплываць на фармаванне свядомасна-каштоўнасных арыентацый і маральны выбар чалавека. Паўтаруся, але зазначу ў чарговы раз: літаратура як чалавеказнаўства мае велізарны выхаваўчы патэнцыял. І гэта ісціна, якая, відаць, не патрабуе вялікіх, разгорнутых доказаў.

З 1933 года экзамен па беларускай літаратуры быў уведзены ў школе як абавязковы. Цяпер ён ліквідаваны, але высокія чыноўнікі з Міністэрства адукацыі з перакананасцю даводзяць, што "ёсць экзамен ці няма гэта не ўплывае на матывацыю да вучобы" ("Чырв. змена". 2003. 25 красав. С. 3). Яшчэ як уплывае, асабліва што тычыцца літаратуры. І пра гэта даводзіцца чуць ад многіх настаўнікаў-беларусаведаў, якія гавораць, што пачынаюць адчуваць сябе ізгоямі ў школе. На адной з нарад у НМЦэнтры вучэбнай кнігі яны прасілі аўтараў падручнікаў навукоўцаў у тым ліку і мяне, на той час загадчыка лабараторыі літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі, што-небудзь рабіць, каб памяняць стаўленне да беларускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе. Адчуваў сваю няёмкасць і прыкрасць ад бездапаможнасці, паколькі многія набалелыя пытанні тычыліся не столькі мяне, колькі сённяшніх рэфарматараў школы.

Адкажыце, калі ласка, на якім яшчэ экзамене, як не на экзамене па літаратуры, вучань зможа раскрыць душу, захоплена прачытаць верш, не толькі прадэманстраваць веды, але і прэзентаваць сябе, свае чалавечыя якасці, выявіць патрыятызм, грамадзянскасць, культуру мыслення, эстэтычны густ.

У нашых блізкіх суседзяў таксама назіраецца тэндэнцыя да абнаўлення, перагляду (рэструктурызацыі) зместу адукацыі, але ні ў Расіі, ні на Украіне, ні ў Польшчы, ні ў Літве так не абкрадаюць літаратуру ў школе, не спяшаюць зрабіць непрыстыжнай і неперспектыўнай філолага-гуманітарную адукацыю.

Радыкалізацыя, безумоўна, патрэбная, але не дзеля таго, каб упаў статус літаратуры як школьнага прадмета, каб размыць базавы грунт адукацыі і выхавання. Многае, што сёння тычыцца літаратуры ў школе, — і тут я пагаджаюся з пісьменніцай Р. Баравіковай, — вымагае шырокага абмену думкамі на "круглых сталах", нарадах, канферэнцыях. Адміністрыраванне і рэгламентацыя, думаецца, дрэнны дарадчык. А, што грэх утойваць, у адукацыйнай сферы сёння часам прымаюцца хуткаспелыя рашэнні, праяўляецца кялейнасць, — і гэта добра адчувае наша грамадскасць, якая справядліва крытыкуе школьную рэформу за многія пралікі і сур'ёзныя выдаткі, звязаныя з дзесяцібальнай сістэмай ацэнкі, масавым закрыццём пачатковых школ, рэзкім змяншэннем колькасці дзяцей, што вучацца на роднай мове, і інш. Выклікаюць трывогу неабдуманыя, карпаратыўныя падыходы і ў дачыненні да літаратурнай адукацыі. Так, на адкрытым конкурсе на лепшы падручнік для старэйшых класаў фактычна па колькасці набраных балаў перамаглі навучальныя кнігі акадэмікаў М. Лазарука і В. Івашына "Беларуская літаратура, X клас" (54,4 бала з 72 магчымых) і "Беларуская літаратура, XI клас" (аўтары Д. Бугаёў М. Тычына, М. Мішчанчук і інш.) (49,9 з 72 магчымых балаў). Па гэтых падручніках займаецца 80% школ Беларусі, ім аддалі перавагу самі настаўнікі. Аднак у выніку арганізаванага немаведама для чаго таемна-таямнічага галасавання "перамога" прысуджана аўтарам падручнікаў і паралельнай праграмы з Брэста, па якой працуе каля 20% навучальных устаноў. Такім хітрым, "віртуозным" спосабам "выбіты" падручнікі непажаданых канкурэнтаў, каб пакінуць адну паралель у школе і адрапартаваць наверсе пра "сэканомленыя" фінансы.

Заслугоўвае абмеркавання ідэя інтэграванага курса "Литература и искусство", прапанаваная ліцэем БДУ для трэцяй слупені навучання (ліцэйскія класы) ("Настаўн. газ.". 2001. 29 лістап. С. 3). Калі ісці ад назвы, то так і курс больш падыходзіць мастацкаму ліцэю ці гімназіі. Зыходзячы з назвы, гэта мусіць быць курс шырокага культуралагічна-

пазнавальнага, беларусазнаўчага дыяпазону: апрача літаратуры, на ўроках павінна адбывацца знаёмства з творамі жывапісу, музыкі (і, відаць, у цеснай суаднесенасці з мастацтвам слова), вывучацца гісторыя тэатра, кіно... А якое месцаў гэтым курсе належыць нацыянальнай літаратуры? Ці ва ўсіх выпадках неабходна адмаўляцца ад прынцыпу гістарызму пры вывучэнні літаратуры? Апрача мадэлюючага, ірацыянальнага тыпу мыслення, што яшчэ трэба сфармаваць у душы і свядомасці вучня, каб ён стаў паўнавартасным грамадзянінам Беларусі, яе патрыётам, носьбітам высокай маралі і культуры? Многае не прапісана ў канцэпцыі гэтага курса, адсюль і пастаўленыя мною пытанні (будзем спадзявацца, разгарнуць свае падыходы аутарам не дазволіла газетная плошча). Часам праекціроўшчыкі і вучоныя-метадысты ў сферы адукацыі ідуць значна далей. Так, у Нацыянальным інстытуце адукацыі быў створаны інтэграваны курс беларускай, рускай і сусветнай літаратуры, пабудова і змест якога выклікаюць яшчэ больш пытанняў. Хіба не вымагае калегіяльнага разгляду пытанне пра месца і ролю літаратуры на трэцяй ступені навучання (ліцэйскія класы)? Баюся, што і тут будзе штосьці перастуктуроўвацца, скарачацца за кошт літаратуры і іншых гуманітарных прадметаў.

Перабудова школьнай адукацыі, думаецца, павінна ісці без рэзкіх перагібаў і ломкі асноватворных традыцый, у разумных межах, без напалу канфрантацыі. Рэформа на сучасным этапе вымагае сур'ёзнай аналітыкі, узважаных, прадуманых і далёка пралічаных крокаў. І гэта ў першую чаргу тычыцца літаратурнай і моўнай адукацыі. Памятаю, як пасля сустрэчы аўтараў падручнікаў з Прэзідэнтам многія былі акрылены, было вялікае жаданне працаваць... Можа, сёння і надышла пара рапартаваць пра поспехі школьнай рэформы, але за рапартамі не схаваеш ад грамадскасці відавочнае, праўду. Падводзячы рэзюмэ, зноў задаю пытанне, хай сабе ў чымсьці і рытарычнае: як без актуалізацыі літаратурнага навучання, гуманітарызацыі і гуманізацыі свядомасці магчыма павялічыць творчы і культурна-духоўны патэнцыял нацыі?! Літаратура ў школе павінна быць у авангардзе навучальнага працэсу, паколькі яна — крыніца маральнага выхавання, творчага развіцця асобы, здольнай успрымаць і разумець культуру і мастацтва, жыць па законах прыгажосці, дабра і міласэрнасці.

*2003, сакавік-красавік*

## Мае настаўнікі

### I

Усе мы пачынаемся, як гэта банальна ні прагучала б, з сям'і і школы. Там нашы вытокі, нашы першыя радасці і засмучэнні, адтуль пачынаецца шлях у самастойнае жыццё. І многае добрае, што мы маем у душы і сэрцы, далі нам настаўнікі. Без іх не адбылося б наша сталенне і ўзмужненне, паўнавартаснае духоўнае развіццё.

Настаўнік — слова святое. У першую чаргу для тых, хто ведае цану настаўніцкай працы і добра разумее, на чым трымаецца падмурак грамадства. Гэта вельмі важна, каб у цябе ў жыцці быў чалавек, які не толькі вучыць, але і ўплывае на твае думкі і пачуцці, падказвае, падтрымлівае, раіць...

У мяне таксама былі і ёсць свае настаўнікі. За дзесяць гадоў вучобы ў Цімкавіцкай сярэдняй школе імя Кузьмы Чорнага іх было нямала, і кожны так ці інакш непасрэдна прычыніўся да майго дзіцячага лёсу, дапамог, як кажуць, стаць на ногі, выйсці ў свет вялікі. Увогуле, цімкавіцкія настаўнікі — людзі самаахвярныя, якія заўсёды шчодра аддавалі свае веды і душэўную цеплыню выхаванцам. Яны былі для нас, вясковай дзятвы, крыху незямныя, не такія, як усе. Настаўнікі захаплялі і прываблівалі незвычайным розумам, сваёй дасведчанасцю і таленавітасцю, увасаблялі нейкае невядомае нам тады ўнутранае хараство. Іх мы любілі, шанавалі, а некаторых, што грэх утойваць, пабойваліся.

З настаўнікамі мы сустракаліся не толькі на школьных уроках. Большасць з цімкавіцкіх педагогаў былі акторамі народнага тэатра, і яны часта паўставалі перад намі ў яркіх сцэнічных вобразах. Вось што згадвала былы дырэктар Цімкавіцкай СШ, заслужаная настаўніца БССР, кіраўнік тэатра З. І. Раманенка: "Кожны з настаўнікаў па сутнасці іграў сам сябе. Я няблага ведала індывідуальныя схільнасці і псіхалогію сваіх калег, і таму, калі прапаноўвала тую ці іншую ролю, то ведала, што ўваходжанне ў яе і выкананне будзе даволі арганічным. А яшчэ я верыла ў творчыя здольнасці і магчымасці кожнага з настаўнікаў". Настаўнікі паказвалі сапраўднае майстэрства сцэнічнага пераўвасаблення і рабілі на нас вялікае ўражанне, бо створаныя імі характары літаральна зачароўвалі. Пасля спектакля, які нязменна выклікаў буру эмоцый, мы глядзелі на іх з заміраннем сэрца. Здавалася часам, што ў клас завітаў учарашні герой спектакля.

Калі мы робімся сталымі людзьмі, чагосьці дасягаем самі і засвойваем урокі жыцця, усё часцей пачынае згадвацца той школьны асяродак, дзе прайшлі радасныя дні дзяцінства і юнацтва, адбылося

знаёмства з сумленнымі і высакароднымі літаратурнымі героямі, адчыніліся дзверы ў краіну ведаў і пачаўся пошук адказаў на шматлікія няпростыя пытанні, якія пазней зноў паставілі перад намі ці час, ці лёс, а, магчыма, і сам Гасподзь Бог. У вершы "Настаўнікі не паміраюць..." паэт Генадзь Бураўкін гаворыць пра выключную духоўную ролю настаўнікаў, іх значнасць у жыцці сваіх вучняў:

Мы не адразу разумеем,
Як цяжка ўзняць было б крыло
І ўзвіцца ўверх на зло завеям,
Каб іх на свеце не было.

З цягам часу прыходзіць усведамленне, што ўсё лепшае і маральна трывалае ў душы — ад іх, нашых настаўнікаў, якія найперш выхоўвалі нас, бо хацелі, зразумела, бачыць у будучым сапраўднымі людзьмі. Яны шчодра кідалі ў дзіцячыя сэрцы зярняткі дабрыні і сумленнасці. І тая сяўба была не марнай. У памяць і нават падсвядомасць запалі важныя і глыбокія словы, паняцці, сэнсы, якія засталіся асноватворнымі на ўсё жыццё.

Мінулі многія гады пасля заканчэння роднай школы, але мне помняцца вобразы дарагіх сэрцу настаўнікаў. Пра кожнага з іх можна распавядаць доўга, нават бясконца, і згадак гэтых набярэцца на цэлую кнігу. Што ні настаўнік, то адметная і незабыўная асоба. Славутасць Цімкавіч — Зінаіда Іосіфаўна Раманенка, якая на працягу дзесяцігоддзяў узначальвала настаўніцкі калектыў школы і рабіла ўсё для таго, каб наша вёска была сапраўдным цэнтрам культурнага жыцця. Яна ў першую чаргу дбала пра духоўнае і эстэтычнае выхаванне вучняў, імкнулася зрабіць школьнае жыццё эмацыянальна-адухоўленым і цікавым. А савецкая школа тады, як мы памятаем, мела політэхнічную накіраванасць. Зінаіда Іосіфаўна стаяла ля вытокаў стварэння музеяў Кузьмы Чорнага і 17-га Цімкавіцкага пагранічнага атрада, была рэжысёрам народнага драмтэатра і дзіцячай студыі пры ім, знаходзілася на чале розных калектываў мастацкай самадзейнасці... Яна выдатна ведала: нішто не кранае так глыбока чалавечае сэрца, як цудоўная песня, музыка, пранікнёнае паэтычнае слова, захапляльнае тэатральнае дзейства. Зінаіда Іосіфаўна не прымала інертнасці, душэўнай аморфнасці, умела знайсці падыход да настаўніка і вучня, калі трэба, пераканаць яго, а галоўнае — паверыць у сябе, натхніць на творчае самараскрыццё. Педагог ад Бога, яна імкнулася настроіць дзіцячую душу на прыгожае і высокае. У той жа час, зразумела, дырэктар школы часта кіравалася ў сваёй дзейнасці афіцыйнымі палітычнымі і ідэйна-педагагічнымі падыходамі. Як жа тады было без гэтага! Аднак яна глядзела ў будучыню з пазіцый пераўтваральнай

сілы мастацтва і культуры. Цімкавіцкая асветніца клапацілася пра тое, каб абудзіць любоў і павагу да пісьменніцкага слова, беларускай літаратуры на прыкладзе жыцця і творчасці Кузьмы Чорнага і іншых песняроў роднага краю. Стыхіяй яе жыцця быў тэатр, і гэтае захапленне яна перадала іншым. Усе спектаклі ставіліся выключна па-беларуску, пры неабходнасці яна сама бралася за пераклад п'есы ўкраінскага ці рускага аўтара. Зінаіда Іосіфаўна часта запрашала на сустрэчы са школьнікамі людзей мастацтва і культуры, чыё слова таксама нас вучыла і выхоўвала. Апантанасць творчымі і высакароднымі ідэямі не пакідала яе да канца дзён жыцця.

Разгортваю школьны выпускны альбом. Вось яны, мае настаўнікі: В. І. Марціновіч, С. Б. Нусенсон, Л. М. Шкуцька, Л. В. Прылепка, А. К. Лазоўскі, Г. В. Шаравар, А. А. Дземідовіч, Б. В. Карповіч, А. А. Федаровіч, В. І. Шаравар, М. Р. Подчаркава... Змешчаны тут фотаздымкі далека не ўсіх педагогаў якія працавалі з нашым класам, але я добра памятаю іх: М. І. Сакалоўскую, В. С. Раманенку, М. К. Кожанаву, М. Д. Садоўскую, М. М. Даменю, В. М. Шустоўскую, В. І. Чарняўскага... Некаторыя з настаўнікаў вучылі не адно пакаленне цімкаўцаў. Узіраюся ў партрэцікі — ад прасветленых і адухоўленых вачэй робіцца цёпла і неяк легка. Здаецца, у гэтую хвіліну трапяткія сонечныя праменьчыкі паліліся ў маю душу. Неўзабаве пачынаю журыцца: асобных з настаўнікаў ужо, на вялікі жаль, няма на гэтым свеце.

Я з удзячнасцю згадваю тых, хто абудзіў у маім сэрцы любоў да роднага слова, кнігі, мастацкай літаратуры. Мне вельмі блізкія радкі Пімена Панчанкі пра беларускіх настаўніц:

Вашай лагоднаю ласкай атулены,
Пра Беларусь мы чытаць былі рады.
Мы вам верылі больш, чым матулям,
Хоць і матулі казалі нам праўду.

Так бывае ў жыцці кожнага дзіцяці: прыходзіць дзень — і бацькі адводзяць яго ў школу, дзе на ганку сустракае першы настаўнік ці першая настаўніца. Навучыла чытаць і пісаць мяне Алена Казіміраўна Мохарт. Чытанне я засвоіў не хутка, дужа незразумелыя былі мне тыя друкаваныя літары. Пэўны час я хітраваў: запамінаў усе тэксты, якія чыталіся ў класе. Але потым Алена Казіміраўна вывела мяне на чыстую ваду, калі пераканалася, што я "бэкаю" з вялікай цяжкасцю. Смаку ў вучобе я не адчуў, і мяне больш цягнула да гульняў забаваў, чым да кніжкі. Настаўніца паскардзілася маёй маці, што я не бяруся чытаць, праседжваю ў класе штаны. Тады за мяне ўзялася маці, яна правяла "выхаваўчы момант" без далікатнасцяў задала як след дыхту. Вольніца мая скончылася. Цэлымі вечарамі мы з ёй чыталі буквар і

дзіцячую чытанку. І мне адчыніўся свет! Чытанне захапіла мяне настолькі, што тыя творы, якія мне спадабаліся, я перачытваў шмат разоў. Першая настаўніца падахвочвала мяне: не шкадавала "пяцёрак" і нават камусьці ставіла ў прыклад. Неяк са школьнай бібліятэкі я прынёс кнігу беларускіх народных казак, і з той пары мастацкае чытанне мяне заваблла на ўсё жыццё. Маці на пошце (там яна працавала) выпісала мне "Вясёлку", а затым і часопіс "Бярозка", з якім я пасябраваў на доўгія гады (пазней на яго старонках была надрукавана мая першая замалёўка прыроды). Чытанне беларускіх дзіцячых кніжак і часопісаў зрабілася пастаяннай патрэбай душы. У трэцім класе я атрымаў з рук Алены Казіміраўны кніжку як адзін з лепшых чытальнікаў вершаў. Вельмі істотна ўплывала на мой чытацкі выбар і густ школьны бібліятэкар Ніна Канстанцінаўна Нікалаеня. Асобныя кнігі, якія яна мне давала ўсяго на некалькі дзён, я прачытваў за суткі. Да самай позняй ночы я не мог адарвацца ад цікавай кніжкі. Надаралася, што праз захопленасць чытаннем я прапускаў школу. Маці гады маніў, што мне нездаровіцца.

У пачатковай школе я хадзіў у групу падоўжанага дня. Займаўся з намі Іван Паўлавіч Александроў які таксама выкладаў у школе маляванне. Вось як ён стымуляваў падрыхтоўку намі хатняга задання: "Калі дружна папрацуеце, хутка выканаеце ўсе задачы і практыкаванпі, тады вас чакае вельмі цікавая кніжка". Памятаю, як я любіў слухаць тыя казкі і апавяданні, якія чытаў Іван Паўлавіч. Ён чытаў творы беларускіх і рускіх класікаў. А яшчэ часта ў класе на дошцы ён прымацоўваў рэпрадукцыі жывапісных палотнаў Рафаэля і Леанарда да Вінчы, Левітана і Айвазоўскага, Шышкіна і Бялыніцкага-Бірулі... Як я разумею цяпер, гэтыя рэпрадукцыі ён вывешваў для рэлаксацыі — псіха-эмацыянальнага адпачынку. У "прадлёнцы" дзеці часта даймалі Івана Паўлавіча, каб ён намаляваў "партрэт". Клас заліваўся смехам, калі яго рука крэйдай на дошцы выводзіла чыйсьці кірпаты нос ці рот з прарэджанымі зубамі. Аднойчы настаўнік прынёс вялікую скрыню і прапанаваў нам адгадаць, што ў ёй. Намаганні даць правільны адказ былі марнымі. Высветлілася, што там былі самыя розныя лялькі, якія ўсім прыйшліся да спадобы. Настаўнік сказаў, што мы трымаем у руках незвычайныя цацкі, бо з імі можна не толькі бавіць час. Так Іван Паўлавіч зацікавіў нас лялечным тэатрам. Я з радасцю ўдзельнічаў у інсцэніроўцы казкі.

У яго сэрцы да дзяцей было шмат бацькоўскай цеплыні і чуласці. А яшчэ мне помніцца, як Іван Паўлавіч выратаваў мяне ад крыўдзіцеляў — цэлай хеўры старэйшых хлопцаў, якія перастрэлі мяне, калі я вяртаўся дахаты са школы. Ён быў ужо на пенсіі, калі мы вучыліся ў

старшых класах, аднак некалькі разоў прыходзіў да нас, каб пагутарыць пра выдатных жывапісцаў і дзівосны свет мастацтва.

У сярэдніх класах першым маім настаўнікам беларускай мовы і літаратуры быў Іван Рыгоравіч Масакоўскі. Яму падабалася, як я натхнёна чытаў вершы, і за гэта хваліў, а яшчэ за тое, што ўмею складаць добрыя самастойныя сказы.

...Быццам наяве, паўстае ў памяці карціна ў нашым класе: ён задумліва ўзіраецца кудысьці праз вялікае акно, за якім кружляюць сняжынкі, і першы раз чытае на памяць тэкст дыктоўкі. Заваражаныя ціхім і прачулым голасам, мы стоена слухаем настаўніка, ніхто не схамянецца.

Гэта быў надзвычай інтэлігентны і сціплы чалавек. Бацька неяк мне сказаў што Іван Рыгоравіч ваяваў на фронце. Памятаю, калі я пачаў друкавацца ў райгазеце, прыйшоў да настаўніка і сказаў што хачу напісаць пра яго (тады Іван Рыгоравіч ужо выйшаў на пенсію). Але, на жаль, я так і не пачуў ні слова пра тое, што мяне цікавіла. Іван Рыгоравіч павёў гаворку ў іншым рэчышчы і такім чынам ухіліўся ад тэмы ваеннага мінулага. З Масакоўскімі наша сям'я жыла ў блізкім суседстве. Іван Рыгоравіч быў чалавек нездараўчаты, цяжка хварэў, і таму па гаспадарцы яму нярэдка пасабляў мой бацька: касіў, араў нарыхтоўваў дровы... Я дапамагаў настаўніку пераносіць брыкет, прывезены для апалу хаты. Разоў колькі па просьбе Івана Рыгоравіча баранаваў агарод, абганяў бульбу, а неяк, калі не было каму раскінуць колькі градусаў бульбы, ён упершыню даверыў мне стаць за плуг. Настаўнік часта і падоўгу гаварыў са мною, цікавіўся, як мая вучоба ў школе, што я чытаю, пра што пішу. Заўсёды штосьці раіў, падказваў. Надаралася, запрашаў дахаты, каб падзяліцца ўражаннямі пра прачытаную новую беларускую кнігу. Алена Мітрафанаўна, жонка майго настаўніка, на гадавыя святы прыносіла "працаўнічку", як яна называла мяне, гасцінцы, а Іван Рыгоравіч неяк гукнуў да сябе і падараваў нават свой веласіпед. Ніколі не забуду, як ён суцяшаў мяне і падтрымліваў у горкія хвіліны жыцця.

Затым мне пашчасціла вучыцца ў заслужанай настаўніцы Беларусі Вольгі Ільінічны Марціновіч. Гэта быў першы чалавек, які адчуў мае творчыя здольнасці. Робячы агляд сачыненняў яна амаль заўсёды зачытвала абзац ці некалькі сказаў з маёй пісьмовай работы. Урокі беларускай літаратуры, здаецца, нікому не былі ў пакуту. Наша настаўніца ўмела ствырыць эмацыянальны настрой у класе. Асаблівую ўвагу Вольга Ільінічна адводзіла выразнаму чытанню вершаў на памяць. Найперш яна сама цудоўна дэманстравала, як трэба чытаць мастацкі твор, прачула перадавала аўтарскія пачуцці. Памятаю, як

глыбока кранүў мае сэрца барадулінскі верш пра бацьку ў чытанні настаўніцы, і я ледзь утрымаўся, каб, як той хлопчык-бязбацькавіч, не "заплакаць шчырымі слязамі". Вольгу Ільінічну я згадваю толькі ў школьных сценах, сярод нас, дзяцей. Чулая і спагадная, як маці, яна не скупілася на дабрыню, ведала, калі вучня трэба пахваліць, калі падбадзёрыць, а калі і далікатна паўшчуваць, каб яму было сорамна. Я многае аддаў бы ў сваім жыцці за тое, каб хоць на міг вярнуцца ў дзяцінства і зноў трапіць на ўрок роднай літаратуры да маёй дарагой настаўніцы.

Нельга забыць светлы вобраз настаўніка-філолага Леаніда Мікалаевіча Шкуцькі, які нядоўга выкладаў у нашым класе, а, раней надаралася, колькі разоў замяняў урокі. Ён ужо быў чалавек перадпенсійнага веку, сівагаловы, але вельмі рухавы, хадзіў паспешлівым крокам, хоць і абапёршыся на кульбу. Леанід Мікалаевіч прыйшоў да нас у дзевятым класе, і мы пачалі вывучаць беларускую савецкую літаратуру, зацікавіць якой, як я цяпер разумею, было няпроста. Янка Купала, які так уразіў сваёй паэмай "Курган", раптам паўстаў перада мной нейкі нецікавы і безаблічны. Запомніліся мне з тых урокаў пра Купалу хіба вершы "Лён" і "Беларускім партызанам". А вось разгляд баек Крапівы стаў святам смеху. Леанід Мікалаевіч выйшаў за межы праграмы і прачытаў нам баечныя творы Уладзіміра Корбана і Эдуарда Валасевіча. Ён выклікаў радаснае захапленне дасціпным словам. Лепшыя яго ўрокі, па-мойму, былі па творчасці Кузьмы Чорнага. Ён не шкадаваў часу і падрабязна распавядаў нам пра пісьменніка, у тым ліку і пра цімкавіцкі перыяд яго жыцця, пра чорнаўскіх герояў і іх рэальных прататыпаў, зачытваў апісанні Скіп'ёўскага лесу, вялікага скрыжавання, некалькі разоў прамаўляў любімы чорнаўскі афарызм: "Вялікі доктар усялякай хворасці ў чалавечай душы — час — мае вечнага свайго дапаможніка — працу". Па праграме мы праходзілі раман "Трэцяе пакаленне". Шмат гаварылі пра Міхала Тварыцкага, галоўнага героя твора. Гэты чалавек у бруднай, неахайнай вопратцы выклікаў у мяне сорам і разам з тым шкадаванне. У вобразе Тварыцкага я пазнаў нашых вяскоўцаў — у вышмальцаваных целагрэйках, змардаваных цяжкай сялянскай працай.

Лёс падараваў мне яшчэ аднаго настаўніка беларускай літаратуры. У нашу школу Генадзя Іосіфавіча Казака накіравалі на працу пасля заканчэння філфака БДУ. Падаецца, што малады настаўнік з кучаравай чупрынай і ў акулярах з залацістай аправай напачатку пачуваў сябе сярод старшакласнікаў ніякавата, не зусім упэўнена, але ў хуткім часе ён асвойтаўся і з класам у яго быў, як кажуць, поўны кантакт. Ён даведаўся пра мае літаратурныя схільнасці і зацікаўленні і неўзабаве

пачаў прыносіць свае кнігі і часопісы. Так я прачытаў вельмі карысную на той час для сябе кнігу С. Антонава "Я читаю рассказ" (1973), у якой, апрача іншых, была выказана вось гэтая парада для маладых пісьменнікаў: "Очевидно, не следует навязывать насильно героям типичность, а доверять их живому, естественному поведению. Надо глубже изучать природу человека, его индивидуальные черты, особенности, привычки". Я пачаў больш пільна ўзірацца ў людзей, сачыць за іх жэстамі, манерай гаварыць. Настаўнік пастаянна цікавіўся сучасным літаратурным працэсам, па-за яго ўвагай не заставаліся таленавітыя творы беларускіх пісьменнікаў. У пачатку заняткаў Генадзь Іосіфавіч часам гаварыў пра яркія літаратурныя з'явы, найбольш значныя публікацыі сучасных аўтараў. Мне здаецца, што ў першую чаргу ён спяшаў пазнаёміць з новымі творамі менавіта мяне, бо бачыў маю апантанасць роднай літаратурай. І вось я да паўночы чытаю "Пушчу" В. Карамазава, вельмі эмацыянальна рэагую на баладу У Някляева "Дыктант"... У тым, што на рэспубліканскім конкурсе сачыненняў (1979) я заняў другое месца, ёсць вялікая заслуга і Генадзя Іосіфавіча Казака. Гэтаму папярэднічалі яго гутаркі пра культуру мастацкай творчасці. Ён не проста рэдагаваў напісаны мною тэкст, але і шчыра, адкрыта гаварыў пра недахопы, вучыў што не трэба пераймаць літаратурныя штампы, газетна-канцылярскую мову.

З настаўнікаў рускай мовы і літаратуры ў плане філалагічнай падрыхтоўкі найбольш дала мне Соф'я Барысаўна Нусенсон (Пакалевіч). Калісьці яна вучылася ў адным класе з маім старэйшым братам Анатолем, які цяпер, на вялікі жаль, ужо пакінуў зямны свет. У Цімкавіцкай школе яна была лепшай вучаніцай, выдатніцай. Мая мама распавядала, што Толя сядзеў з гэтай разумнай дзяўчынкай не адзін год за адной партай. І раптам яго перасадзілі да вучня, які ў вучобе зорак з неба не хапаў Мой брат дома расплакаўся, з вялікай крыўдай і гаркотай пачаў наракаць, што цяпер будзе вучыцца горш, упрошваў маці пагаварыць з класным кіраўніком, бо хоча сядзець толькі з Соняй. Мне і нашаму класу пашэнціла: сустрэчы з Соф'яй Барысаўнай, вызначаныя школьным раскладам, доўжыліся не адзін год. Бог ёй падараваў выключны талент педагога-славесніка. Кожны яе ўрок мог бы быць адкрытым, бо яна заўсёды выкладала навучальны матэрыял нетрывіяльна, нестандартна. Соф'я Барысаўна ўмела нас разгаварыць, разварушыць нават тады, калі ўжо сітуацыя, здавалася б, была безнадзейнай. Праблемныя пытанні, пастаўленыя ёй, прымушалі думаць, разважаць і спрачацца. Яна імкнулася, каб мы авалодалі культурай мыслення, культурай пачуццяў, займелі ў жыцці трывалыя

маральныя перакананні. І, можа, яна з нямногіх настаўнікаў хто дапамагаў зразумець сваю чалавечую сутнасць, запрашаў задумацца над складанасцю жыццёвых з'яў і выбару ў пэўных абставінах, з вялікім педагагічным тактам раіў-настаўляў, як не страціць уласную годнасць і самапавагу. Слова яе выхоўвала, падказвала, дзе і як шукаць сапраўднае, прыгожае, непадманную мэту і сэнс жыцця. Да ўрокаў Соф'і Барысаўны асабіста я пачынаў рыхтавацца летам: начытваў тэксты і вёў пры гэтым літаратурны дзённік (на вядзенне дзённіка, праўда, надоўга імпэту не хапіла). Вельмі шмат і досыць скрупулёзна з настаўніцай мы працавалі над конкурснымі сачыненнямі. Ёй жадалася, каб у пісьмовай рабоце як мага ярчэй і глыбей выявіліся мае патэнцыяльныя літаратурныя здольнасці. Я ўдзячны ёй за тыя мае творчыя пакуты і пошукі, за ўрокі, на якіх віталася шчырае самавыяўленне, праца душы і думкі.

Алена Мікалаеўна Скрыган, настаўніца рускай мовы і літаратуры, калісьці падаравала незабыўны ўрок-сачыненне паводле карціны А. Саўрасава "Гракі прыляцелі". Аркадзь Аляксандравіч Дземідовіч праводзіў запамінальныя эстэтычныя гутаркі, натхнёны пафас якіх быў скіраваны на чулае ўспрыманне эмацыянальнай інфармацыі, спасціжэнне таямніц прыгожага, адкрыццё музыкі слова ў паэзіі Лермантава, Цютчава...

Больш дзесяці гадоў я атрымліваю лісты ад свайго былога настаўніка Васіля Паўлавіча Лобана, які цяпер жыве ў Капылі. У Цімкавіцкай школе ён выкладаў замежную мову, з вясны 1990 года колькі часу працаваў у музеі Кузьмы Чорнага. Падчас вучобы ў восьмым класе я ўведаў, што Васіль Паўлавіч піша вершы, таму звярнуўся да яго з просьбай даць што-небудзь для школьнай насценгазеты. Настаўнік перш далікатна адмовіў, але неўзабаве перадумаў і ласкава прапанаваў нам некалькі вершаў. Памятаю, што ля таго нумара газеты з творамі Васіля Паўлавіча адразу сабраўся вялікі натоўп. Трэба сказаць, што школьная "насценка" была тады вельмі папулярная, яе з цікавасцю чыталі і вучні, і настаўнікі. Творчая натура з юнацкіх гадоў, Васіль Паўлавіч у сталым веку пачаў пісаць па-беларуску. Сваёй апантанасцю, настойлівасцю, імпэтам ён нагадвае лонданаўскага Марціна Ідэна. Літаратурныя тэксты даводзіць не адзін год, з вялікай стараннасцю, хоць, зразумела, не ўсё ў яго атрымліваецца. Пасля таго, як у "Звяздзе" было надрукавана апавяданне Васіля Паўлавіча "Чужаямілая" (2002. 23 кастр.), ён зноў прызнаўся, што пісанне — патрэба яго душы. Яшчэ ў чэрвені 1990 года, працуючы ў чорнаўскім музеі, Васіль Паўлавіч пытаў у мяне: "А можа, ужо позна пісаць? Але я не магу не пісаць..." У сваіх лістах настаўнік разважае пра пісьменніц-

кую працу, творчасць, дзеліцца радасцямі, сумненнямі, думкамі пра жыццё. Амаль штодня Васіль Паўлавіч дабіраецца з Капыля на працу ў Камсамольскую школу, да якой з райцэнтра больш за дваццаць кіламетраў. Вельмі часта выказвае асабістыя назіранні і ацэнкі, якія тычацца школьнай рэчаіснасці.

Васіль Паўлавіч дапамагаў мне рыхтавацца да экзамену па замежнай мове, калі я наважыўся паступаць на журфак БДУ. Ён, напэўна, прадчуваў будучыню ўчарашняга цімкавіцкага хлапчука са звычайнай вясковай сям'і. Пасля абароны маёй кандыдацкай дысертацыі ён пісаў: "Я верыў у твой поспех тады, як веру цяпер, што ты дойдзеш да доктара навук праз 5-6 год. У цябе ўсё наперадзе, а я сваё ўжо амаль пражыў. Я па-добраму табе зайздрошчу: ты не згубіў свае маладыя зімы і вёсны, як я. А мае 13-14 год былі марна патрачаны..." Ён па-ранейшаму хвалюецца пра лёс адораных вясковых дзяцей, якія выпраўляюцца паступаць у ВНУ: "Добрых вам студэнтаў. А яны ж ідуць са школы. А ці дойдуць да вас з вёскі?" (ліст ад 2.02. 2001 г.).

На выпускной вечарыне я атрымаў пахвальную грамату "за выдатныя поспехі ў вывучэнні беларускай і рускай літаратур". Настаўнікі ўсім нам зычылі поспеху, годнага самасцвярджэння, чалавечага шчасця. Пры паступленні на журфак БДУ пасля атрыманых трох выдатных адзнак мяне напаткала няўдача: я цяжка захварэў. Было крыўдна і балюча, бо вучобай на гэтым факультэце трызніў з дзяцінства, калі друкаваўся ў піянерскіх выданнях і райгазеце. Зімою 1980 года рэдактар "раёнкі" Віктар Адамавіч Семянкевіч запрасіў мяне месяц папрацаваць у газеце. Гэтая своеасаблівая азнаямленчая праца ў асяродку творчых людзей яшчэ больш узмацніла маё жаданне быць журналістам. Штодня я сустракаўся з Іванам Іванавічам Пракарынам, паэтам і кіраўнікам літаб'яднання. Асабліва шмат даў яго крытычны аналіз маіх першых апавяданняў і тыя добрыя парады, як кажуць, прыдаліся. Іван Іванавіч у рэкамендацыі-накіраванні на вучобу адзначаў, што мае лепшыя публікацыі вызначаюцца "добрым літаратурным выкладаннем матэрыялу", выказваў спадзяванне, што ў будучым з мяне "атрымаецца сапраўдны творчы працаўнік". Гэтыя словы акрылялі, дадавалі ўпэўненасці...

Цэлы год я працаваў старшым піянерважатым у Руднянскай васьмігодцы. Улетку 1981 года трапіў працаваць у піянерлагер пры Старыцкай сярэдняй школе. Тут я сустрэўся з настаўнікам гісторыі і маладым літаратарам Анатолем Сідарэвічам, які па-сяброўску параіў паступаць на філалагічны факультэт. Насуперак нечаканай прапанове ехаць вучыцца ў Вышэйшую камсамольскую школу ў Маскву, я

абраў беларускую філалогію, падаў дакументы ў Беларускі дзяржаўны універсітэт.

2.

Філфак БДУ маёй студэнцкай пары — вялікае багацце і разнастайнасць выкладчыцкіх індывідуальнасцяў. Што ні педагог — то непаўторная і запамінальная на ўсё жыццё асоба. У нашу студэнцкую аўдыторыю прыходзілі таленавітыя літаратуразнаўцы і крытыкі, пісьменнікі, мовазнаўцы. Бадай што самы першы нас асабліва ўразіў прафесар Мікалай Андрэевіч Паўленка, які чытаў курс па ўводзінах у мовазнаўства. Той са студэнтаў хто бліскуча адказваў на экзамене, атрымоўваў з яго рук "салодкі прыз" — вялікую цукерку. Хоць і сухой бывае тэорыя, але нам цікава было слухаць лекцыі па ўводзінах у літаратуразнаўства Вячаслава Пятровіча Рагойшы.

Творчых людзей з ліку першакурснікаў абвестка паклікала на пасяджэнне літаб'яднання "Узлёт". З намі сустрэўся паэт і універсітэцкі прафесар Алег Антонавіч Лойка. Неўзабаве ён, робячы літаратурны агляд, адзначыў мастацкія вартасці маіх твораў. Асобныя з вершаў Алег Антонавіч змясціў у газеце "Беларускі універсітэт". У гады студэнцкай вучобы я наладзіў актыўнае супрацоўніцтва з рэспубліканскай перыёдыкай: творы друкаваліся ў "Чырвонай змене", "Сельскай газеце", "Знамени юности", "Работніцы і сялянцы", "Літаратуры і мастацтве" і іншых выданнях. Маё імя на старонках перыёдыкі часта заўважалі нашы выкладчыкі, якія пры нагодзе віншавалі з чарговай публікацыяй. Гэта і Любоў Канстанцінаўна Тарасюк, якая была куратарам нашай студэнцкай групы, і Мікалай Рыгоравіч Прыгодзіч, і Віктар Канстанцінавіч Каратай...

Яўген Міхайлавіч Камароўскі выкладаў сучасную беларускую мову. Нашай групе пашэнціла, бо лектар дацэнт Камароўскі сам праводзіў практычныя заняткі і меў магчымасць добра пазнаёміцца з кожным задоўга да экзаменацыйнай сесіі. Аднаго разу ён прапанаваў напісаць восеньскую замалёўку. Я быў незвычайна ўзрушаны яго пахвалой і высокай ацэнкай: "Алесь! Веру: быць табе пісьменнікам..." На практычных занятках Віктар Каратай, малады тады выкладчык, таксама даў нам творчую працу. Яму спадабаліся мае лірычна-філасофскія абразкі, і ён адзначыў іх добры мастацкі ўзровень.

Маю літаратурна-філалагічную культуру фармавалі лекцыі літаратуразнаўцаў С. Х. Александровіча, А. А. Лойкі, Д. Я. Бугаёва, М. Б. Яфімавай, В. В. Казловай, К. Р. Хромчанкі, Т. І. Шамякінай, Л. К. Тарасюк, В. К. Каратая, П. П. Ткачова, А. А. Станюты, Н. В. Галаўко, Д. Ф. Фёдарава, С. Д. Малюковіч, А. С. Шаўчэнкі, В. М. Цімафеевай, І.

В. Шаблоўскай і інш. Для пісьменніцкага досведу вельмі дарэчы прыйшліся лекцыйны курс і заняткі па культуры мовы Ніны Іванаўны Гілевіч, якая ставілася да мяне вельмі прыхільна. "Алесь, чула, што ў вас здарылася бяда. Трымайцеся. Мужнасці вам!" — так паспачувала яна, калі давялося ісці праз жыццёвыя нягоды. Свабодна і разгорнута выказацца мы мелі магчымасць на практычных занятках Любові Аляксандраўны Ламекі. Вядома, гаварылі пра родную літаратуру. Наша выкладчыца дамагалася ад нас інтэлектуальна-аналітычнага заглыблення ў мастацкі тэкст. Яна нязмушана выклікала да супольнага абдумвання і абмеркавання таго ці іншага пытання. Патрэбна была вялікая цярплівасць, каб выслухаць студэнцкія думкі-разважанні, і педагагічны талент, каб размаўляць з намі на роўных, з павагай і шчырасцю.

Амаль усе мы з хлопцаў-філфакаўцаў былі ў сваіх марах і імкненнях падобныя да коласаўскага Лабановіча. Да настаўніцкай працы нас з прафесійнай кампетэнтнасцю і вялікай душэўнай самааддачай рыхтавалі В. А. Лашкевіч і З. Б. Варановіч.

Аднак усё больш мяне вабабілвала літаратура і навука. І ці не самую важную ролю ў маім студэнцкім і будучым творчым лёсе адыграла тое, што на трэцім курсе я выбраў навуковы спецсемінар Тацяны Іванаўны Шамякінай, якая і зарыентавала мяне на даследаванне праблемы пейзажу ў літаратуры. Займацца ў семінары было надзвычай цікава, Шамякіна скіроўвала нас да першаснай мастацкай свядомасці, да натурфіласофіі і міфалогіі. З навуковым кіраўніком мы дасягнулі пэўнага плёну. Мае даклады на студэннкіх навуковых канферэнцыях заахвочваліся дыпломамі і граматамі. Таццяна Іванаўна часта даравала (і не толькі мне!) цудоўныя пазнавальныя кнігі, асобныя з якіх у той час усеагульнага дэфіцыту набыць было досыць складана. У 1984 годзе яна вылучыла мяне, студэнта-трэцякурсніка, для ўдзелу ва Усесаюзнай навуковай канферэндыі, якая праходзіла ў Сыктыўкары (Рэспубліка Комі) і была прысвечана праблеме ўзаемаадносінаў чалавека і прыроды ў літаратуры. Тое маё выступленне на прадстаўнічым навуковым форуме студэнцкай моладзі было адзначана Ганаровай граматай. Аповесць пра жыццё цяжкіх падлеткаў я паказаў сваёй першай настаўніцы ў навуцы і літаратурнаму крытыку Таццяне Шамякінай, якая пахваліла гэты "твор пра Юрку".

Па-бацькоўску да мяне ставіўся дэкан факультэта Аляксей Арсеньевіч Волк. Ён часта вызваляў мяне ад заняткаў на лішні дзень ці нават два, каб я змог паехаць у свае Цімкавічы да маці, якая жыла адной душой, і дапамог ёй па гаспадарцы. Калі я ажаніўся, то Аляксей Арсеньевіч з чуласцю і спагадай паставіўся да патрэб нашай

маладой студэнцкай сям'і. З жонкай мы памятаем чалавечнасць і дабрыню нашага "бацькі філфака".

Ужо сам лёс, які прывёў у БДУ вучыцца на філолага, прадвызначыў майго самага вялікага і галоўнага настаўніка ў літаратуры — нацыянальную і сусветную класіку. Зрэшты, вучнямі яе знакамітых прадстаўнікоў — і гэта зусім натуральна — назавуць сябе многія пісьменнікі, у тым ліку і тыя, хто адносіцца да маладзейшага літаратурнага пакалення. Не бяруся гаварыць за ўсіх, выкажу толькі ўласнае меркаванне: класічныя творы — гэта не ўзоры для абавязковага пераймання ці калькавання, а той узровень майстэрства, які прымушае задумацца, наколькі ты здольны годна і натуральна тварыць свой мастацкі свет. Раўняцца на літаратурных геніяў варта ў культуры творчасці, але пад кагосьці "касіць" і не мець выразнага індывідуальнага аблічча — азначае быць падгалоскам, імітатарам.

Яшчэ ў старшых класах, чытаючы апавяданні і раманы майго земляка Кузьмы Чорнага, я адчуў, што літаратура — рэч неймаверна цяжкая: гэта ж колькі таленту і ўмення патрэбна, каб зрасціся з думкамі-пачуццямі чалавека, выявіць яго характар, дакладна намаляваць жыццёвую сітуацыю ці стварыць яркі псіхалагічны пейзаж! Не выпадкова маёй настольнай кнігай надоўга стаў восьмы том Збору твораў пісьменніка (1975), у які, акрамя ўсяго, увайшлі артыкулы пра мастацкую творчасць і культуру пісьменніцкага слова: "Рэальнасць, фантазія, вымысел", "Маладыя празаікі", "Небеларуская мова ў беларускай літаратуры", "Замест паштовае скрынкі" і інш. Думкі Чорнага ўнутрана блізкія мне, таму працытую некаторыя з іх: "Біяграфія героя — гэта значыцца рух чалавека, а гэта ўжо само сабою мае на ўвазе рух падзей"; "Сваім героям — тым людзям, якія дзейнічаюць у творы, аўтар павінен стварыць такія сітуацыі, дзе б героі маглі сябе больш выявіць, самі паказаць сябе, без аўтарскіх тлумачэнняў"; "А павінен аўтар глядзець на тое, як ён выказвае, як паказвае. Мова твора павінна быць па-мастацку простаю, жывою — гэтакаю, якою яна жыве, а не прыдумліваецца"; "Мова — жывая істота. Яна жыве, а не існуе. Адным словам можна вельмі шмат выказаць або тым жа самым нічога не сказаць". Гэтыя роздумныя, праніклівыя ўрокі Чорнага заснаваны на ягоным уласным літаратурна-мастацкім досведзе. Лічу, што кожнаму пачаткоўцу, які настойліва бярэцца за пяро, пажадана ўдумліва прачытаць творы Чорнага, а яшчэ неабходна прыслухоўвацца да гэтага Майстра, вучыцца ў яго. Праўда, нехта скажа: маўляў, Кузьма Чорны да нядаўняга часу заставаўся для маладых ледзь не адзіным эталонна-класічным прыкладам псіхалагічнай і філасофскай беларускай прозы, таму трэба

арыентавацца і на іншых творцаў. І тут цяжка не пагадзіцца: каб мець уяўленне пра шматгранны стылёвы і моўна-выяўленчы дыяпазон нашага мастацтва слова, неабходна прайсці ўрокі творчага майстэрства ў многіх. Замежны вопыт тут таксама вельмі дарэчы. Асабіста я знаходжуся ў кантэксце нацыянальна-беларускай літаратурнай школы, не ўяўляю сябе без Максіма Гарэцкага, Цішкі Гартнага, Максіма Зарэцкага, Лукаша Калюгі, Івана Мележа, Васіля Быкава, Івана Пташнікава, Янкі Брыля... Быкаўскі суровы рэалізм, трагедыйны па сваёй сутнасці, дапамог мне знайсці крытычны падыход да рэчаіснасці, таму ў першай палове 80-х гадоў я здолеў напісаць творы на тэмы (жыццё ў школе-інтэрнаце, суіцыд, гвалт над чалавекам і некаторыя іншыя), якія ў савецкі час замоўчваліся ці абміналіся. Яшчэ, па маім перакананні, трэба вучыцца не толькі, скажам, у вядомых празаікаў, але і ў аўтарытэтных даследчыкаў мастацтва слова, крытыкаў, жывапісцаў, архітэктараў... Хіба нічога не падкажуць сэрцу і розуму паэта стылёва-выяўленчыя эксперыменты жывапісца ці арыгінальныя формы архітэктуры? Думаецца, падкажуць: і ў пошуку яркіх, магчыма, новых, вобразных сродкаў мовы, і у плане фарматворчасці.

Літаратурнага настаўніка ў сэнсе пастаяннага дарадцы-апекуна я не сустрэў. Праўда, знайшліся пісьменнікі, якія грунтоўна прачыталі мае творы, падтрымалі на літаратурнай сцежцы, і за гэта ім мая самая шчырая ўдзячнасць. Іхнія імёны пашаноўна жывуць у маім сэрцы: Уладзімір Дамашэвіч, Генрых Далідовіч, Уладзімір Саламаха, Георгій Марчук, Анатоль Казлоў, Барыс Пятровіч... Апраўдаць бы толькі давер, спадзяванні, прыхільныя ацэнкі, выдадзеныя часам авансам. Тонка, пранікліва адчуў мае душэўныя перажыванні Мікола Мішчанчук, які прааналізаваў кнігу прозы "Хроніка смутку" ("Полымя". 2000. № 10). Аповесць "Не памірай, надзея" добра разгледзеў крытык Алесь Карлюкевіч. Так што Алесю Ветаху (пад такім псеўданімам я выступаю як празаік) грэх скардзіцца на няўвагу да празаічнай творчасці.

Яшчэ адна грань творчага самавыяўлення — іпастась літаратурнага крытыка — вымагае сказаць пра такіх духоўных настаўнікаў як Рыгор Бярозкін, Варлен Бечык, Рыгор Семашкевіч. Царства ім нябеснае! З удзячнасцю думаю пра гэтых людзей, хто самазабыўна любіў паэзію, дэманстраваў выдатныя ўзоры эстэтычнага аналізу, трымаўся ў сваёй літаратурнай дзейнасці аб'ектыўнасці і прынцыповасці, сумленнасці і праўдзівасці. Налэўна, нічога я не быў бы варты без Алега Лойкі, які на самым пачатку перабудовы запрасіў мяне, вясковага сына, вучыцца ў аспірантуру. Планка ягоных патрабаванняў як

пісьменніка і даследчыка паэзіі была вельмі высокай, і гэта змушала працаваць старанна і адказна.

Ёсць і іншыя настаўнікі ў літаратуры. Гэта, як бы трывіяльна ні гучала, само жыццё, Бог, душа, сумленне. Жыццё вучыць і выпрабоўвае, Бог дае творчае натхненне, душа намаўляе і падказвае, сумленне не дае спаўзці ў маральную дрыгву.

У сённяшніх рэальна-жыццёвых варунках мяне як літаратара вучаць і дрэнныя прыклады з пісьменніцкага жыцця, тыя людзі, хто вышэй за ўсё ставіць уласнае ego, карыслівыя выгоды, не можа стрымаць у сабе злыя інстынкты, агрэсіўныя намеры. Гэткія гора-настаўнікі, хоць і выклікаюць антыпатыю, тым не менш даюць павучальныя ўрокі: ты не забываеш, што ёсць на свеце чалавечая подласць, ліхадзейства, чорная зайздрасць, і тым самым намагаешся ўмацаваць маральны імунітэт, засцерагчыся ад магчымых правакацый і наступстваў якія могуць азмрочыць жыццё. Вядома, пачынаеш ставіцца з насцярожанасцю ł недаверам да тваіх нібыта дабрадзеяў

Пашана і ўдзячнасць тым, хто сумленна, з любоўю і даверам глядзіць у вочы моладзі, хто годна нясе па жыцці званне Настаўніка і Чалавека.

*1996, 2000, 2003*

## Іх цуд згаснуць духу не дае..

Пісьменнікі і шахматы... Што нам наогул вядома на гэтую тэму? Прыхільнікі даўняй гульні, напэўна, у першую чаргу назавуць Льва Талстога і Івана Тургенева — пастаянных супернікаў за шахматнай дошкай. Камусьці адразу прыйдзе на ўспамін "Шахматная навела" Штэфана Цвэйга, класічны шэдэўр "Абарона Лужына" Уладзіміра Набокава ці "Драўляная каралева" Леаніда Лявонава.

Сусветная мастацкая літаратура пра шахматы мае даўнюю і багатую традыцыю. Найбольш дасведчаныя згадаюць пра хваласпевы паэтаў Усходу Амара Хаяма, Фірдаўсі, Нізамі, Саадзі, а таксама назавуць імёны "тытанаў Адраджэння" Дантэ і Рабле, Бакачча і Шэкспіра, якія ў сваіх творах неаднойчы запынялі позірк на шахматных фігурах і самой гульні. А як тут не прыпомніць шахматны паядынак паміж рыцарам Дон Кіхотам і яго збраяносцам Санча Пансам! (раман Сервантэса "Дон Кіхот"). Згадайма яшчэ: пра сэнс шахмат і звязаную з імі інтэлектуальную барацьбу разважалі шматлікія філосафы і пісьменнікі, а сярод іх Гётэ, Шылер... Некалькі стагоддзяў таму польскі аўтар Ян Каханоўскі стварыў паэму "Шахматы" (1564), нямецкі пісьменнік Вільгельм Гейнзэ ў 1803 годзе надрукаваў раман у лістах "Анастасія і шахматная гульня". У XX стагоддзі іспанскі празаік Мігель дэ Унамуна, адзін з заснавальнікаў экзістэнцыялізму, напісаў "Навелу пра дона Сандальё, гульца ў шахматы", французскі пісьменнік Каміл Бурнікель прысвяціў шахматнай гульні раман "Тэмп". Вобразы славутых шахматыстаў увасоблены ў мастацка-біяграфічнай прозе... Словам, сусветны "шахматны фон" проста ўражвае і скіроўвае нас да нацыянальнай літаратуры, міжволі падштурхоўвае зацікавіцца: а што мы маем з мастацтва слова пра шахматы? якую ролю займала і адыгрывае сёння гэтая гульня ў жыцці ды творчасці беларускіх пісьменнікаў?

У анкетах, інтэрв'ю, аўтабіяграфіях нашы "служкі музаў" найчасцей прызнаюцца, што іх любімы занятак — гэта чытаць, марыць, думаць, гуляць па лесе ці збіраць грыбы. Колькі літаратараў маюць за хобі пчалярства, сёй-той бярэцца ў вольную хвіліну за які-небудзь сталярны інструмент. А вось пра захапленне шахматамі давялося найперш пачуць у прыватных гутарках непасрэдна ад саміх аматараў старажытнай гульні або ад тых, хто распавядаў мне пра пісьменніцкія паядынкі за светла-цёмнай шматклетачнай дошкай.

Вывучэнне шахматнай тэмы змушае нас перанесціся аж у XIX стагоддзе, да часоў Адама Міцкевіча і Яна Чачота, калі ў Віленскім універсітэце таленавітая моладзь згуртавалася ў Таварыства філаматаў

(сяброў навук). За шахматныя фігуры браліся ў шляхецкім, арыстакратычным асяродку. Пра гэта сведчыць верш Адама Міцкевіча "Да М***", напісаны ў 1823 годзе і прысвечаны каханай паэта Марылі Верашчацы:

У шахматы гуляючы без спешкі,
Заўважыш ты ў канцы: "Апошнім разам
На дошцы гэтак жа стаялі пешкі,
Калі вось так я з ім гуляла разам".

*(Пераклад Кастуся Цвіркі)*

Паэт і рэвалюцыянер Тамаш Зан у лісце да свайго сябра-філарэта Ануфрыя Петрашкевіча ад 23 жніўня (4 верасня) 1820 года распавядаў пра наведванне Туганавічаў, родавага маёнтка Верашчакаў, дзе ён бавіў час з Адамам Міцкевічам і Марыляй Верашчакай. Вось што піша, у прыватнасці, Зан пра сустрэчу, якая падаравала радасць і цудоўны адпачынак: "У Шчорсах тры дні правёў з Францішкам, у Туганавічах не толькі з Адамам, але і папраўдзе высакароднымі і прамяністымі Верашчакамі, з прамяністай і самай добрай Марыяй, якую сам Адам вельмі любіць, з якой пан Тамаш вывучыў і спяваў некалькі песень Нямцэвіча, з якой у шахматы гуляў, выйграваў і прайграваў, якой паслаў прамяністыя правілы, якая і добрая, і прыгожая, і прыемная, якая варта быць жонкай канцлера". Трэба нагадаць, што менавіта Тамаш Зан пазнаёміў Адама Міцкевіча з Марыляй, паміж якімі нарадзілася шчырае сяброўства і вялікае каханне. Гульня ў шахматы давала магчымасць нязмушана гутарыць, жартаваць, поўніла маладыя сэрцы шчасцем душэўнага яднання.

У Беларусі старажытная гульня зрабілася папулярнай і па-сапраўднаму дэмакратычнай у ХХ стагоддзі. Так, у 1903 годзе ў Мінску быў арганізаваны шахматны гурток, а на наступны год адбыўся шахматны турнір. Нечуваны "шахматны ўздым" перажывала тагачасная савецкая краіна: адчыняліся шматлікія аматарскія клубы і спартыўныя секцыі (згадайма хаця б створаную пародыю на "шахматны бум" у рамане І. Ільфа і Я. Пятрова "Дванаццаць крэслаў"). Правядзенне чэмпіянатаў свету і бліскучыя перамогі на іх Эмануіла Ласкера, Хасэ Рауля Капабланкі, Аляксандра Алёхіна спрыялі інтэрнацыяналізацыі шахматнай гульні — яе незвычайнаму пашырэнню ў розных краінах, сярод розных слаёў насельніцтва.

Янка Купала прыкіпеў да шахмат на ўсё жыццё, яго захапленне перарасло ў патрэбу душы. Супрацоўнік Дзяржаўнага Літаратурнага музея імя Янкі Купалы Ф. Ваданосава выказвае наступнае меркаванне: "...Паэт прызвычаіўся да гэтай гульні, магчыма, у юнацтве ці ў маладосці — у Вільні, Маскве ці Пецярбургу". У 20-я гады ён гуляў як

вопытны шахматыст-практык, быў даволі моцным супернікам. На гэты конт ёсць сведчанне Якуба Коласа ў лісцё, дасланым жонцы з Кіславодска ў 1926 годзе: "Вольныя мінуты часта запаўняюцца шахматамі. Але Янка Купала абыгрывае мяне".

Там, у Кіславодску, падчас адпачынку Купалы ў 1928 годзе з ім падахвоціўся гуляць у шахматы лекар Яўген Калітоўскі, які пазней стаў вядомым вучоным у галіне фізіятэрапіі. Былы знаёмец паэта ў сваіх успамінах адзначаў што Купалу не трэба было пазычаць у шахматных баталіях спрактыкаванасці і інтэлекту:

*"Быў Янка Купала частым госцем у мяне дома. Ён вельмі любіў гуляць у шахматы. Бывала, я сяджу пасля работы, адпачываю, і тут з'яўляецца Іван Дамінікавіч. Толькі распранецца і адразу:*

*— Давайце ў конікі згуляем!*

*Падыходзілі мае знаёмыя аматары-шахматысты. Але рэдка нам удавалася перамагчы Купалу. Заўсёды з выглядам пераможцы ён развітваўся і ішоў у санаторый..."*

Уступаў Купала ў паядынкі і з шахматыстамі-прафесіяналамі, і, па словах таго ж Я. Калітоўскага, часта перамагаў сваіх супернікаў. Вядома, ён быў прыхільнікам імправізацыі ў шахматнай гульні, яму дапамагаў прыроджаны розум, аналітычная глыбіня мыслення. З удзячнасцю паэт надпісаў "вельмі паважанаму і даражэнькаму Я. Ф. Калітоўскаму" зборнік вершаў. Свой чарговы адпачынак паэт не ўяўляў без шахматных турніраў, таму ў адным з лістоў да лекара Калітоўскага ў 1930 годзе на развітанне напісаў: "Чакаючы, што хутка пабачымся і "сразімся" ў конікі..."

Дома Янка Купала гуляў у шахматы з гасцямі і сябрамі-пісьменнікамі, найчасцей з Якубам Коласам. Адбываліся паядынкі за антыкварным шахматным столікам — з чырвонага дрэва, на выгнутай разной ножцы-падстаўцы. Шахматныя фігуры былі адлітыя з бронзы (чорнага і жоўтага колеру). Паэт меў столік для любімай гульні таксама на дачы ў Ляўках. Тут шахматныя баталіі не аціхалі. Купалава апантанасць шахматамі была заўважана рабочымі з Копыскай мэблевай фабрыкі, якія ў 1936 годзе вырабілі і падаравалі паэту шахматны столік разам з прыгожымі драўлянымі фігурамі.

Ведаў толк у шахматах і Якуб Колас. Найчасцей у даваенны час яго партнёрам у старажытнай гульні быў Янка Купала. Сустракаліся, каб сесці за шахматы, то ў доме Коласа, то на кватэры Купалы. Захаваўся фотаздымак 30-х гадоў, на якім два народныя паэты вядуць шахматны паядынак (значна пазней, у 1945 годзе, на аснове гэтага здымка мастак Зянон Паўлоўскі намаляваў жывапіснае палатно "Янка Купала і Якуб Колас гуляюць у шахматы"). Гулялі паэты засяроджана,

абдумваючы кожны ход. Супернікі яны былі дастойныя, мелі немалую практыку і дасведчанасць у гэтай цікавай гульні. Купала ў добрым настроі часам пачынаў спяваць. Купалаў сябра маскоўскі мастак Канстанцін Елісееў згадваў:

*"Вось прыкладнае апісанне тыповай, звычайнай сустрэчы двух старых сяброў — Янкі Купалы і Якуба Коласа. Месца дзеяння — Мінск, кватэра Янкі Купалы. Купала ў той час пісаў паэму "Над ракой Арэсай" і быў асабліва "ў форме". За самаварам сядзяць: Янка Купала, Уладзіслава Францаўна і я. Уваходзіць Якуб Колас, садзіцца да стала і гаворыць некалькі слоў аб сустрэчах за дзень, аб выдавецкіх справах і іншым... Янка маўчыць і толькі зрэдку кідае адно ці два словы. Усё сказана. Садзяцца за шахматны столік, і пачынаецца доўгая і ўпартая барацьба. Дарэчы, Купала вельмі добра гуляў у шахматы: у яго заўсёды быў у запасе моцны і вельмі хітры, добра обдуманы ход... Калі гульня канчалася, ужо было позна, і акуратны Колас спяшаўся дахаты. За ўвесь вечар было сказана паўтара дзесятка слоў, але абодва адчувалі неабходнасць гэтай сустрэчы".*

У пасляваенны час Якуб Колас да шахмат ужо больш не падступаўся: давалі знаць гады, пагоршылася самаадчуванне. Пра шахматы хіба што заходзіла гаворка з Максімам Лужаніным, які таксама разбіраўся ў старажытнай гульні і меў да яе ахвоту ў маладыя гады. На просьбу сына-студэнта Міхася згуляць шахматную партыю Канстанцін Міхайлавіч адмовіўся: "Ведаеш, сынок, галава баліць..." Ведаючы і памятаючы пра колішняе бацькава захапленне, дзеці на 70-годдзе з дня нараджэння зрабілі яму сімвалічны падарунак — шахматы.

Заядлым шахматыстам быў паэт Кандрат Крапіва. У Акадэміі навук Беларусі ён, загадчык сектара мовазнаўства, а пазней і дырэктар Інстытута мовазнаўства, віцэ-прэзідэнт Акадэміі, славіўся як "шахматны кароль". Гуляў Кандрат Крапіва ўдумліва, няспешна, пралічваў кожную шахматную камбінацыю. Яго партнёрамі за шахматнай дошкай былі мовазнаўцы Мікалай Бірыла, Міхась Суднік, Аляксандр Падлужны, пісьменнік Мікола Лобан, акадэмік Яўмен Канавалаў... На пачатку 50-х гадоў у Інстытуце мовазнаўства пачаў працаваць Анатоль Аксамітаў будучы вядомы даследчык мовы, доктар філалагічных навук. Ён ужо меў добрую шахматную вывучку, быў кандыдатам у майстры, выступаў на рэспубліканскіх спаборніцтвах. І вось яму выпала гуляць у інстытуце з самім жывым класікам Кандратам Крапівой. Малады хлопец не спасаваў, неўзабаве разгарнуў на шахматным полі смелую атаку, і... мэтр літаратуры сур'ёзна задумаўся. Міхась Суднік, які добра ведаў пра тое, што "зялёны навуковец" можа пройгрышам выбіць з рабочай каляіны дырэктара інстытута, сапса-

ваць яму настрой, пачаў рабіць Аксамітаву даволі пэўныя намёкі, а потым не вытрымаў і сказаў:

-Толя, хадзем выйдзем, я табе нешта скажу.

Калі выйшлі, то Міхась Суднік засвідраваў маладога калегу запытальным паглядам:

-Што ты з намі робіш?

-А што ж мне рабіць?

-Рабіць хады, як трэба. Зразумеў?

Нічога не заставалася Анатолю Аксамітаву, як згуляць "у паддаўкі". Праз хвілін дзесяць пазіцыя на шахматнай дошцы памянялася на карысць Крапівы і той задаволена пацёр рукі:

-Нарэшце.

Шахматная стыхія творчасці была вельмі блізкай і зразумелай Аркадзю Куляшову. Гэтая гульня найбольш адпавядала яго інтэлектуальна-філасофскаму складу мыслення. Дачка паэта Валянціна Куляшова ў кнізе "Лясному рэху праўду раскажу..." (1989) згадвае, што бацька быў на сутнасці ў "шахматным палоне":

*"Шахматы бацька вельмі любіў. Нават я памятаю, што перад вайной ён часам з-за іх вяртаўся дадому раніцой.*

*Гэтая гульня, мне думаецца, была для бацькі адначасова адпачынкам і гімнастыкай мозгу. Гуляючы ў шахматы, бацька заўсёды знаходзіўсяў добрым гуморы, жартаваў і балбатаў".*

Калі Аркадзь Куляшоў прыходзіў у першыя пасляваенныя гады ў Саюз пісьменнікаў, то распачыналіся шахматныя баталіі і міжволі напалялася сама атмасфера. Барацьба інтэлектаў спараджала займальнасць, азарт, усіх апаноўвала цікавасць да гульні. Пра той час згадваў паэт Аляксей Русецкі:

*"Звычайна ў канцы рабочага дня ў Саюз наведваўся Куляшоў, каб з кім-небудзь згуляць у шахматы. Найчасцей партнёрам быў Павел Кавалёў, тагачасны адказны сакратар Саюза. Іх абступалі "балельшчыкі". Сваіх партнёраў Куляшоў часта азадачваў чарговым ходам. Яны надоўга задумваліся. А ён не проста браў фігуру праціўніка, а жартаўлівым жэстам падсякаў яе рукой з прымаўкай: "Цап-лап"... "*

Аркадзь Куляшоў быў нядрэнна "падкаваны" ў шахматнай тэорыі, меў свой стыль гульні. У 50-я гады ён нават дасягнуў поспеху на рэспубліканскім турніры па шахматах: заняў другое месца і атрымаў за гэта прыз — паляўнічую стрэльбу. Па словах паэтавай дачкі, усё жыццё Куляшоў сябраваў і таварышаваў з шахматыстамі: *"Наш дом часта наведваў майстар спорту па шахматах Павел Верасаў, добры шахматыст Яўмен Рыгоравіч Канавалаў, акадэмік і вучань Кацярыны Фамінічны Ратабыльскай (маці А. Куляшова. — А. Б.), як*

*потым высветлілася. А з 1969 года бацька гуляў у шахматы пераважна з суседам, тады студэнтам кансерваторыі Расціславам Бузуком".* Шахматныя столікі прыцягвалі Куляшова і падчас адпачынку ў санаторыях на Нарачы і ў Нясвіжы. Пра адну такую нечаканую партыю распавядае Валянціна Аркадзьеўна:

*"Неяк у санаторыі "Нясвіж", калі, напрацаваўшыся, бацька выйшаў пагуляць у шахматы, да яго ў папарнікі трапіў Аляксандр Данілавіч Раманаў, журналіст, чалавек значна маладзейшы за бацьку.*

*Бацька яго не ведаў. Пачалася гульня: зусім неспадзявана для бацькі гуляў той у шахматы вельмі добра. Спецыялісты сцвярджалі, што на ўзроўні кандыдата ў майстры спорту, калі не вышэй; яго абыгралі. Уражаны, бацька толькі зараз прыгледзеўся да свайго партнёра. Дзёрзкі малады чалавек меў жвавы, рухавы твар:*

*- Адкуль ты, такі шустры? — спытаўся ў яго бацька.*

*- Адтуль, адкуль і вы, Аркадзь Аляксандравіч, — прагучаў адказ. — З тых самых Саматэвічаў!"*

Вось так адбылася адмысловая сустрэча: вядомага беларускага паэта з журналістам-земляком. Шахматныя паядынкі збліжалі Куляшова з цікавымі людзьмі розных прафесій і рознага ўзросту, прыносілі яму душэўную радасць і задавальненне.

Шахматы мелі вялікі поспех у пісьменніцкім асяродку. Своеасаблівымі "шахматнымі астраўкамі" сталі рэдакцыі асобных літаратурных часопісаў, а таксама Інстытут літараіуры імя Янкі Купалы.

У другой палове 70-х — 80-я гады "шахматнае жыццё" бруіла ў рэдакцыі часопіса "Маладосць". Гэтая гульня сталася, па словах празаіка Васіля Гігевіча, "вольніцай духу". Тут, у "Маладосці", панавала лёгкая, нязмушаная атмасфера: чуліся жарты і вясёлы смех. За шахматамі часта цякла гаворка пра жыццё, пісьменнікі абменьваліся ўражаннямі пра прачытаныя творы, абмяркоўвалі падзеі. Шахматная гульня была своеасаблівай псіхалагічнай разрыўкай, сродкам рэлаксацыі: кудысьці знікалі панылась, змрочныя думкі. Аднак часам закіпалі страсці, адбываўся ўсплёск эмоцый. Асабліва бурліў, калі прайграваў, Леанід Дайнека, даволі моцны шахматыст. Шахматныя схваткі дасягалі свайго апагею паміж Дайнекам і Гігевічам, але вырашаліся яны ў цэлым мірна, без скандалаў, хаця і не без спрэчак. Што ж, шахматы выпрабоўваюць чалавечы характар. Празаік Уладзімір Дамашэвіч гуляў рэдка, але любіў падказаць, як зрабіць найлепшы ход. Лабірынты шахматнай гульні зачаравалі паэта Васіля Зуёнка, які быў галоўным рэдактарам часопіса "Бярозка" і прыходзіў у рэдакцыю "Маладосці", каб правесці напружаны, а то і востры "шахматны дыялог". Яго захапляў найперш працэс творчага думання, ён імкнуўся да

цікавага шахматнага сюжэтабудавання, каб гульня захапляла, здзіўляла сваімі нечаканымі паваротамі і зігзагамі. Калі на дошцы складвалася складаная сітуацыя, Васіль Васільевіч рабіў эмацыянальныя каментары. Далучаліся да маладосцеўскай "шахматнай школы" і аўтары часопіса. Так, частым госцем у рэдакцыі быў паэт Васіль Жуковіч, якога перамагчы было вельмі няпроста.

Пачынаючы з 60-х гадоў сапраўдны "шахматны рух" разгарнуўся ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купапы Акадэміі навук Беларусі. А ў 70-я — на пачатку 80-х гадоў тут праходзілі нават "мясцовыя алімпіяды" — інстытуцкія шахматныя турніры, у якіх удзельнічапа да 15 чалавек. Прыходзілі гуляць да літаратараў і з іншых акадэмічных інстытутаў. Надаралася, што кабінет дырэктара інстытута Васіля Барысенкі пераўтвараўся ў "шахмагны клуб". Асабліва заўзята і з азартам гуляў крытык Дзмітрый Бугаёў, за шахматнай дошкай за "пальму першынства" ён заўсёды змагаўся актыўна, упэўнена і напорыста. Шахматныя паядынкі ў інстытуце вялі літаратуразнаўцы і крытыкі Мікола Луферaў, Міхась Ярош, Кузьма Хромчанка, пазней Сцяпан Лаўшук, Анатоль Верабей і іншыя. Добра абазнаны ў лабараторыі шахматыста быў крытык Варлен Бечык. Калегі падахвочвалі да гульні і Віктара Каваленку: падаравалі яму шахматы, уключалі ў інстытуцкія турніры. Па сведчанні відавочцаў, часам напал паядынку паміж партнёрамі выходзіў за прынятыя межы і ператвараўся ў "шахматную дуэль": асобныя гарачлівыя хлопцы хапаліся нават за дошкі. Што ж, не без гэтага, бо, як вядома, пісьменнікі ў цэлым — народ эмацыянальны і рэагуюць яны на пэўную сітуацыю адпаведна. Пра шахматныя страсці тагачаснага інстытута распавёў Сцяпан Лаўшук:

"У інстытуце быў па сутнасці культ шахмат. Гульня, вобразна кажучы, "раскручвала мазгі", была выдатным трэнінгам. Сапраўды, помняцца многія цікавыя партыі, у тым ліку і нестандартныя сітуацыі, звязаныя з шахматнымі баталіямі. Нікуды не падзенешся: працэс гульні часам наэлектрызоўвае, сур'ёзна выпрабоўвае нервовую сістэму.

Варлен Бечык быў моцны партнёр, цікавіўся шахматнай тэорыяй, валодаў сваімі сакрэтамі гульні. Дык вось у інстытуце неяк мы згулялі вельмі няпростую партыю. Перамога была за мной. Ідучы з інстытута, Варлен усё не мог даць веры, што прайграў. Ён напрасіўся ўзяць рэванш — і мы працягвалі гуляць у інтэрнаце, дзе я жыў на той час. Бечык сур'ёзна займаўся шахматамі, ён быў аналітыкам, а я ўсяго рамантык.

Часта завітваў да нас фалькларыст Іван Цішчанка. У апошні час ён быў апантаным шахматыстам. Калі садзіўся гуляць — спяваў. Ледзь не штодня прыходзіў у інстытут. Вельмі любіў выйграваць, часам, здавалася, гуляў, як спявае, на адным дыханні".

У беларускай літаратуры 60-х гадоў з'явіліся творы, у якіх адлюстравана гульня ў шахматы. Пісьменнік Іван Пташнікаў у апавяданні "Прахадная пешка" (1962) адразу зацягвае чытача ў атмасферу паядынку паміж героямі:

*"— Бяру каралеву!*

*— А гэтага не хочаш? Шах!*

*— Ракіровачка-а!.."*

Вядуць шахматныя баталіі ў калгаснай канцылярыі старшыня праўлення гаспадаркі Бадзюля і бухгалтар Картуль. А прывёз у вёску шахматы і навучыў гуляць упаўнаважаны з раёна Чарнавец. Перад намі паўстаюць супярэчлівыя характары, якія пісьменнік яскрава раскрывае праз гульню ў шахматы. Бадзюля добра ведае, як дзейнічаць "фігуркамі і конікамі" ў пэўнай сітуацыі, асабліва тады, калі трэба дагадзіць раённаму начальніку, каб пасля яго "ніхто не крануў і пальцам":

*"Казалі, што дома Бадзюля рэзаў Чарнаўца ў шахматы напавал, але ніхто ніколі не бачыў каб ён абыграў яго ў канцылярыі. Калі хто хацеў "зрэзацца " з Чарнаўцом, Бадзюля даваў таму "мат за тры хады " і распінаўся:*

*— А Панцялеевіч, — так зваў Чарнаўца, — ганяе мяне, што лісу па пасецы. А ты да яго рвешся. Ты, брат, мяне спачатку пакладзі, а тады ўжо мецься, куды, можа, твой нос не дарос. Не, ты спачатку мяне пакладзі на лапаткі, як на чэмпіянаце, так сказаць, выйдзі ў паўфінал, а тады ў фінал, а пасля ўжо садзіся за адзін стол з Панцялеевічам... "*

Бадзюля прыстасоўваецца і крывадушнічае дзеля ўласнай выгоды. У той жа час з Картулём ён гуляе, каб застрашыць таго і даць яму адчуць сілу сваёй улады і перавагі: *"...Ага! Ты так? А я туру — сюды. А ты так?.. А я пешачку крану. Коней ты маіх паеў чэсна, я не падазраваў. Ага! Вось ты, Картулёк, куды... Ага! Пешачку прахадную навастрыў... Гэта козыр — нічога не скажаш. Толькі не выйдзе. Я яе — пад корань. А без прахадной пешачкі ты, хлопчык, лапкі ўверх, як мыш. Шах! Падумай".* Гульня паміж партнёрамі набывае адмысловае псіхалагічнае напаўненне, аўтар твора ўрэшце выводзіць нас да разумення, хто ёсць хто на самай справе. Бадзюля стаў своеасаблівай "прахадной пешкай", бо ён гаспадар становішча ў калгасе, "кароль" хітрай гульні, якую арганізуе на свой лад, па сваіх правілах. Аднак,

хутчэй за ўсё, як кіраўнік гаспадаркі Бадзюля атрымае "шах" і "мат", бо пазбавіўся ўплывовай падтрымкі і яго чакае "камісія з вобласці".

Шахматная тэма знайшла яркі адбітак у класічнай аповесці Уладзіміра Караткевіча "Ладдзя Роспачы" (1968). Наконт таго, ці гуляў знакаміты пісьменнік у шахматы, дакладна невядома. Але ў тым, што ён добра ведаў правілы старажытнай гульні, — сумневу няма. Найбольш значныя і яркія старонкі Караткевічавай аповесці — шахматны паядынак Гервасія Выліваха са Смерцю. Выклік "найвялікшай уладаркі сусвету" ён прымае мужна і годна, нягледзячы на тое, што стаўка самая высокая — яго жыццё, і прадчувае, што "нікому, ніколі не ўдасца выйграцьу гэтай... халоднай істоты". Вось як малюе пісьменнік няроўную барацьбу беларуса з Рагачова і Смерці:

*"...Латнікі ягоныя ішлі наперад і гінулі адзін за адным. Правы фланг касцянога белага войска прагінаўся пад несамавітым напорам чорных так няўхільна, як няўхільна ўлазяць у багну калені чалавека, што ўзняў непасільны цяжар.*

*З мужнасцю роспачы візір Выпівахі кінуўся наперад, збіў варожага латніка, што выходзіў на лінію "Візіраў трон", скінуў баявога слана і адразу замітусіўся між дзвюма ладдзямі Смерці. Гуляй-гарады на спінах ладдзей драпежна выскалялі свае зубцы.*

*Візір збіў яшчэ аднаго латніка і налажыў галавою, аточаны чорным войскам.*

*І тады рука Смерці працягнулася і зняла з галавы караля карону.*

*-Аман, — сказала яна.*

*— Я магу ганарыцца, — сказаў Выліваха. — Не кожны грае са Смерцю.*

*-Ты нядрэнна біўся. Глядзі, амаль гадзіна. На іншых дастаткова і дзесяцёх хвілін.*

*-Нічога дзіўнага. Гэта была самая хвалюючая партыя ў маім жыцці... "*

Здавалася б, усё ўжо скончылася для гэтага смелага бунтара і вялікага жыццялюба. Аднак Смерць працягвае выпрабоўваць Гервасія. Кашчавая прапаноўвае згуляць у шахматы на кветку шыпшыны, але беларус Выліваха не пагаджаецца, бо гэтая кветка — сімвал яго роднай зямлі. Адмаўляецца ён весці паядынак, калі ставіцца на кон жыццё маладзенькай дзяўчыны Бярозкі. І ўсё ж Смерць правакуе на новую партыю — і герой не ўхіляецца ад чарговай сутычкі, як сапраўдны рыцар кідаецца бараніць чалавечую годнасць, выратоўвае жыццё сабе і іншым. За шахматнай дошкай ён ушчэнт разбівае войска Смерці:

*"...Кароль Смерці адступіў, адкрыўшы візіра за сваёй спіною, кінуўшы яго ў бядзе.*

*-На, — грукнуў па ім Выліхваха, не даючы апамятацца. — Два шчыты перад адным мячом. Выбірай. Каню — слана або майму візіру — другую ладдзю, што была ў Смерці.*

*Людзі войкнулі. На дошцы літаральна за нейкую хвіліну ўсё змянілася. У сталёвым страі нападу зеўралі цяпер страшэнныя праломы. Войска Смерці сплывала крывёю. І, аднак, без абедзвюх ладдзей, без візіра і слана яна ўсё адно была мацнейшай за кожнага іграка на зямлі. <... >*

*-Мат! — сказаў ён.*

*Смерць сядзела моўчкі. Потым узняла вачніцы.*

*-Нечакана, — сказала яна, не расціскаючы зубоў. — З самай той хвіліны, калі я зяўнула ладдзю.*

*- Ты зяўнула яе раней, — сказаў Выліваха. — Яшчэ на моры.*

*-Перамог... Што ж, мяне суцяшае тое, што гэта апошняя твая перамога. Што ты — першы, але ты і апошні.*

*-І тое праўда, — сказаў Гервасій і ўстаў. — Хаця?.. Хто ведае... Цяперака пайшлі так-кія дзеці. І потым чаго мне шкадаваць, калі я змог немагчымае, калі я знікну пераможцаю? "*

Перамога героя ў змаганні са Смерцю духоўная, маральная. Унутраную моц, мудрасць і ўпэўненасць яму дадалі думкі пра родную зямлю, яе няўдзячны лёс. Гервасій Выліваха пачынае востра ўсведамляць, што неабходна здзейсніць нечаканае, разарваць кола несправядлівай наканаванасці, зрабіць сумленны і рашучы выбар, калі бацькоўскі край апынуўся перад пагрозай духоўнага і гістарычнага забыцця.

Пісьменнікі, якія працуюць у жанры навукова-фантастычнай прозы і адначасова з'яўляюцца заўзятымі шахматыстамі, можа, як ніхто іншы, добра ўсведамляюць, што свет шахматных фігур — складаны і таямнічы, і адкрыць яго можна толькі ў працэсе аналітычнага пазнання, скарыстоўваючы магчымасці мадэлюючага тыпу мыслення. Беларускі празаік-фантаст Уладзімір Шыцік у шахматах ведаў цану раскаванасці і смеласці думкі, у сваіх кнігах пра незвычайнае і неверагоднае "Зорны камень", "Парсекі за кармой", "У час не вярнуліся", "Трансплутонавыя афеліі", "Камандзіроўка ў сваім горадзе" і іншых ён таксама стварыў яркія мастацкія мадэлі, пры гэтым разняволена пераносіцца ў часе і прасторы. Ён адзначаў, што "патрабаванні да сучаснай фантастыкі — літаратурны і навуковы ўзровень, псіхалагічнасць, вобразнасць — сталі больш жорсткія..." Шахматы дапамагалі Шыціку-пісьменніку спалучыць у творчасці палёт фантазіі і навуко-

вую логіку мыслення. Пра шматбаковасць яго зацікаўленняў пісаў М. Ваданосаў у артыкуле "Яшчэ не апошняя арбіта..." (1972): "Там, дзе Шыцік, там цікава, у яго заўсёды безліч навін найшырэйшага дыяпазону, ад вынікаў шахматных баталій — ён сам кандыдат у майстры — да літаратурных і тэхнічных навінак..."

Калі я папытаў у крытыка Яўгена Лецкі, ці гуляе ён у шахматы, то той адрэагаваў так: "У пэўны момант я зразумеў: або шахматы або смерць. Вядома, гэта жартоўнае перабольшанне. Бацька мой некалі гэтай гульнёй захапляўся, ды і я браўся за фігуры. Але ёсць сярод сучасных літаратараў сапраўды моцны шахматыст гэта Іван Клімянкоў". Ад галоўнага рэдактара часопіса "Роднае слова" Міхася Шавыркіна, які вучыўся ў адзін час з Клімянковым на філфаку БДУ, уведаў што гэты пісьменнік у шахматах, вобразна кажучы, "мацак", калісьці быў здатны весці гульню нават з зачыненымі вачыма. У дзяцінстве Івана здзівіла тое, як ходзяць шахматныя фігуркі. З дзевяці гадоў ён ужо гуляў у шахматы, а ў шаснаццацігадовым узросце сур'ёзна зацікавіўся тэорыяй. З тага часу шахматы і літаратура пра гэтую гульню заўсёды знаходзяцца на яго стале. Вось што сказаў сам празаік, аўтар кнігі "Сеанс гіпнозу" (1987) у невялічкім маналогу пра шахматы:

*"Кожная партыя для мяне — твор мастацтва, бо яна дае магчымасць наблізіцца да ідэальнага, як у іспанскай партыі ці ферзевым гамбіце — выбіраеш адзіны, найбольш прымальны варыянт, адкідваючы пры гэтым іншыя, пабочныя і другасныя. У шахматах ёсць свая непаўторнасць, штосьці неверагодна-таямнічае. Інтуітыўна ў памяці трымаеш усю партыю, каб зрабіць чарговы сюжэтны паварот. Гэтак, як і ў літаратурнай творчасці. Бела-чорнае поле — поле бітвы — здаецца, усяго гульня. Аднак яна вымагае глыбіннай працы інтэлекту і вялікіх псіхічных высілкаў Не ведаю чалавека, які, гуляючы ў шахматы, не хваляваўся б, хоць няхай сабе і стоена, не выдаючы эмоцый ці пачуццяў. Хвалюешся асабліва, калі пачынаеш прайграваць у выгаднай пазіцыі. Або яшчэ: імпульсіўна зрабіў дрэнны ход. Бывае, што пройгрыш — гэта драма, тады перажываеш і дзень, і тыдзень. Хіба не зведаў душэўныя пакуты Кабапланка, калі саступіў у паядынку Алёхіну?! Невыпадкова пасля паразы некаторыя з вядомых шахматыстаў назаўсёды развіталіся з гэтай гульнёй. Бо часам яна ператвараецца ў "хваробу душы". У такіх выпадках, вядома, цяжка. І ўсё ж шахматы — гэта паэзія свайго роду, мадэль жыцця. Яны для мяне — хлеб надзённы, калі сумна, прыносяць уцеху і высокае эстэтычнае задавальненне ".*

Івану Клімянкову помняцца цікавыя і напружаныя партыі з пісьменнікамі Л. Дайнекам і В. Гігевічам. Ён, будучы дырэктарам

малога прадпрыемства"Бесядзь", выдаў "Падручнік шахматнай гульні" (1997) Х. Р. Капабланкі. Роздум пісьменніка сёння звязаны з наступнымі пытаннямі: шахматы вычарпаюць сябе, партыя будзе зведзена да нічыйнай гульні (аўтар ідэі Капабланка), хто каго пераможа ў паядынку — камп'ютэр ці чалавек... Усё гэта паўплывала на пафас і змест аповесці пра шахматы І. Клімянкова "Пераможцы".

Гульню беларускіх пісьменнікаў у шахматы заўважыла пільнае і вострае вока Францішка Ведзьмака-Лысагорскага. У сваім "Сказе пра Лысую гару" ён у парадыйна-жартоўным святле падае паядынак Шамякіна і Куляшова, і робіць гэта не толькі дзеля смеху, паколькі аўтар-сатырык выходзіць на праблему якасці літаратурнай творчасці:

Іван, апроч літаратуры,
Заняты іншым не на смех:
На дошцы шахматнай фігуры
Ён расстаўляе, як стратэг.

Пусціўшы ў тыл каня-пралазу,
Ён пешкі выстраіў у рад
І спадзяецца, што адразу
Усім Іванам зробіць мат.

- Я чуў, як, гледзячы на пешкі,
Першаразраднік Куляшоў
Сказаў, не таячы ўсмешкі:
"Ах, Ваня, зноў не тым пайшоў!"

- У гэтым, братцы, ёсць пагроза:
З такой гульні праз колькі год
Уся паэзія і проза
Папасці могуць у цэйтнот!

У другой палове 90-х гадоў шахматная дошка сярод пісьменнікаў зноў набывае асаблівую прыцягальнасць, новая хваля "шахматных зацікаўленняў" ахапіла рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", часопісаў "Полымя" і "Крыніца". "ЛіМ" на пэўны час стаў цэнтрам гульні, тут адбываліся пастаянныя інтэлектуальныя турніры, у той жа час у “Крыніцы" браліся за фігуры эпізадычна. На свае вочы я бачыў, як у "ЛіМаўскім" кабінеце Барыса Пятровіча сыходзіліся пад канец рабочага дня на "шахматныя пасядзенкі" Васіль Жуковіч і Андрэй Федарэнка з "Полымя", Леанід Галубовіч з "Крыніцы" ды іншыя літаратары. Прыходзілі ў будынак на Захарава, 19, каб згуляць партыю-другую, Уладзімір Скарынкін, Раман Тармола-Мірскі, Юры

Станкевіч... Пра вясёлую гісторыю, звязаную з абуджэннем "шахматнай актыўнасці", згадвае паэт Леанід Галубовіч у сваёй кнізе "Зацемкі з левай кішэні" (1998):

*"У "ЛіМе " Федарэнка і Пятровіч загарэліся гуляць у шахматы... Да іх далучыўся Станкевіч, пасля і я...*

*Шахматы былі мініяцюрныя, і Станкевіч паабяцаў прынесці з дому стандартныя, гульнявыя — і прынёс, аднак, не ў "ЛіМ", а да нас — у "Крыніцу". Згулялі мы з ім у рэдакцыі не больш як дзве партыі...*

*Дыраптам Алесь Разанаў стаў падбіваць мяне згуляць з ім у "паддаўкі"... Тлумачу яму што гэта ж не шашкі... Не, давай у "паддаўкі" і ўсё тут...*

*Алесь Сцяпанавіч, чалавек неардынарны ва ўсім — паўсюль шукае новыя формы і жанры... Магчыма, тыя, дзе ёсць шанец выйграць..."*

Барыс Пятровіч не аддзяляе шахматы ад літаратурнай творчасці, яны, лічыць празаік, вучаць лагічна выбудоўваць сюжэт, пралічваць хады герояў. "Ува мне жыве шахматыст", — кажа Б. Пятровіч, цяпер ужо галоўны рэдактар часопіса "Дзеяслоў", аўтар таленавітых зборнікаў прозы "Ловы", "Сон між пачвар", "Фрэскі".

Са школьных гадоў гуляюць у шахматы Леанід Галубовіч і Андрэй Федарэнка. Галубовіч прызнаецца, што любіць гэтую гульню за тое, што яна ўтрымлівае мнагаходавасць, шматварыянтнасць, выпрацоўвае арыгінальнасць мыслення. У прыватнасці, ён гаворыць: *"Пасля шахмат робішся трохі разумнейшы і мудрэйшы. Шашкі, хоць, можа, я і памыляюся, гульня ў чымсьці прасцяцкая, нават "калгасная": шморгай сабе, соўгай іх туды-сюды. А вось шахматы — гульня надзвычай інтэлектуальная, якая ўзбагачае досвед. Тут здзіўляе шырокая свабода выбару, вымалёўваецца рознавектарная геаметрыя. У гульні ёсць своеасаблівая мастацкасць, вобразнасць. Ахвота мне сустракацца з пісьменнікамі за шахматнай дошкай таму, што гэта спаборніцтва творчых людзей".*

Андрэй Федарэнка, пачынаючы з 6 класа, наведваў шахматную школу ў Мазыры, у выніку атрымаў трэці разрад. Гульня, як прызнаўся пісьменнік, агрэсіі ў яго не выклікае, праўда, ён крыху раздражняецца, калі робіць сур'ёзную памылку і пасля гэтага параза непазбежная. Для Федарэнкі шахматы, з аднаго боку, гэта спартыўнае спаборніцтва, якое выклікае глыбокія эмоцыі, з другога — творчае самавыяўленне, сяброўская гульня-дыялог. Празаік таксама сведчыць, што шахматы дапамагаюць у творчасці, дысцыплінуюць думку.

У назву аповесці А. Федарэнкі "Цугцванг" (1998) вынесены шахматны тэрмін, які, як вядома, характарызуе падчас гульні наступнае становішча: супернік вымушаны рабіць нявыгадны для сябе ход. Га-

лоўнаму герою, які спавядаецца ў форме ліста-прызнання да следчага, не выпала завалодаць багаццем былога зубнога тэхніка, пенсіянера Івана Адамавіча Крывіцкага. Стары Крывіцкі — "фанат" шахмат, без іх ён не можа існаваць, трапляе ў дэпрэсію. І тут. як паратунак — сустрэча з маладым хлопцам, які добра гуляе ў шахматы. Вось як празаік апісвае паядынак паміж імі:

*"Разыгралі: Адамавічу выпалі белыя. Ён доўга нацэльваў старэчыя дрыготкія пальцы, складзеныя ў жменьку, на цэнтральную пешку, затым хуценька адымаў руку, нават хаваў за спіну. Урэшце прасунуў пешку на е4, і пасля майго ходу, ужо не думаючы, другую пешку на f4 — каралеўскі гамбіт, даволі хітры, але састарэлы пачатак... (Калі вы не ведаеце, грамадзянін следчы, каралеўскі гамбіт — гэта каскад прыгожых ахвяраў у белых, трох пешак і каня, каб вызваліць "калідор" па лініі f і пасля ракіроўкі атрымаць моцную атаку; зрэшты, магчыма, гэта не галоўнае ў маіх тлумачэннях.)*

*Некалі я і сам любіў карыстацца гэтым пачаткам, але цяпер усё забылася; адразу патрапіў у "пастку", нарабіў памылак — не помог і лішні конь, і лішнія пешкі. Я пачаў задумвацца над хадамі куды даўжэй за Адамавіча, якога спачатку не прыняў усур'ёз як шахматыста".*

Празаік раскрывае сутнасць паводзінаў, псіхічны стан гэтага чалавека, які перажывае шчасце перамогі, паказвае нам яго страсць да шахмат як неадольную хваробу:

*"Я ведаў самых розных шахматных "фанатаў", яшчэ ў дзяцінстве любіў па выхадных хадзіць у парк, дзе гулялі ў шахматы на грошы і дзе гэтая бяскрыўдная гульня часам нагадвала "баі без правілаў" — у прамым сэнсе многія партыі заканчваліся фізічнымі бойкамі. Але Адамавіч, чалавек, які, можна сказаць, стаіць адной нагою ў магіле, радаваўся так, нібы выйграў па меншай меры мільён даляраў. Ён прытанцоўваў (я не жартую) на месцы. Ён смяяўся, паціраў рукі і ўсё паўтараў:*

*- Тэорыя, малады чалавек, тэорыя!"*

Іван Адамавіч радуецца, што знайшоў партнёра, якога ён вырашыў купіць, "ажаніць... са сваім багаццем". За гульню ў шахматы пенсіянер абяцае хлопцу аддзячыць золатам:

*"— І такіх многа! — прашаптаў ён, хаваючы злітак назад, не даўшы мне нават як след разгледзець яго.*

*Я стаў агаломшаны. Вось гэта фокус!*

*— Дык будзеш прыходзіць у шахматы гуляць?.."*

Малады хлопец не можа пазбавіцца навязлівай ідэі, закідвае вучобу, ахвяруе ўсім, каб дамагчыся свайго — разбагацець праз гульню

ў шахматы. Ен трэніруецца, назапашвае тэорыю, робіць загатоўкі, каб толькі перамагчы суперніка. Таму, урэшце, і даводзіць старога "фаната" да шоку, а потым наўмысна паддаецца. І ўсё ж намаганні былі марнымі: багаты пенсіянер раптоўна памірае, а "дупло" з золатам дасталося іншаму. Герой перажыў нават прарочае трызненне: ён на кухні "бачыў тую клетку, на якую становіцца пешка, каб ператварыцца ў каня, — брудная сіняя клеткаў самым кутку пад батарэяю..." У аповесці А. Федарэнка па-майстэрску скарыстоўвае сродкі псіхалагічнага аналізу, месцамі драматызуе сюжэт, выкарыстоўвае дэтэктыўныя прыёмы, таму, зрэшты, твор чытаецца з неаслабнай цікавасцю.

Цяпер, па словах А. Федарэнкі, ён піша новы твор, хутчэй за ўсё, гэта будзе раман, дзеянне ў якім адбываецца ў часы "Тутэйшых" (маецца на ўвазе літаб'яднанне, што ўзнікла ў 1987 годзе на хвалі перабудовы). Дык вось не абыходзіцца і тут без гульні ў шахматы, пісьменнік пад людскі шумок разглядае сваіх герояў. Федарэнка прызнаўся, што арыентаваўся на шэдэўральны твор У. Набокава "Абарона Лужына".

"Улада шахмат" трымае ў сваім палоне паэтаў Рамана Тармолу-Мірскага і Васіля Жуковіча. У гэтай гульні кожны з іх бачыць і адчувае сваё, але абодва гавораць пра шахматы як цуд мастацтва, хоць і не адмаўляюць іх спартыўнай значнасці. Р. Тармола-Мірскі — шахматыст з вялікім стажам, хоць лічыць сябе ўсяго аматарам. Між тым, яшчэ ў 70-я гады ён стаў кандыдатам у майстры. Навучыў яго гуляць "у конікі" бацька ў далёкім дзяцінстве. "Зразумела, па ўзроўні гульні я не Суэцін і не Купрэйчык... Шахматы я люблю за тое, — кажа Раман Якубавіч, — што гэта бясконцая, глыбінная справа. Практыка паказвае, што яны асабліва папулярныя сярод паэтаў-філосафаў. Цютчаў цудоўна гуляў у шахматы, наш Куляшоў таксама. Мне здаецца, што творцы, якія любяць шахматы, гуляюць у іх і тым самым трэніруюць свой інтэлект, пішуць да самай смерці. Пастаянны працэс думання прасвятляе розум і абвастрае ў выніку ўспрыманне жыцця". За шахматнай дошкай Тармола-Мірскі правёў нямала часу, прытым часта гуляў з вельмі моцнымі супернікамі, такімі, як майстар спорту Новікаў: з ім паэт доўгі час працаваў на Беларускім тэлебачанні. Раман Якубавіч знаходзіў вольную хвіліну, каб заскочыць на партыю ў "Маладосць", "Полымя"... Любіць ён нетаропкі, грунтоўны стыль гульні. Апантанасць шахматамі з бегам часу не мінае: часта праглядвае эцюды ў перыёдыцы, часам разбірае партыі славутых шахматыстаў. Тармола-Мірскі лічыць, што сапраўдны шахматыст — таксама паэт, і таму шахматысты і паэты ў чымсьці родныя душы. У вершы "Шахматны дыялог" паэт з дабрадушнай усмешкай,

жартаўлівасцю перадае гульнёвы імпэт і вясёлы настрой, які пануе за дошкай:

— Вашу руку, мая каралева,
Перарэжам шляхі каралю...
- Мой кароль, калі ласка, налева,
Толькі чуць адсіупіце, малю...

- А цяпер на каня — і ў пашню.
- О, гарачы які вараны!
Расскакаўся ён штосьці сягоння...
- На абед жа былі два сланы...

- Ці не рана такая насмешка?
- Мне здаецца: якраз у пару...
- Аддаю каралеву за пешку...
- Каралева за пешку? Бяру!

Гаворка пра шахматы з В. Жуковічам вылілася ў сапраўднае інтэрв'ю. Запаліў у яго душы агеньчык цікавасді да гэтай гульні настаўнік Іван Сцяпанавіч Булах. З тых школьных гадоў паэзія і шахматы ідуць у яго жыцці поруч. Калісьці ён адчуў у шахматах смак спартыўнай барацьбы, выступаў на шахматных турнірах у Брэсце, дзе малады палескі хлопец вучыўся і працаваў у другой палове 50-х — 60-я гады. У горадзе над Бугам ён наведваў парк адпачынку, змагаўся ў бліц-турнірах. В. Жуковіч складаў двуххадоўкі і трохходоўкі, змяшчаў свае шахматныя эцюды ў перыядычным друку. Ён добра ведае і адчувае, што "існуе шахмат хараство" і з перакананасцю даводзіць, што "як сапраўднае мастацтва, невычарпальныя яны". "Бывае, што выйшаў з творчай каляіны, не пішацца, — гаворыць паэт. — Тады міжволі рука цягнецца да шахматных фігур. Гульня-спаборніцтва з цікавым партнёрам пачынае "заводзіць", наэлектрызоўваць. Мне заўсёды вельмі цікава весці шахматны паядынак з Андрэем Федарэнкам. Гуляем з ім хутка, на полі бітвы часам бываюць такія завірухі, што аж дух займае. Гульня дае натхненне, акрыляе". Прывабнасць і чароўнае ўздзеянне шахмат, піетэт да іх В. Жуковіч выяўляе ў паэтычным зборніку "У храме хараства і смутку" (2003):

Іх цуд — у тым тварэнні духу,
што згаснуць не дае сабе,
у філігранна-трапным руху,
у захаплядьнай барацьбе.

Як фея — ферзь (чароўны самы!),

а конь — крылаты, як Пегас...
Паэма, а камусьці драма
памылак горкіх і параз.

Камусьці — радасць перамогі:
тупік фінальны — каралю!..
Як мора, як прастор дарогі,
як волю, шахматы люблю.

Гэта радкі з верша "Шахматы", які прысвечаны Андрэю Федарэнку. Твор — песня душы аўтара, напоўненая высокай паэтызацыяй, пранікнёным услаўляльным пафасам. Пісьменнік Васіль Жуковіч перадаў захапленне шахматамі сыну Руслану, якога калісьці вадзіў на заняткі ў гурток СШ № 28 г. Мінска, а цяпер далучыў да гульні ўнукаў Максіма і Алеся. Калі ён доўга не бярэцца за шахматы, то сумуе, губляе добры настрой. Яго не перастае здзіўляць сваёй нечаканасцю і сюрпрызамі свет сучаснай шахматнай гульні. Так, ён вельмі ўражаны перамогамі 16-гадовага бакінскага гросмайстра Тэймура Раджабава.. Асабліва радуецца тады, калі дасягае поспехаў беларускі шахматыст Купрэйчык, іншыя прадстаўнікі нашай краіны.

Паэт і перакладчык Уладзімір Скарынкін — даўні аматар шахмат, які ўмее зрабіць цікавы тактычны ход ці манеўр. Гэтая гульня не толькі хвалюе сэрца, але і ў пэўнай ступені з'яўляецца аналогіяй яго творчай працы. Пры перастварэнні на беларускую мову славутай Дантавай "Боскай камедыі" ён, безумоўна, з матэматычнай дакладнасцю пралічваў той ці іншы варыянт, трымаў у памяці сюжэтныя хады і "алгарытм", рух аўтарскай думкі. І ў шахматах, і ў перакладчыцкай працы неабходна мець "чароўны ключ" да разгадкі сутнасці, таямніцаў мыслення творцы.

Пра тое, з чаго і як пачынаюцца сімпатыі і першыя крокі ў шахматнай гульні, добра распавёў Уладзімір Сіўчыкаў у сваім аўтабіяграфічным творы "Тры лілеі, лілеі тры...”, які ўвайшоў у яго зборнік прозы "Лісты да брата" (1998). Захапленне пачалося з шахматнай секцыі ў Жодзіне, у якую Валодзя трапіў з сябрам Толем Казырэнкам. А затым, дзякуючы прынесенай класным кіраўніком кнізе, для сябе ён адкрыў, што 16 белых і 16 чорных фігур — гэта цэлы свет, цікавы і складаны: *"...Разам з Толікам рашаў я задачы, складаў эцюды, зазнаваў тэарэтычныя тонкасці па кнізе-падручніку "Гульня ў шахматы". Толькі вось аўтара не ўспомню. Нешта накшталт Гельфанда ці Грунфельда. Словы, якія былі ў тым фаліянце, — мітэльшпіль, гамбіт, ракіроўка, цугцванг — вабілі, інтрыгавалі мяне. Лёгка станавілася ў той шэраг і прозвішча Майзліс. Так, якраз Соф'я*

*Ісакаўна прынесла з дому тую кнігу, як толькі дазналася, што захапіўся я гульнёю, якую ставяць часам паміж спортам і мастацтвам. <...> Была яна напісаная даступна, давала даволі грунтоўныя веды з тэорыі і практыкі шахмат. Аналізаваліся ў ёй партыі, згуляныя ў свой час Вільгельмам Стэйніцам, Эмануілам Ласкерам, Хасэ Раулем Капабланкам, Максам Эйвэ, іншымі чэмпіёнамі свету. Таму паглыбляцца ў яе было куды цікавей, чым хадзіць на секцыю..."* У гутарцы са мною пісьменнік У. Сіўчыкаў згадаў, як з сябрам Толем Казырэнкам ён разбіраў партыі, назапашваў тэарэтычны патэнцыял. А вынікі падрыхтоўкі былі відавочныя: у старшых класах яны выйгравалі асобныя партыі ў інжынераў, так званых "ітээраўцаў", якія прыходзілі да Сіўчыкавых у госці. Запомніліся яму шахматныя паядынкі ў будатрадзе ў Карэліі з Анатолем Андрэевым, цяпер прафесарам БДУ і празаікам, сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў "Старадаўняя гульня, — разважае У. Сіўчыкаў, — дае кожнаму з партнёраў роўныя магчымасці. Але перамагае той, хто правільна і хутчэй зрэагуе на сітуацыю, праявіць волю да перамогі. Шахматы, літаратура і бізнес (я займаюся кнігавыдавецкай справай) — не для слабых, на ўсё трэба мець талент".

Шахматы, хутчэй, не "каралеўская" гульня, яна свойская для беларускіх літаратараў і тыя захапляюцца яе "існасцю жывой". Не раз расстаўлялі фігуры, каб весці атаку і адстойваць свае пазіцыі ў інтэлектуальным супрацьборстве, сучасныя пісьменнікі Пятро Васючэнка, Лявон Баршчэўскі, Алесь Пашкевіч, Мікола Віч, Серж Мінскевіч і інш. Шахматы натхняюць, ратуюць ад суму і адзіноты, дапамагаюць, як кажуць, з карысцю правесці час. Да таго ж шахматная тэма часам робіцца ў сучаснай літаратуры асновай гумарэсак і вясёлых гісторый (творы В. Найдзіна, Л. Шчэрбача і інш.).

Гульня ў шахматы мае значны развіццёвы патэнцыял. Зрэшты, гэтак, як і мастацкая літаратура. Вельмі важна, каб штуршок да гэтага "мастацтва думкі" дала сям'я, школа і літаратурныя творы, а таму, мабыць, неабходна звяртаць асаблівую ўвагу на тыя моманты біяграфіі пісьменнікаў, якія звязаны з спартыўнымі захапленнямі і схільнасцю да інтэлектуальных гульняў. Шкада, што апошнім часам зменшылася цікавасць да шахмат.

Прасачыць сувязь у ланцужку "сям'я — школа — літаратура" дазволю на ўласным прыкладзе. Таму, натуральна, не ўтрымаюся, каб не прыгадаць пра сваё захапленне шахматамі. Яшчэ я не хадзіў у школу, калі назіраў з печы, як мой брат Валодзя з аднакласнікамі "рэзаліся ў конікі". Гульня была "на высадку", на ўсю хату бурапенілі несціханыя страсці. Хлопцы, надаралася, махалі ў паветры падручнікамі па

шахматах, спрачаліся, абмяркоўваючы сітуацыю, якая склалася на шахматнай дошцы. Самыя моцныя гульцы, як Валодзя Чарняўскі, стараліся дачакацца з працы майго бацьку, які, як правіла, не адмаўляў хлопцам у некалькіх партыях. Пазней мая маці вельмі станоўча гаварыла пра вячэрнія шахматныя сеансы, хоць тады яе клопат найперш быў пра тое, "ці зроблены ўрокі": "Добра, што дзеці былі пры занятку. А так бы валачыліся абы-дзе, займаліся б немаведама чым". Тыя першыя шахматныя "ўрокі" старэйшых хлопцаў мне прыдаліся: я даведаўся, як ходзяць фігуры, пачаў сам спрабаваць гуляць з бацькам і братам.

...Памятаю, як старэйшы брат Анатоль запрасіў дахаты падужацца ў інтэлектуальным супрацьборстве з нашым бацькам маладога настаўніка Алега Бурло, які валодаў шахматамі на добрым прафесійным узроўні. Гулялі доўга і няспешна. На здзіўленне прысутных, бацька выйграў у яго першую партыю... Ён меў сякі-такі тэарэтычны запас і багатую практыку (асабліва шмат гуляў падчас працы ў пажарнай ахове). Своеасаблівым "секундантам" той шахматнай "дуэлі" быў настаўнік Цімкавіцкай сярэдняй школы імя Кузьмы Чорнага Аляксандр Дубовік, які пазней паклікаў мяне наведваць шахматную секцыю. Напачатку я пераастаўляў сюды-туды драўляныя фігуры, бо рабіў хады чыста інтуітыўна. Аляксандр Міхайлавіч пачаў настаўляць і раіць, як навучыцца гуляць добра. Бацька, калі пабачыў маю кемнасць у гульні, прынёс з вясковай бібліятэкі дужа старую, крыху падзёртую "Книгу начинающего шахматиста" і "Первую книгу шахматиста", аўтар якой, здаецца, В. Паноў. Так я пачынаў спазнаваць азы і сакрэты шахматнай гульні, з цягам часу паказаў сваё лепшае дасягненне другое месца на першынстве школы. Выступаў колькі разоў на раённых спаборніцтвах, але добрых вынікаў не прадэманстраваў Тое, што я адстойваў гонар школы на шахматных турнірах, цаніў настаўнік фізкультуры Станіслаў Чарняўскі, бо дараваў мне няўдалыя скачкі ў вышыню, якія не даваліся мне праз траўму нагі. Пастаянна гуляючы ў шахматы, я стаў лепш вучыцца па матэматыцы. Не прапускаў шахматных рубрык у газетах і часопісах, рашаў задачы, па тлумачэнні і дапамогу часам звяртаўся да бацькі. Уведаўшы пра мае здольнасці да шахмат, пачаў запрашаць мяне на партыю-другую настаўнік матэматыкі Баляслаў Віктаравіч Карповіч, які кватараваў побач з нашай хатай. Але перамагчы яго я так і не здужаў. Акурат тады, калі заканчваў школу, вялікае ўражанне на мяне зрабіла аповесць Эмануіла Ласкера "Як Віктар стаў шахматыстам", якую прапанавала пачытаць бібліятэкар Вера Клішэвіч. У аспіранцкія гады цэлыя вечары змагаўся ў шахматных паядынках з гісторыкам Аляксеем

Філімонавым, які быў нашмат мацнейшы за мяне як у тэорыі, так і на практыцы. Асабіста для мяне шахматная гульня ў сталыя гады ніколі не ператваралася ў самамэту, галоўнай была магчымасць пасядзець і пагаварыць з чалавекам, бліжэй спазнаць яго. У маіх празаічных творах героі, нібы шахматныя фігуры: хто маленькая пешка, хто кароль жыцця, хто небяспечны конь, які б'е нечакана, пад самы дых. Захапленне шахматамі з цягам часу прайшло, але абыякавасці да іх не было ў душы ніколі, наадварот, гэтая гульня вельмі блізкая мне і зразумелая, як і шматлікім яе прыхільнікам.

Як пераконвае гэты сціслы агляд, паміж шахматамі і беларускімі пісьменнікамі ўсталявалася даволі трывалая сувязь. Аднак шахматная тэма яшчэ далека не асвоеная ў нашай літаратуры. Невыпадкова "карціць" напісаць творы з выкарыстаннем "шахматнай падсветкі" П. Васючэнку, Б. Пятровічу і іншым сучасным аўтарам. Шахматная гульня — гэта ў многім люстэрка жыцця і чалавечых лёсаў яна штосьці падказвае пісьменніцкай інтуіцыі і творчаму ўяўленню, дапамагае пры адпаведным мастацкім ракурсе раскрыць складаныя характары, выявіць паглыблены маральна-этычны погляд на героя, час, грамадства. У шахматах, нібы ў мікракосмасе, сканцэнтраваны вялікі і багаты змест, расчытаць які найперш здатны ўдумлівы позірк і чуйнае сэрца сапраўднага мастака слова.

*2003*

## Суладдзе дрэў

На гэтым свеце беларуса дрэва сустракае (калыска) і праводзіць у апошні шлях (крыж, труна). Дрэва суправаджае нас праз усё жыццё, і маецца на ўвазе не толькі яго матэрыяльны эквівалент: прылады працы, зруб хаты ці лазні, мэбля і іншыя вырабы, але і каштоўнасць духоуная, якая ўплывае на светаўспрыманне і псіхаэмацыянальнае адчуванне: шапаценне маладой зеляніны, калыханне галінак бэзу, цнатлівасць і чысціня танклявых бярозак, лясны пошум, веліч дубовых шатаў, кляновая замець жоўта-чырвонай лістоты... Дрэва, у адрозненне ад каменя, не маўклівае, яно жывое, мае сваю душу і ўнутраную энергію, гамоніць і падае музычныя гукі, а яшчэ здатнае на многае ў адносінах да нас, людзей: чаруе і лагодзіць, апякуе і гаюча лечыць. У дрэвах паэт Міхась Рудкоўскі падкрэслівае іх жывую чуйнасць і блізкасць да чалавека (верш "Радня"):

А можа, і дрэвы тут
чуйна-відушчыя?
А можа, і ў дрэваў
ёсць чулыя душы? —
Яны ж, як мы, плачуць,
як мы, і спяваюць,
І нас, быццам родных,
к сабе запрашаюць;
Жывыя жывымі,
без слоў, а — гамоняць,
Таму, калі трудна,
мы ў лесе, у гаі,
У іх, бы ў бацькоў нашых,
рады шукаем.

Нездарма беларусы ўспрымалі дрэвы як жывых істот, адухаўлялі іх і надзялялі незвычайнымі ўласцівасцямі. Нашы продкі абагаўлялі магутныя дубы (дрэва Перуна), пакланяліся бярозавым гаям... Перш, чым паднесці да дрэва сякеру, трэба было папрасіць у яго прабачэння. Чалавек баяўся секчы рабіну, бо тая магла пасля адпомсціць, сурова пакараць. Верылася: дрэва і кусты здольныя забіраць жывую энергію, прыводзіць часам да немачы і смерці, таму елку і каліну нельга садзіць пры самай хаце. Магічную сілу мела асіна, якая была здольная засланіць ад рознай нечысці і пошасці (згадайма пра асінавы кол ці хаця б тое, як пісаў у вершы "Ворагам" Якуб Колас: "...І па вас асіны // Слёзы праліваюць"). З галінкамі пасвенчанай вярбы вяртаюцца з царквы, ставяць іх на покуці ці ўторкваюць за абразы. У народзе

сакралізуюцца і маладыя бярозавыя галінкі, якія, як лічаць, маюць ахоўную сілу. Калядная ёлка прыходзіць у кожную хату і сімвалізуе сабой нараджэнне новага года ды вечназялёнае жыццё. Разам з тым хвойнымі лапкамі пазначаюць апошні шлях чалавека ў вечнасць.

У народнай песні чалавечая душа здольная да высокага яднання з дрэвам як чымсьці інтымным, блізкім: маладая дзяўчына, як правіла, шчыра, даверліва, быццам роднай маці, і з пяшчотай выливае свае пачуцці бярозе, вішні, чарэшні, рабіне, вярбе, зялёнаму дубочку яблыньцы, грушы, елачцы баравой... Вось некалькі прыкладаў вуснай паэзіі: "Бяроза мая каранiстая, // Свякроўка мая наравістая..."; "Ой, вярба, вярба кудравая, // На табе кара дубовая...", "Ой, вішанька-цярэшанька, // Што ягад не родзіш?.." Адухоўленая апеляцыя да таго ці іншага дрэва дапамагала выказаць набалелае, штосьці запаветнае: "Ой, у полі стаяць два дубочкі, // Схіліліся верхі да купочкі, // Да гэй! Вой-ля, лю-ля!" Падаецца, што бяроза і сасна, дуб і рабіна атуляюць героя ў або ціха плачуць разам з чалавекам. Дрэвы спачуваюць бядзе і суцяшаюць сэрца, поўнае пакутных перажыванняў. Раслінны свет вобразаў у фальклоры надзвычай багаты і разнастайны, аднак у вуснай паэзіі ёсць свае найбольш улюбёныя і папулярныя віды флоры, якія, апрача таго, што сустракаюцца найчасцей, набываюць асаблівае фантазійнае праламленне і духоўную шматлучнасць повязі з чалавечым светам: бяроза, вішня, вярба, яблыня, а таксама каліна (з кустоўя).

Алегорыка-філасофская паралель "дрэвы — людзі", якая выяўляе іх глыбіннае падабенства, характэрна для літаратурнай традыцыі. Яркую аналогію з дрэвамі роднага краю праводзіць Пімен Панчанка ў "Паэме майго лесу":

Усе мы дрэвы:
Хто клён, хто рабіна, хто дуб.
Цягнемся да сонца.
Шалясцім ліствою,
Грымне навальніца –
Сагнёмся ад дум,
А зрэжа маланка —
Заснём пад жарствою.

Для П. Панчанкі, які так пранікнёна апаэтызаваў сустрэчу з бярозай у далёкім Іране і ўславіў квітненне белых яблынь, родныя дрэвы сімвалізуюць Беларусь і ўвасабляюць яе непаўторную красу ў свеце: "Беларусу і ў Парыжы сняцца // Белізна бяроз і сосен медзь" (верш "Недзе салавей пяе ў дуброве..."). Белы колер бяроз і бярозавых гаёў найболей адпавядае вобразу Беларусі, пра якую калісьці яшчэ Ф.

Багушэвіч у прадмове да "Дудкі беларускай" сказаў:"...Белая, чыстая: нікога не біла, не падбівала, толькі баранілася". Сучаснаму паэту Леаніду Дайнеку бярозка падаецца пракаветным дрэвам (верш "Дрыгавічы"):

Дрыгавічы — лясныя людзі.
Сыны вады. Сыны зары.
Бярозка, як дрыгавічанка,
Над той крыніцаю стаіць.

Крэўнае сваяцтва з дрэвамі адчувае лірычны герой М. Рудкоўскага. У згаданым ужо вершы "Радня" лес паўстае як бацькоўская хата, а дрэвы тут — родныя, блізкія людзі: вярба — маці, клён — бацька, сасонкі — сёстры, дуб — дзед, бяроза — бабуля.

Мастацкая фларыстыка ў нацыянальнай паэзіі — цэлая вобразная сістэма, і кожны "раслінны персанаж" вызначаецца багаццем сэнсава значных трактовак. Для беларускага паэтычнага адлюстравання не ўласціва аднамернасць, аднапланавасць, наадварот, характэрна паліфанія і звязаная з ёй вобразная шматстайнасць свету. У нашым нацыянальным космасе існуе суладдзе дрэў, "зялёны дом" прытуліў усё жывое, сілкуе чалавека фізічна і духоўна, і пра гэта цудоўна сказаў паэт Юрась Свірка:

...Пасябравалі мы ў бяседзе,
Суладдзе дрэў — адна сям'я.
Як даўгалстнія суседзі,
Сасна, бяроза, клён і я.
*("Суладдзе ")*

Цяжка вылучыць адзін з вобразаў дрэў, які прэтэндуе на галоўны этнасімвал. Трэба пагадзіцца з І. Чаротам, які ў кнізе "Пошук спрадвечнай існасці" (1995) піша: "Між тым пытанне, якое дрэва лічыць "самым беларускім", канкрэтнага адказу не мае". Разам з тым ён вылучыў адметнае і значнае дрэва, якое ўвасабляе "спрадвечную існасць" нашага краю, — гэта вярба. І. Чарота даводзіць: "...Вярба — і прадрэва, і найважнейшае, і найпрыхільнейшае, і найзвычайнейшае з дрэў. <...> Мы павінны ўлічваць прыродную асаблівасць гэтага дрэва азначаць таксама, у пэўным сэнсе, спалучэнне стыхій, сумежжа. Як бы ні было, народная свядомасць замацавала ў прыказцы такую заканамернасць: "Дзе вада, там і вярба". А яшчэ ж нельга забывацца, што менавіта вярба ўвідавочвае пярэдадзень, пераход ад зімовага да веснавога цыкла: ці не самая першая прыкмета абуджэння прыроды — "каткі" на вербалозах". Сапраўды, вярба — дрэва нацыянальнае, знакавае, своеасаблівае, яно вельмі ярка сведчыць пра незвычайную аднаўленчую сілу жыцця. Увага да вобраза вярбы ў

мастацкай творчасці досыць прыкметная. Але не большая, чым, скажам, да бярозы ці дуба, якія па частотнасці займаюць прыярытэтныя пазіцыі. Гэтае дрэва найперш уласціва для стыхіі балота і вады, асабліва для беларускага Палесся. Для ландшафту цэнтральнай Беларусі і яе іншых рэгіёнаў характэрны адрозныя апазнавальныя вобразы-сімвалы. Нацыянальныя краявіды, геаграфічная прастора нашай краіны ў цэлым разнастайныя па сваіх прыкметах, бо, як сказаў паэт, "Беларусь. Беларусь... Ні канца і ні краю..." (А. Вялюгін). У нацыянальнай паэтычнай свядомасці нібы ўраўнаважваюцца дзве стыхіі — лесу і балота, з якімі звязаны адпаведныя вобразы дрэў. У творчасці Ларысы Геніюш ідэйна-духоўную значнасць набываюць два дрэвы — дуб і вярба:

Адыходзіць пара мне, ім трэба стаяць,
сілу мець у ствалах беззаганных
і ліствою шумець ды з вятрамі пяяць
аб тых продках, што спяць на курганах.
*("Дубы")*

З беларускай учэпістай гліны
і з рабра прынямонскіх вярбін
Я галінка ля белага тыну
незабыўных адвечных святынь.
*("Развітальна заплакала восень ")*

Калі вярба ў творах паэткі ўвасабляе радаводны пачатак, трывучасць, то дуб выступае як абагульнены вобраз народа, сімвалізуе яго незвычайную магутнасць, гераічны нязломны дух; гэтае дрэва міфалагізаванае, па сутнасці спрадвечны архетып і ўспрымаецца своеасаблівым цэнтрам, апірышчам нацыянальнага свету. Вось як гаворыць гераіня Л. Геніюш, якая не жадае быць бярозаю ці калінаю і не хоча прыпадабняцца да гэтых тужлівых дрэў:

Хачу ўстояць — каронаю ў просіні,
а карэннем ад сэрца зямлі, —
ад нямілых, ліхіх, ад няпрошаных
сваім голлем яе затуліць.

І пяяць ёй ліствою, галінамі,
кожным нервам карэнняў кахаць.
Яе лёс, яе шчасце праўдзівае
на дубовыя плечы узняць.

У іншым вершы паэтка даводзіць: "Мы — як дубы, // нас можна знішчыць громам, // але з зямлі нас роднай // не скрануць..." Гэтыя

прыклады вельмі красамоўныя і паказальныя. Гераічная, нацыянальна-патрыятычная традыцыя найперш звязана з вобразам дуба.

Беларусь паэты нярэдка называць краем лясоў і пушчаў, а беларусаў лясным народам. "Лес выхаваў характар беларуса, — піша У Караткевіч, наш лес і чалавек — родныя, і таму беларус любіць яго". У паэме "Лясная песня" Алег Лойка так характарызуе галоўны асяродак духоўна-гістарычнага быцця нашага народа:

Там край лясны, і людзі там лясныя:
Сасноўскія, Каліны, Лазнявыя,
Паддубскія, Дуброўскія, Дубягі,
Альхоўскія, Альшэўскія, Карагі;
І гарады лясныя там, і вёскі:
Залессі, Берастовіцы, Бярозкі,
Бярэзніцы, Дубровы, Дзераўныя,
Бары Святыя, Добрыя, Старыя,
І рэкі там лясныя: Дзеравянкі,
Бярозы, Лані, Бераставічанкі;
Дарогі там лясныя і азёры...

Лес — царства дрэў, яго чароўнасць і таемнасць асабліва хвалюе сэрцы паэтаў: "Мой лес! Мой бор! Вяшчун таемны, заўсёды ты ў маёй душы" (П. Броўка). Пушчанска-лясная стыхія прадвызначыла ў беларускай літаратуры культ такіх дрэў, як сасна, бяроза, хвоя. Вельмі часта паэтызуюцца два дрэвы разам: "Трымаюць Зямлю... // Жывымі рукамі карэнняў сваіх // Сасна і бяроза" (А. Куляшоў); "Ой, бярозы ды сосны..." (А. Русак) і інш. Паэты адчуваюць дрэвы па-філасофску: "Пра маладосць пяюць бярозы, пра вечнасць — хмурыя дубы" (А. Бачыла). На мой погляд, не толькі лясныя краявіды, але і нашу "спрадвечную існасць" можа прэзентаваць вобраз сасны, які і па характэрнасці для этнапрасторы, і па духоўнай ролі ў жыцці беларуса, і па частаце выкарыстання ў мастацкай творчасці займае вельмі істотнае месца. Зрэшты, толькі ў беларускай паэзіі зафіксавана каля 100 вершаў, прысвечаных гэтаму дрэву. Натхнёна апяваў нарачанскія сосны Максім Танк. Паэт Юрась Свірка так сказаў пра адметнасць свайго краю: "Нараджаюцца ў нас сярод сосен //І пасля сярод сосен ляжаць" (верш "Сасна").

Дрэва — мадэль чалавечага лесу і кругазвароту жыцця. З твораў беларускіх паэтаў дуб і сасна паўстаюць часам як Дрэва жыцця, ці Сусветнае Дрэва. У вершах А. Куляшова, А. Пысіна, Р. Барадуліна і іншых аўтараў дрэва ўвасабляе аснову светабудовы, робіцца прадметам філасофскіх разважанняў пра жыццё і вечнасць. "Дрэва вечнага руху" ў Р. Барадуліна — гэта паяднанне прыроды з часам, які нясе ёй

няспыннае абнаўленне. Чалавек, падобна дрэву, паўтарае яго шлях. Усё на свеце, і пра гэта гаворыцца яшчэ ў Бібліі, прарастае з насення, затым набірае сілу, квітнее, пладаносіць і, урэшце, завядае ці засыхае. Кожны з нас нараджаецца і сыходзіць назад у зямлю, каб зноў прарасці. Старажытныя грэкі, прынамсі, лічылі, што нібыта першы чалавек пачаў свой род ад дрэва — магутнага дуба. Узнаўленне на зямлі адбываецца не толькі фізічнае, але і духоўнае. "Вечназялёнае дрэва жыцця" (Я. Сіпакоў) — гэта не толькі абнаўленне навакольнага свету, але і адраджэнне чалавечай душы, якая здольная адчуваць сябе часткай Прыроды, існаваць па эстэтычных і маральных законах. Часавае праяўляецца ў прасторы як вечнае. У гэтым святле Р. Барадулін акурат і разумее зямное прызначэнне жанчыны-маці: "Захавальніца дрэва жыцця стала дрэвам..." У аснову сваёй натурфіласофскай канцэпцыі гэты паэт паклаў думку пра рух усяго зямнога да пераўтварэння, суладнасці і гармоніі.

Для беларуса яблыня, рабіна, груша, клён, таполя — родныя і дарагія сэрцу вобразы. У кожнага з нашых пісьменнікаў ёсць свае дрэвы, якія выклікаюць асаблівыя эмоцыі і пачуцці. Былі яны ў Купалы (бяроза, дуб, таполя, явар), Коласа (дуб), Багдановіча (вішня), Чорнага (хвоя, таполя)... У анкетах, сабраных у кнізе "Шчыра, як на духу" (2001), кожны з беларускіх літаратараў называе сваё любімае дрэва ці куст: клён (В. Быкаў), бяроза, каліна (Н. Гілевіч), шыпшына і мята, бэз і язмін (С. Грахоўскі), каліна, бяроза, сасна (І. Шамякін), ліпа (А. Кудравец), хвоі і бярозы, слівы і яблыні (Г. Далідовіч), вярба (А. Дудараў), рабіна (А. Петрашкевіч), шыпшына (А. Мальдзіс, С. Законнікаў), бэз (М. Матукоўскі, У. Някляеў), ядловец (В. Казько) і інш. Як бачым, што ні чалавек, то свае прыхільнасці і перавагі. Між іншым, з ліку кустоў на этнасімвал Беларусі можа цалкам прэтэндаваць шыпшына, упершыню ярка апаэтызаваная У. Дубоўкам: "О Беларусь, мая шыпшына...".

Беларуская літаратура XX стагоддзя сцвярджае думку пра "раўнапраўе дрэў" (П. Панчанка) у навакольным свеце, дзе парушана экалагічная гармонія, страчваецца мера разумнага гаспадарання. У гэтым выяўляецца філасофска-гуманістычная скіраванасць сучаснага экалагічнага мыслення. "Зялёны дом" зберагае жыццё і духоўную энергію для наступных пакаленняў. Ці не таму так часта героі твораў беларускіх пісьменнікаў усведамляюць, што пасаджанае дрэва — гэта працяг існавання чалавека ў часе і прасторы.

Неабходнасць духоўна-творчага пачатку на зямлі добра адчуваў Уладзімір Ярмаліцкі з рамана Кузьмы Чорнага "Млечны шлях": "...Я панасаджваў там многа дрэў. Дарогу я абсадзіў таполямі кіламетраў

на чатыры. Я тлумачыў дзецям, што кожны чалавек трэба каб пасадзіў на сваім вяку хоць адно дрэва і паставіў калі не дом, дык хоць хату. І эта ўсё пераджывае яго і астанецца людзям. Калі-небудзь прыйдзе час, што чалавека такога не будзе па ўсім свеце, які не меў бы дзе прыхіліць галаву. Так мы павінны дбаць аб усім свеце". Сваё прадвызначэнне ўснедамляе і Трахім Трубецкі з "Хронікі дзетдомаўскага саду", які садзіць сад (раман Віктара Казько). Жывое суладдзе дрэў і духоўная сугучнасць чалавечых сэрцаў — гэта тое, што нясе нам хараство і радасць гарманічнага адчування свету. Родная прырода здольная дапамагчы чалавеку адкрыць храм у сваёй душы, ідэал зямнога раю, які кліча да чысціні думак, прыгожых унутраных памкненняў.

*2003*

# II

# Сніў сны пра Беларусь

## "Ці ходзіць цягнік да Цімкавіч?.."

На схіле лета сцежка памяці прывяла мяне ў трэці раз на Байкавыя могілкі ў Кіеве. Тут, у засені старых клёнаў, ясакараў і каштанаў, вечным сном спачываюць мае сваякі з бацькавага роду. Першым адышоў у лона кіеўскай зямлі мой дзядзька, прафесар Фама Антонавіч Бельскі, потым у апошні шлях праводзілі яго родную сястру Яўгенію Антонаўну, настаўніцу і выхавацельку ўкраінскай дзятвы, а зусім нядаўна, восенню 1998 года, тут захавалі і прах майго стрыечнага брата — вядомага лінгвіста-паліглота, доктара філалогіі і прафесара Георгія Пракопавіча Яцэля. Сумна і журботна пачувапася ў той маўкліва-вусцішнай мясціне Кіева: гэтых дарагіх і блізкіх мне людзей не давядзецца ніколі пабачыць, па-сваяцку сустрэцца з імі і пагутарыць. Час, на вялікі жаль, сурова, а часам і бязлітасна расстаўляе свае вехі, знакі бяды і смерці. Нам, жывым, нічога не застаецца, апроч як мірыцца з Божай наканаванасцю і памятаць пра тых, хто пайшоў на вечны спачын.

Згадаць прафесара Фаму Антонавіча Бельскага хацелася б таму, што на сваёй радзіме імя яго малавядомае, нават забытае. Ужо мінула больш за стагоддзе з дня нараджэння гэтага вучонага-педагога з Беларусі, чыё жыццё і дзейнасць прыпалі на першую палову XX стагоддзя — час вельмі складаны і цяжкі. Прыйшоў ён на наш зямны свет напрыканцы кастрычніка 1890 года, нарадзіўся ў мястэчку Цімкавічы Капыльскага раёна. Бацька яго быў заможны гаспадар, займаўся сельскай гаспадаркай, вёў гандаль і лічыўся цудоўным майстрам-ткачом. У святы ён услых чытаў Біблію і іншыя духоўныя кнігі. Гэты дбайны працаўнік і чалавек шчырай душы паўтараў прымаўку: "Каго пан Бог любіць, таму кніжак дае, а хто яго трывае, той шчаслівы бывае". У хаце Бельскіх часта запыняліся купцы з Варшавы, Вільні і іншых гарадоў. Бацька Фамы ўмеў выслухаць сваіх суразмоўцаў і весці шляхетную ды змястоўную гутарку. Зрэшты, ён добра гаварыў па-польску, быў сынам выпускніка Віленскага універсітэта і Ганаровага грамадзяніна Расійскай імперыі Сільвестра Бельскага (у 1853 годзе такіх Ганаровых грамадзян у гарадах Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў налічвалася 550 чалавек — усяго 0,1% гараджан). Фаму, тады яшчэ вучня Цімкавіцкага народна-

га вучылішча, захаплялі сваімі ведамі адукаваныя госці-купцы. Ён шмат чытаў (сям'я мела ладную бібліятэку), рос хлапчуком па-дарослаламу ўдумлівым і назіральным, быў сапраўдным аўтарытэтам у вачах сваіх сясцёр, а потым, калі дасягнуў вышынь вучонасці, і сваіх малодшых братоў Антона і Івана. Павагу і ўдзячнасць да бацькі і маці Варвары Фамінічны сын пранёс у сваім сэрцы праз усё жыццё. Ніколі ён не "тыкнуў" сваім бацькам, называў іх з любоўю і пашанаю толькі на "вы". Незадоўга да смерці Фама Антонавіч усё яшчэ марыў, што пабачыць родныя мясціны, наведае апошні прыстанак маці і бацькі на цімкавіцкіх могілках. У сваіх лістах да малодшага брата часта пытаў пра тое, ці ходзіць да Цімкавіч цягнік, прызнаваўся, як у шчымлівай радасці і тамленні чакае хвіліну сустрэчы з радзімай. Цімкавічы не адпускалі ў снах і клікалі да сябе даўно, але прыехаць сюды, у Беларусь, не адважваўся і наваг баяўся. Бо добра ведаў, як сталінскі "чорны воран" лютаваў у прыгранiччы ў 30-я гады, як цудам ураталалася ад высылкі з дзецьмі другая жонка яго бацькі — Фядора Паўлаўна. Фама Антонавіч пасля невылечнай і пакутлівай хваробы памёр у 1952 годзе тады, калі яшчэ па краіне незмаўкальным гулам кацілася імя Сталіна "бацькі і правадыра ўсіх народаў".

На магілу дзядзькі мы з жонкай прывезлі торбачку цімкавіцкай зямліцы. У ціхай і намоленай царкве на Байкавых могілках разам з вернікамі паміналі сваіх родных і блізкіх. Памятаю, што тады думалася пра нявызнаны і такі кароткі зямны шлях, шлях, які ў маладыя гады зачаравае і кліча сваёй бясконцай перспектывай, потым кружыць чалавека ў жыццёвым калавароце, каб аднойчы падвесці да мяжы нябыту. А там — вечны сон. Я не мог не пазычыць Фаму Антонавічу светлых сноў пра родныя Цімкавічы, бо цягнік да іх ішоў праз яго сэрца доўгія гады.

### "Лекцыі чытаў з натхненнем..."

У 1909 годзе, пасля заканчэння Слуцкай гімназіі з сярэбраным медалём, Фама Бельскі паступіў у Кіеўскі універсітэт (тады Імператарскі універсітэт св. Уладзіміра) на гісторыка-філалагічны факультэт. Закончыў славутую навучальную ўстанову паспяхова ў 1913 годзе, атрымаў дыплом ПЕРШАЙ ступені "з усімі правамі і перавагамі". Пасля вучобы ён на некалькі дзён прыехаў у Цімкавічы, паўстаў у прыгожым віцмундзіры і ва ўсім бляску маладосці, парадаваў сваіх родных і блізкіх. Фама Антонавіч быў накіраваны на працу ў г. Златапаль, што на Украіне. У Златапальскай гімназіі ён выкладаў рускую мову, прыгожае пісьменства і псіхалогію. Неўзабаве пачаў карыстац-

ца папулярнасцю і любоўю сваіх выхаванцаў ды іх бацькоў. Працаваў з вялікім імпэтам: арганізаваў літаратурны гурток, які ставіў п'есы, вёў заняті па мастацкай дэкламацыі і інш. У гады Першай сусветнай вайны быў мабілізаваны на фронт, аднак пра тое, як ваяваў "за царя и Отечество", ён у савецкі час не згадваў, бо падобныя звесткі маглі б яму каштаваць жыцця. З 1920 года Фама Антонавіч паспяхова чытаў лекцыі па педагогіцы і рускай літаратуры на 3-гадовых педкурсах у Наваміргарадзе, Інстытуце народнай адукацыі ў Златапалі і Данецкім інстытуце народнай адукацыі (г. Луганск). Працуючы ў Златапалі, збіраўся на пэўны час выехаць за мяжу. Пра тую паездку, што так і не адбылася, гаворыць яго пляменніца кандыдат медыцынскіх навук Тамара Пракопаўна Яцэль: "...Захавалася вельмі добрае фота дзядзькі Фамы для замежнага пашпарта. Але чамусьці паслалі туды нейкага іншага выкладчыка. На той момант гэта было, канешне, вельмі прыкра. Аднак у святле наступных падзей, калі асоб, якія траплялі за мяжу, арыштоўвалі і высылалі, напэўна, гэткі зыход быў шчасцем".

У 1925 годзе Фаму Антонавічу прысвоілі званне прафесара педагагічных навук. Вышэйшай школе вучоны аддаў звыш 30-ці год свайго жыцця. Прафесарам педагогікі ён працаваў у 20-я — на пачатку 30-х гадоў у Данецкім і Херсонскім інстытутах народнай адукацыі. Выхаванец старой школы, прапагандыст элітарнай адукацыі, ён яшчэ цвёрда трымаўся сваіх поглядаў і перакананняў, калі А. С. Макаранка, Н. К. Крупская і многія педагогі савецкай фармацыі скіроўвалі тагачасную школу ў іншае рэчышча. Пляменніца Т. П. Яцэль згадвае: "У 1932 годзе дзядзька, па яго словах, няўдала выступіў на Вучоным Савеце інстытута аб метадзе політэхнізацыі. Гэта было інкрымінавана яму ў сур'ёзную віну, абяцалі пазбавіць права выкладання ў ВНУ і г. д. Цётцы, жонцы Фамы Антонавіча, хітрасцю ўдалося забраць у аддзеле кадраў працоўныя кніжкі, бо трэба было як мага хутчэй пакідаць Херсон". У тым жа 1932 годзе прафесар Ф. А. Бельскі ўзначаліў кафедры педагогікі Краснадарскага педінстытута і Кубанскага сельскагаспадарчага інстытута. Але "херсонскі след" праз колькі год усё ж усплыў, прыйшлося зноў ратавацца. Выбар быў зроблены: трэба вяртацца на радзіму. Бацькаўшчына прыцягвала, бы магніт, хацелася быць бліжэй да сваіх Цімкавіч. У 1935 годзе прафесар Бельскі пачаў загадваць кафедрай педагогікі і псіхалогіі Магілёўскага педінстытута. Як цудоўнага і глыбокага лектара прыгадваў свайго выкладчыка былы студэнт Фамы Антонавіча, потым дырэктар Вялікараёўскай СШ Капыльскага раёна У. Д. Зянько: "Лекцыі Фама Антонавіч чытаў з сапраўдным натхненнем, міжволі захапляў усіх студэнтаў — запрашаў уважліва слухаць і думаць,

менавіта думаць. Мы ўпершыню даведаліся, што кожны з навучэнцаў мае своеасаблівы характар, таму настаўніку, прыйшоўшы на ўрок, трэба акурат бачыць і ўлічваць гэта, не глядзець на клас як асяродак аднолькавых вучняў. Пры працы з класам важна бачыць і ведаць кожнага вучня з яго здольнасцямі, магчымасцямі, і бачыць не толькі недахопы, але галоўнае — станоўчыя якасці, яго захапленні" (з успамінаў запісаных у 1987 годзе).

Доўга на радзіме Фама Антонавіч не затрымаўся. Надыходзіў 1937 год — усё часцей бясследна знікалі людзі, чуліся прысуды "ворагам народа", станавілася цяжка дыхаць у атмасферы ўсеагульнай падазронасці і страху. Сям'я Бельскіх у чарговы раз пакуе рэчы і выпраўляецца ў Сярэднюю Азію, за тысячы кіламетраў ад Беларусі. Да 1940 года Фама Антонавіч працаваў прафесарам педагогікі і псіхалогіі Ферганскага і Какандскага педінстытутаў (Узбекістан). Тут жа на асветніцкай ніве рупілася і яго жонка Кацярына Міхайлаўна — выкладала студэнтам нямецкую мову. Са студзеня 1939 года Фама Антонавіч стаў акадэмічным пенсіянерам-прафесарам і з гэтага часу пачаў марыць пра пераезд на Украіну. Гэтая мара ўсё ж здзейснілася: неўзабаве апынуўся ў Чарнігаве, дзе яго ўзялі на працу ў педінстытут прафесарам педагогікі і загадчыкам кафедры. На новым месцы сям'я абжылася, уладкавала свой побыт. Аднак грымнула вайна, і на Чарнігаў пасыпаліся фашысцкія бомбы. З ахопленага полымем горада, страціўшы ўсю маёмасць і палову важных дакументаў ратаваліся ў бежанстве і гэтыя двое немаладых людзей, цярпелі ваеннае ліха і нягоды. Лёс аказаўся міласэрным і прывёў іх зноў у Сярэднюю Азію, а дакладней — ва Узбекістан. Да 1946 года прафесар Ф. А. Бельскі рупна і самаахвярна працаваў у Бухарскім педінстытуце, кіраваў навукова-педагагічнай дзейнасцю адной з профільных кафедраў. У 1943 годзе, на трэцім годзе вайны, напісаў і апублікаваў артыкул "Фронту культуры і асветы патрэбны высокакваліфікаваныя кадры настаўнікаў". Ён быў перакананы, што настаўнік — аснова ўсіх пачаткаў, чалавек, які ўласным прыкладам і ведамі здольны выхаваць патрыятычную і глыбока культурную, інтэлектуальную асобу. Вучоны быў узнагароджаны медалём "За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне" і ганарыўся гэтай адзнакай сваёй сціплай педагагічнай дзейнасці. У пасляваенныя гады здароўе Фамы Антонавіча пагоршылася, асабліва дрэнна на самаадчуванне ўплываў спякотны, задушлівы клімат. Сям'я Бельскіх зноў апынулася ў пошуках прытулку, перш пераехала ў Крым, затым у Ленінград. У 1951 годзе Фама Антонавіч пахаваў спадарожніцу свайго жыцця — любую і верную жонку. Не меў свайго жытла, дабіраўся да працы ў Ленінградскі абласны настаўніцкі інсты-

тут толькі ў адзін бок дзве ці дзве з паловай гадзіны. Неўзабаве па яго прыехала сястра Яўгенія і забрала да сябе ў Кіеў. Апошняе яго месца працы — загадчык кафедры педагогікі Кіеўскага дзяржаўнага інстытута фізкультуры. "...Тут нечакана Фаму Антонавічу пашэнціла: малады, энергічны дырэктар Інстытута фізкультуры Шарсцюк узяў дзядзьку на працу... — распавядае пра той перыяд жыцця і працы пляменніца Т. П. Яцэль. — Ён адносіўся да дзядзькі вельмі ўважліва і добра, наведаў яго лекцыі і быў дужа задаволены. Але дзядзька прыехаў у Кіеў ужо хворы..." І далей працягвае: "Пасля аперацыі мама настойвала, каб ён пакінуў працу... Але дзядзька ўпарціўся. Калі ў яго былі лекцыі, мама на стаянцы таксі на Бесарабцы брала машыну, адвозіла яго ў інстытут. Пасля заканчэння лекцый зноў на таксі прывозіла дамоў". Безумоўна, ён жадаў да апошняга быць патрэбным блізкім, хацеў хоць нечым дапамагаць ім. Але галоўнае — па прызванні ён быў апантаным педагогам, выдатным лектарам, улюбёным у студэнцтва, свой прадмет. Фама Антонавіч умеў весці за сабой калег, натхняць іх, увасабляў высакароднасць і інтэлігентнасць, нёс людзям дабрыню і цяпло свайго сэрца.

### "Педагог павінен быць лекарам..."

Навукова-педагагічная спадчына прафесара Ф. А. Бельскага адносна невялікая. Лепшае, што напісана ім, было створана ў 20-я гады падчас працы ў гарадах Луганску і Херсоне. Першая яго друкаваная праца была філолага-метадычнага характару— "Аб вывучэнні крытым" і з'явілася яна ў Маскве ў 1917 годзе. Аднак сфера яго навуковых інтарэсаў з цягам часу набыла дакладна акрэслены характар — педагогіка, агульная і ўзроставая псіхалогія. У першай палове 20-х гадоў ён апублікаваў артыкулы "Навукова-педагагічная экскурсія", "Педагагічная кансультацыя, методыка яе правядзення" і некаторыя іншыя. Сапраўдны плён прынёс актыўны ўдзел вучонага ў Навуковым таварыстве на Данеччыне, якое наладзіла сувязь з украінскай Акадэміяй навук. Поруч з прафесарамі С. Г. Грушэўскім, В. С. Бураўцовым і іншымі вучонымі Ф. А. Бельскі вёў дзейсную навукова-арганізацыйную і даследчую працу, быў летапісцам навуковых здабыткаў і поспехаў гэтага згуртавання, пра што, зрэшты, і сведчаць яго артыкулы "Да пытання пра арганізацыю Навуковага таварыства на Данеччыне", "З гісторыі дзейнасці Навуковага таварыства на Данеччыне". У другой палове 20-х гадоў Фама Антонавіч надрукаваў свае асноўныя працы, найбольшую цікавасць з якіх уяўляюць "Педагогіка як навука", "Арганізацыя навуковай работы", "Выяўленне арганізатараў у

групе і вызначэнне арганізаванасці груп", "Вывучэнне здольнасцяў дзяцей", "Вывучэнне паспяховасці навучэнцаў", "Мінулае нашага краю" і інш. Асабліва прыкметныя дзве публікацыі ў часопісе "Радянська школа" ("Савецкая школа") за 1927 год — "Арганізацыя школ для адораных дзяцей" і "Арганізацыя школ для звышадораных дзяцей". Ён ва ўмовах арыентацыі на працоўна-прафесійную адукацыю ўздымае праблему стварэння асобных школ для выхавання і навучання дзяцей, якія вылучаюцца сваёй таленавітасцю, багаццем псіхічных працэсаў і поспехамі ў засваенні ведаў. Вучоны адзначаў, што павінна быць прадумана адпаведная методыка працы з такімі дзецьмі і падабраны найбольш падрыхтаваныя для педагагічнай дзейнасці выкладчыкі. Сёння надзвычай добра відаць плён арганізацыі на Украіне і ў Беларусі элітных навучальных устаноў новага тыпу — ліцэяў і гімназій для адораных дзяцей. Думкі, выказаныя ў яго працах, не страцілі сваёй актуальнасці і значнасці. Артыкул "Выяўленне арганізатараў у групе..." (1928) вылучаецца тэарэтычнай заглыбленасцю, арыгінальнасцю высноў, насычаны цікавым ілюстрацыйным матэрыялам. Вучоны, аналізуючы станоўчыя і негатыўныя моманты ў школьным самакіраванні, у прыватнасці, адзначае, што "школьнае самакіраванне прывучыла вучняў да думкі, што будаўніцтва школьнага жыцця — гэта справа не толькі загадчыка школы, настаўнікаў, школьнай рады, але й справа саміх вучняў", яно "абудзіла ініцыятыву вучняў", спрыяе "ўдзелу ў супольна-грамадскай дзейнасці" і г. д. Прафесар Бельскі імкнецца гэты эксперымент у дзейнасці школы ахарактарызаваць з пункту гледжання навуковай педагогікі і псіхалогіі, даць практычныя парады з улікам рознага тыпу школ, рознага складу навучэнцаў засцерагчы ад перакосаў і пралікаў.

Вучоны, пастаянна працуючы са студэнцкай аўдыторыяй, не мог не закранаць пытанні і праблемы, звязаныя з спецыфікай навучання і выхавання ў вышэйшай школе. Артыкулы "Арганізацыя семінараў павышанага тыпу", "Нарматыўныя элементы педагогікі пры выкладанні яе ў педагагічных ВНУ", "Мэтаімкнёнасць у самаадукацыі настаўніцтва", "Педагагічная практыка студэнцтва і методыка яе правядзення", "Арганізацыя і правядзенне залікова сесіі" і іншыя напісаны з клопатам пра прафесійны і культурны ўзровень настаўніка, у іх — рацыянальныя думкі пра арганізацыю навучальнага працэсу, удасканаленне асобы педагога.

Адным з вялікіх аўтарытэтаў для прафесара Бельскага быў К. Д. Ушынскі. Пра гэта красамоўна гаворыць яго артыкул, напісаны неўзабаве пасля вайны, у 1946 годзе, і прысвечаны гэтаму рускаму педагогу.

У апошнія гады Фаму Антонавічу працавалася цяжка, бо перашкаджалі жыццёвая неўладкаванасць і наступствы хваробы. Некалькі артыкулаў засталіся неапублікаванымі ("Выхаванне трываласці і ініцыятывы ў вучняў старшага школьнага ўзросту", "Прагрэсіўныя ідэі ў педагогіцы Шабецкага" і інш.). Не здолеў ён давесці да канца і падручнік па педагогіцы, працу над якім пачаў у 20-х гадах (пра гэта сведчыць брашура "Педагогіка як навука"). Ды на тое былі і аб'ектыўныя прычыны: вульгарызавалася навука, насаджаліся ідэалагічныя каноны і штампы, таму, як прызнаваўся, не бачыў сэнсу паспяваць за павевамі часу і кан'юнктурнымі зменамі, якія не маюць нічога агульнага з навукай. Праўда, і ён пазней быў вымушаны сплаціць даніну тагачасным ідэалагічным патрабаванням.

Прафесар Ф. А. Бельскі лічыў, што педагог павінен быць таленавітым лекарам і тэхнікам, валодаць дарам любові і цэлай сістэмай педагагічных ведаў. У высокаадукаванай настаўніцкай інтэлігенцыі ён, як і многія іншыя вучоныя-педагогі, бачыў запаруку вялікай духоўнасці грамадства.

*2001*

## Беларусі ён быў не чужы

Няма, відаць, нічога выпадковага ў тым, а нават вельмі сімвалічна, што бібліяграфічны паказальнік доктара філалагічных навук, прафесара Георгія Яцэля выйшаў у Беларусі (2002). Гэты вядомы ўкраінскі лінгвіст мае беларускія карані. Маці Георгія Пракопавіча родам з вёскі Цімкавічы, што на Капыльшчыне. Яе дзявочае прозвішча Бельская. Яўгенія Антонаўна даводзілася майму бацьку сястрой (абое яны шмат гадоў таму пакінулі зямное жыццё).

Радзіма бацькі Георгія Яцэля — украінская вёска Лістападава (Навамірградскі раён, Кіраваградчына). Там жа 7 верасня 1928 года нарадзіўся і Георгій, з'явіўся на свет Божы пасля сястры Тамары. Бацька Пракоп Данілавіч настаўнічаў, быў дырэктарам Лістападаўскай школы. Затым на працягу двух гадоў прайшоў поўны навучальны курс на аграбатанічным факультэце Херсонскага інстытута сацыяльнага навучання і паступіў у аспірантуру Кіеўскага навуковадаследчага інстытута мікрабіялогіі і эпідэміялогіі, пасля заканчэння якой працаваў у гэтым інстытуце навуковым супрацоўнікам.

У 30-я гады Пракоп Яцэль здзейсніў сапраўдны навуковы подзвіг. На Украіне раптоўна пачалося масавае захворванне коней, эпідэмія неўзабаве перакінулася і на людзей. У некаторых гаспадарках "конская чума" выкошвала да 90% пагалоўя жывёлы. Гэта быў нечуваны і жахлівы мор, сапраўдная трагедыя, бо, як вядома, конь на той час лічыўся асноўнай цяглавай сілай у сельскай гаспадарцы, галоўнай баявой адзінкай у кавалерыйскіх злучэннях. Распаўсюджваліся звесткі пра "масавае шкодніцтва", "дыверсіі" з боку "ворагаў народа". Кожны выпадак смерці жывёліны прыводзіў да пракурорскага разбіральніцтва. За "шкодніцтва" ў турмы кідалі заатэхнікаў, селекцыянераў, старшыняў калгасаў, конюхаў, жывёлаводаў. У самы разгар эпідэміі з Масквы і Ленінграда на пошук "НЗ" (невядомага захворвання) накіравалі дзве брыгады. Іх дзейнасць, на жаль, не прынесла поспеху: узбуджальнік хваробы заставаўся невядомы. З вучонымі бязлітасна расправіліся. І вось у 1937 годзе па прапанове Хрушчова стварылі Кіеўскую брыгаду. Яна складалася з сямі супрацоўнікаў Кіеўскага НДІ мікрабіялогіі і эпідэміялогіі імя Д. К. Забалотнага Акадэміі навук Украіны. Фактычна ў закладніках гэтай экстрэмальнай сітуацыі апынуўся і малады вучоны-міколаг Пракоп Яцэль. Аднак менавіта ён раскрыў таямніцу "НЗ", зрабіў навуковае адкрыццё: прычынай эпідэміі быў мікраскапічны грыб, які актыўна размнажаўся ў зляжалай саломе (хвароба атрымала назву "стахібатрыптаксікоз коней"). Дзеля таго, каб адшукаць узбуджальніка хваробы,

вучоны правёў нават небяспечныя вопыты на самім сабе. За выкананне ўрадавага даручэння ў 1939 годзе Пракоп Яцэль быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. "Галоўная мая заслуга ў тым, што я адчыніў дзверы турмаў", так вучоны гаварыў пра асноўны вынік зробленага адкрыцця. З рэпрэсаваных працаўнікоў сельскай гаспадаркі былі зняты беспадстаўныя абвінавачванні, учарашніх вязняў выпусцілі на свабоду. На аснове сабранага каштоўнага матэрыялу пра "НЗ" Пракоп Яцэль падрыхтаваў да абароны дысертацыю і, па водгуках вядомых вучоных, мог адразу прэтэндаваць на атрыманне ступені доктара навук. Аднак у хуткім часе пачалася вайна, малады вучоны загінуў на фронце ў жніўні 1941 года.

Георгія Яцэля напаткаў тыповы лёс бязбацькавіча. Ён застаўся адзіным мужчынам у сям'і, і гэта паўплывала на ранняе сталенне падлетка, фармаванне такіх якасцяў, як самастойнасць, абавязковасць і адказнасць за сябе і іншых. Гэтыя рысы яго натуры і характару яскрава праявіліся ўжо ў гады вайны. Падчас 800-дзённай фашысцкай акупацыі Кіева сярод жыхароў горада наладзілі начныя дзяжурствы. Трэба было пільна сачыць за захаваннем маскіроўкі кожнага дома, каб нават праменьчык святла не прабіваўся на вуліцу. Георгій ніводнага разу не дазволіў у начной цемрадзі дзяжурыць маці і сваёй сястры. Гібель бацькі на фронце не давала юнаку спакою, ён не мог змірыцца з гэтай вялікай і балючай стратай. Тамара Яцэль, сястра вучонага, згадвае: "Пасля вызвалення Украіны ад акупантаў Георгій (употайкі ад родных) у 1944 годзе вырашыў пайсці добраахвотна на фронт яшчэ да прызыву ў армію, думаючы такім чынам замяніць свайго бацьку. Але ваенком, калі даведаўся, што ён адзіны сын у сям'і палеглага на фронце, адхіліў яго заяву".

Маці Яўгенія Антонаўна цалкам ахвяравала сваё жыццё дзецям. Яна клапацілася, каб Георгій і Тамара змаглі вучыцца і атрымалі вышэйшую адукацыю. У 1944 годзе Георгій Яцэль пасіупіў у Кіеўскі дзяржаўны універсітэт імя Т. Р. Шаўчэнкі, які закончыў з адзнакай і атрымаў у выніку спецыяльнасць філолага, выкладчыка англійскай мовы. Англійская філалогія зрабілася галоўным аб'ектам яго навуковых зацікаўленняў. У 1961 годзе за праведзенае даследаванне актуальнай лінгвістычнай праблемы Георгій Яцэль атрымаў ступень кандыдата навук, а ў 1979 годзе паспяхова абараніў дысертацыю на годнасць доктара навук. У аснову яго доктарскай дысертацыі легла манаграфія "Предложные словосочетания современного английского языка" (Кіеў 1969), якую ён прысвяціў светлай памяці мамы Яўгеніі Антонаўны.

Выключныя здольнасці да засваення замежных моў выявіліся ў Георгія яшчэ ў дзяцінстве. У школе хлопчык напачатку вывучаў французскую мову, а затым самастойна няблага авалодаў англійскай. Калі яго залічылі ў 7 клас англамоўнай школы, то неўзабаве па сваёй падрыхтоўцы і ўзроўню ведаў ён зрабіўся ледзь не першым вучнем. У гады акупацыі Георгій вывучаў нямецкую мову. Замежная філалогія была для яго незвычайнай і да канца не спазнанай стыхіяй, і ён пастаянна пашыраў свой лінгвістычны досвед, імкнуўся да глыбокага спасціжэння той ці іншай мовы. Пасля заканчэння універсітэта (1948) на працягу наступнага дзесяцігоддзя Георгій Яцэль закончыў Дзяржаўныя курсы па чатырох дзяржаўных мовах: іспанскай, нямецкай, французскай і польскай. Самастойна вывучыў сербахарвацкую мову, цудоўна валодаў лацінай. Апрача ўкраінскай і рускай моў, ён грунтоўна валодаў сямю мовамі, чатыры з якіх пастаянна скарыстоўваў у навучальным працэсе (англійскую, нямецкую, французскую і іспанскую).

З 1950 года і да апошніх дзён жыцця навукова-педагагічная дзейнасць Г. Яцэля была звязана з Кіеўскім інжынерна-будаўнічым інстытутам, які цяпер называецца Кіеўскі нацыянальны універсітэт будаўніцтва і архітэктуры. Тут ён прайшоў шлях ад выкладчыка да загадчыка кафедры замежных моў, якую ўзначальваў на працягу амаль сарака гадоў (1960-1998). У 1978 годзе яму было прысвоена вучонае званне прафесара. Георгій Пракопавіч праводзіў заняткі са студэнтамі старшых курсаў і аспірантамі каля 50-ці тэхнічных спецыяльнасцяў. У зборніку нарысаў пра памерлых акадэмікаў Акадэміі вышэйшай школы Украіны "Вічно в пам'яті і серці..." (Киів, 2002) гаворыцца пра яго высокі прафесійны ўзровень, выдатную эрудыцыю і лектарскае майстэрства: "Георгій Пракопавіч з трапяткім хваляваннем ставіўся да сваёй працы, да кожнай лекцыі рыхтаваўся надзвычай старанна. У яго архіве вельмі шмат папак з канспектамі лекцый, з выразкамі, з новымі паведамленнямі з газет, часопісаў, з уласнаручнымі запісамі радыёперадач на замежных мовах і дат. п. Каб ажывіць лекцыі, узбагаціць моўны запас у слухачоў, цытаваў крылатыя выслоўі з твораў англійскіх пісьменнікаў, вучоных, прыводзіў украінскія, англійскія, іспанскія, нямецкія і іншыя прымаўкі, якія падбіраў па тэмах. Заняткі праходзілі змястоўна і цікава. Моладзь любіла і цаніла яго лекцыі. У іх сэрцах ён застаўся яркім і незабыўным, у арэоле сваіх ведаў, напружанай працы, добразычлівасці".

Пра стаўленне да Георгія Пракопавіча ў Кіеўскім нацыянальным універсітэце будаўніцтва і архітэктуры, які ён называў "другім родным домам", сведчыць той факт, што пасля смерці ў яго гонар у гэтай

навучальнай установе адкрыта мемарыяльная дошка. Пра яго памятаюць шматлікія вучні, сябры і калегі. Асабіста ён падрыхтаваў 14 кандыдатаў навук. Г. Яцэль цалкам прысвяціў жыццё навуцы, шчодра ахвяраваў свае багатыя і унікальныя веды людзям. Ён з Божай ласкі меў сапраўдны талент педагога.

Георгій Яцэль — вучоны высокага рангу. Ён прэзентаваў свае лінгвістычныя ідэі і адкрыцці на міжнародных навуковых канферэнцыях і кангрэсах у розных краінах свету: Венгрыі, Францыі, Іспаніі, Канадзе, Расіі, Латвіі, Эстоніі. Яго найперш цікавілі складаныя і спрэчныя пытанні сучаснага моназнаўства. Яму належыць звыш 140 навуковых і навукова-метадычных прац. Асобныя з іх выйшлі ў выдавецтвах Кіеўскага і Львоўскага універсітэтаў, большасць артыкулаў апублікавана ў часопісах "Іноземна філологія", "Мовознавство", "Програмоване навчання" і інш.

Пры непасрэдным удзеле Г. Яцэля створана 5 падручнікаў па англійскай і нямецкай мовах, а таксама шматлікія вучэбныя дапаможнікі і метадычныя распрацоўкі як аднаасобна, так і ў суаўтарстве. Падручнік для студзнтаў тэхнічных ВНУ "Німецька мова: Поглиблений курс" і вучэбны дапаможнік для магістрантаў і аспірантаў "Наука і уніерситетська освіта" пабачылі свет ужо пасля смерці вучонага, у 2002 годзе. Трэба зазначыць, што "Німецька мова" гэтак жа, як і падручнікі па англійскай мове, выдадзеныя ў 90-я гады, адносіцца да новага пакалення навучальнай літаратуры: тут рэалізавана канцэпцыя вывучэння замежнай мовы на нацыянальнай аснове.

На Украіне вучоны набыў заслужаны аўтарытэт і высокае прызнанне. Ён уваходзіў у савет па абароне дысертацый на атрыманне вучонай ступені доктара філалагічных навук пры Кіеўскім універсітэце імя Т. Р. Шаўчэнкі, нязменна кіраваў секцыяй навукова-даследчай работы ў метадычным аб'яднанні па замежных мовах пры Міністэрстве асветы. Як выдатны вучоны і педагог Г. Яцэль быў абраны акадэмікам Акадэміі навук вышэйшай школы Украіны, яму было нададзена званне лаўрэата прэміі Яраслава Мудрага. Ён адзначаны трыма дзяржаўнымі ўзнагародамі.

Георгій Пракопавіч умеў ладзіць з людзьмі навукі, натхняць іх на працу, творчы пошук. А яшчэ, нягледзячы на сваю нездараўчатасць, здзіўляў нястомнай працавітасцю, жыццялюбствам і агітымізмам. Ён заўсёды імкнуўся трымацца інтэлігентна, з годнасцю, паводзіў сябе ў няпростых сітуацыях стрымана і высакародна, быў чалавекам вельмі сціплым. Тамара Яцэль гаворыць пра брата наступнае: "У раннім юнацтве на долю Георгія Пракопавіча выпала нямала цяжкіх выпрабаванняў, часам яго прымушалі пакутаваць і перажываць. Але ўсё

гэта не зрабіла яго чалавекам замкнёным і помслівым. Георгій Пракопавіч ніколі нікога не прыніжаў і не прымушаў пакутаваць. Ён моцна і хваравіта рэагаваў на розньм крыўды, але ніколі не помсціў крыўдзіцелям". Ён бескарысліва дапамагаў сябрам і знаёмым падрыхтавацца да паступлення ў ВНУ ці здаць кандыдацкі мінімум, знаходзіў час, каб выканаць просьбу таго, хто меў нейкую важную патрэбу. І гэта нягледзячы на тое, што ў родным універсітэце ў яго было шмат абавязкаў і клопатаў. Да прыкладу, ён неаднойчы выступаў у якасці перакладчыка на розных міжнародных з'ездах, нарадах і сустрэчах.

Георгій Пракопавіч марыў напісаць кнігу пра свой род, родных і блізкіх людзей, збіраўся грунтоўна распавесці і пра радаводнае дрэва па мацярынскай лініі. Беларусі ён быў не чужы, тут яго заўсёды помнілі. І не толькі блізкія і сваякі. Апаніруючай арганізацыяй па яго доктарскай дысертацыі выступіў мой родны Беларускі дзяржаўны універсітэт. Георгія Яцэля як арыгінальнага даследчыка-лінгвіста ведалі беларускія мовазнаўцы, і сярод іх такія славутасці, як прафесары А. Я. Супрун, П. П. Шуба.

Да яго навуковых прац у Беларусі найперш звярталіся даследчыкі англійскай мовы. Аднак мовазнаўчыя распрацоўкі Г. П. Яцэля прыдаліся і навукоўцам, якія даследавалі разнастайныя тэарэтычныя праблемы лінгвістыкі. Калі я ўпершыню запытаў у Паўла Паўлавіча Шубы пра тое, ці гаворыць яму што-небудзь імя лінгвіста Яцэля і паказаў яго аўтарэферат доктарскай дысертацыі, той адказаў: "А як жа, гаворыць. І даволі нямала..."

Напярэдадні 2002 года ў Кіеў на імя Г. П. Яцэля прыйшло паведамленне з Прагі: яго запрасілі прыняць удзел у XVII Міжнародным кангрэсе лінгвістаў, які меўся адбыцца ў 2003 годзе. На вялікі жаль, Георгію Пракопавічу не выпала парадавацца гэтай вестцы, у чарговы раз паехаць на кангрэс, які кожныя пяць гадоў збірае выдатных прадстаўнікоў лінгвістычнай думкі ўсяго свету. Восенню 1998 года Г. П. Яцэль раптоўна пайшоў з жыцця. Пахаваны ён на Байкавых могілках поруч з маці і родным дзядзькам.

У вечнасць адлятаюць гады, дні, хвіліны. Многае адыходзіць у мінулае, мяняюцца людзі, пакаленні і сам час, у якім наканавана жыць чалавечай супольнасці. У чым жа сэнс гэтага хуткаплыннага жыцця? У старадаўнасці сцвярджалі: "Vita sine litteris mors est" (жыццё без навукі нішто); "Et gaudium, et solatium in litteris" (радасць і суцяшэнне ў навуцы). Што ж застаеццапасля нас на зямлі? Старажытная мудрасць гаворыць: "Scripta mament" — напісанае застаецца. Так, створанае намі, занатаванае ў пісьмовых крыніцах пераажывае

цяперашні час і належыць будучыні. Той, хто сэнсам свайго жыцця абраў лінгвістычную навуку і слугаванне ёй, несумненна, зацікавіцца творчай спадчынай вучонага-паліглота Георгія Яцэля.

*2002-2003*

**Роднаму слову адданы**

Пачынаю гэтыя свае згадкі ў святы дзень, калі Дабравесце нагадвае пра неўвядальнасць Духу, а вясна надае магутны імпульс жыццёваму кругабегу... Сёння асабліва востра адчуваецца страта для роднага слова такіх яго духоўных прапаведнікаў і заступнікаў, самаахвярных руплівцаў, якім быў бсларускі інтэлігент Васіль Ульянавіч Протчанка. Яго імя вучонага-асветніка і адраджэнца — свеціць са скарынінска-коласаўскага шэрагу зіхоткім сонечным промнем і падтрымлівае нас у надзеі на Будучыню.

Асоба доктара педагагічных навук, прафесара Васіля Протчанкі (1930-2002) добра вядома ў нашай краіне, ён з'яўляецца аўтарам шматлікіх падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для сярэдняй школы і ВНУ. Яго пяру належыць больш як 130 навуковых прац. У 2001 годзе, незадоўга да смерці, пабачыла свет кніга прафесара Протчанкі "Актуальныя праблемы тэорыі і пракгыкі навучання беларускай мове". Гэта своесаблівы педагагічны тэстамент выдатнага вучонага.

Вобраз Васіля Ульянавіча запамінальны для мяне на ўсё астатняе жыццё сваёй індывідуальнай яркасцю і непаўторнасцю. Зрэшты, Васіль Ульянавіч да высокіх атэстацый і гучных азначэнняў сваёй персоны ставіўся стрымана, без эйфарыі, не прымаў адычнага хваласпеву, рэверансаў, тэатральнай няшчырасці, у падобным выпадку папрасіў бы гаварыць па сутнасці, маўляў, каб прамоўца не марнаваў час. Ён адчуваў, калі хтосьці хоча яму дагадзіць, як той славуты крапівінскі махальнік Іваноў, і займець такім чынам прыхільнае стаўленне. "Юпітэр — сябар, але ісціна даражэй", — гэтым правілам нязменна кіраваўся прафесар Протчанка.

Безумоўна, Васіль Ульянавіч ведаў сабе цану, быў удзячны за ўвагу да яго асобы, але, паўторымся, не хварэў на культаўскі снабізм. Так, у 2001 годзе выйшаў даведнік "Прафесары і дактары навук Беларускага дзяржаўнага універсітэта", у якім, на жаль, не знайшлося месца для біяграфічнай нататкі пра прафесара Протчанку, лес якога цесна звязаны з БДУ: тут ён быў аспірантам кафедры беларускай літаратуры, намеснікам дэкана факультэта для замежных грамадзян, больш дзесяці гадоў адначасова з працай у Нацыянальным інстытуце адукацыі выкладаў методыку беларускай мовы, вёў студэнцкі навуковы спецсемінар, кіраваў дыпломнымі работамі, узначальваў Дзяржаўную экзаменацыйную камісію, з'яўляўся намеснікам старшыні савета Д 02.01.21 па абароне дысертацый па педагагічных навуках. Калі Васіль Ульянавіч у маёй прысутнасці пачаў знаёміцца з кнігай пра вучоных БДУ, я са шкадаваннем і няёмкасцю сказаў пра адсут-

насць у гэтым выданні яго біяграфіі. Ён адрэагаваў на маю заўвагу спакойна, адразу знайшоў апраўданне ўкладальніцкаму недагляду: "Нічога страшнага. Я ж на філфаку працаваў пагадзіннікам..." Праз хвілін колькі ён дагартаў да літары "Б" і, на яго вялікае здзіўленне, не сустрэў прозвішча вядомага мовазнаўцы, прафесара, былога загадчыка кафедры сучаснай беларускай мовы БДУ Л. І. Бурака. Васіль Ульянавіч не паверыў сваім вачам, адрэагаваў на тое недаўменнымі запытаннямі: "А дзе ж Бурак? Няўжо пра яго забылі?" І даў сваю ацэнку гэтаму "праколу": "Вось гэта дрэнна, братка. А што мяне не згадалі — усяго той бяды". Васіль Ульянавіч Протчанка ўвайшоў у гісторыю беларускай навукі і культуры яшчэ пры жыцці, яскравым сведчаннем чаму такія выданні, як энцыклапедыя "Беларуская мова" (1994), "Беларуская энцыклапедыя" (Т. 13. 2001), энцыклапедычны даведнік "Наука Беларуси в XX столетии" (2001) і інш. Увогуле, яго жыццёвы і творчы шлях па-сапраўднаму ўражвае і захапляе: сын палескай вёскі Зарэчча, звычайны беларускі хлопец узняўся да вышыняў вучонасці, стаў Настаўнікам роднай мовы ў маштабах усёй краіны, выбітным Асветнікам сучаснай Беларусі. Пры непасрэдным удзеле В. У. Протчанкі распрацавана Канцэпцыя моўнай адукацыі, створаны для нацыянальнай школы адукацыйныя стандарты, навучальныя праграмы, ім напісаны школьныя падручнікі і дапаможнікі. Ідэя асобаснага, матывацыйна-мэтавага навучання мове стала яго важкім укладам у беларускую навуку і адукацыю. Вельмі сімвалічна, што навукова-асветніцкая дзейнасць прафесара Протчанкі адзначана медалём Ф. Скарыны.

Я няшмат працаваў поруч з Васілём Ульянавічам у Нацыянальным інстытуце адукацыі, але мне пашчасціла крыху ведаць яго, раіцца з ім, шукаць у яго падтрымкі. Упершыню мы пабачыліся ў 1989 годзе на II Куляшоўскіх чытаннях, якія праходзілі ў Магілёўскім педінстытуце. Ён выступаў з дакладам на пленарным пасяджэнні, гаварыў без паперы перад вачыма. Ад таго яго выступлення засталося незабыўнае ўражанне: адчувалася, што прамоўца надзвычай усхваляваны станам выкладання беларускай мовы ў школе, ён крытыкаваў традыцыйныя падыходы ў методыцы, акцэнтаваў увагу на першачарговых праблемах, якія неабходна вырашыць, каб зрабіць эфектыўным навучанне роднай мове. Запомнілася, што ён чытаў на памяць вершы беларускіх паэтаў прыводзіў прыклады таго, як можна актывізаваць камунікатыўны патэнцыял вучня, выпрацаваць у яго навыкі звязнага маўлення. Голас Васіля Ульянавіча, роўны і разважлівы напачатку, пад самы канец выступлення пачаў цішэць, зрабіўся хрыплавата-ломкім: дало знаць эмацыянальнае неранапружанне. Аўдыторыя, пе-

раважную большасць якой складалі студэнты і настаўнікі, сустрэла тое ўзрушанае слова Протчанкі ўдзячнымі і гулкімі воплескамі.

А далей так атрымалася, што падчас чытанняў мы апынуліся ў адным гурце. Я акурат разгледзеў Васіля Ульянавіча, які пры гаворцы ўвесь час жэстыкуляваў правай рукой: магутная высокая постаць, адкрыты, з залысінамі сакратаўскі лоб, крыху выгнутыя бровы, засмягла-шурпатыя губы, сканцэнтравана-засяроджаны і разам з тым пранізлівы позірк вачэй. На той момант я быў малады аспірант, меў вялікі піетэт да людзей навукі, таму не адважыўся ўставіць у гутарку свае "тры грошы". Я слухаў Протчанкавы разважанні і довады і ўжо тады зразумеў, што знаходжуся з вучоным глыбокіх перакананняў, які адстойвае наватарскія падыходы ў навучанні. Ад самога Васіля Ульянавіча я ўведаў, што ён заканчвае працу над доктарскай дысертацыяй і прыехаў, апрача іншага, у Магілёў дзеля апрабацыі сваіх навуковых палажэнняў і высноў. Не памятаю, як здарылася, але пасля чытанняў мы з Васілём Ульянавічам пайшлі на шпацыр па горадзе. І зноў я слухаў гэтага чалавека, які быў, здавалася, цалкам паглынуты навукай, праблемамі адукацыі. Зрэдку ён запытваўся і пра маю думку адносна таго, пра што ён гаварыў, але настаўніцкі досвед у мяне быў сціплы, у дыдактычных пытаннях бракавала, як кажуць, належнай падкаванасці. Мы гулялі па горадзе, які быў заліты палетняму шчодрым сонцам і буяў маладой зелянінай. У нейкі момант Васіль Ульянавіч перастаў гаварыць, і мы крочылі моўчкі датуль, пакуль ён не спыніўся і, мусіць, міжволі не згадаў куляшоўскае:

...І я гатоў, як дрэў трывалых вецце,
Пераступіць яшчэ ў адну пару
Свайго жыцця, пакінуўшы ў кювеце
Прыгожую ману аб вечным лецце.

Пазней я быў сведкам, як на экзаменах Васіль Ульянавіч прапаноўваў аспірантам для практычнага аналізу філасофскія вершы Куляшова, пранікнёна чытаў іх на памяць. Адчувалася: яму імпанавала глыбокая на думку паэзія.

Часу да цягніка тады заставалася багата, балазе мы падышлі да кінатэатра, і Васіль Ульянавіч прапанаваў схадзіць на фільм. Кінастужка тая была нудная, нецікавая, і яго змарыла стома, ён заснуў.

Вярталіся ў сталіцу мы разам, ехалі ў адным купэ — я заставаўся ўжо не толькі слухачом, бо Васіль Ульянавіч распытваў пра кафедру, да якой ён калісьці быў прымацаваны аспірантам, пра мае родныя мясціны, пра тое, што чытаю з сучаснай літаратуры.

Далей былі вітанні, поціскі рук. Праўда, сустракаліся на філфаку мы рэдка. Я слухаў яго колькі выступленняў на навуковых канферэн-

цыях, прыносіў яму як галоўнаму рэдактару часопіса "Беларуская мова і літаратура" свае артыкулы. Бачыцца часцей мы пачалі ў сценах Нацыянальнага інстытута адукацыі, калі напрыканцы 2000 года я заступіў на пасаду загадчыка лабараторыі літаратурнай адукацыі неўзабаве пасля смерці акадэміка М. А. Лазарука. У мяне склалася сваё ўспрыманне Васіля Ульянавіча як вучонага і чалавека.

Найпершы мой клопат быў у тым, каб пастарацца "зацугляць наравістую методыку", прайсці, кажучы словамі М. Багдановіча, "паўтарыцельны курс", падвысіць і абнавіць свае веды. На дапамогу прыйшоў Васіль Ульянавіч. Я адразу адчуў яго асаблівую прыхільнасць, нават бацькоўскую апеку, яго шчырае жаданне дапамагчы мне знайсці сябе на новай дзялянцы. "Даражэнькі Алесь! — гаварыў ён. — Я аддаў методыцы не адзін дзесятак гадоў, але не лічу сябе ўсяведам, маўляў, я ўсё даўно ведаю, усё спазнаў. Мне — семдзесят, а я штодня вучуся. — І казаў, даючы параду: — Не зазнавайся, не стамляйся вучыцца, пашыраць і ўгрунтоўваць сваю кампетэнцыю". І Протчанка прапаноўваў мне новыя замежныя навукова-метадычныя часопісы, па якіх ужо густа пахадзіў яго каляровы маркер. Між тым, ён любіў гэтае слова "кампетэнцыя", бо не цярпеў верхаглядства, непрафесійнасці, амбітнай пыхі. Безапеляцыйнасць, а-ля методыка, калядыдактычныя практыкаванні сустракалі з боку Протчанкі рэзкае непрыманне, калі хочаце, супраціў. Васіль Ульянавіч патрабаваў ад аспірантаў і дактарантаў, студэнтаў і маладых калег — і не толькі ад іх! — навуковай выверанасці і абгрунтаванасці думкі, творчай, а не адвольнай трактоўкі навуковых дэфініцый, развіцця дыдактычных ідэй, а не іх калькавання, механічнага пераносення з чужароднай на беларускую глебу. Сам жа Васіль Ульянавіч быў выдатны палеміст, бліскуча валодаў сістэмай аргументацыі і доказнасці. У бездакорнай логіцы і глыбокай аналітыцы прафесара Протчанкі я пераканаўся неаднойчы, слухаючы яго выступленні на вучоных саветах НІА, саветах па абароне дысертацый у БДУ. Слова яго было заўсёды ўзважанае, прадуманае, падмацаванае тэарэтычнымі выкладкамі. Гэтаму вучыў і тых, хто ідзе ў навуку: дыскутаваць, пераканальна даводзіць сваю пазіцыю, шукаць у спрэчках ісціну. Вораг методыкі, лічыў ён, дылетанцтва, аморфнасць і прыблізнасць думкі. Гэты хаос, адвольная і не абцяжараная навуковасцю інтэрпрэтацыя матэрыялу прыводзіць да таго, што методыку часам жартоўна параўноўваюць з п'яным чалавекам, якога хістае, водзіць у розныя бакі. В. У, Протчанка патрабаваў сістэмнага падыходу да вырашэння адукацыйных і метадычныгх праблем, дамагаўся выразнасці, яснасці мэт і задач пры канструяванні зместу навучання, з педантычнасцю шліфаваў фарму-

лёўкі тэм, каб тыя ў выніку мелі навуковую прэзентабельнасць, рэкамендаваў і раіў толькі тое, што актывізуе творчы пошук, прынясе сапраўдны плен.

Што грэх утойваць: камусьці прафесар Протчанка мог падацца сярдзітым, гняўлівым і нават зацятым у адстойванні сваіх поглядаў. Асабіста я такім яго не ведаю. Ён быў гранічна адкрыты, бо гаварыў тое, што думае, публічна, а не ў кулуарных баталіях ці на адмысловых пасядзенках. Заставаўся прынцыповы, не мог пайсці на кампраміс з сумленнем, адсюль яго часам вострая крытычнасць, рэзкасць тону, нават суровасць у ацэнках павярхоўных меркаванняў і хуткаспелых высноў. А яшчэ ён не мог стрываць бесцырымоннасць, нетактоўнасць у тых выпадках, калі прыніжалася яго навуковая і чалавечая годнасць. Праз гэта ён вельмі перажываў. Як мог, я супакойваў Васіля Ульянавіча, калі ён балюча рэагаваў на беспадстаўныя закіды ў рэцэнзіі на яго падручнік для IX класа. Ён запрасіў аўтара той рэцэнзіі на гутарку, каб зняць, магчыма, дыскусійныя пытанні, сёе-тое праясніць ці пачуць больш доказныя крытычныя меркаванні. Рэцэнзентка, мабыць, праігнаравала тое запрашэнне, і прафесар Протчанка справядліва абураўся такімі яе паводзінамі.

Васіль Ульянавіч хоць і патрабавальна, але з шчырай добразычлівасцю ставіўся да моладзі. "А мая вы, Шкілёнак, я вельмі рады вашаму поспеху", — не хаваючы радасці, сказаў Васіль Ульянавіч маладому метадысту пасля яе абароны дысертацыі. "Гэтага хлопца са Смалян нам трэба падтрымаць. Ён сталы аўтар часопіса, з яго, пэўна, будзе толк", — сказаў ён перад уступным экзаменам у аспірантуру пра настаўніка з-пад Оршы В. Мяжэвіча.

Васіль Ульянавіч аднойчы мне патлумачыў, чаму не хоча браць новых аспірантаў і кіраваць іх навуковай працай. Ён усё ж прадчуваў наканаванасць немінучага адыходу, добра ўсведамляў усю адказнасць, якая кладзецца на яго плечы за лёс маладога вучонага. Баяўся і шкадаваў што не паспее вывесці некага на прасцягі навукі. Я тады распавёў Васілго Ульянавічу пра тое, што мая жонка некалі абараніла дыпломную работу па методыцы мовы, даследавала праблемы словаўтварэння, абапіралася пры гэтым на яго сістэму навучання. І марыла паступіць у аспірантуру. У педінстытуце, куды яна падалася, зведала дыскрымінацыю: маўляў, хай жанчына дзяцей гадуе, а не ў навуку ідзе. "Слухай, Алесь, хай паступае да нас у аспірантуру, я буду яе кіраўніком", — адразу ж прапанаваў Васіль Ульянавіч і дадаў: "Мары павінны спраўджвацца". Вядома, я падзякаваў Васілю Ульянавічу, сказаў што ўжо позна гэта рабіць, ды і сама яна нікольлкі не шкадуе пра няздзейсненую навуковую кар'еру. А прыклад таму — дзесяткі

кандыдатаў навук, якія пасля абароны дысертацый заспакоіліся, так і не здолелі генерыраваць новыя навуковыя ідэі, нават не навучыліся цікава выкладаць свой прадмет. Пасля таго, як жонка даведалася пра змест нашай гутаркі, яна сказала: "Нечага сур'ёзнага дасягнуць у методыцы, мусіць, можна толькі маючы за настаўніка навукоўца такога маштабу і ўзроўню, як Васіль Ульянавіч Протчанка". Ён быў карыфей у методыцы выкладання мовы і педагогіцы, вучоны самага высокага рангу, таму такім пашаноўным было стаўленне да яго студэнцкай і навуковай моладзі.

За год да смерці Васіль Ульянавіч прапанаваў мне рэдагаваць часопіс "Беларуская мова і літаратура". Напачатку я аднекваўся, але ён праз колькі часу ўсё ж давёў чаму хоча перадаць мне гэтае выданне, як ён сказаў, "у спадчыну". Канцэпцыя часопіса была распрадавана і рэалізавана ім надзвычай паспяхова. Протчанкаўская традыцыя прадвызначае далейшае развіццё выдання, якое выходзіць сёння накладам каля 6 тысяч асобнікаў.

Па-грамадзянску В. У. Протчанка быў заклапочаны станам роднай мовы, асабліва што тычыцца яе вывучэння ў школе. І пра беларускую літаратуру хваляваўся таксама, на выкладанне якой, і тут мы былі аднадумцы, павінна быць адведзена як мага больш гадзін. І гэта зразумела: родная мова і літаратура фармуюць ментальнасць, беларускую душу, свет асобы. Калі я паведаміў Васілю Ульянавічу пра агучаную мне ідэю інтэграванага курса — беларуская, руская і сусветная літаратура, то ён адразу выказаўся крытычна і прапанаваў: "Нам трэба стварыць альтэрнатыўны курс для старшакласнікаў — беларуская мова і літаратура. Ён цалкам магчымы, гэтая ідэя жыццяздольная. Давай паспрабуем разам распрацаваць гэты курс".

Мне чамусьці Васіль Ульянавіч не памятаецца спахмурнелым, панурым. Праўда, ён колькі разоў наракаў на сваё самаадчуванне, але трымаўся мужна. Толькі самая апошняя наша сустрэча на калідоры інстытута выдала ў ім спакутаванага чалавека, якога апаноўвае хвароба. Але на развітанне я адчуў цёплы поціск рукі. Помніцца: яго вочы гаварылі пра нядобрае, фатальнае, але цяпло рукі абнадзейвала...

Так атрымалася, што мне не давялося правесці на вечны спачын Васіля Ульянавіча. Можа таму мне чамусьці здаецца, што я яшчэ пабачу яго на гэтым свеце. Ён жывы для мяне, я думаю пра Васіля Ульянавіча з удзячнасцю. У сваім жыцці я сустрэў рэдкага і цудоўнага чалавека, які, нягледзячы на розніцу ва ўзросце, ставіўся да мяне пасяброўску, з павагай, душэўнай чуласцю і далікатнасцю. Скажу шчыра: такіх людзей на маім шляху было небагата, таму забыць дарагі воблік Васіля Ульянавіча немагчыма.

Васіль Ульянавіч Протчанка быў і застанецца яркай Асобай і вялікім аўтарытэтам у метадычнай навуцы, яго духоўная прысутнасць у нашым нацыянальным свеце будзе доўжыцца даіуль, пакуль будзе існаваць само Роднае Слова.

*2003*

## У святле ідэй акадэміка Лазарука

Цяжка недаацаніць самаахвярную працу Міхася Арсеньевіча Лазарука (1926-2000) на ніве нацыянальнай адукацыі. За апошняе дзесяцігоддзе сваёй навукова-творчай дзейнасці — ад пачатку 90-х да зыходу XX стагоддзя — ён асабліва шмат зрабіў дзеля развіцця айчыннай тэорыі і методыкі літаратурнага навучання. Акадэмік Лазарук быў стратэгам і рэфарматарам школьнай адукацыі. Пад яго кіраўніцтвам і непасрэдным актыўным удзелам была распрацавана канцэптуальная мадэль літаратурнага навучання, адукацыйны стандарт па беларускай літаратуры — нарматыўна-праграмны дакумент для сярэдняй школы з 11-гадовым тэрмінам навучання, а таксама створаны навучальныя праграмы і вучэбна-метадычныя комплексы. Міхась Лазарук выразна пазначыў асноўныя накірункі і шляхі практычнай рэалізацыі перабудовы зместу адукацыі на сучасным этапе, абгрунтаваў неабходнасць абагульнення вопыту навуковай і практычнай методыкі літаратурнага навучання і выхавання.

Педагагічныя ідэі, перакананні і развагі вучонага знайшлі найбольш поўнае адлюстраванне ў яго кнізе "Навучанне і выхаванне творчасцю" (1994). Каштоўнасць яе асабліва ўзрастае цяпер, калі сучасная школа знаходзіцца на шляху рэфармавання, пераходу на 12-гадовы тэрмін навучання. Міхась Лазарук стаяў ля вытокаў працэсу пераструктуравання і ўдасканалення зместу літаратурнай адукацыі ў сучасных умовах, ён упэўнена трымаў руку на пульсе перадавой педагагічнай думкі, актуалізаваў шматлікія адукацыйна-выхаваўчыя праблемы і пытанні. Ён разумеў школьную літаратурную адукацыю як працэс сістэмнага навучання прадмету. У канцэптуальна-наватарскім раздзеле са згаданай кнігі "Накірункі абнаўлення. У пошуках сістэмы" вучоны гаворыць пра перспектыўнасць канцэпцыі літаратурнага навучання, якое зарыентавана на развіццё асобы вучня. Ён адзначае, што "неабходна дыферэнцыяцыя навучання, індывідуальна-асабовы падыход да навучэнцаў, рознаўзроўневы змест і характар літаратурнай адукацыі... Але ж гэта толькі адзін бок справы. Такой жа дыферэнцыяцыі патрабуе і падыход да самой літаратуры, да спосабаў выяўлення яе разнастайнага, рознагалосага зместу. У гэтым кірунку пакуль што нічога цікавага не выказана і не зроблена. Як і раней, чуем агульныя пажаданні наконт таго, каб успрымаць літаратуру "сэрцам і душой", або, напрыклад, такія характэрныя вызначэнні задач літаратурнага навучання, што літаратура ў школе мае мэтай увесці вучняў у свет прыгожага (цудоўнага)".

Міхась Лазарук акурат і прапанаваў арыгінальныя, канцэптуальна прадуманыя падыходы ў вывучэнні школьнай літаратуры, якія былі паспяхова рэалізаваны пры стварэнні падручнікаў па беларускай літаратуры для 6 і 7 класаў. У аснову навучання літаратуры як мастацтва слова і крыніцы пазнання свету ім пакладзена культурацэнтрычная мадэль. А гэта значыць, што асоба чалавека фармуецца як на эмацыянальна-псіхалагічным узроўні, так і ў працэсе мастацкаэстэтычнага выхавання, у выніку духоўна-інтэлектуальнай і творчай дзейнасці, скіраванай на пазнанне прыроды, жыцця грамадства, нацыянальных і агульначалавечых культурных каштоўнасцяў. І сапраўды: якімі важнымі і прывабнымі з'яўляюцца культура адчуванняў, культура мыслення, інтэлектуальна-пачуццёвае самавыяўленне, агульнакультурны менталітэт! У гэтым Міхась Лазарук бачыў духоўнае і маральнае хараство асобы. А гэтае ўзбагачэнне магчымае ў выніку эстэтычна чуйнага, глыбокага дачынення чалавека да свету мастацтва.

Навукова-метадычны досвед акадэміка Лазарука набыў асаблівую значнасць цяпер, калі распачалася праца па мадэрнізацыі адукацыйнага стандарту, удакладненні канцэпцыі прадмета, абнаўленні зместу навучання беларускай літаратуры. У святле канцэптуальных ідэй і падыходаў выдатнага вучонага лабараторыя літаратурнай адукацыі НІА намагалася вырашыць шэраг актуальных, першачарговых задач.

У сувязі з пераходам школы на 12-гадовы тэрмін навучання ўзнікла патрэба ў карэкціроўцы і пашырэнні трактоўкі зместу навучання, навукова-метадычнай распрацоўцы яго асобных кірункаў. Агульнаадукацыйны стандарт дасць магчымасць замацаваць ці ўдакладніць вядучыя змястоўныя лініі, структуру і функцыі літаратурнага навучання, яшчэ раз пераасэнсаваць ці дапоўніць яго мэты і задачы. І такая праца патрабуе далейшых калектыўных намаганняў. На шчасце, мы пачынаем не з пачатку, не з нулявой адмеціны. Тэарэтыка-метадалагічны і практычны вопыт ужо назапашаны Міхасём Лазаруком і іншымі навукоўцамі Нацыянальнага інстытута адукацыі. Абноўлены канцэптуальна-праграмны дакумент зафіксуе мэтавыя ўстаноўкі, галоўныя падыходы і патрабаванні да навучальнага курса беларускай літаратуры, стане той універсальна значнай і адкрытай сістэмай, у межах якой могуць і павінны існаваць паралельныя навучальныя праграмы, прычым і індывідуальна-аўтарскія (накшталт праграмы, па якой працуюць у Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэі імя Якуба Коласа). Толькі ў межах варыятыўнага кампанента на заключнай ступені навучання ў базавай школе і ў старшых (ліцэйскіх) класах мы маем магчымасць прапанаваць цэлы

дзесятак курсаў на выбар — такіх, як, напрыклад, "Міфалогія і літаратура", "Літаратурная творчасць", "Мастацкая літаратура і гісторыя", "Сучасны тэатр і беларуская драматургія", "Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай літаратуры" і інш.

Усё сказанае, аднак, не азначае, што трэба задаволіцца сённяшнімі набыткамі. Узрастае патрэба ў дыскусіях, неабходна не толькі шукаць аптымальныя шляхі ажыццяўлення прапанаваных ідэй і канцэпцый, але і намагацца генерыраваць штосьці новае, нестандартнае і неардынарнае. Рэформа не павінна звесціся да рэструктурызацыі сістэмы адукацыі, эканоміі фінансавых сродкаў, а закранаць глыбінныя асновы тэорыі і практыкі навучання. Творчы пошук, абмен думкамі — гэта тое, што паслужыць на карысць агульнай справе.

Адной з прыярытэтных задач з'яўляецца і рэфармаванне праграм па беларускай літаратуры, асабліва што тычыцца заключных канцэнтраў у сістэме літаратурнай адукацыі. Мадэрнізацыя праграм вядзецца з павагай да зробленага Міхасём Арсеньевічам Лазаруком, яго паплечнікамі і аднадумцамі. Аналітычны аналіз праграм паказвае, што ёсць магчымасць унесці новыя ідэі і канцэпты ў фармаванне навучальных курсаў і раздзелаў праграм, пазбавіцца перагружанасці матэрыялу, асобных установак, структурных пралікаў, таўталогіі і іншых недахопаў. Ёсць усе перадумовы і падставы для таго, каб даць нашай школе з 12-гадовым тэрмінам навучання мадэрнізаваныя праграмы па беларускай літаратуры, падручнікі і дапаможнікі з адпаведным вучэбна-метадычным забеспячэннем. Каб прапанаваць штосьці альтэрнатыўнае і мабілізаваць інтэлектуальныя рэсурсы ў маштабах усёй краіны – дзеля гэтага патрэбны вялікія фінансавыя затраты.

Ва ўмовах дыферэнцыяцыі навучання, з улікам інтэлектуальна-пазнавальных і ўзроставa-псіхалагічных асаблівасцяў малодшых падлеткаў створаны новы арыгінальны падручнік па беларускай лігаратуры для вучняў 5 класа з 12-гадовым тэрмінам навучання. Ён лагічна ўпісваецца ў кантэкст індывідуальна арыентаванай сістэмы навучання, агульнай канцэпцыі літаратурнай адукацыі, распрацаванай пад кіраўніцтвам М. А. Лазарука. З пераходам на 12-гадовую форму навучання ў канцэнтры сярэдніх класаў узнік дадатковы клас (ці яшчэ адзін год навучання). Механічнае, аўтаматычнае пасоўванне падручнікаў на клас ніжэй аказалася не зусім апраўданым, абгрунтаваным і прадуктыўным. Пашырэнне прапедэўтычнага курса дасць магчымасць падвесці вучняў 5 класа (а ў 12-годцы яны будуць на год меншыя!) да больш складанага ўспрымання мастацтва слова, да засваення літаратурнага матэрыялу, згрупаванага паводле канцэпцыі "паэзія — проза" і родава-жанравай спецыфікі мастацкай творчасці

(6-7 клас). Між іншым, сёння мы імкнемся даць настаўнікам у школу вучэбна-метадычныя комплексы, якія ўключаюць, апрача іншага, і аўдыёхрэстаматыю.

Беларускі вучоны-педагог Міхась Лазарук цудоўна разумеў значэнне гуманітарнага, літаратурна-эстэтычнага навучання і выхавання, бо менавіта яно скіравана да ўнутранага свету вучня, уплывае на фармаванне светапогляду і станаўленне культуры чалавека. І асаблівая адукацыйна-выхаваўчая і культуратворчая роля ў гэтым працэсе павінна належаць нацыянальнай літаратуры, якая заклікана дапамагчы духоўна-патрыятычнаму і маральна-гуманістычнаму ўзмужненню і гартаванню асобы грамадзяніна Беларусі. У чарговы раз варта з трывогай і надзеяй на лепшае сказаць пра праблему, якая ўзнікла з вывучэннем беларускай літаратуры ў школах з рускай мовай навучання. Такіх школ на сённяшні дзень каля 90 %. Падчас сустрэчы з аўтарытэтнымі педагогамі-практыкамі і кіраўнікамі раённых метадычных аб'яднанняў і секцый настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры Мінічыны ў маі 2001 года ў Мінскім абласным інстытуце павышэння кваліфікацыі настаўнікаў самае першае ўзнятае пытанне тычылася не ўласна метадычных праблем, а таго незайздроснага стану, у якім апынулася беларуская літаратура ў рускамоўных школах. "Мы, хто выкладае беларускую літаратуру ў рускіх школах, адчуваем сябе ў няроўных умовах, — выказалася пра набалелае адна з настаўніц і ўмольна папрасіла: — Рабіце што-небудзь, каб памяняць сітуацыю".

У базавай школе з рускай мовай навучання на выкладанне беларускай літаратуры адводзіцца фактычна адна гадзіна на тыдзень, і найчасцей гэтую гадзіну, як пасведчыла маці вучаніцы рускамоўнай школы, выносяць у расклад трэцім урокам у суботу — пра якое фармаванне нацыянальнай свядомасці і агульнакультурнага менталітэту можна тады казаць? Такое адведзенае месца роднай літаратуры ў сучасным навучальна-выхаваўчым працэсе — сур'ёзны прагал у гуманітарным цыкле, бо літаратура вельмі адчувальна ўздзейнічае на фармаванне духоўнасці чалавека, яна выхоўвае асобу. Чалавекастваральная і нацыястваральная місія школьнай літаратуры проста відавочная, таму недаацэньваць яе ці ігнараваць нельга, бо гэтага нам усім, напэўна, не даруюць ні будучыня, ні гісторыя. У значнай ступені ад Нацыянальнага інстытута адукацыі, у першую чаргу ад навукоўцаў-педагогаў, якія праектуюць змест вучэбнага плана 12-гадовай школы, залежыць заўтрашні дзень у лёсе выкладання беларускай літаратуры ў школах з рускай мовай навучання. А месца яна павінна займаць калі не прыярытэтнае, то хаця б нароўні з рускай літаратурай. І паколькі сёння гаворыцца пра роўнасць абедзвюх моў у грамадстве, дык такая

ж роўнасць павінна быць і паміж літаратурамі, якія ствараюцца на гэтых мовах. Беларуская мова і літаратура ў школе як грамадскім інстытуце здольная калі не кардынальна, дык хоць пэўным чынам паспрыяць паляпшэнню моўна-культурнай сітуацыі ў краіне. Наша школа ў цэлым і літаратурнае навучанне на роднай мове могуць на сучасным этапе многае, а галоўнае — выхаваць асобу не аморфную, а, кажучы словамі пісьменніка, асобу "карнявога чалавека" — чалавека, які глыбока пароднены з беларускім краем, яго традыцыямі, культурнымі набыткамі, духоўнымі каштоўнасцямі людской цывілізацыі.

У асобу такой высокай агульнай культуры верыў вучоны-педагог Міхась Лазарук, які ўсё сваё свядомае жыццё аддаў нацыянальнай школе і справе літаратурнай адукацыі. У гэта глыбока вераць пераемнікі яго ідэй і поглядаў.

*2001*

## Прага красы і праўды

Сёння ўжо відавочна, што ў беларускай крыты ды XX стагоддзя Варлен Бечык — яркая і значная Асоба. Лёс адмераў яму ўсяго 46 гадоў. А колькі іх, хто дбаў пра паўнакроўнае развіццё і прэстыж нашай крытыкі і літаратурнай навукі, дачасна пакінулі гэты зямны свет: Рыгор Семашкевіч, Ала Кабаковіч, Міхась Стральцоў Іван Ралько, Тамара Чабан, Аляксей Мельнікаў... З гэтага шэрагу і імя Варлена Бечыка.

Яго ўзрост набліжаўся да поўні жыцця, калі хацелася паспець яшчэ так многа здзейсніць. А задумана было нямала: кніга пра Пімена Панчанку, праблемныя артыкулы, жадалася "зрабіць юбілейнага Купалу". Гэтая апантанасць жыць літаратурай не пакідала даследчыка нават на шпітальным ложку, і, хоць хвароба ваяўніча падступалася, брала верх, ён не здаваўся, трымаўся мужна, загадваў сабе: "І ўсё ж — кніжкі і ручку ў рукі, час працаваць" (Бечык В. Радкі і жыццё: Старонкі дзённіка. Мн., 1993. С. 289). На вялікі жаль, немач прывяла за сабою смерць, якая заўчасна забрала душу Варлена Бечыка ў вечны вырай:

Сквапная смерць
Выбірае спакону
Прыгажосць з прыгажосці,
Дабрыню з дабрыні,
І жудасна робіцца
Чалавечай радні
Ад лютасці скону,
Ад позірку кону.

*(Р. Барадулін. "Памяці Варлена Бечыка")*

Варлен Леанідавіч Бечык нарадзіўся ў даваенны час, 25 чэрвеня 1939 года, у Астрашыцкім Гарадку на Міншчыне. Ён адносіцца да пакалення "дзяцей вайны", ці, як пазней назвалі крытыкі гэтае пакаленне ў літаратуры, — "філалагічнага". На дзяцінства Варлена Бечыка і яго аднагодкаў выпала мала радасці, яны, кажучы словамі паэтэсы, напоўніцу зведалі, "Што такое бяздом'е сцюжнае, // Што такое бяссонне мужнае. // Што такое, як есці хочацца, // Што такое, як раны сочацца..." (Е. Лось). Незадоўга да смерці, 9 снежня 1984 года, В. Бечык зрабіў запіс, які прасякнуты гранічна шчырай спавядальнасцю:

"Прабачце. Я галадаў і мёрз, я не меў дзяцінства, я дзічэў у адзіноце 43-га — 44-га года, я быў інвалідам другой групы, я не буду мець уласных дзяцей, і наўрад ці прыйдзе хто на маю магілу".

Цяжка, пакутліва пачувалася яго сэрцу. Ад драматызму ўласнага лёсу, вострых дзіцячых уражанняў ваеннай пары і пачынаецца В. Бечык як чалавек чуйнага і далікатнага светаадчування, які надзвычай эмацыянальна рэагаваў на розныя праявы навакольнай рэчаіснасці, разумеў і любіў мастацтва. Ён насамперш імкнуўся ўбачыць ці адшукаць прыгожае, светлае, чалавечнае, не прымаў крывадушнасці, подласці, зла. Пішучы пра ўваходзіны ў дарослае жыццё і літаратуру свайго пакалення "шасцідзесятнікаў", В. Бечык адначасна казаў і пра ўласнае духоўнае станаўленне: "Яны раслі, дужэлі, выходзілі на самастойную жыццёвуго дарогу, адольваючы вялікія нягоды і цяжкасці. Адсюль — вытокі іх душэўнага вопыту, абвостранага адчування жыццёвай красы...".

Варлен Бечык, як і многія яго раўналеткі ў літаратуры, вучыўся на філфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта (вось адкуль і вядомае вызначэнне — "філалагічнае" пакаленне). На яго "філалагічны" выбар паўплывала маці — Ларыса Лявонцеўна Кароткая. Яна з дзяцінства выхавала ў сына добры густ да мастацкай кнігі, паэтычнага слова. "Я вельмі ўдзячны табе, мама, што ты вучыла мяне любіць паэзію, што творы ўсіх лепшых нашых паэтаў я пачуў упершыню з тваіх вуснаў", — з сыноўняй уцзячнасцю пісаў В. Бечык. Між іншым, першай беларускай кнігай, якая надзвычай захапіла хлопчыка, стала паэма Аркадзя Куляшова "Прыгоды цымбал". (Ці не з гэтай першай кніжкі і пачынаецца асаблівая прыхільнасць і любоў В. Бечыка да паэзіі Куляшова?!) Зрэшты, Ларыса Лявонцеўна Кароткая, якая на зыходзе XX стагоддзя, у сакавіку 1999 года, адзначыла сваё 80-годдзе з дня нараджэння, у пасляваенныя гады настаўнічала, затым доўгі час выкладала рускую літараіуру на філфаку БДУ і, апрача іншага, даследавала творчасць беларускіх пісьменнікаў. Маці, як ніхто, разумела і адчувала сына, як магла, аберагала яго, адорвала цяплом і чалавечнасцю, хоць так часта яна была аддадзена людзям: "У дні нараджэння – толькі мама..."; "Учора вечарам у мамы. Глыток чыстага паветра...".

Стуцэнцкая вучоба В. Бечыка прыпала на другую палову 50-х гадоў. Гэта быў час значных пазітыўных пераменаў у грамадстве: вядомы XX з'езд КПСС асудзіў культ асобы Сталіна, адкрылася праўда пра рэпрэсіі і знішчэнне людзей, рэфармавалася савецкая сістэма, усталёўваліся дэмакратычныя і гуманістычныя прынцыпы жыцця. Аднойчы даведаўшыся пра жахлівую расправу з беларускай творчай інтэлігенцыяй, пра злачынствы супраць сумленных людзей і чалавечнасці, В. Бечык зненавідзеў сталіншчыну і яе апрычнікаў, праз якіх наша духоўная культура панесла вялікія страты. Пазней, у 1967 годзе, ён з гневам занатуе ў сваім дзённіку прозвішчы А. Есакова і А. Кучара —

тых, хто паклёпнічаў, дапамагаў выкрываць "ворагаў народа". В. Бечык выпісаў загалоўкі публікацый з "ЛіМа" за 1937 год, якія красамоўна гаварылі пра мэты і задачы іх аўтараў: "Бязладдзе ў Бел. радыёкамітэце", "Даваць адпор варожай агітацыі", "Вораг пад маскай драматурга", "Ачысціць саюз кампазітараў ад контррэвалюцыйнага ахвосця", "Шкодная пісаніна", "Паклёп на савецкую рэчаіснасць" і інш. Да В. Бечыка прыйшло ўсведамленне, што "нельга выпрамляць і падчышчаць дарогу гісторыі". З маладых гадоў ён пераканаўся, што праўда — гэта маральная чысціня, сумленнасць, прага ачышчэння і што праўду нельга забіць, бо яна мае здольнасць уваскрасаць, а тады яўнай робіцца хлусня, усплывае на паверхню фальш. Прынцыпамі аб'ектыўна-праўдзівых, сумленных ацэнак ён імкнуўся кіравацца і ў сваёй дзейнасці на пасадзе намесніка галоўнага рэдактара выдавецтва "Мастацкая літаратура", дзе ён працаваў з 1981 года і да апошніх дзён жыцця (а гэта было няпроста, бо атакавала ваяўнічая шэрасць у абліччы графаманаў і літаратурных прыстасаванцаў).

Але вернемся да студэнцкіх і наступных маладых гадоў жыцця Варлена Бечыка, бо ўжо тады ён склаўся як творчая асоба. Адна з першых занатовак у яго дзённіку аб роднай мове: "Хочацца напісаць: "Давайце яшчэ раз пагаворым аб роднай мове!". Тут жа выпісаны ўрывак з верша М. Танка "Родная мова". Пазней, у снежні 1970 года, ён зноў выкажацца пра тое, што значыць для яго думаць і пісаць пабеларуску: "У роднай мовы — асаблівае, светлае цяпло. Па-руску я магу напісаць лірычна, але гэта ўжо, як горныя высі — не відаць усіх гэтых узлескаў, горак, не чутно роднай гаворкі, няма самай натуральнай арганічнасці — адпаведнасці слова дыханню, першаснаму прадвытоку думкі і пачуцця".

У гады вучобы на філфаку В. Бечык пачаў даследаваць творчасць Аркадзя Куляшова. Ездзіў на студэнцкую навуковую канферэнцыю ў Чарнаўцы, адкуль прывёз шмат уражанняў. У пару студэнцтва ён выступіў на старонках "ЛіМа" з першай публікацыяй "Нам крытыка патрэбна, як паветра", якая засведчыла, што Бечык "нацэліўся" на крытыку. Яскрава выявілася і тое, што ў друку выступіў малады чалавек, добра абазнаны ў пытаннях і праблемах сучаснай крытыкі:

*"Хаця ўдумлівы і прынцыповы аналіз мастацкіх вартасцей новых твораў прыходзіць у нашай крытыцы на змену простой канстатацыі фактаў, але нярэдка крытыкі слаба займаюцца* ***пытаннямі мастацкага майстэрства*** *(тут і далей вылучана мной. — А Б.). Добрую дапамогу аказала б распрацаўка на беларускім матэрыяле многіх* ***праблем тэорыі літаратуры****. У нас слаба распрацаваны* ***праблемы нацыянальнай спецыфікі беларускай***

***літаратуры****, няма* ***даследаванняў шырокага плана аб сучасным літаратурным працэсе*** *Вельмі карысна было б, каб наш друк змяшчаў агляды беларускай паэзіі і прозы за пэўны прамежак часу (скажам, за год). Зусім мала ў нас грунтоўных даследаванняў пра дзіцячую, юнацкую і прыгодніцкую літаратуру, аб ёй амаль не гаворыцца ў літаратуразнаўчых курсах і рэдка бываюць нават рэцэнзіі".*

Не можа не ўразіць празорлівасць маладога тады даследчыка, бо, па сутнасці, вылучаныя ім актуальныя кірункі, перспектывы і задачы развіцця крытыкі набылі ў другой палове XX стагоддзя дынаміку і, урэшце, рэальнае вырашэнне і ўвасабленне ў літаратурна-крытычнай і навуковай практыцы. Асоба Варлена Бечыка паўстала ў адным шэрагу з выдатнымі крытыкамі і літаратуразнаўцамі, якія шмат зрабілі ў даследаванні эвалюцыі і паэтыкі беларускага вершаванага слова, пытанняў мастацкага майстэрства, тэндэнцый і заканамернасцяў літаратурнага працэсу, у раскрыцці эстэтычнага багацця і нацыянальнай своеасаблівасці беларускай паэзіі. Сведчаннем таму — яго кнігі "Свет жывы і блізкі" (1974), "Прад высокаю красою..." (1984), "Шлях да акіяна" (1981), "Беларуская савецкая лірыка" (1979, у суаўтарстве з Міхасём Ярошам), а таксама такое грунтоўнае выданне, як "Выбранае" (1989). Не абмінуў крытык і духоўнага свету, эстэтычнай спецыфікі творчасці сучасных пісьменнікаў для дзяцей (артыкулы "Толькі без "сю-сю", "У гасцях у дзеда Васіля" і некаторыя іншыя).

Варлен Бечык, пачынаючы са студэнцкіх гадоў, гарнуўся да людзей творчых, цаніў іх таленавітасць. Умеў слухаць вершы, не хаваў захаплення, калі штосьці моцна кранала струны душы. Ён быў паэтам па сваёй натуры, і гэта адзначалі многія, хто ведаў Бечыка асабіста. Зрэшты, сніў вершы і пісаў іх, хоць так і не адважыўся друкаваць. У дзённіку адзін з лістоў напісаны вершаванаю мовай — "Што там у вас за горадам?.. " (1969):

Ўдаль працягнуты тонкія рукі.
Гаварыце, Прылукі!
Вам — бяссонніца. Мне — разлукі.
Гаварыце, Прылукі!
Што за горадам спее зараз?
Клопат? Натхненне?!
Пераблытала час і адрас.
Я ў Асеннім.

У сувязі са зместам гэтых радкоў трэба згадаць, што ў Прылуцкай сярэдняй школе настаўнічала маці В. Бечыка і вучыўся ён сам. У вёску Прылукі Мінскага раёна ён часта наведваўся, гутарыў са знаёмымі

людзьмі, любаваўся дарагімі сэрцу мясцінамі, а 13 лістапада 1985 года вярнуўся сюды на вечны спачын.

А тады, у другой палове 50-х — пачатку 60-х гадоў, ён ішоў у вялікае жыццё, літаратуру, спеліў мары і надзеі. Была праца з аднакурснікамі на цаліне, нараджалася сяброўства і таварышаванне з Міколам Гілём, Сымонам Блатуном, Ігарам Хадановічам, Анатолем Кудраўцом, Уладзімірам Карызнам, Анатолем Сербантовічам... Асабліва моцнае сяброўства звязвала В. Бечыка з І. Хадановічам, які загінуў ад рукі бандыта ў студзені 1966 года. Гэтай дружбе ён застаўся верным да канца жыцця, сумаваў і журыўся па сябру. У лісце да маці І. Хадановіча ён пісаў: "Мусіць, часта і памногу прылятае да мяне яго добры анёл — бо я пра Ігара ўспамінаю часта, ён каля маёй душы, ды і не павінны мы адзін аднаго пакінуць... Мне ён, апрача многага іншага, даў шчасце знаходзіць у равесніку душэўнае багацце, духоўнасць, стымулы для росту і неспакою". Ужо сам хворы, В. Бечык турбаваўся пра тое, каб пабачыла свет кніга творчай спадчыны яго сябра (зборнік І. Хадановіча "На досвітку" выйшаў у 1986 годзе). Даследчык заглыбіўся ў свет прозы І. Хадановіча, раскрыў яе мастацкія вартасці, адзначаючы ўменне аўтара ўнутраныя думкі і пачуцці героя зрабіць сюжэтным стрыжнем твора (артыкул "Дарога толькі пачыналася...").

Дзе б ні працаваў В. Бечык — усюды ён заставаўся творчай натурай, рупіўся не дзеля кар'еры, імкнуўся да таго, каб кожная справа была ўнутранай патрэбай, выконвалася з сумленнасцю і адказна. Пасля заканчэння БДУ (1960) два гады настаўніцкай працы ў Плiскай сярэдняй школе Смалявіцкага раёна не зрабіліся ў жыцці В. Бечыка часам, калі ён "адбывалаўку" адбываў, а наадварот, гэты перыяд стаў этапам жыццёвага сталення, педагагічнага росту, назапашвання вопыту ў разуменні чалавечых характараў. А што было менавіта так, сведчаць яго настаўніцкія нагаткі "Клас восьмы, клас дзевяты...", якія друкаваліся ў 1964 годзе на старонках часопіса "Маладосць" (№ 11), а потым увайшлі ў кнігу "Радкі і жыццё" (1993). В. Бечык з любоўю пісаў пра сваіх выхаванцаў: "Перада мной звычайны клас і звычайныя дзеці. Але для мяне яны незвычайныя. З імі былі мае думкі, трывогі, радасці. І таму яны дарагія мне, я люблю іх". Варлен Леанідавіч шчыра дбаў пра тое, каб паэзія і літаратура ўваходзілі ва ўнутраны свет вучняў, уплывалі на іх стан душы. Вельмі жадаў, каб непасрэдная сустрэча з сучаснымі пісьменнікамі стала падзеяй, своеасаблівым урокам і святам духоўнасці. Рыгору Барадуліну добра запаў у памяць вечар паэзіі ў Пліскай школе, куды ён прыехаў з Сымонам Блатуном і Міхасём Стральцовым. "...Запомніўся надоўга, — як

згадвае вядомы паэт, — і шчырай гаворкай, і спелымі яблыкамі ў няўтульным пакойчыку маладога спецыяліста". Маладым спецыялістам, зразумела, тады быў Варлен Бечык.

Працуючы ў школе, малады крытык працягваў пільна сачыць за літаратурным жыццём, выступаў з рэцэнзіямі ў рэспубліканскім друку, яго імя станавілася ўсё больш вядомым. В. Бечык жыў літаратурай, кніжкамі і, урэшце, пачаў усведамляць, што не зможа паўнацэнна існаваць у нелітаратурнай сферы. 1962 год стаў паваротным у лёсе маладога літаратара – ён паступіў у аспірантуру пры кафедры беларускай літаратуры БДУ (закончыў яе ў 1966 годзе). Да сваёй навуковай працы ён ставіўся з высокай патрабавальнасцю: "Глядзець на дысертацыю як на скачок пешкі ў ферзі — прыніжэнне годнасці навукі і насмешка над ацэнкай вартасці чалавека". Ён ведаў, што і як піша, адчуваў, што ў чымсьці ўздымаецца вышэй за агульны ўзровень тагачасных навуковых даследаванняў, але, разам з тым, не любіў паспешнасці. Кандыдацкую працу, прысвечаную паэзіі А. Куляшова, ён паспяхова абараніў значна пазней — у 1974 годзе. У аўтарэфераце дысертацыі пазначаны імёны навуковага кіраўніка — гады члена-карэспандэнта АН БССР І. Я. Навуменкі і афіцыйных апанентаў — В. У. Івашына і А. М. Налівайкі. У той час Варлен Леанідавіч ужо працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР (цяпер — Нацыянальная акадэмія навук Беларусі). За плячыма засталася праца ў рэдакцыях газеты "Літаратура і мастацтва" і часопіса "Нёман" (з 1966 да 1971). "ЛіМ", як прызнаваўся сам В. Бечык, стаў для яго значнай пляцоўкай творчага росту. Тут ён працаваў поруч з такім аўтарытэтным знаўцам беларускай паэзіі і літаратуры, як Рыгор Бярозкін. Прыкметны плён прынесла і дбанне на ніве акадэмічнай навукі (1972-1981): ён разам з М. Ярошам напісаў даследаванне "Беларуская савецкая лірыка" (1979), стаў адным з аўтараў калектыўнай працы "Беларуская літаратура: Дзень сённяшні" (1980).

Зроблена В. Бечыкам, нягледзячы на непрацяглае жыццё, нямала. Галоўнае — зроблена з грунтоўнасцю, таленавіта, з вялікай душэўнай самааддачай, а таму і трывала, на доўгі час. Паэзія і кнігі сталі асновай яго жыцця, крыніцай сапраўднай чалавечай радасці: "Не раз хочацца сказаць: жыццё, прынось мне столькі радасці і шчасця, колькі кнігі". Бо як чалавек ён часта быў у палоне духоўнай адзіноты: "Усе мае артыкулы, рэцэнзіі — голас адзіноты, якая горнецца да розуму, дабра і чалавечнасці".

Варлен Бечык бачыў, наколькі недасканалы гэты зямны свет, як шмат навокал дробязнай мітусні, амбітнай пыхі, бездухоўнасці, таго, што не вартае годнасці чалавека. Ён быў самотны і тужыў па той кра-

се жыцця, якая свяцілася ў яго душы як высокі ідэал, сімвалізавала імкненне да гармоніі. Красу ён тонка адчуваў у навакольнай прыродзе, усхвалявана перадаваў яе непаўторную паэзію ў сваім дзённіку (гэта сведчыць пра эмацыянальна-мастацкую глыбіню яго таленту). "Які прыгожы ходзіць і жыве навокал свет!" — усклікаў В. Бечык. Невыпадкова сваю перадсмяротную кнігу ён назваў радком Максіма Багдановіча "Прад высокаю красою...". Багдановічава прага высокай красы была яму ўнутрана блізкай, па сутнасці, зрабілася жыццёвым крэдам, якога ён трымаўся ўсвядомлена і неадступна: "У свеце дабро і зло пераплятаюцца. Хочацца шчымліва любіць усё прыгожае — прыгожае чысцінёй, сонечнасцю, цнатлівай сціпласцю і высокім гонарам". Кнігі, артыкулы, рэцэнзіі В. Бечыка грунтуюцца на зрошчанасці асабістага лёсу з мастацтвам слова, у іх найперш адчуваеш, як пульсуе і трымціць жывая, надзвычай успрымальная душа – душа чалавека, які азораны святлом паэтычнай красы, які дзеліцца сваёй радасцю, смуткам, болем, выказваецца сардэчна і роздумна, нават камерна-ціха, без публіцыстычнага тлуму, чым нярэдка грашыла тагачасная крытыка.

Крытыка для В. Бечыка была філасофіяй пазнання мастацтва па законах прыгажосці і жыццёвай праўды. У крытычным жанры ён бачыў высокі акт творчасці і сутворчасці, калі аўтар не толькі раскрывае дыялектыку і змест існавання мастацкага слова, а чуйна, глыбінна ўспрымае літаратурны матэрыял і суадносіць яго з уласнымі пачуццямі, суперажывае тую ці іншую эстэтычную з'яву ці вобраз, заваблівае ў атмасферу твора, упісвае свае погляды, меркаванні ў духоўны кантэкст часу і агульназначных ідэалаў чалавечага быцця. Тое, што крытыка з'яўляецца глыбокім і плённым працэсам мастацкай творчасці, В. Бечык пераканальна даводзіць у артыкуле "Тэмпературы і халоднае кіпенне" (1971). У прыватнасці, ён пісаў: "Натхненне, эмацыянальнасць, вобразнасць мыслення — неад'емныя якасці сапраўднай крытыкі. Крытык — творца са сваімі поглядамі на жыццё і літаратуру, са сваімі схільнасцямі і інтарэсамі. Ён таксама выношвае свае задумы, ён таксама жыве ў мастацкай сферы, як і мастак, які пакутуе, шукае, сцвярджае і адстойвае пэўныя грамадскія і эстэтычныя ідэалы. І трэба шанаваць у ім творцу!". Крытык, на думку В. Бечыка, павінен быць асобай, мець шырокія духоўныя кантакты з літаратурай, не збівацца на другаснасць і дробязнасць. Фармулюючы метадалогію і філасофію сучаснай крытыкі, ён скіроўваўся да вопыту нацыянальнай і сусветнай крытычнай думкі. Улічваў ідэйна-эстэтычныя погляды на крытыку класікаў і майстроў гэтага жанру (В. Бялінскага, Д. Пісарава і інш.), а таксама прыслухоўваўся да мер-

каванняў пісьменнікаў пра сутнасць, прызначэнне крытыкі і ролю крытыка як даследчыка мастацтва слова. Пра гэта могуць пасведчыць шматлікія выпісы на старонках яго дзённіка: "Кто в критике не провидец — ремесленник"; "Критика большого поэта в большой части, критика страсти: родства и чуждости" (М. Цвятаева); "Бялінскі аднойчы сказаў, што крытыка — навука, народжаная мастацтвам. На сучасным этапе набывае права на жыццё і адваротная формула: крытыка — мастацтва, народжанае навукай" (С. Бэлза); "Крытык павінен быць другам" (Я. Брыль). Зрэшты, такі ж жывы інтарэс выяўляецца ў дзённіку да думкі дасведчаных і глыбокіх людзей і ў іншых выпадках. Нярэдка крытык занатоўваў выказванні пра паэзію, асобу паэта, мастацтва.

Між тым, В. Бечык меў глыбока выспеленую канцэпцыю літаратурнай крытыкі як мастацтва духоўнай жыццятворчасці і шырокага ідэйна-эстэтычнага дыяпазону: "Патрэбна крытыка высокіх крытэрыяў (гэта адно) і крытыка высокіх ідэалаў (дакладней, каб не было стылявой блытаніны): крытыка з высокімі ідэаламі, з шырынёй не толькі літараіурна-эстэтычнай сферы, але пранікнення ў жыццёвае і ахопу жыццёвага". Жыццё, чалавек і літаратура – усё гэта, як лічыў В. Бечык, павінна быць цесна суаднесена крытыкам пры аналізе творчасці ці твора, трывала спалучана ў выніку яго духоўных шуканняў, у працэсе выяўлення эстэтычнай і гуманістычнай змястоўнасці мастацтва слова.

Варлен Бечык даводзіў, што сапраўдны крытык здольны ўплываць на літаратурна-творчы працэс. Эталонам аўтарытэтнага і значнага крытыка паэзіі для яго быў Рыгор Бярозкін (артыкул "У непарыўным адзінстве"), а таксама ён надзвычай шанаваў аналітычна-крытычнае слова Віктара Каваленкі (артыкул "З пазіцый сучаснасці"). Сам В. Бечык з цягам часу таксама зрабіўся ў беларускай літаратуры прызнаным аўтарытэтам, чыё вынашанае, удумлівае і нераўнадушнае слова шмат значыла для пісьменнікаў У 1983 годзе ён, падводзячы вынікі дыскусіі пра сучасную беларускую паэзію, у чарговы раз выявіў шырыню кругагляду, дакладнасць эстэтычных ацэнак, уменне фармуляваць новыя ідэі, мысліць праблемна, глыбока разумець і вызначаць вузлавыя моманты, пэўныя акалічнасці і перспектывы развіцця творчага працэсу (артыкул "У чаканні галоўнага"). Талент унутрана глыбокага, інтэлектуальнага літаратурнага крытыка — талент рэдкі, унікальны. Гэта, між іншым, добра разумеў і В. Бечык, калі на зыходзе 70-х гадоў пісаў наступнае: "Крытыкаў у паэзіі ў нас мала, гаворыцца многа выпадковага, мала суперажывальнасці...".

Філасофска-эстэтычная канцэпцыя крытыкі ў В. Бечыка трымаецца найперш на такой асноватворнай катэгорыі, як краса. У красе пачуццяў і красе слова ён бачыў галоўную ўмову глыбокай мастацкай выяўленчасці. Краса стала для яго высокай эстэтычнай меркай паэзіі, ацэнкай яе зместу, формы і фарбаў слова, і тут В. Бечык нібы ішоў услед за Лесінгам, які лічыў што "прыгажосць ёсць вышэйшая мерка". Аўра паэтычнага слова здольна пераўвасобіць душэўны свет і дапамагае адчуць красу жыцця, узвысіцца ў сваіх думках і памкненнях. Пра момант нараджэння такога цудоўна-прыгожага пачуцідя, падоранага паэзіяй, В. Бечык пісаў у артыкуле "Пяройдзе шлях у новы шлях...": "Гэта — калі жывецца шырока, светла, калі глыбінна, здаецца, разумееш існы свет, бачыш духоўную і жыццёвую далячынь. Жыццё і паэзія знаходзяцца тады ў тваёй душы ва ўзаемнай непарыўнасці, і ты расцеш, мацнееш духам і ўсім сэрцам адчуваеш небудзённасць будзённасці — паўнату і змястоўнасць жыцця". В. Бечык як крытык імкнуўся разгадаць таямнічую красу паэтычнай матэрыі, тонка яе адчуваў, разумеў што дзівоснасць вершаванага радка і глыбіня той ці іншай формы мастацкага адкрыцця свету залежыць ад духоўна-творчага патэнцыялу асобы. Таму даследчыка заўсёды прываблівала яркая індывідуальная існасць і непаўторнасць творцы. Калі ён судакранаўся з глыбока прыгожым і душэўнапранікнёным словам, то шчыра, эмацыянальна і натхнёна выказваў свае ўражанні, думкі і пачуцці. В. Бечык пісаў: "Талент крытыка (дар) — у першую чаргу чытацкі. Хай ты зайздросціш паэтам і пакутуеш ад невыказнасці свайго асабістага, але ты павінен у першую чаргу быць крытыкам-чытачом і з чытацкай неэгаістычнасцю поўніцца ўдзячнасцю, захапленнем, адгукацца на ўсё шчырае, чыстае, духоўнае. Ты павінен быць *ідэальным чытачом* (у тэксце вылучана мной. -А. Б.), да якога як да адзінага звяртаецца аўтар".

Змястоўная глыбіня, краса і майстэрства слова ў іх індывідуальнай адметнасці выяўлены ў шматлікіх артикулах і рэцэнзіях В. Бечыка, якія прысвечаны аналізу творчасці Аркадзя Куляшова ("Урокі Куляшова"), Максіма Танка ("Песня аб Радзіме"), Петруся Броўкі ("Што сэрца праспявала..."), Пімена Панчанкі ("Хваляваўцца за ўсіх і ўсё..."), Максіма Лужаніна ("Прасторы творчасці"), Ніла Гілевіча ("Любоўю кроўНай"), Еўдакіі Лось ("Ад сакавіка да ліпеня..."), Аляксея Пысіна ("Правам салдата і сейбіта"), Сцяпана Гаўрусёва("Водсветы"), Рыгора Барадуліна ("Свет увесь жывы табой..."), Анатоля Вярцінскага ("На аснове чалавечай роднасці..."), Анатоля Сербантовіча ("За сінім парогам") і інш.

Першай духоўнай спадарожніцай, па прызнанні крытыка, для яго стала паэзія А. Куляшова, якая "не проста згадваецца, — пісаў ён, — а адразу пачынае разгортвацца і інтэнсіўна жыць у душы...". Куляшоўскую паэзію крытык успрымаў як вялікі космас-сусвет думак і пачуццяў агульначалавечай значнасці: "Свет Куляшова — свет сапраўднай, змястоўнай і пранікнёнай паэзіі. Бо і што такое паэзія, калі не вечная адданасць жыццю і ёй самой, яркасць пачуццяў, высокае напружанне душы і думкі, пазнанне сябе і людзей, вышэйшая форма яднання — дарога ў акіян чалавечнасці". У кнізе "Шлях да акіяна" крытык шматгранна раскрыў арыгінальную творчую індывідуальнасць паэта, яго мастацка-філасофскую канцэпцыю жыцця і свету. Ён вылучыў асноўныя, ключавыя вобразы ў куляшоўскай паэтычнай свядомасці (дарогі-шляху, акіяну, будучыні), якія з цягам часу набылі шматзначны сэнс, пашырылі духоўную прастору ўсёй беларускай паэзіі.

Варлен Бечык не ідэалізаваў ранняга Куляшова, але выразна пазначыў адметнасці яго паэтычнага таленту. Ён пазбягаў павярхоўнай сацыялагічнай інтэрпрэтацыі творчасці, кіраваўся логікай выверыных эстэтычных падыходаў ішоў шляхам цэласнага аналізу з'яў мастацтва, надаючы выключную ролю выяўленню характару і пафасу лірычнага пачуцця, яго асабовасці, разгляду верша як жывога і гарманічна зладжанага арганізма. Ён імкнуўся да вылучэння дамінантных элементаў паэтыкі і яе важных адценняў, якія прануюць на раскрыццё аўтарскага "я", стварэнне яркага слоўнага вобраза. В. Бечык унікаў агульшчыны, прыблізных ацэнак, разам з тым ён здзіўляў тонкай назіральнасцю, неардынарнасцю руху думкі, новымі аналітычнымі абагульненнямі. Не пазбягаў ён палемічнасці (напрыклад, у гаворцы пра паэму "Прыгоды цымбал"), пісаў з унутранай прачутасцю паэтычнага тэксту, разважлівасцю, адкрытасцю свайго "я", з імкненнем да паўнаты выкладання ўражанняў.

Зразумела, з вышыні сённяшняга дня ў кнізе пра А. Куляшова сёетое вымагае іншай, адрознай інтэрпрэтацыі, магчыма, нашмат большай крытычнасці, прынцыпова новага прачытання, асабліва творы 30-40-х гадоў. Аднак, як думаецца, працу В. Бечыка, як і іншыя многія даследаванні, што пісаліся ў савецкі перыяд, найперш трэба ацэньваць у кантэксце літаратурна-крытычнай думкі таго часу. В. Бечык сваёй кнігай поруч з літараіурнымі працамі Р. Бярозкіна, А. Адамовіча, В. Каваленкі, Д. Бугаёва, М. Стральцова, А. Яскевіча і некаторых іншых даследчыкаў прыкметна ўздымаў статус беларускай крытыкі 70-80-х гадоў. І найперш дзякуючы таму, што, кажучы яго ж словамі, напісанымі пра Р. Бярозкіна (яны вельмі прыдатньм для

характарыстыкі крытычна-творчага метаду і самога В. Бечыка), "дамагаўся, каб вызначэнне ідэйнай, змястоўнай вартасці твора падмацоўвалася яго эстэтычнай, мастацкай рэальнасцю".

Варлен Бечык выдатна паказаў што Аркадзь Куляшоў — гэта асоба, за якой стаіць цэлы этап і традыцыя ў развіцці беларускай паэзіі. Абсалютна слушна гаворыцца пра ўплыў яго слова на тых паэтаў, якія прыйшлі ў літаратуру ў перадваенныя гады (Мікола Сурначоў, Кастусь Кірэенка, Мікола Аўрамчык і інш.). Крытык разгледзеў творчую дынаміку даваеннай лірыкі А. Куляшова ў нацыянальным літаратурным кантэксце (Уладзімір Хадыка, Юлі Таўбін, Змітрок Астапенка, Максім Лужанін, Пятрусь Броўка) і ў тыпалагічнай суаднесенасці з авангардысцкімі пошукамі ў еўрапейскай паэзіі (Атыла Іожэф, Іржа Волькер, Уладзіслаў Бранеўскі). В. Бечык паказаў вытокі, эвалюцыю і маштаб мыслення Куляшова, дэманструючы тым самым эстэтыкадухоўную глыбіню думкі: "І Бесядзь, і родны бор, і зязюлі, і сцежкі юнацтва, і імя першай каханай нёс ён з сабою праз жыццё. Таму абжытымі, душэўна асвоенымі станавіліся і зямныя прасторы, і космас, і гістарычна далёкія часы, і будучыня наступных стагоддзяў. Яны збліжаліся з сэрцам, адкрываліся і спазнаваліся ў прыналежнасці да чалавечай душы, якая чуйна рэагуе на падзеі часу і ўбірае ў сябе вялікі і шматстайны вопыт жыцця, жыве клопатамі і праблемамі свайго веку". В. Бечык раскрыў касмізм, паэтычны гістарызм і гуманістычную шырыню светабачання позняга Куляшова. Дакладна вызначаны таксама драматычна-трагедыйны пафас многіх яго твораў. У манаграфіі паказана філасофская насычанасць творчасці А. Куляшова, асацыятыўная раскаванасць і інтэнсіўнасць яго паэтычнай думкі, бліскуча прааналізаваны куляшоўскі стыль.

Такім чынам, В. Бечык, улічваючы ранейшы вопыт даследавання творчасці паэта, паказаў сябе наватарам, выявіў высокі ўзровень асэнсавання феномену і мастацкага свету паэзіі А. Куляшова. Узровень гэты вызначаецца суб'ектыўнай праніклівасцю эстэтычнага пачуцця, якая памножана на эмацыянальна-інтэлектуальную канцэптуальнасць мыслення, этычную і гуманістычную скіраванасць крытычна-даследчыцкай думкі.

Варлен Бечык не памыляўся ў тым, што ў сапраўдным мастацтве і ў крытыцы галоўныя прынцыпы — праўда, шчырасць, маральнасць. У гэтай сувязі згадваюцца разважанні С. Андраюка, які справядліва вылучае адданасць Бечыка-крытыка менавіта гэтым асноваcутнасным крытэрыям творчасці: "Больш за ўсё і вышэй за ўсё цаніў Варлен Бечык у літаратуры наогул, у паэзіі асабліва праўду. А праўда літаратуры — гэта праўда жыцця, па-мастацку праўдзіва ўзноўленая.

Яна ў рэальнай жыццёвасці пафасу, шчырасці аўтаравага голасу, арганічнасці выказвання, натуральнасці гучання паэтычнага слова". Эстэтыка глыбокай жыццятворчасці, жыццёвай праўдзівасці прыцягвала В. Бечыка ў творчасці Пімена Панчанкі і Васіля Быкава, Аляксея Пысіна і Анатоля Кудраўца... Ён усёй душой адгукаўся на праўдзівашчырае слова паэзіі і літаратуры ўвогуле. Вось як ён разглядаў адзін з твораў А. Вярцінскага: "Але ўжо і тут, у самых першых радках, вельмі многа сказана, бо расказвае чалавек, які глыбока адчуў і гэту адзіноту, і жаночы лес, і народны характар"; "І пачынаецца дзівосна-праўдзівы маналог гэтай жанчыны..."; "Даверліва, шчыра, ласкава-прыветна. Нават нараканне на лес — стрыманае, нягучнае. Простая, сарамліва-сціплая гаворка ўзнімаецца на вялікую душэўна-чалавечую вышыню" і г. д. Эстэтыка жыццёвай праўды бачылася В. Бечыку запарукай мастацкай трываласці слова, яго глыбокай унутранай сілы ўздзеяння на чытача. Невыпадкова крытык задумваў напісаць артыкул "Жыццёвасць". Жыццёвасць азначала для яго ўзрушанасць слова, той стан душы, калі пісьменніка вядзе маральнае пачуццё, ён шукае ісціну, пазбягае таннага красамоўства, фальшу, бяздумнай легкаважкасці тону. "Пропаведзі сумлення і шчырасці ў нас — у літаратуры, крытыцы – часта не хапае іменна сумлення і шчырасці. Яны як быццам і ёсць, але побач — маленькія хітрасці, дробныя падтасоўкі і вось ужо — няшчырая шчырасць, шчырая няшчырасць". Сам В. Бечык імкнуўся не быць бесхарактэрным, калі справа тычылася чагосьці важнага, істотнага — не хібіў, не маніў, гаварыў праўду. І пра недахопы творчасці ў цэлым, і пра відавочную слабіну, інертнасць выказанага слова-пачуцця, і пра графаманію. Заўсёды ён дбаў пра аргументаванасць, доказнасць меркаванняў і высноў. Можна зноў жа спаслацца на дзённікавыя запісы, з якіх В. Бечык паўстае як крытык з высокімі эстэтычнымі патрабаваннямі, прынцыповы і, як кажуць, з характарам. Палемічны і даволі крытычны падыход Бечык прадэманстраваў яшчэ на пачатку творчага шляху ў артыкуле "Слухаць сучаснасць", што надрукаваў "ЛіМ" у сакавіку 1960 года. Пра надуманыя, слабыя вершаваныя тэксты ён выказваўся без рэверансаў, часам з суровай крытычнасцю: "Яшчэ адзін прыклад, як не трэба пісаць палітычныя вершы"; "Якая лухта і недарэчнасць!" і інш. Вельмі важны момант: В. Бечык не імкнуўся бязлітасна сякчы з-за пляча, свядома стараўся не быць гняўлівым, каб, крый Божа, не зняважыць каго неасцярожным словам. Ад гэтага засцерагаў і іншых, памятаючы пра прызначэнне крытыка: "Кожны, хто захоплены паэзіяй, хто бязмежна верыць у яе, ведае, што любая размова пра паэзію павінна весціся з асаблівай беражлівасцю. Тут ніколі не

зашкодзяць памяркоўнасць, далікатнасць, тактоўнасць. Але самая пільная асцярожнасць не вызваляе крытыка ад неабходнасці быць не ружовым рамантыкам, а цвярозым рэалістам. Дбаць пра літаратуру, хварэць за яе — значыць, не толькі вітаць удачы, бачыць дасягненні, але і прама, адкрыта звяртаць увагу на тое, што слабіць яе, замінае руху наперад". В. Бечык быў сведкам таго, як уласныя амбіцыі асобных творцаў асляпляюць іх, і тыя тады патрабуюць хвалебных рэцэнзій, незаслужаных высокіх атэстацый. Таму крытык імкнуўся заставацца самім сабою, не саступаць з пазіцый крытычнай праўды, аб'ектыўнасці, сумленнасці: "Але нязменны прынцып: ідзі сваёй дарогай, не прыстасоўвайся, ігнаруючы іх узаемаадносіны. І не зніжай крытэрыяў, а заўсёды — аб'ектыўную праўду".

Крытэрыямі аб'ектыўнай праўды кіраваўся В. Бечык і пры напісанні раздзелаў "Ад руінаў і ўспамінаў далей і далей..." і "Далягляды сучаснай лірыкі" кнігі "Беларуская савецкая лірыка". Даследчыкам грунтоўна прааналізаваны стан развіцця беларускай паэзіі ў пасляваеннае дзесяцігодцзе (1945 — сярэдзіна 50-х гадоў), прычым яе эстэтычны рух ацэньваецца даволі крытычна: "У радзе выпадкаў — гэта паэзія "тэм", а не праблем, з вельмі нізкім аналітычным узроўнем. Усё набывае бадзёра-публіцыстычную афарбоўку: і пейзажная лірыка, і лірыка кахання, да якой, праўда, паэты звяртаюцца нячаста". На прыкладзе творчасці вядомых паэтаў ён паказваў, як іх абмяжоўвалі ілюстрацыйнасць, схематызм, спрошчанасць. Паэзія зрабілася запалітызаванай, яна спяшала "крочыць у нагу з часам", праўда рэальнага жыцця заставалася па-за ўвагай. Затое панавалі святочная ўрачыстасць, гучная патэтыка, параднасць, манументальная маштабнасць. Ганебна вядомая "тэорыя бесканфліктнасці" дэфармавала галоўныя каштоўнасці быцця, прывяла мастацтва слова да аднабаковасці, спрашчэнства ў адлюстраванні рэчаіснасці. Вось якую абагульняльную думку выказвае В. Бечык: "Такім чынам, у канцы 40 — на пачатку 50-х гадоў лірычная паэзія перажывала значныя цяжкасці. Тэматычная, "гарызантальная" актыўнасць лірычнай паэзіі не забяспечвалася дастатковымі ўнутранымі рэсурсамі". В. Бечык аргументавана даводзіў, што рух вершаванага слова замарудзіўся, пазбавіўся смелых пошукавых эксперыментаў. Разбуралася, як і ў даваенны час, эстэтычная прырода паэтычнага мастацтва, ідэалогія перакрыла яму доступ чыстага паветра. Праўда, В. Бечык не абмінаў пазітыўных момантаў, якія прыносілі плён у мастацкай творчасці і сведчылі пра назапашванне, хоць і нязначнае, у неспрыяльных грамадска-палітычных умовах лірычнага патэнцыялу паэзіі.

Якасна іншым стаў узровень беларускай паэзіі пачынаючы з другой паловы 50-х гадоў, а калі канкрэтызаваць, у час так званай "адлігі", пасля XX партыйнага з'езда. Паэты, як паказаў даследчык, перагледзелі свае пазіцыі і падыходы, адбылася ўнутраная перабудова, узмацніліся драматызм светаўспрымання, бачанне складанасці і супярэчнасцяў мінулага і сучаснага жыцця. Раздзел "Далягляды сучаснай лірыкі", як і раздзел з амаль такой жа назвай "Далягляды лірыкі" ў калектыўнай працы "Беларуская літаратура: Дзень сённяшні" (1980), уводзіць нас у свет разнастайных ідэйна-мастацкіх і жанрава-стылёвых пошукаў паэзіі, якая зведала свабодны, разняволены поступ, памяняла арыенціры, сваё аблічча. Беларуская паэзія ў 60-80-я гады, нягледзячы на выдаткі развіцця, у цэлым сфармавалася як з'ява духоўна і эстэтычна значная, нацыянальна-самабытная і шматгранная. Канцэпцыя развіцця паэзіі, пачынаючы з сярэдзіны 50-х і да 80-х гадоў, прапанаваная В. Бечыкам, бачыцца ў цэлым слушнай, навукова выверанай і абгрунтаванай. Вядома, не абыходзілася без уплыву на трактоўку зместу і пафасу творчасці грамадска-палітычных абставінаў часу. Аднак у асноўным характар даследчыцкага мыслення вызначаецца высокай эстэтычнай культурай, вылучаецца паглыбленым маральна-этычным, філасофскім і гуманістычным асэнсаваннем мастацтва слова. В. Бечык грунтоўна раскрыў выяўленчую лірычна-духоўную і аналітычную глыбіню беларускай паэзіі: "Паэзія "апероруе" цяпер большымі духоўнымі аб'ёмамі, "глабальнымі" велічынямі (час, сучаснасць, чалавецтва, сусвет) і адначасова чуйна рэагуе на самыя няўлоўныя і тонкія адценні інтымнага жыцця асобы"; "Беларуская паэзія ўзбагацілася глыбокім філасофскім зместам, канцэптуальна акрэсленым, выяўленым у духоўным адзінстве і ўзаемнай сувязі ўсіх лірычных тэм і матываў усяго ўнутранага жыцця асобы".

Агульнае, заканамернае, найбольш тыповае В. Бечык высвечваў праз раскрыццё творчай дынамікі і пошукаў, звязаных з імёнамі канкрэтных паэтаў, праз характарыстыку індывідуальнага мастацкага свету М. Танка, А. Куляшова, П. Панчанкі, А. Пысіна, А. Вярцінскага, Р. Барадуліна і інш. Прывядзем колькі прыкладаў. Пра адметны характар лірыкі П. Панчанкі ён гаворыць так: "Раскаваная, трапяткая, наэлектрызаваная зменлівай канкрэтыкай паўсядзённасці, усмешлівая і драматычна-напружаная, яна завастрае ўвагу на жыццёвых супярэчнасцях, сутыкненнях дабра і зла". У творчых шуканнях А. Вярцінскага 1960-х гадоў дакладна вылучаны важныя рысы і якасці: "У многіх адносінах новай для паэзіі была ўстаноўка паэта на празаізацыю верша, спалучаная з інтанацыяй абдумвання, адкрытай

лагізаванасцю эмоцый". Альбо возьмем наступнае выказванне, у якім ёмiста і даволі поўна ахарактарызаваны стыль і мастацкія прынцыпы вобразатворчасці П. Макаля: "Дынамічнасць, наступальны пафас, заяўленая сацыяльнасць — характэрныя рысы многіх вершаў Макаля. Паэт любіць перавесці з'яву з будзённага плана ў сімвалічны. Адбываецца ўзбуйненне вобразаў... Звычайнае пераасэнсоўваецца праз умоўна-гратэскавае, абыгрываюцца прамыя і пераносныя значэнні слоў..." Свет індывідуальнага творчага майстэрства пранікліва, грунтоўна раскрыты і ў іншых артыкулах, змешчаных у кнігах "Прад высокаю красою...", "Выбранае", дзённікавых нататках "Радкі і жыццё". Даследчык валодаў дарам абсалютна дакладна і вычарпальна ахарактарызаваць багацце і разнастайнасць таленту. А яшчэ асобныя старонкі яго кніг можна назваць паэзіяй крытыкі, высокім мастацтвам крытыкі.

Асаблівай тэмай для В. Бечыка стала творчасць паэтаў, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. 21 верасня 1975 года ў дзённіку ён запісаў: "Раптоўна, кароткі час уздыму: ад ранку і да вечара ў Ленінцы (цяпер – Нацыянальная бібліятэка Беларусі.- А. Б.), захапіўся Вялікай Айчыннай...". Ён ішоў следам і поруч з А. Вялюгіным, Р. Бярозкіным, М. Аўрамчыкам, А. Зарыцкім і некаторымі іншымі пісьменнікамі ў асэнсаванні мастацкай спадчыны палеглых паэтаў, прычыніўся да яе вяртання, папулярызацыі, годнага ўшанавання, даводзіў, што гэтыя маладыя "хлопцы апошняй вайны", якія склалі галовы за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны, заслугоўваюць нашмат большай увагі і з боку даследчыкаў і з боку грамадскасці. І тут В. Бечык нікольки не памыляўся: лірыка Міколы Сурначова, Аляксея Коршака, Алеся Жаўрука, Змітрака Астапенкі і іншых забітых на вайне паэтаў — гэта ў аснове сваёй эстэтычна паўнацэнная і глыбокая творчасць, "наша вялікае духоўнае, маральнае багацце, цудоўны паэтычны скарб". У артыкуле "Усё Радзіме аддалі...", які выйшаў таксама асобнай брашурай пад назвай "Радзіме - радок і жыццё" (1986), В. Бечык, апрача іншага, выявіў і ўласны смутак, тугу па дачаснай гібелі таленавітых маладых людзей. Ён часта пісаў з болем і адгукаўся на боль іншых.

Увогуле, ён вельмі востра і блізка да сэрца прымаў адыход з жыцця пісьменнікаў, сваіх аднагодкаў тых, каго ведаў. Як шмат разоў з горыччу ён занатоўваў імёны памерлых! Мусіць, ён не мог мірыцца, што смерць несправядліва забірае многіх цудоўных і слаўных людзей: "...Лепшыя, прыгожыя рана сышлі, а ты вось маеш ласку жыць...". Ён журыўся і бедаваў, думаючы пра заўчасную смерць С. Блатуна, А. Сербантовіча, І. Хадановіча, Р. Семашкевіча, У. Нядзведскага...

Вясною 1972 года абваліўся футлярны цэх Мінскага радыёзавода, загінулі людзі — і Бечык тройчы хадзіў на могілкі. 18 ліпеня 1977 года зроблены запіс: "А яшчэ было ўзрушэнне — раптоўная смерць Еўдакіі Лось. Усё чуецца ў вушах яе непаўторны голас". На пачатку лютага 1979 года ён у перадвячэрнім змроку адшуквае на маскоўскіх могілках у Мінску апошні спачын Е. Лось, каб прамовіць: "Даруйце нам, Еўдакія Якаўлеўна, усё, што мы вам не даравалі". В. Бечык быў чалавекам з абвостраным пачуццём памяці, у найвышэйшай ступені развітым пачуццём чалавечага сумлення. Чаму так часта смерць запыняла яго ўвагу, хвалявала сэрца? Мусіць, таму, што ён прадчуваў трагедыйную наканаванасць уласнага лесу. Напэўна, таму, што яго апаноўваў "наплыў несканчонай самоты", гняло тое, што "навокал распаўзаецца ржавая ілжа", расло перакананне, што нам трэба жыць і думаць інакш, а, на жаль, "усюды чэсным, сціплым, ціхім людзям — цяжка". Ён, Варлен Бечык, якраз быў такі — надзвычай сціплы, засяроджана-ціхі і, як яго сябар І. Хадановіч, "хворы на душэўную чэснасць".

Духоўная краса паэзіі акрыляла Бечыка-крытыка і чалавека, ён настройваў сябе, каб адгукацца на "кожны такт прыгажосці і праўды", "пісаць важнае, неабходнае, шчырае, высокае, трывалае, светлае, чыстае...". Для яго свет верша і ўвогуле паэзіі, літаратуры быў жаданы, жывы і блізкі: "А верш — гэта заўсёды гарэнне, чарадзейства, выбух энергіі, інтэнсіўнасць пачуцця, згушчаны ў перажыванні вопыт і — высокае намаганне творчай волі, натхненне, папёт". В. Бечык не апускаўся да прыземленасці, дробязнага самакорпання, яго жыццё дзякуючы паэзіі набыло высокі адухоўлены сэнс, ён глыбока спазнаў, што такое творчае азарэнне, натхнёны палёт душы.

Талент В. Бечыка як крытыка і даследчыка паэзіі паважалі Аркадзь Куляшоў, Максім Танк, Рыгор Бярозкін, Рыгор Барадулін, Анатоль Кудравец, Яўгенія Янішчыц... "Вы надзвычай добра адчуваеце і разумееце паэзію", — пісаў Варлену Леанідавічу Пімен Панчанка. У сваіх успамінах Павел Пруднікаў вылучае ў асобе В. Бечыка наступнае: "Што мяне здзіўляла ў гэтым літаратары, дык гэта яго эрудыцыя і ў той жа час выключная сціпласць"; "І я здзіўляўся яго веданню жыцця і творчасці тых пісьменнікаў, пра якіх ішла гаворка".

Пасля водгуку на кнігу "Прад высокаю красою..." В. Бечык выказаўся на адрас рэцэнзента так: "Але навошта яму я — чужы, далёкі". Пісаў гэтыя словы ўжо моцна хворы, спакутаваны чалавек. Не быў і не будзе ён чужым многім з тых, хто мае справу з паэзіяй, крытыкай, бо, як трапна сказаў Серафім Андраюк, В. Бечык "у свеце літаратуры заўсёды быў свой...".

Свае сціплыя нататкі я пішу найперш па праву памяці. Калісьці я, студэнт-другакурснік філфака БДУ, пісаў у Варлена Леанідавіча курсавую працу па беларускай паэзіі. Было і яшчэ колькі эпізадычных сустрэч. Няёмка мне за тую "пяцёрку" ў сваёй студэнцкай залікоўцы, бо цяпер я ведаю, што недабіраў, недацягваў да ЯГО высокай адзнакі. Але ён заахвочваў да працы, мабыць, не крыўдзіўся, што студэнт праз зялёную маладосць і задзірыстасць штосьці яму пярэчыць, спрачаецца. Тады я добра яшчэ не разумеў, з КІМ знаходжуся побач, ХТО вучыў крытычнасці, праўдзівасці, дзяліўся думкамі-назіраннямі пра паэзію (тады ён акурат працаваў над артыкулам "У чаканні галоўнага", што падводзіў рысу пад "ЛіМаўскай" дыскусіяй 1983 года). Даруйце, Варлен Леанідавіч, за гарачлівасць, за тыя наіўныя спрэчкі! Дзякуй за ўрок крытычнай смеласці, грамадзянскай мужнасці, за тую творчую апантанасць літаратурай, якая гарэла ў Вашым сэрцы! Ваша пуцяводная зорка будзе доўга асвятляць шлях тым, хто аднойчы прыйшоў у Краіну Літаратуры.

*1998*

## Паэтычны пульс сэрца

Васіль Івашын добра вядомы ў беларускай навуцы. Ён тытулаваны вучоны-філолаг: доктар навук, прафесар, акадэмік. Настаўніцтва найперш ведае яго як аўтара падручнікаў па беларускай літаратуры. Некалькі дзесяцігоддзяў па іх вучацца школьнікі, спасцігаюць духоўны змест нацыянальнага прыгожага пісьменства. Але ці часта на пачатку навучальнага года, на самых першых занятках, адбываецца знаёмства вучняў з аўтарамі падручнікаў? Ці лічыць неабходным настаўнік сказаць колькі слоў пра людзей, якія прысвяцілі сваё жыццё роднаму слову, беларускай літаратуры, нашай школе? Калі так, то гэта цудоўна. Калі не, то хацелася б шчыра параіць: прэзентуйде на ўводных занятках навучальную кнігу, гаварыце пра яе стваральнікаў і перадусім пра такіх, як акадэмікі Міхась Лазарук і Васіль Івашын. Яны — аўтарытэтныя знаўцы мастацтва слова, духоўныя настаўнікі не аднаго пакалення моладзі, сапраўдныя грамадзяне і патрыёты Беларусі. А калі мы яшчэ звернем увагу і на паэтычную грань таленту В. Івашына ды прачытаем яго два-тры вершы, то не толькі зможам выклікаць цікавасць да асобы гэтага вучонага і чалавека, але і створым выдатны эмацыянальны настрой у класе.

Натхнёнае пакліканне да паэтычнай творчасці В. Івашын адчуў у гады перабудовы-адраджэння. Гэта быў час рамантычных надзей, незвычайнага духоўнага абнаўлення жыцця. З душы сталага па ўзросце чалавека раптам папрасіліся вершы. Урэшце, свае творы ён адважыўся вынесці на чытацкі суд — так на старонках штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" ў 1992 годзе з'явілася першая публікацыя. Па словах самога В. Івашына, пісаць вершы ён пачаў у даваенны час. Яшчэ школьнік, чытаючы Янку Купалу і Якуба Коласа, ён сам спрабаваў нешта рыфмаваць. Першыя вершы паказаў Лукашу Калюгу, свайму земляку і далёкаму родзічу (разам з ім вучыўся ў Станькаўскай сямігодцы). Аднак непаэтычныя і суровыя гады сталінскага тэрору і страху, калі былі рэпрэсаваны сотні беларускіх пісьменнікаў, не спрыялі творчаму ўзлёту маладых талентаў Балюча было паранена сэрца шчырага і адкрытага беларуса, тады яшчэ студэнта літаратурнага факультэта Мінскага педінстытута, арыштам у 1937 годзе яго бацькі, які так і не вярнуўся на родны парог. І ўсё ж хлопец імкнуўся заставацца самім сабой — чалавекам эмацыянальным і вельмі натхнёным. Былая настаўніца Докшыцкай сярэдняй школы №1 Ірына Васільеўна Здзесева, якую будучы акадэмік вучыў у даваенныя гады ў Віцебскім педвучылішчы, згадвае Васіля Уладзіміравіча як паэтычную і тонкую натуру. У прыватнасці, яна гаворыць: "Васіль

Уладзіміравіч цудоўна чытаў вершы на памяць. Мы былі зачараваны яго голасам — усхваляваным і прачулым". Таму сцвярджэнне ў слоўніку-даведніку
"Беларускія пісьменнікі", што В. Івашын "у сталыя гады пачаў пісаць лірычныя вершы"(1994. Т. 3), крыху няпэўнае. Пагрэбна зрабіць удакладненне: пачаў зноў пісаць вершы.

Паэтычны агеньчык не згас у чуйнай да свету душы чалавека, які шмат перажыў і спазнаў на жыццёвай дарозе. Згадаем хаця б тое, што В. Івашын салдатам прайшоў праз пякельна-крывавае полымя вайны. Пра такіх звычайна кажуць: ён у душы паэт. Калі б не быў такім, то наўрад ці змог глыбока пранікнуць у эстэтыку творчасці нашых выдатных паэтаў, тонка прааналізаваць іх вершы. Паэтычнае ўспрыманне і стаўленне да свету — гэта дар людзей з асаблівай душэўнай арганізацыяй. Працуючы з Васілём Уладзіміравічам у Нацыянальным інстытуце адукацыі, я неаднойчы слухаў яга ўзнёслыя, прыгожыя словы пра жаночую красу, радасць дачыненняў з навакольнай прыродай. Ён адчувае свет і чалавека паэтычна, узвышана, з любоўю і спагадай. Унутраны свет Васіля Івашына добра выяўляецца ў яго лірычнай творчасці. Яго вершаваныя кнігі "Слова" (1995), "Покліч памяці" (1998), "З надзеяй і верай" (2003) засведчылі, што ён як паэт мае выразнае індывідуальнае аблічча, сваю творчую манеру.

Мусіць, зазначу адразу: ёсць у зборніках В. Івашына і неглыбокія радкі, якім бракуе яркасці, арыгінальнасці паэтычнага адкрыцця: вершы "Іду, з сабою раюся...", "Я пазнаю цябе ва ўсім..." і інш. Паўтараюцца некаторыя думкі-вобразы: і пра сцяг свабоды, і пра яднанне душы і прыроды... Але ў яго паэзіі ёсць іншае, тое, што прываблівае, — непадробны лірычны пульс сэрца.

Васіль Івашын — паэт-лірык, таму яго думка-эмоцыя найперш скіравана на пазнанне ўласнага "я". "Іду шляхамі свайго "я", // Яго глыбіні вымяраю. // Перада мной душа мая..." — прызнаецца ён у зборніку "Слова" (верш "Маё "я"). Ён спазнае сваю чалавечую існасць, асэнсоўвае сябе ў жыцці і свеце. Душа для яго — праўдзівае, сумленнае люстэрка пачуццяў, трывог, надзей і расчараванняў: менавіта там аўтар шукае адказ на вечныя і сучасныя, надзённыя пытанні быцця:

Спасцігні яе зорны свет,
Яго абсягі і шыроты,
Высокіх дум адбіты след,
Крылатай мары ўздымы, ўзлёты.

Адчуй трывогі і маленні,

Усплёскі гневу, дабрыні,
Яе лятункі-азарэнні,
Яе нязгаслыя агні.

*("Вечнае пытанне ")*

Лірычная рэфлексія і лірычная медытацыя вызначаюць гучанне і змястоўную напоўненасць твораў В. Івашына. Тут раскрываецца шырокі духоўны свет асобы, яе розныя станы і перажыванні. Пафасам шчырай размовы і спавядальнасці прасякнуты многія вершы:

Мне належыць спрадвеку ўсё тое,
Чым жыву я цяпер і чым жыў,
Дар жыцця — дарагое, святое, —
Што з другімі і я заслужыў.

*("Я ніколі не прагнуў улады... ")*

Лірыка-апавядальны стыль гэтага творцы вызначаецца нязмушанасцю, натуральнасцю размоўных інтанацый, Відавочна, што аўтар — прыхільнік традыцыйнай вершаванай паэтыкі, ён найперш імкнецца да жыццёвай напоўненасці верша, выяўленчай выразнасці пісьма. Нельга не заўважыць адмысловай строфікі яго твораў: вершы "Я — мара твая", "Вечар. Холад..." і некаторыя іншыя. Паэт умее арганічна паяднаць пачуццё і думку, надаць суб'ектыўнасць паэтычнай вобразнасці, дасягнуць глыбіні лірычнага абагульнення.

Творы В. Івашына – паэтычны аўтапартрэт, своеасаблівая гісторыя яго душы і лёсу. Невыпадкова скразная тэма яго лірыкі — памяць, зварот да мінулага. Аднак, мабыць, ён не імкнецца стварыць мемуары ў вершах, для яго, думаецца, вельмі важнае і істотнае — выказаць сябе, тое, што жыве ў сэрцы і ў памяці, таму і вядзе споведзь пра зведанае і перажытае, роздум пра дзень сённяшні, яго радасці і беды. Пры гэтым, нягледзячы ні на што, застаецца аптымістам, жыццялюбам, верыць у высокае прызначэнне чалавека.

Спрадвечныя народныя каштоўнасці, духоўная спадчына, людское супольнае жыццё асабліва хвалююць Васіля Івашына. З пачуццём грамадзянскага неспакою і маральнай адказнасці ён рэагуе на ўсё тое, што разбурае чалавека і грамадства, пярэчыць нармальнаму стану рэчаў і спараджае звыродлівае, бездухоўнае, антылюдскае. Этычная пазіцыя паэта — у супрацьстаянні злу і подласці, чэрствасці і несправядлівасці, у спавяданні дабра і міласэрнасці. Гэтым і абумоўлены яго вершаваныя заклікі-просьбы: "...Перад злом не адступай, не падай ніц, // Звані, звані з усіх званіц: // Там крыўдзяць чалавека!" ("Жыццё з адных дабротаў не саткана..."). Думка паэта пра сучасную складаную і супярэчлівую рэчаіснасць набывае маральна-філасофскую заглыбленасць. Мае рацыю крытык

У. Гніламёдаў, калі адзначае, што "паэзія Івашына дашукваецца ісціны праз прыгажосць, маральную дасканаласць", і робіць слушную выснову: "У цэлым гэта паэт філасофскага ўхілу..." Васіль Івашын, абапіраючыся наа сабісты жыццёвы досвед, не стамляецца гаварыць пра галоўныя, вызначальныя і мудрыя пачаткі ў чалавечым існаванні:

Я хацеў бы, каб вочы свяціліся,
Каб шугала у іх святло,
Каб заўсёды у іх прамянілася
Чалавечай любві дяпло.
Каб нішто любві не азмрочыла,
І яна жыла з дабрынёй...
Ўсё, што сэрца мае напрарочыла,
Засвяціла ў душы маёй.

*("Я хацеў бы, каб вочы свяціліся... ")*

Актыўны гуманізм — аснова мыслення Івашына-паэта. Ён выступае духоўным максімалістам, праўдалюбам, рамантыкам, які ўзвышае агульначалавечыя ідэалы. Але гэта не азначае, што, каб "узнесці на пасад дабро" ("Дзе ж адказ?"), "усё чалавечае ўзаконіць" ("Чым вымераць цябе, жыццё?.."), трэба слепа абсалютызаваць агульназначныя ісціны, прытрымлівацца дыдактычнай рыторыкі і пафасных тырад. Наадварот, аўтар звяртаецца да чытача, і найперш да самога сябе, з роздумнымі, складанымі запытаннямі, на якія шукае адказы. Усё — і тут нельга не пагадзіцца з ім — залежыць ад унутранага самавызначэння кожнага з нас, здольнасці быць і заставацца чалавекам:

Ва ўсім, ва ўсім знаходжу сваю меру,
Людскую — значыць, і маю,
І боль чужы, што сэрцам абагрэю,
Сабе самому аддаю.

*("Усё, што маю я, належыць людзям...")*

Не заўсёды, вядома, простыя словы-ісціны становяцца ўнутранымі перакананнямі. Але паэту-гуманісту іншага і не дадзена, як быць прапаведнікам любові, вартавым чалавечай праўды, абаронцам красы. Бо без усяго гэтага немагчыма "ўзнесці ў душы... храм" ("Ніяк не магу я спазніцца...") — ні храм у асобным чалавеку ні храм-збавенне для людской грамады. Многія маральныя сентэнцыі і высновы гучаць вельмі афарыстычна, па-філасофску ёміста: "Дзе царуе з праўдай чалавечнасць, // Там і вечнае жыве заўжды!" ("Ты, вечнае, дзесьці так далека..."); "Любоў не зносіць забыцця, // Любоў-заступніца жыцця" ("З любоўю прыгажосць заручана..."). Зрэшты, пачынаючы ад Антычнасці і Адраджэння, пісьменнікаў хвалююць спрадвечныя

маральныя пытанні. Адзінае, што, відаць, можа супрацьпаставіць паэт на гэтай грахоўнай зямлі сіле жорсткасці і зла, — свой дух, сваю душу, злучаную з Богам і святлом праўды. Лірычная асоба, якая паўстае перад намі са зборнікаў В. Івашына, — гэта інтэлігент-гуманіст, для якога вышэй за ўсё сумленнасць, самаахвярнае слугаванне праўдзе, імкненне да прыгажосці, дабра, высакароднасці: "...Самім сабой заўсёды быць, // Іўсё адцаць, усё дазванйя // Дабру і праўды не забыць" ("Не скарджуся, не наракаю..."). Ён жадае, каб свет змяніўся да лепшага, прагне "ўсё сабой ачалавечыць" ("Які дзівосны гэты цвет вясны!.."). Гэтыя вершы сацыяльна-этычнага і духоўна-гуманістычнага зместу непасрэдна лучацца з той ідэйна-мастацкай традыцыяй, якую характарызуе працэс марапьнага светапазнання і светаразумення (згадайма хоць бы паэзію Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, П. Панчанкі і інш.).

Патрыятычная і пейзажная лірыка В. Івашына яскрава выяўляе яго грамадзянскае аблічча і глыбокуто замілаванасць хараством беларускай прыроды. Вершы "Табой, мая радзіма, ўзгадаваны...", "Усё, што маю, чым багаты...", "Радзіме", "Ёсць адзін закон спрадвечны...", "Ўсё ўсплывае ў памяці маёй...", "Радзіма" і іншыя ўспрымаюцца як адзіны маналог любові — любові да бацькоўскай зямлі, якая нарадзіла, дала сілы і акрыліла. Здаецца, падобных твораў пра родную старонку ў беларускай паэзіі багата. Але ў свядомасці і душы Івашына-паэта ёсць свая ўнутраная мера паняцця Радзімы — непаўторнай духоўнай каштоўнасці ў свеце:

Любуюся штодзённа я Усходам,
І барвы Захаду так да спадобы мне.
І кожны раз я сэрцам адчуваю
Ўсю сілу прыцягнения роднае зямлі.
*("Прыцягненне роднае зямлі")*

Радзіма — гэта і "матчынае слова, што зорыцца ў душы вяснова" ("Каму мне дзякаваць за ўсё, што маю..."). Кніга "З надзеяй і верай" пачынаецца з паэтычных маналогаў пра родную мову. Яна для паэта — "вечная прага тварэння", "дар неацэнны ад Бога", і пра гэтую "духоўнасці аснову" ён гаворыць з вялікай любоўю і трывогай.

Васіль Івашын услаўляе і паэтызуе Радзіму з радасным адчуваннем духоўнай свабоды. Радзіма і свабода для яго — паняцці роднасныя і непадзельныя. Вальналюбны, жыццестваральны адраджэнскі дух поўніць радкі верша "Калі надыдзе расставание...", у якім паэт выказвае запаветнае жаданне: "...Іўпэўніцца, што абагрэта // Святлом жаданае свабоды // Багаславёная мая зямля". Свабода — душа паэзіі і народа,

і гэтае адчуванне паэт даносіць да нас як глыбока асабістае перакананне.

Як некалі МаксімаБагдановіча, Васіля Івашыназачароўвае і вабіць дзівосная, хоць часам і някідкая, краса роднай прыроды, яе фарбы, колеры, гукі. Яго пароднёнасць з хараством беларускага ўлоння адухоўленая, а стаўленне да навакольнага свету чыстае, нават па-дзіцячы непасрэднае. "І прад высокаю красою" (М. Багдановіч) ён адчувае стоенае захапленне, узнёсласць, незвычайны душэўны ўздым. Асабліва паэта папоніць вясна, яе водарная квецень, жыццяноснае ззяне сонца і "прыветна-мілы звон":

Дзівосная пара квітнення,
Цябе, як шчасце, берагу
І кожнае тваё імгненне
Хачу спыніць і не магу.

*("Вясна гамоніць і спявае... ")*

Ствараючы паэтычныя пейзажы, В. Івашын не імкнецца проста занатаваць натуру, апісваць выключна прыгоствы наваколля, прырода для яго большае — чуйны адбітак яго ўнутранага "я": эмоцый, настрою, душэўных імпульсаў. Ён успрымае навакольны свет як жывы, поўны красы жыцця: "І ў золаце шматколерных абноў // Красуецца душа прыроды" ("Краса жыцця"). Так "адчуць душою гэты міг як асалоду" здольная толькі эстэтычна чулая, паэтычная натура.

Васіль Івашын скіраваны ўглыб сябе, сваёй памяці і да пражытага часу з яго шматлікімі выпрабаваннямі. Гэтая паэтычная вандроўка прыносіць шкадаванне і ўсведамленне незваротнасці былога, а найчасцей выклікае радасць спазнання таямніц і красы духоўнага быцця: "Не магу я надзівіцца, // Што там творыцца ўва мне" ("Што на сэрца мне кладзецца..."). Ляціць да нас творчае "адвагі смелы матылёк" з надзеяй, з тым, каб мы, сучаснікі паэта, пачулі хоць бы і такое:

Не мінайце таго, што нельга мінуць,
Не губляйце таго, што нельга згубіць,
Не забудзьце таго, чаго нельга забыць,
Захавайце яго для таго, каб любіць.

*("Не мінайце таго, што нельга мінуць... ")*

З вышыні часу паэт добра бачыць і адчувае, што самае важнае, галоўнае ў жыцці. Ён мудры і малады сэрцам, якое бруіць паэзіяй красы і любові. Гэтым і прываблівае свет яго лірычнай творчасці — свет адкрыты і разнасцежаны, непадманны і шчодры. І яшчэ. Няма сумневу: лірыка В. Івашына паўнакроўна ўлілася ў рэчышча сучаснай беларускай паэзіі.

*2003*

## Рыцар літаратуры і сейбіт вечнага

Постаць крытыка і літаратуразнаўцы Івана Штэйнера адметная ў многіх адносінах. Вонкавае ўражанне ён робіць чалавека ўпэўненага, сталага, моцнага: плячысты, каржакаваты, з вузлістым поціскам рукі, цвёрдым, спакойным паглядам, гучным, крыху басавітым мужчынскім голасам. Неяк інтуітыўна адразу адчуваеш грунтоўнасць штэйнераўскай асобы. Чымсьці гэты сын Палесся нагадвае мележаўскага Васіля. Ён не баіцца працы, цяжкасцяў а яшчэ здольны, калі трэба, падставіць плячо. Па сваёй натуры, дасціпнай і вясёлай, Штэйнер часта жартуе, падкепвае і ў такія хвіліны бывае надобны да Тараса на Парнасе. Словам, ён увасабляе адмысловы і ў той жа час яркі беларускі характар. Ды і ў літаратурнай навуцы яго слова важкае, трывалае, мае надзейную ўгрунтаванасць. Аглядаючы зробленае І. Штэйнерам, яго аднагодкамі, а таксама маладзейшым пакаленнем у беларускай філалогіі, згадваючы саму постаць гэтага вучонага з Гомеля, хочацца параўнаць нашу сучасную літаратуру і літаратуразнаўства з новым будынкам, які годна трымаюць моцныя атланты спрадвечнага беларускуга духу.

Моц і жыццетрываласць у І. Штэйнера, і тут ён не выключэнне, ад працавітых бацькоў і роднай зямлі. Яго радзіма-веска Беражное Столінскага раёна, што на берасцейскім Палессі. Нарадзіўся на пачатку восені 1953 года і быў дзіцем новай паслясталінскай эпохі. Пра свае родныя мясціны Іван Фёдаравіч можа згадваць і гаварыць бясконца. Слухаючы яго, падумалася, што сапраўднаму інтэлігенту, "карнявому" чалавеку, у адрозненне ад перакаці-поля, заўсёды ўласціва глыбокая генетычна-духоўная повязь з бацькоўскім краем. Вось што распавядае І. Штэйнер пра кут дзяцінства: "Веска стаіць на магістралі Столін — Давыд-Гарадок, якраз пасярэдзіне, на беразе самай хуткаплыннай, неўтаймаванай ракі Гарынь, якая вядома сваім норавам, бо залівае велізарныя прасторы, зносячы ўсё на сваім шляху. Пра гэта добра напісана ў кнізе земляка Г. Марчука "Крык на хутары". Пра Гарынь паэтычную многа піша Л. Дранько-Майсюк. Згадаем ягоныя паралелі Гарынь — Сена. Гарынь і да гэтага часу паказвае характар, хоць ля Давыд-Гарадка пракапалі ёй новае рэчышча". Між іншым адзначаю, што і ў характары Івана Штэйнера ёсць гэтая настойлівасць, няўрымслівасць і мэтаімкнёнасць, якія вывелі яго ў асэнсаванні беларускай літаратуры на шырокі духоўны прастор.

Бацькі літаратара – Вольга Дзмітрыеўна і Фёдар Раманавіч Штэйнеры – тыповыя палешукі, звычайныя вяскоўцы, у Беражным іх ведаюць як людзей працавітых, душэўна шчырых і добрых. Маці скончы-

ла некалькі класаў польскай школы, да гэтага часу па-польску чытае вершы. Бацька, сірата з дзяцінства, прайшоў цяжкую жыццёвую дарогу. Ен служыў у Войску Польскім, ваяваў з гітлераўскімі захопнікамі і трапіў у палон, зведаў жахі фашысцкай няволі. Фёдар Раманавіч з дзіцячых гадоў мае добры голас і музычны слых, калісьці ў святочных бяседах і застоллях, па словах сына, "спяваў, як Шаляпін". Ён часта хадзіў капаць калодзежы, адгукаўся на людскія просьбы, і гэты бацькаў прыклад рабіць дабро іншым стаўся нязменным жыццёвым правілам і для Івана Фёдаравіча.

У гутарцы з выбітным палескім літаратарам пацікавіўся пра яго радаводныя карані, запытаў, ці не "празаходняе" паходжанне ён мае, бо Штэйнер — прозвішча своеасабліваe, нязвыклае для беларуса. Вось што ён сказаў: "Наша вёска старадаўняя, яна нагадвае хутчэй мястэчка — даўжыня абапал магістралі дзесьці 4,5 кіламетра. Некалі тут жылі нямецкія майстры, што прыехалі да нас з Латвіі. Таму звыклымі ў нас сталі прозвішчы Байзерт, Кунштэль, Цывіс, Гарбар, Пульман, Цур, Рун, Чэх і іншыя, якія няблага ўжываюцца са шляхецкімі Мінкевіч, Пашкевіч, Прылуцкі (прозвішча маіх продкаў)". Шляхецкія традыцыі ў Беражным былі адчувальныя даволі доўга, нават у пасляваенны час той ці іншы паляшук з гонарам гаварыў пра сваё паходжанне. Хтосьці, вядома, прыгадае высмеяных палешукоў са славутай "Пінскай шляхты", у якой, між іншым, шляхціц з палескай ваколіцы Альпенскі кажа пра Кручкова, што той "пабраў рублі ды яшчэ па капейкі сягае". (Дарэчы, вёску Альпень, якая знаходзіцца па той бок Гарыні, калісьці наведаў В. Дунін-Марцінкевіч, у ёй "беларускі дудар" напісаў лірычныя вершы.) Да сваіх добра знаных змалку землякоў Штэйнер ставіцца без скепсісу і з пашанотай, бо іх гонар насамрэч не быў фанабэрысты, паказны, фальшывы, у шляхетных паводзінах выяўлялася іх сацыяльная "канстытуцыя", трывалы маральны "кодэкс". Сёння, на жаль, усё часцей у жыцці і побыце знікае пачуццё годнасці, самапавагі, прыстойнасці. Чаго-чаго, а шляхетнасці і высакароднасці Івану Фёдаравічу не пазычаць. Такім ведаюць Штэйнера ў навуковых колах Гомеля і Мінска, у студэнцкім і выкладчыцкім асяродках.

Жыццёвая сцяжынка вывела І. Штэйнера на філалагічны прасцяг адразу пасля заканчэння Беражноўскай сярэдняй школы, калі ён паступіў на філфак БДУ (1970). Тут ён слухаў лекцыі вядомых даследчыкаў літаратуры М. Ларчанкі, І. Навуменкі, А. Лойкі, А. Адамовіча, Н. Лапідуса, Р. Семашкевіча, якіх лічыць сваімі духоўнымі настаўнікамі. Больш за ўсё ўпадабаў працаваць у бібліятэцы, так званай "ленінцы", якая месцілася на вуліцы Чырвонаармейскай побач з філ-

факам. Бібліятэчная аўра заваблівала настолькі, што часам ён прапускаў нудныя і сумныя лекцыі. Меў студэнт Штэйнер незалежную думку, выказваў свой крытычны погляд, аднак гэта не заўсёды падабалася факультэцкаму начальству. Папрасіў Івана Фёдаравіча згадаць студэнцкую вучобу і вось што пачуў: "Сесіі ў асноўным здаваў на "выдатна", але мог і "заваліць" экзамен, калі закахаўся... Некаторыя выкладчыкі гразілі, што, не бачыўшы мяне на лекцыях, прыпомняць на экзамене. Але на іспытах я заўсёды трымаўся бліскуча – памяць была добрая, учэпістая. Курс быў адметны: Мікола Прыгодзіч, Іван Роўда, Люба Тарасюк, Тоня Лойка, Васіль Сахарчук, Франц Сіўко..." Іван Штэйнер не лічыўся ідэальным студэнтам, але затое быў нармальным, жывым чалавекам, не ператварыўся ў нейкага "бяздумнага зомбі". Былому філфакаўцу БДУ асабліва помняцца паездкі па літаратурных мясцінах з В. Рагойшам. Яму пашэнціла на вельмі прыязныя чалавечыя адносіны з выкладчыкам і маладым пісьменнікам Рыгорам Семашкевічам, да якога трапіў у дыпломнікі. І. Штэйнер узяўся за даследаванне экзістэнцыялізму ў прозе Васіля Быкава. Дыпломная работа сваёй арыгінальнасцю, самастойнасцю спадабалася не толькі навуковаму кіраўніку, які захацеў яе надрукаваць, але і рэцэнзенту прафесару Сцяпану Хусейнавічу Александровічу. І. Штэйнер смуткаваў-журыўся тады, ды і сёння шкадуе, што Семашкевіч, таленавіты паэт, крытык і цудоўны чалавек, так заўчасна і трагічна пакінуў жыццё.

Трапіць у аспірантуру не атрымалася, і Штэйнер вярнуўся на Століншчыну. Працаваў дырэктарам Хатомельскай васьмігодкі, але доўга ў начальніках не пахадзіў "Лабановіча з мяне не атрымалася..." — шчыра прызнаўся Іван Фёдаравіч. Хапала ў школе абавязкаў і не па душы. Так, для школьнага каня трэба было нарыхтоўваць сена. Здарылася і непрыемнасць, было не да жартаў: воўк з'еў жарабя, аднак выратавала маладога дырэктара ад пакарання тое, што яно нідзе не праходзіла па каштарысах.

Тым часам Іванава жонка давучвалася ў БДУ. Па заканчэнні вучобы яна атрымала размеркаванне ў Гомель. Штэйнер звольніўся з дырэктарскай пасады і падаўся следам за сваёй абранніцай сэрца. Непрацяглы час працаваў у Гомельскім інстытуце ўдасканапення настаўнікаў, а таксама ў СШ № 44. Неўзабаве прыйшоў у Гомельскі універсітэт з намерам паступаць у завочную аспірантуру. Тут пазнаёміўся з вядомым літаратуразнаўцам Міколам Грынчыкам, які прапанаваў вучыцца на стацыянары. Мікола Міхайлавіч скіраваў аспіранта на даследаванне жанру балады. Грынчык даў, як кажуць, пуцёўку ў навуку, дапамог знайсці сваю творчую дзялянку. Прайшло

некалькі гадоў — і малады, перспектыўны вучоны быў прызначаны загадчыкам кафедры. М. Грынчык перадаў яму рэдагаванне рэспубліканскага навуковага зборніка "Беларуская літаратура". У 1994 годзе кандыдат навук, дацэнт І. Штэйнер выйшаў на абарону доктарскай дысертацыі. Акадэмік І. Навуменка жартаваў: "Ты парушаеш добра зладжаную традыцыю, калі чалавек адначасова атрымліваў дыплом доктара і пенсійнае пасведчанне". Як на той час, Штэйнер атрымаў доктарскую ступень досыць рана, фактычна ён першы "прарваў плаціну", і праз тры-чатыры гады хлынуў цэлы паток дысертацый на атрыманне ступені доктара навук — абараніліся І. Чарота, Г. Няфагіна, Г. Твараноўіч, І. Саверчанка, А. Макарэвіч, Г. Тычка, Т. Дасаева, С. Кавалёў... На сённяшні дзень Іван Штэйнер — вядомы філолаг-даследчык, літаратурны крытык. Доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.

За дваццаць гадоў працы на пасадзе загадчыка кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны ён паказаў сябе не толькі як лідэр па бясспрэчных навуковых вартасцях, але і як сапраўдны інтэлігент і педагог, які ўвасабляе лепшыя чалавечыя якасці. А гэта вельмі важна для любога калектыву, калі асоба кіраўніка – цэнтр прыцягнення, пазітыўнага энергетычнага ўздзеяння. Літаратурнай кафедры ў Гомельскім універсітэце, на мой погляд, пашэнціла, бо навукоўцы, на шчасце, не ведаюць, што такое ўладная начальніцкая пыха, брудныя інтрыгі, звышамбіцыі без належнай амуніцыі. Калі і ёсць амбіцыі ў Штэйнера-кіраўніка, то іх успрымаеш як творчую звышзадачу. "Хачу зрабіць сваю кафедру самай магутнай і аўтарытэтнай", — гаворыць Іван Фёдаравіч. Хіба нельга не вітаць гэткага яго намеру? Ён заўзята працуе сам, шмат часу адцае аспірантам, стварае спрыяльныя ўмовы для іншых. Таму і "планку" падымае перад тымі, хто ідзе ў навуку, прапаноўвае арыгінальныя і складаныя тэмы для навуковага вырашэння: "Праблема ўмоўнасці ў мастацкай прозе", "Гендэрныя праблемы ў літаратуры", "Метафарызацыя эротыкі ў беларускай і сусветнай мастацкай традыцыі", "Генезіс і эвалюцыя, эманацыя прытчы ў беларускай літаратуры" і інш. Ужо не адзін штэйнераўскі аспірант паспяхова абараніў дысертацыю на атрыманне ступені кандыдата навук. Да прыкладу, высокую ацэнку вядомых вучоных атрымала даследаванне ўмоўнасці ў сучаснай беларускай прозе, якое правёў С. Ханеня, вучань Івана Фёдаравіча.

Лёгкага шляху ў навуку не шукаў і сам І. Штэйнер. Кандыдацкую дысертацыю пісаў, дбаючы пра тэарэтычную заглыбленасць думкі, у доктарскай дысертацыі стварыў шырокі беларуска-славянскі літара-

турны фон. Свае навуковыя падыходы і кампаратывістычныя знаходкі ён прадэманстраваў на шматлікіх літаратуразнаўчых канферэнцыях, на Міжнародным з'ездзе славістаў у Славеніі (2003). Дарэчы, Іван Фёдаравіч жадае, каб і яго вучні ў пэўнай ступені былі кампаратывістамі, разглядалі беларускую літаратуру "здалёк і зблізку" (А. Адамовіч) — у суаднесенасці з нацыянальнай мастацкай традыцыяй і ў еўрапейскім літаратурным кантэксце.

Здаецца, ужо з папярэдняй гаворкі зразумела, што працуе І. Штэйнер актыўна і плённа доўгі час, мае несумненныя творчыя дасягненні і набыткі. Галоўны яго даследчыцкі аб'ект – беларуская балада. Яму па сутнасці належыць сёння "пальма першынства" як аўтарытэтнаму і прызнанаму знаўцу баладыстыкі. Калі ўявіць баладу прыгожай паненкай (гэтае слова жаночага роду), то ў нашай беларускай філалогіі І. Штэйнера можна назваць адданым Рыцарам Балады. Баладную творчасць ён вывучае даўно, мэтаскіравана. Тэарэтыка-гістарычнаму асэнсаванню "незвычайнага, таямнічага, загадкавага жанру" прысвечана першая манаграфія "Беларуская балада" (1989). У кнізе "Варожаць балады вякоў" (1993), якая склала аснову доктарскай дысертацыі, І. Штэйнер выйшаў на новы абсяг даследавання тэмы. Ён прасочвае станаўленне і развіццё баладнага жанру ў святле славянскіх і шырэй — еўрапейскіх — мастацкіх традыцый. Гэты яго найбольш значны навуковы плён запатрабаваны ў сучаснай вышэйшай школе, паколькі напрацаваны матэрыял пра баладыстыку выдадзены ў выглядзе вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў: "Балада: гісторыка-тэарэтычны нарыс" (1993) і "Балада: генезіс, эвалюцыя, перспектывы жанру" (2003).

Штэйнераўскую манаграфію "Варожаць балады вякоў" крытыка вылучыла як грунтоўнае, фундаментальнее даследаванне і за шырокі кантэкст, і за факталагічнае багацце. У рэцэнзіі "Маленькая драма" — балада" І. Чарота адцае належнае аўтару кнігі як тэарэтыку жанру падзяляе яго ўдумлівыя навуковыя падыходы, абачлівую пазіцыю, адзначае разнастайнасць тыпалогіі і прынцыпаў аналізу баладнай творчасці. У прыватнасці, рэцэнзент мяркуе, што "ўвага да сыходжанняў супольных ці блізкіх матываў, сюжэтаў ідэй сама па сабе многае можа высветліць. Асабліва, калі не абмінаюцца рознаскіраваныя плыні, якія мелі месца ў нацыянальным (беларускім) і супольным (славянскім) кантэксце, так ці інакш уплываючы на канкрэтных аўтараў". І. Штэйнер, нягледзячы на тое, што балада з'яўляецца адным з самых старажытных, традыцыйных жанраў у літаратурнай Еўропе, выяўляе яе нацыянальна-беларускую спецыфіку. Своеасаблівасць гэтага жанру бачыць у наступным: "Беларускія

рамантычныя балады адметныя тым, што ў першую чаргу адлюстроўваюць народны светапогляд і псіхалогію"; "Беларускія балады адрозніваюцца ад баладаў іншых народаў сваёй паэтычнасцю. Тлумачыцца гэта тым, што ў беларускім фальклоры, як і ў заходніх славянаў, амаль не складіся традыцыі гераічнага эпасу"; "Пры ўсёй тэматычнай разнастайнасці баладаў яны маюць нешта агульнае, што дазваляе аб'яднаць у межах адзінага жанру. Гэта ў першую чаргу паэтычнае хараство, што найбольш яскрава ўвасоблена ў нязвычным, звышнатуральным, абвострана-метафарычным". Даследчык вылучае і іншыя рысы ў абліччы беларускай "міні-драмы". Ён раскрывае ідэйна-жанравы феномен балады, якая ў выніку міжродавага літаратурнага ўзаемадзеяння і пастаяннай дынамікі, зменлівасці набыла сінтэтычную, у чымсьці універсальную эстэтычную прыроду, павялічыла стылёва-выяўленчы патэнцыял. А вось выснова пра "глабальную" генетычную пароднена сць і ідэйна-светапоглядную агульнасць баладных твораў: "...Галоўнае, што аб'ядноўвае ўсе балады, напісаныя ў розныя часы і эпохі, — вера ў чалавека, яго ўнутраную веліч, глыбокую чалавечнасць". Паводле аўтарскай трактоўкі, у баладным свеце яскрава ўвасобіліся трагізм і гераізм народнай гісторыі, зломнасць лёсу асобнага чалавека.

Іван Штэйнер правёў класіфікацыю нацыянальнай баладыстыкі, паказаў асаблівасці баладнага светаўспрымання і светаадлюстравання, уласцівыя для гэтага жанру сродкі і прыёмы мастацкага ўвасаблення: адухаўленне, драматызацыя, разгорнуты метафарызм, умоўнасць і міфалагізм, алегорыя, сімволіка, прытчавасць і інш. Праўда, часам праз сваю захопленасць прадметам даследавання навуковец штосьці перабольшвае, дзесьці проста перабірае меру ў вызначэнні жанравай прыналежнасці, выказвае суб'ектыўныя меркаванні. Відаць, іначай і не бывае, калі ствараецца вялікае, шматахопнае даследаванне. Ды і працэс "распазнавання" жанру мае свае складанасці. Затое застаюцца, як кажуць, пэўныя лакуны для ўдакладнення, высвятлення ісціны, ёсць добрая наго да для разваг, палемікі, яшчэ больш паглыбленага асэнсавання тэкставага матэрыялу. Галоўная заслуга Штэйнера-даследчыка бачыцца ў тым, што ён сваімі кнігамі адкрывае беларускаму чытачу "космас балады".

Наступная прыкметная літаратуразнаўчая праца — манаграфія "Шматмоўная літаратура Беларусі XIX стагоддзя" (2002). У ёй І. Штэйнер заняўся на іншамоўнай спадчыне пісьменнікаў, якія ў большасці сваёй пісалі па-польску: Я. Чачота, А. Міцкевіча, Т. Зана, Т. Лады-Заблоцкага, Ю. Корсака, Я. Баршчэўскага, В. Каратынскага, У. Сыракомлі і некаторых іншых аўтараў. Польскамоўныя творы доўгі

час заставаліся па-за гісторыка-літаратурным кантэкстам і перадусім, зразумела, па-за даследчыцкай увагай. Аднак дзякучы намаганням А. Мальдзіса, В. Каваленкі, Г. Кісялёва, У. Мархеля, К. Цвіркі, М. Хаўстовіча і іншых літаратуразнаўцаў ды перакладчыкаў актуалізавалася праблема даследавання шматмоўнай літаратуры і культуры Беларусь І. Штэйнер прапануе ўласны кірунак у асвятленні гістарычнага развіцця мастацкай творчасці, вылучае досыць прадукцыйны і ўжо надзейна апрабаваны ім самім навуковы падыход: ён прапануе зірнуць на літаратурную спадчыну XIX стагоддзя "на гэты раз праз прызму аднаго з самых доказных крытэрыяў — жанравага". У абсяг "гравітацыйнага поля" даследчыка трапілі такія асноўныя жанры эпохі рамантызму, як балада (вершаваная і празаічная), навела, прытча, гавэнда (быліца), песня, санет. Ён, спасцігаючы жанравую, эстэтычную сутнасць твораў у параўнальна-тыпалагічнай сувязі з традыцыямі еўрапейскай літаратуры, прыходзіць да цікавых меркаванняў і каштоўных высноў. І. Штэйнер гаворыць пра творчую самастойнасць і самабытнасць пісьменнікаў Беларусі: "...Але і тут праявілася творчая адметнасць польскамоўных беларускіх аўтараў, якія лічылі, што не варта пераймаць формы, надзвычай распаўсюджаныя ў аўтараў англійскіх, нямецкіх або французскіх. Адштурхоўваючыся ад нацыянальнай фантастыкі, яны ішлі не да займальнай балады ці павучальнай казкі, а да складанай алегарычнай сістэмы, якая была такой блізкай менталітэту беларуса і дазваляла гаварыць не толькі аб справах вечных, пазачасавых, але і надзвычай актуальных для Беларусі. Балада ў прозе і прытча, набываючы выключна нацыянальнае аблічча, становячыся шмат у чым прыпавесцю, выконваюць не толькі мастацка-эстэтычную ролю, але і вялікую грамадзянскую задачу, што рыхтавала глебу для ўзнікнення беларускай філасофскай прозы". "Жанравы ракурс" дазваляе аўтару выявіць агульныя заканамернасці і тэндэнцыі развіцця пісьменніцкай свядомасці, тагачаснага мастацтва слова, індывідуальнага аўтарскага майстэрства. У "люстэрку жанраў" адбіўся духоўны свет чалавека на гэтай зямлі, яго погляды і памкненні.

У літаратурнай крытыцы І. Штэйнер выступіўу 1984 годзе на старонках штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" (рэцэнзія "Пошукі "няўлоўнага дамавіка"). З той пары ён паступова, але няўхільна пашыраў сваю творчую дзейнасць, вынікам якой і з'яўляецца некалькі дзесяткаў публікацый у разнастайных выданнях і кніга "Deja vu, або Успамін пра будучыню" (2003). Ад водгукаў на літаратуразнаўчыя кнігі ён перайшоў да крытычнага разгляду творчасці сучасных пісьменнікаў. Крытык напісаў грунтоўныя артыкулы і рэцэнзіі, у якіх

разглядае адметныя мастацкія з'явы літаратурнага працэсу. У полі яго зроку — кнігі і творы як знакамітых майстроў слова, так і прадстаўнікоў маладзейшага пакалення пісьменнікаў і крытыкаў — пачынаючы ад А. Адамовіча і В. Быкава да Я. Лайкова і І. Шаўляковай. Асаблівую ўвагу І. Штэйнер надае літарататарам, якія нарадзіліся на беларускім Палессі і сваёй творчасцю звязаны з гэтым рэгіёнам. Толькі на старонках "Полымя" і "ЛіМа" ён у апошнія гады разглядаў творы В. Казько, Г. Марчука, А. Бароўскага, А. Наварыча. А яшчэ трэба згадаць, што колькі гадоў таму здзейсніў праект па выданні анталогіі "Крыніцы", каб прэзентаваць у ёй паэтаў, якія закончылі Гомельскі універсітэт. У літаратурна-крытычных працах Штэйнер імкнецца найперш даць канцэптуальнае прачытанне твора, паказаць яго ў пэўным ідэйна-мастацкім кантэксце і пры гэтым выявіць асаблівасці аўтарскага светаадлюстравання і творчага майстэрства. Так, аповесць В. Казько "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел" ён інтэрпрэтуе як сучасную казку, фантасмагорыю, у якой вельмі істотную ролю адыгрываюць гратэск, сімвалізм і іншыя стылёва-выяўленчыя сродкі (артыкул "Загляні ў люстэрка"). Слушна вытлумачвае сэнс міфапаэтычнай творчасці А. Бароўскага: "Фантастычнае, міфалагічнае, містычнае стала вызначальным у сучаснай прозе А. Бароўскага... І гэта не проста павевы часу. Усё падпарадкавана адзінай галоўнай ідэі творчасці пісьменніка. Гэта вяртанне народу ягонай сапраўднай гісторыі, гістарычнай памяці, без чаго не можа быць самаідэнтыфікацыі этнасу, шчасця-долі краіны" ("Азірніся з любоўю"). Добра прасочвае творчую эвалюцыю А. Наварыча, паказвае, як са зменай светапогляду памянялася выяўленная палітра гэтага мастака слова: "Шматколерная акварэль саступае суроваму алею жыцця, які сам падчас замяняецца графікай. Толькі дзе-нідзе, асабліва ў апісанні любімай прыроды, блісне ўсмешка юнага аптыміста..." ("Вяртанне наперад"). Для Штэйнера-крытыка, як пераконваюць яго артыкулы і рэцэнзіі, характэрна эстэтычная чуйнасць, дакладнасць назіранняў, сталасць аўтарскай думкі. Літаратурная крытыка прыносіць яму асаблівае эстэтычнае задавальненне. І гэта зразумела: крытык жа найперш чытач! Новыя літаратуразнаўчыя даследаванні, з якімі знаёміцца пастаянна, таксама даюць яму немалы духоўна-інтэлектуальны спажытак (трэба зазначыць, што Іван Фёдаравіч часта выступае ў ролі афіцыйнага апанента ці рэцэнзента).

У апошні час намаганні І. Штэйнера і яго аднадумцаў скіраваны на актыўнае збіранне фальклорнай спадчыны, захаванне этнаграфічных традыцый палескага краю. Пры кафедры працуе лабараторыя па вывучэнні традыцыйнай народнай культуры. Вынікі навукова-прак-

тычнай дзейнасці выкладчыкаў і студэнтаў Гомельскага універсітэта ўражваюць і цешаць: выдадзена каля дзесяці зборнікаў народнай творчасці. Толькі за апошнія гады пабачылі свет такія выданні, як "Роднае: Фальклорна-этнаграфічная і літаратурная спадчына Гомельскага раёна" (2000), "Фальклорна-этнаграфічная і літаратурная спадчына Рэчыцкага раёна" (2002), "Вяселле на Гомельшчыне" (2003), "Народная міфалогія Гомельшчыны" (2003). Сістэматызацыя і ўкладанне фальклорнага матэрыялу належыць І. Штэйнеру з В. Новак. Вельмі шмат гэты творчы тандэм і гомельскія энтузіясты ў цэлым зрабілі дзеля папулярызацыі беларускай народнай абраднасці, мясцова-этнаграфічных традыцый. Настаўнікам, кіраўнікам мастацкай самадзейнасці і іншым працаўнікам культуры яны прапанавалі для сцэнічнага ўвасаблення сцэнарыі народных свят і абрадаў. Як далучыцца да такіх адметных падзей і з'яў духоўнага жыцця, як Каляды, Гуканне вясны, Вялікдзень, Купалле? Як зладзіць сучаснае вяселле з захаваннем традыцыйнай беларускай абраднасці? На гэтыя пытанні можна знайсці адказ, да прыкладу, у кніжцы "Сцэнізацыя фальклорных свят і абрадаў" (1999, аўтары-ўкладальнікі В. Новак і І. Штэйнер). Атлантыду традыцыйнай народнай культуры на нашых вачах паглынае акіян часу, і таму І. Штэйнер разам з калегамі спяшае ўратаваць вусную народную творчасць ад забыцця, імкнецца данесці гэтыя скарбы да нашчадкаў. Гомельскія фалькларысты добра ўсведамляюць, што без ведання і выкарыстання духоўных каштоўнасцяў продкаў немагчыма сапраўднае нацыянальнае выхаванне, культурнае развіццё грамадства. У планах лабараторыі і кафедры — выданне зборнікаў народнай спадчыны Веткаўшчыны, Буда-Кашалёўшчыны, Мазыршчыны, Хойніцкага раёна і іншых мясцін палескага краю.

Які ж ён яшчэ, Іван Штэйнер? Вельмі дынамічны, аператыўны і надзейны сувязны паміж навуковым Мінскам і Гомелем. Вядома, добры сем'янін. Але дужа апантаны любімай працай, чалавек грамадскі, актыўны працаўнік на нашай супольнай беларускай ніве, на якой шчырае як сапраўдны сейбіт, самаахвярна і з вялікай асалодай. І. Штэйнер, ідучы ў студэнцкую аўдыторыю, ведае, што плён дае толькі вечнае і прыгожае. Ён знутры бачыць надзённыя педагагічныя праблемы, хвалюецца пра экалогію жывых народных крыніц, нашу школу, сучасную моладзь і ўсё тое, на што не можа не рэагаваць як інтэлігент, грамадзянін і чалавек. Лепш за ўсё пра І. Штэйнера як педагога і выкладчыка могуць распавесці яго студэнты ды аспіранты. Яны пры нагодзе скажуць многае, але найперш, мабыць, вылучаць у яго чалавечай натуры паэтычнасць, летуценнасць, чуласць.

Гэтым шчырым беларусам кіруе натхнёнае сэрца, любоў да бацькоўскай зямлі. Іван Штэйнер, як гэта пафасна ні гучала б, слугуе беларускай філалогіі, літаратуры і культуры. Калі распачынаецца гаворка пра сённяшні навуковы і літаратурны Гомель, то, безумоўна, яго імя згадваецца адно з першых. Бо І. Штэйнер — асоба, яркая індывідуальнасць. Ён у сваім жыцці ўжо нямала паспеў, багата аддаў людзям дабрыні, хоць вельмі шмат чаго прыемнага і радаснага, будзем спадзявацца, яго чакае наперадзе — і новыя кнігі, і поспехі вучняў, і кафедральныя здзяйсненні... Балазе беларускае сонца над яго галавой высокае, у самым зеніце.

*2003*

## Паўнаводная рака творчасці

Кожны з творчых людзей марыць пра "рэчышча ўласнай ракі" (А. Куляшоў). У вершы "Рэчанька" яна калісьці згадала шырокавядомы матыў народнай песні: "Ой, рэчанька, рэчанька, // Чаму ж ты няпоўная?.." Згадала, ахопленая прагай творчасці, ведаючы, што такое смага душы і абмялелая плынь. А сёння паэтка і даследчык літаратуры Любоў Тарасюк мае сваю творчую раку.

Выток яе жыцця і духоўнае прычасце – беларускае Палессе, дзе будучая пісьменніца нарадзілася 7 снежня 1953 года ў вёсцы Пінкавічы Пінскага раёна. Многім гэтыя мясціны вядомыя найперш па біяграфіі Якуба Коласа і ягонай трылогіі "На ростанях": на Піншчыне настаўнічаў сам Канстанцін Міхайлавіч і там жа, у палескай глушы, апынуўся з высакароднай асветніцкай місіяй коласаўскі герой Андрэй Лабановіч. Вучылася ў Пінкавіцкай сярэдняй школе імя Якуба Коласа. Першыя вершы, апублікаваныя ў газеце "Піянер Беларусі", былі прысвечаны роднаму Палессю і славутаму песняру: "Палессе", "Мне любы...", "На радзіме Коласа" (1966). Рыфмаваць паэтычныя радкі пачала досыць рана — у дзевяцігадовым узросце. А складала дзяўчынка вершыкі пра вясну і восень. Заканамерна, што пасля заканчэння школы Л. Тарасюк паступіла на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе яе студэнцкае жыццё-быццё доўжылася да 1975 года. Увесь далейшы лёс звязаны з alma mater: навучалася ў аспірантуры (да 1978), затым працавапа на кафедры беларускай літаратуры, з 1994 года — дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры.

Сталую працу ў літаратуры Л. Гарасюк распачала ў 70-я гады. Першая самая значная публікацыя — нізка вершаў у часопісе "Маладосць" – прыпадае на 1972 год. Праўда, да гэтага маладая аўтарка паспела заявіць пра сябе ў грунтоўнай анталогіі "Універсітэт паэтычны" (1971). Вершы друкуе над імем Люба Тарасюк. Вынікам першага этапу творчасці паэткі з'яўляецца зборнік "Смага ракі" (1983). Пасля гэтага выступала з лірычнымі творамі ў друку вельмі рэдка, яна, як падаецца, не імкнулася трымацца прынцыпу "ні дня без радка" і не спяшала, у адрозненне ад іншых вершатворцаў выдаць як мага хутчэй "тоны слоўнай руды". Тым не менш "рачулка голасу" паэткі давала пра сябе знаць. Некалькі прыкметных паэтычных нізак былі змешчаны ў розны час на старонках часопіса "Маладосць" і штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", яе вершы ўключаны ў "Анталогію беларускай паэзіі" (1993; Т. 3), кнігу “Галасы вёснаў" (1997), якая выйшла ў

серыі "Школьная бібліятэка", а таксама ў анталогію беларускай паэзіі ХХ стагоддзя "Краса і сіла" (2003), укладзеную М. Скоблам.

Паэзія Л. Тарасюк — гэта яскравы адбітак духоўнага жыцця асобы, якая ўсё галоўнае і сутнаснае ўмее высветліць і вызначыць сэрцам. Пачуццёвы пафас у яе творах шчыры і спавядальны. У гэтым сэнсе лірычная творчасць Л Тарасюк традыцыйная і ў многім тыповая для так званай "жаночай" паэзіі. Паэтка найперш гаворыць пра тое, што зрабілася часцінкай унутранага светаадчування, набыло для яе важны сэнс. Свет творчасці Л. Тарасюк звыклы для чытача: хваласпеў роднаму краю, вобразная паэтызацыя палескай прыроды, экалагічныя хваляванні, народна-песенны каларыт... Усё гэта нам вядома, да прыкладу, з паэзіі Яўгеніі Янішчыц, аднак у яе паэткі-зямлячкі ёсць свая "любоў-трывога", свой лірычны характар, адметная выяўленчая стылістыка. Пра складаны шлях самапазнання і самавыяўлення Л. Тарасюк выказалася ў вершы "Яшчэ душа баліць...":

Яшчэ душа баліць —
і тым яна жывая.
Як выказаць, аб чым
баліць яна, аб чым?..
Ёсць гэты боль-нясцерп,
што ўсю мяне зжынае...

...Мы зноў з табой, душа,
як на пачатку поля.
Было б што сеяць там
ІЖАЦЬ БЫЛО Б КАМУ.

Вобразна кажучы, паэтка звязала не адзін тугі сноп лірычных пачуццяў і мае "слова плён важкі". Высокую культуру творчасці, своеасаблівасць аўтарскай манеры адзначыла Т. Бондар у аглядзе маладой беларускай паэзіі за 1983 год: "Спалучэнне пакутнага маральнага пошуку і вышыні памкнення, думкі і музыкі, строгасці і патэтыкі ўласціва Любе Тарасюк у большай ступені, чым іншым. Мера — ва ўсім. Ашчаднае стаўленне да слова, да выяўленчых сродкаў. <...> У Любы Тарасюк — свая, непаўторная інструментоўка верша: мяккія, лірычныя ноты не прыглушаюць думку, надаюць ёй глыбейшае, больш выверанае гучанне". Нават так званыя "гучныя" тэмы набываюць у творах паэткі асабіста-інтымнае праламленне, глыбока духоўнае вымярэнне. Свае патрыятычныя пачуцці яна выказвае прачула, з унутранай асэнсаванасцю слова:

Давеку я, напэўна, не збяру
Усю яе ў праявах разнастайных.

Маленькая, як сэрца, Беларусь
Адданаю любоўю вырастае.
*("Імя Айчыны ")*

У характары лірычнага выяўлення паэткі — сцішанасць, самазасяроджанасць, роздумнасць. Гаворачы пра значнае і вельмі істотнае, можна абысціся без трыбуннай рыторыкі, звонка-гулкіх рытмаў. Асаблівую энергетыку і прыцягальнасць маюць такія цудоўныя чалавечыя якасці, як непасрэднасць, сардэчнасць, пяшчота, даверлівасць, духоўнасць. У гэтым красамоўна пераконвае лірыка Л. Тарасюк — лірыка, якая найперш раскрывае "жыццё душы" ў найбольш яркіх момантах і праявах. Пры гэтым у творах паэткі не губляецца вастрыня адчуванняў і глыбіня перажыванняў. "А словы задыхаюцца ў душы", — так выяўлены ўнутраны дыскамфорту вершы "Люблю...". Радок Л. Тарасюк выразна настраёвы. У кніжцы "Смага ракі" знайшлі адлюстраванне розныя душэўным станы: тут суседнічаюць радасць і смутак, узнёсласць і гаркота. У некаторых вершах паэткі 90-х гадоў усхвалявана загучалі элегічныя матывы. Паядноўваючы грамадскае і асабістае, яна востра адчувае драматызм жыццёвага шляху на "зямлі няўцешнай":

А ўслед — наўсцяж — маўчаць палі,
Дзе голы лёд і шэры камень
Прабіў кастлявымі рукамі
Сухі чарнобыльскі палын.

Застыне ўсіх пачуццяў шлак...
Якая ж доля — звышнагрузка —
Яшчэ любіць па-беларуску,
Яшчэ самой прайсці свой шлях!

Сышлося ўсё ў адным няскрутным часе,
Які са мною толькі і міне.
І нехта шэпча страшна да мяне: —
Пераступі праз немагчымасць шчасця!
*("Журботнасць ")*

Многія вершы Л. Тарасюк з медытатыўна-філасофскім ухілам. У іх ёсць глыбіня ўласна адчутага і спазнанага, арыгінальнасць мастацка-паэтычнага адкрыцця. Паэтка ўспрымае прыроду, чалавека, праблемы зямнога быцця ў суаднесенасці з імклівым бегам часу і вечнасцю. Пры гэтым Л. Тарасюк імкнецца дазмястоўна-сэнсавай ёмістасці страфы. Вось якім велічным у "храме зямлі і вады" ёй убачыўся вобраз маці: "Як вярхоўная жрыца, выходзіць на просценькі ганак, //І смя-

лейшыя астры рукі цалуюць яе"; "І ўзыходзяць над ёю далёкія зорныя астры, //І злучаеццаз небам такое зямное жыццё" ("Astra"). Проста, непасрэдна лучацца зямное і касмічнае.

Аснову і скіраванасць мыслення паэткі вызначаюць духоўна-маральныя імператывы, якія грунтуюцца натрадыцыях народнай этыкі: "Перад няўмольнасцю зямлёю легчы — // Ёсць толькі права чалавекам быць" ("Адольваючы моцную даўно..."); "Сябе найперш засцерагаць мусова, // Каб нават рухам найтанчэйшым слова // Не скрыўдзіць любае для вас жыццё..." ("Як немінучасць - не па тых гадах...") і інш. Без унутранага высокага ідэалу красы, духоўнасці, чапавечай годнасці немагчыма ўявіць эстэтыку творчасці гэтай сучаснай паэткі. Зрэшты, яна сама добра сказала пра ўзаемаабумоўленасць асобы творцы і паэтычнай культуры: "Культура пачуцця ў паэзіі — гэта ўвогуле чалавечая культура, найдасканалы паказальнік духоўнай вышыні і чысціні".

У 80-я гады, час стагнацыі і інтэрнацыяналізацыі, працягваўся заняпад нацыянальнай культуры, народнай памяці пра мінулае. І таму вельмі адметным і наватарскім быў зварот Л. Тарасюк разам з іншымі тагачаснымі пісьменнікамі да гісторыі беларускай зямлі. Паэтка далучылася да традыцыі мастацка-гістарычнага самапазнання, адраджэння гістарычнай свядомасці, закладзенай М. Багдановічам, яна ішла следам іноруч з выдатным сучаснікам У. Караткевічам, які м іж іншым гаварыў: "Быўшы філолагам, нельга не быць гісторыкам... Гісторыя — метад мыслення чалавека. Ён дае магчымасць роздуму над мінулым, сучасным і будучым..." (інтэрв'ю "Нельга не бьщь гісторыкам"). Па сутнасці яе "маналогі стагоддзяў" — гэта паэтычная рэканструкцыя мінулага, імкненне аднавіць духоўную сувязь часоў: "Таго пісьма узор няпросты- // Як знак гісторыі самой. // Шурпатую далонь бяросты // Працягвае мне продак мой" ("Памяць продкаў"). Пафас вершаў Л. Тарасюк на гістарычную тэматыку скіраваны на засваенне забытага, але так неабходнага нам культурна-гістарычнага вопыту продкаў. З паэтычнага маналога славутая беларуская асветніца Ефрасіння, унучка Усяслава, паўстае як зберагальніца духоўных каштоўнасцяў мінулага, якая "прад воляю Гасподняй" думае пра лёс нашчадкаў і хвалюецца пра страчаную былую славу роднай зямлі: "...Я знаю, што зраблю перад судом суровым: // Я славу зберагу, я прынясу ім Слова!" ("Ефрасіння. XX ст."). Рэтраспекгыўны зварот да мінулага заснаваны на эмацыянальным светапазнанні, не пазбаўлены часам узвышанай рамантызацыі і пафаснасці прамаўлення ("Крэва. 1980", "Няміга", "Пліта на месцы страты Капіноўскага" і інні.), але галоўнае не ў гэтым, а ў тым, што паэтка імкнецца мысліць спрадвеч-

нымі катэгорыямі і паняццямі, якія з'яўляюцца апірышчам духоўна-гістарычнага быцця: род, народ, Айчына, Слова... У мінуўшчыне сканцэнтравана веліч духу народа і яго паўнавартаснае самапачуванне:

Там, ля святынь, куды ідуць і едуць,
Ля збудаваных продкаў камяніц
Прыходзіць час аднойчы ўпасці ніц,
Схаваўшы вочы болю ад суседзяў.

І нехта кіне ў нас пагарды глыж,
Народ не мусіць пачувацца збродам...
Цяпер палічым, колькі нам ад роду, —
Усе, што выраслі гісторыі паміж.

*("Універсітэт ")*

Паэтка з грамадзянскай перакананасцю даводзіць, што "гісторыя — высокай чэсці брама". Яна добра ведае, што шанаванне мінулага, этнакультурнай спадчыны — крыніца абуджэння пачуцця нацыянальнай годнасці, аснова духоўнасці і сапраўднага патрыятызму. Ведае і глыбока ўсведамляе гэта і як знаўца, даследчык беларускай культуры, фальклорных традыцый у нацыянальнай літаратуры. У манаграфіі "Вернасць вытокам" (1985), якая падрыхтавана на аснове кандыдацкай дысертацыі, яна акурат і разглядае шматлікія аспекты творчага асваення духоўна-эстэтычнай спадчыны народа ў паэзіі Р. Барадуліна, В. Зуёнка, Н. Гілевіча, П. Макаля, А. Вярцінскага, Д. Бічэль і некаторых іншых сучасных аўтараў. У прыватнасці, Л. Тарасюк піша: "...Але для ўсіх пакаленняў фальклор быў і застаецца носьбітам патрыятычных ідэй, выхоўваючы ў кожным паэцс начуццё гістарычнай Бацькаўшчыны".

Любоў Тарасюк сёння даволі вядомы гісторык беларускай літаратуры і крытык. На яе творчым рахунку звыш 150-ці літаратуразнаўчых і метаданных прац. Вялікая колькасць публікацый за апошняе дзесяцігоддзе прысвечана даследаванню і вывучэнню гісторыі станаўлення мастацкіх кірункаў і плыняў у беларускай літаратуры XIX — пачатку XX стагоддзя. У распрацоўцы гэтай навуковай праблематыкі на сучасным этапе ёй належыць відавочны прыярытэт. Яе меркаванні адносна шматграннага эстэтычнага развіцця мастацтва слова, дынамікі літаратурнага працэсу ў Беларусі вылучаюцца сваёй тэарэтыка-гістарычнай угрунтаванасцю, глыбокай кампетэнтнасцю. Па тэме гэтага арыгінальнага і наватарскага даследавання выйшаў навучальны дапаможнік для студэнтаў "Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай паэзіі XIX — пачатку XX ст." (1999), а таксама апублікавана больш за два дзесяткі цікавых і змястоўных прац у разнастайных навуковых

зборніках, у часопісах "Веснік БДУ", "Роднае слова", "Полымя", "Неман", "Крыніца", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Л. Тарасюк, займаючы навукова аб'ектыўную і ўзважаную пазіцыю, у вышку скурпулёзнага аналізу мастацкіх ідэй і плыняў прыходзіць да аргументаваных і пераканальных высноў. Зробленыя падагульненні ў кнізе "Мастацкія кірункі і плыні ў беларускай паэзіі XIX — пачатку XX ст.", як падаецца, варта зацытаваць, паколькі сёння актыўна культывуецца думка пра "беларускі мадэрнізм" як эстэтычна аформленую з'яву ў нацыянальнай класічнай літаратуры пачатку XX стагоддзя:

"...Вызначэнне беларускай літаратуры пачатку XX ст. як мадэрнісцкай, да чаго схіляецца маладая генерацыя даследчыкаў, выводзіць гэтую літаратуру за межы адраджэнскіх ідэй, паколькі філасофія мадэрнізму цураецца сацыяльна-палітычнай і нацыянальна-вызваленчай заангажаванасці. Спецыфіка літаратурнага працэсу ў Беларусі ў названы перыяд вызначаецца эстэтычнай неаднароднасцю, спалучэннем мастацкіх ідэй папярэдніх культурна-гістарычных перыядаў і навейшай эстэтыкі, абумоўленай зменамі ў грамадскай свядомасці.

Захоўваючы пэўную адпаведнасць агульнаеўрапейскаму літаратурнаму працэсу, беларуская паэзія на працягу XIX і пачатку XX ст. зведала ўздзеянне розных мастацкіх ідэй — рамантызму, сентыменталізму, рэалізму, натуралізму, сімвалізму, імпрэсіянізму. Але пры ўсёй складанасці агульнага малюнка і дынамікі мастацкіх плыняў у літаратуры гэтага перыяду можна вылучыць як мастацкую дамінанту: рамантызм. У розных мадыфікацыях рамантычнай ідэі творчасці (перадрамантызм, рамантызм, неарамантызм) застаецца яе мастацкая аснова. Незавершанасць працэсаў нацыянальнага самасцвярджэння на значным гістарычным абсягу прадукавала рамантычныя ідэі эстэтыкі, і гэта стварыла адметную мастацкую сітуацыю ".

У аснове канцэпцыі літаратурных кірункаў і плыняў Л. Тарасюк ляжаць асабіста вынашаныя падыходы і думкі, якія далёкія ад механічнага пераймання замежнага навуковага вопыту, яны зроблены з улікам разумення нацыянальна-культурнай унікальнасці і эстэтычнай спецыфікі развіцця мастацкай творчасці. І яшчэ неабходна сказаць пра тое, як напісаны працы Л. Тарасюк. Для яе стылю характэрныя выразнасць, дакладнасць і аналітычнасць думкі, лаканізм выказвання, бо даследчыца не з'яўляецца прыхільніцай шматслоўнасці і мудрагельства. Як прызнаецца сама Любоў Канстанцінаўна, у плане ашчаднага стаўлення да слова ёй багата дала праца над артыкуламі для добра вядомага даведніка "Янка Купала" (1986) і іншых выданняў энцыклапедычнага характару. Эстэтычнай чуйнасцю і глыбінёй назіранняў вылучаюцца яе артыкулы і рэцэнзіі, прысвечаныя разгляду

творчасці выдатных пісьменнікаў, даследаванню разнастайных літаратурных праблем. Так, вельмі прыкметныя былі яе публікацыі, прысвечаныя аналізу лірыкі кахання Я. Купалы, М. Багдановіча, К. Буйло, важка прагучалі развагі пра паэзію Д. Бічэль, Н. Мацяш і інш.

Любоў Тарасюк шмат робіць для нацыянальнай адукацыі і культуры як асветніца і педагог. У гэтым сэнсе яна стала годнай прадаўжальніцай традыцый Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Любоў Канстанцінаўна дбае пра сённяшні і заўтрашні дзень беларускай школы, навучальную кнігу, пастаянна піша артыкулы для настаўнікаў, студэнтаў, вучняў. Яна з'яўляецца адным з аўтараў навучальных дапаможнікаў для ліцэяў і гімназій "Беларуская літаратура: XI-XX стст." (1999; 2-е выд. - 2001), "Беларуская літаратура, 10 клас" (2001), праграм для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы з паглыбленым і профільным вывучэннем беларускай літаратуры (2000, 2003). За дваццаць пяць гадоў працы ў БДУ яна асабліва шмат часу аддала стварэнню навукова-метадычных прац, якія пераважна напісала ў суаўтарстве з іншымі універсітэцкімі выкладчыкамі. У дапамогу студэнтам-філолагам адрасаваны такія выданні, як метадычныя распрацоўкі "Тэматыка практычных заняткаў па гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры" (1980, разам з А. Лойкам), "План-канспект практычных заняткаў па старабеларускай літаратуры XVII-XVIII стст." (1987, разам з А. Лойкам), "Метадычныя рэкамендацыі па гісторыі беларускай літаратуры XIX — пачатку XX ст." (1990), дапаможнікі "Новыя аспекты праграмы па гісторыі беларускай літаратуры XVIII-XIX стагоддзяў" (1994, разам з М. Хаўстовічам), "Курсавыя работы па гісторыі беларускай літаратуры XI-XIX стагоддзяў" (1999, разам з Т. Казаковай), а таксама "Праграма па гісторыі беларускае літаратуры XI-XIX стагоддзяў" (2002, калектыўная праца кафедры гісторыі беларускай літаратуры).

"Рэчышча ўласнай ракі" зрабілася паўнаводным дзякуючы рупнай і мэтаскіраванай працы. Здаецца, гэта заканамерны вынік, бо толькі талент здольны адшукаць самастойны шлях і дасягнуць прыкметнага плёну. Рака творчасці Л. Тарасюк не шумная і не гулкая, а па-беларуску сціплая, няспешная і сапраўды адухоўленая. Гэтая рака, як мы пераканаліся, поўная лірычных пачуццяў, глыбокіх думак і духоўнага досведу.

*2003*

## Біяграфічная даведка

Алесь Іванавіч Бельскі нарадзіўся 23 ліпеня 1963 года ў вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці.

Пасля заканчэння Цімкавіцкай СШ імя Кузьмы Чорнага працаваў старшым піянерважатым Руднянскай васьмігадовай школы (1980-1981). Скончыў фічалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1986). Працаваў настаўнікам у СШ№ 55 г. Мінска, быў намеснікам дырэктара Слабадской васьмігадовай школы Мінскага раёна (1985-1986). З 1986 па цяперашні час у БДУ: аспірант, выкладчык, дацэнт, загадваў кафедрай дауніверсітэцкай адукацыі, дактарант, з 1999 года — прафесар кафедры беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 2000-2002 гадах узначальваў лабараторыю літаратурнай адукацыі Нацыянальнага інстытута адукацыі. З 2001 года адначасова галоўны рэдактар часопіса "Беларуская мова і літаратура".

Філолаг, літаратуразнаўца, крытык, пісьменнік, журналіст, педагог. Доктар філалагічных навук (1998), прафесар (2002). Аўтар кніг "Пакуль баліць душа" (1995), "Жывая мова краявідаў" (1997), "Сучасная беларуская літаратура" (1997), "Свет ад травы да зор" (1998), "Краса і смутак" (2000), "Сучасная літаратура Беларусі" (2000), звыш 250 публікацый у друку. Суаўтар праграм. па беларускай літаратуры для сярэдняй школы (2000, 2002), навучальных дапаможнікаў "Беларуская літаратура: XI-XXстст. " (1999; 2-е выд. — 2001), "Беларуская літаратура, 5 клас" (2002) і інш. Пад псеўданімам Алесь Ветах выступае як празаік. Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка "Карані" (1994), выдаў кнігі "Ружовая знічка" (1994), "Хроніка смутку" (1999, Літаратурная прэмія імя Івана Мележа). Член Союза беларускіх пісьменнікаў (1998), Саюза беларускіх журналістаў (2002).

## ЗМЕСТ



Навукова-папулярнае выданне
БЕЛЬСКІ Алесь Іванавіч
ЭКАЛОГІЯ ДУШЫ
Артыкулы. Нарысы. Эсэ
Рэдагаванне, карэктура і вёрстка А. Бельскай
Адказны за выпуск А. Аношка
Падпісана да друку 28.10.2003. Фармат 60x84/16. Папера афс. № 1.
Гарнітура Times. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 8,24. Тыраж 280 экз.
Зак. 294.
Выдавецтва УП "Тэхнапрынт", ЛВ № 380 ад 29.04.1999 г.
Надрукавана на УП "Тэхнапрынт", ЛП № 203 ад 26.01.2003 г. 220027,
г. Мінск, пр-т Ф. Скарыны, 65, корп. 14, оф. 317. Тэл./факс 231-86-93